**ПЛОШЧА, 19.03—25.03.2006.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.

У кнізе выкарыстаныя фатаздымкі з сайту www.svaboda.org.



ISBN 0-929849-12-6

## БЕЗРАЗВАЖНАСЬЦЬ І РАШУЧАСЬЦЬ

За тры дні да прэзыдэнцкіх выбараў, у пятніцу 17 сакавіка, мне пазванілі зь Лёндану, зь міжнароднай рэдакцыі тэлекампаніі Сі-Эн-Эн з просьбай — раніцай 20 сакавіка ў жывым этэры пракамэнтаваць вынікі. Назаўтра я адлятаў з Прагі ў Менск, і мяне папрасілі прыслаць тэзісы, што прыкладна буду гаварыць.

У той самы дзень я паслаў кароткі электронны допіс у Лёндан, які пачынаўся так: «Паводле афіцыйных вынікаў, Аляксандар Лукашэнка атрымаў 82% галасоў...»

Калегі, верагодна, ацанілі прагноз, і на наступным тыдні я быў у этэры Сі-Эн-Эн з тузін разоў — але мы амаль не гаварылі пра галасаваньне.

Вынікі не былі нечаканасьцю. Абвешчаная лічба не магла быць меншай за папярэднюю. Нечаканасьцю стала Плошча.

Плошча, а не прэзыдэнцкія выбары, дамінавала на экранах усясьветных тэлеканалаў, на першых палосах вядучых эўрапейскіх і амэрыканскіх газэтаў, у радыёэтэры й інтэрнэце.

«Тэрыторыя свабоды», «Бітва за Беларусь», «Плошча дэмакратыі», «Тысячы пратэстуюць», «Краіна ў краіне» — дзясяткі падобных загалоўкаў, рэпартажаў, інтэрвію й фота зь Менску сьведчылі пра іншы выбар.

«Апоўначы яны занялі частку Беларусі, каля 50 квадратных ярдаў. Гэта была краіна ў краіне. Яны танчылі на яе халодных камянях. Яны раздавалі гарбату. Яны казалі, што не здадуцца. Калі трэба, казалі яны, мы будзем стаяць гады».

Карэспандэнт «Нью-Ёрк Таймз», які перадаў гэтыя радкі ў рэдакцыю ў апошні дзень перад разгромам лягеру, пісаў: «Пакуль рана казаць, гэта безразважнасьць ці рашучасьць».

Праўда, потым ён дадаваў: «Пра іх рашучасьць сьведчыць тое, што амаль усе на Плошчы ня толькі даюць сваё імя для публікацыі, але настойваюць, каб яго запісалі, ведаючы, што ўлады пабачаць іх».

Тыя імёны, твары на фатаздымках, галасы з Плошчы, якія бесьперапынна зьяўляліся ў этэры й інтэрнэце «Свабоды», трэба дапоўніць сотнямі затрыманых, арыштаваных людзей, якія апынуліся за кратамі турмаў па ўсёй Беларусі й не змаглі прыехаць у Менск. Адмяняліся аўтобусныя маршруты, не прадавалі квіткі на цягнікі, прыватныя машыны спынялі на выезьдзе на сталічныя трасы.

Улады прыраўнялі мірны пратэст да тэрарызму, настаўнікі палохалі дзяцей і бацькоў, студэнтаў папярэдзілі пра выключэньні, замежнікам адмаўлялі ў візах ці касавалі іх на мяжы. Афіцыйныя мэдыі гэтай вясны некалі будуць вывучаць, як цяпер вывучаюць савецкую прэсу 1930-х гадоў.

Першы намёт на зьледзянелым бруку паўстаў у панядзелак, 20 сакавіка, у 19:30; у чацьвер, 24 сакавіка, у 3:25 аўтазакі з абаронцамі накіраваліся да турмы. Чатыры ночы й тры дні, 80 гадзінаў, амаль 5000 хвілінаў свабоды.

Увесь гэты час разам зь дзясяткамі журналістаў на Плошчы былі карэспандэнты «Свабоды». А таксама — нашыя слухачы, іхны голас гучыць у гэтай кнізе.

Плошча стала галоўнай падзеяй вясны-2006. Пакуль рана казаць пра ўсе вынікі. Але Плошча застанецца вясной для тых, хто быў на ёй — і хто яе бачыў.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*





нядзеля, 19 сакавіка 2006, 14:00

## ПЛОШЧЫ Й ВУЛІЦЫ Ў ЦЭНТРЫ МЕНСКУ АПУСЬЦЕЛІ

***Алег Грузьдзіловіч, Менск***

Дзьве гадзіны дня. Выходжу з мэтро на Кастрычніцкую плошчу, да Палацу Рэспублікі. У гэты момант у палацы ідзе чарговая прэсавая канфэрэнцыя Цэнтравыбаркаму. Плошча не агароджаная, але й людзей на ёй не відаць. Толькі два аўтамабілі ДАІ дзяжураць на прылеглых вуліцах, уезд на якія забаронены. Замежны журналіст здымае плошчу на відэакамэру.

Празь дзесяць хвілінаў мне тэлефануе журналістка Ніно Геаргіабіні з грузінскага грамадзкага тэлебачаньня. Кажа, толькі што яе выгналі з плошчы за спробу сфатаграфаваць навакольле.

За Палацам Рэспублікі на Гандлёвай вуліцы насупраць рэстарану «Журавінка» бачу два чырвоныя аўтобусы. Міліцыянты, якія выходзяць з аўтобусаў, апранутыя звычайна, узброеныя толькі дубінкамі. Палкоўнік, які кіруе гэтым атрадам, катэгарычна забараняе фатаграфаваць міліцыянтаў, пагражае разьбіць камэру.

Незвычайна пуста й на плошчы Свабоды. Побач са сьцяной гарадзкой ратушы — мэталічныя турнікеты, якімі загароджваюць плошчу. Адзіны на плошчы аўтамабіль стаіць з разьбітым шклом.

Двор за домам №22 на праспэкце Незалежнасьці. Год таму на Дзень Волі тут хаваліся аўтобусы й аўтамабілі з амапаўцамі. Цяпер двор пусты. На ўваходзе ў такі самы двор насупраць дзяжураць два амапаўцы.

Аўтамабільны рух на вуліцах Карла Маркса, Леніна, Кірава і ўсіх прылеглых да адміністрацыі прэзыдэнта перакрыты. Рэдкія машыны, якія сюды заяжджаюць, адразу правяраюцца супрацоўнікамі ДАІ. Мінакоў амаль не відаць.

Рух праз плошчу Незалежнасьці й далей па праспэкце не перакрыты, але аўтамабіляў едзе незвычайна мала. На плошчы дзяжураць адразу некалькі трактароў-эвакуатараў.

**званкі на «Свабоду»**

*СПАДАР: Ідуць пагрозы праз мабільныя тэлефоны — не хадзіць на Кастрычніцкую плошчу 19 сакавіка. Я, як былы партызан, заклікаю ўсіх сумленных грамадзянаў — ісьці на плошчу! Уратуй нас, Госпадзе Божа, і на гэты раз!*

**званкі на «Свабоду»**

*СПАДАР, Рэчыца: Неабходна прызнаць гэтыя выбары несапраўднымі, бо датэрміновае галасаваньне праходзіла ў атмасфэры хлусьні, запалохваньня людзей, арыштаў...*

*СПАДАР, Магілёў: Мы зьвязваліся са знаёмым міліцыянтам, які нам паведаміў, што паступіў загад: тых, хто выйдзе на вуліцу, трэба затрымліваць. Але мы гэтага не баімся. І мы не баімся таго, што хутка Лукашэнка, як тыран, зьнікне з палітычнай сцэны. Гэта факт, і ад гэтага нікуды ня дзецца, мы ў гэтым упэўненыя.*

*ВАСІЛЬ ІВАНАВІЧ, Менск: Мілінкевіч заклікае людзей прыйсьці на плошчу зь сінімі бантамі на грудзях, быццам бы супраць фальсыфікацыі выбараў на прыклад аранжавых у Кіеве. Майдану па-кіеўску ў Мілінкевіча не атрымаецца! Яго месца ў польскім Асьвенціме, а не на плошчы ў Менску.*

нядзеля, 19 сакавіка 2006, 20:05

## СПЫНІЦЬ ЛЮДЗЕЙ НЕМАГЧЫМА

***Валер Каліноўскі, Менск***

У Менску закрылі ўсе выхады з станцыі мэтро «Кастрычніцкая». З Уручча да цэнтру прайшла калёна сілаў аховы правапарадку з асабовым складам і спэцыяльнай тэхнікай.

Каля 8-й гадзіны вечара людзі пачалі падыходзіць на Кастрычніцкую плошчу вельмі актыўна, цяпер плошча занятая прыблізна на траціну, шмат людзей і каля плошчы, у сквэры насупраць. Журналісты ацэньваюць на гэты момант колькасьць людзей на 4—5 тысяч чалавек, узьнята некалькі бел-чырвона-белых сьцягоў, сьцягоў незарэгістраванай арганізацыі «Зубар», сьцягоў Эўразьвязу. Людзі прыйшлі з кветкамі, шарыкамі, зь сіняй джынсавай сымболікай, настрой ва ўсіх спакойны, але калі на вялікім экране паказалі рэпартаж ОНТ аб галасаваньні Лукашэнкі, то людзі адрэагавалі вельмі эмацыйна, яны сьвісьцелі, крычалі «Ганьба!». Да таго натоўп скандаваў «Жыве Беларусь!». Некалькі правакатараў адсюль ужо вывелі, яны хадзілі зь півам і спрабавалі распачаць спрэчкі й бойку. Людзі падыходзяць з праспэкту, ад «Макдоналдсу», ад цырку. Спыніць людзей практычна немагчыма, ды тут і няма нейкіх кардонаў. Хоць у раён прэзыдэнцкай адміністрацыі скіраваная спэцтэхніка й аўтобусы зь міліцыяй, але паблізу плошчы нічога гэтага не відаць. Адзінае, што зьявілася, — у кутку плошчы адвялі загародку, загончык для журналістаў, як і абяцаў міністар унутраных справаў Навумаў, дзе нібыта журналісты могуць пачувацца спакойна й бясьпечна. Гэта сьведчыць, магчыма, пра тое, што нешта плянуецца, нешта небясьпечнае для журналістаў. І ня толькі.

Колькасьць міліцыі вызначыць цяжка, бо яна — у цывільным.





нядзеля, 19 сакавіка 2006, 20:45

## НА 20:45 НА ПЛОШЧЫ САБРАЛАСЯ ЯК МІНІМУМ 10 ТЫСЯЧ ЧАЛАВЕК

**На Кастрычніцкую плошчу прыйшло ўжо каля 10 тысяч чалавек, нягледзячы на тое, што станцыя мэтро «Кастрычніцкая» закрытая, а аўтобусы не спыняюцца. Штохвіліны людзей становіцца ўсё больш.**

***Любоў Лунёва, Менск***

Людзі спыняюцца. Аўтамабілі сыгналяць на знак салідарнасьці. У гэты момант я налічыла сорак два бел-чырвона-белыя сьцягі. Столькі мы бачылі толькі ў 1996 годзе.

На плошчы адчуваецца атмасфэра сьвята, людзей усё больш і больш. Супрацоўнікі міліцыі сядзяць у аўтобусах, ніхто пакуль не выходзіць. Побач стаяць міліцыянты ў цывільным.

Людзі скандуюць «Свабоду! Свабоду!». Яны патрабуюць пераменаў.

На плошчы не працуюць мабільныя тэлефоны.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Хачу сказаць, што ні ў якім выпадку ня трэба разыходзіцца. Пачуў заклік у Радыё Свабода, што трэба разыходзіцца. Нельга!*

*СПАДАР: Я ня бачу ніякага сэнсу, што людзі будуць мерзнуць на плошчы, крычаць нейкія лёзунгі й рабіць нешта незаконнае. Лічу, што дзейны прэзыдэнт перамог на выбарах.*

нядзеля, 19 сакавіка 2006, 21:08

## ЛЮДЗЕЙ ПАБОЛЬШАЛА

***Валер Каліноўскі, Менск***

На прыступках Палацу культуры прафсаюзаў стаяць Аляксандар Мілінкевіч і Сяргей Калякін. Толькі што выступіў спадар Калякін, які заявіў, што на плошчы сабралася ня менш за 50 тысяч чалавек. Калі паглядзець на гэты натоўп людзей на плошчы, у прылеглых сквэрах і на вуліцах, дык выглядае, што вельмі даўно ў Менску не зьбіралася столькі народу.

Побач са мной карэспандэнт агенцтва «Франс Прэс», даволі спрактыкаваны ў ацэнцы колькасьці людзей, ён кажа пра 20 тысяч чалавек, а ўкраінскія журналісты кажуць, што апошні раз бачылі столькі людзей у Кіеве на Майдане Незалежнасьці.

Людзі скандуюць «Мы з вамі!», «Мілінкевіч!», ва ўсіх выдатны настрой, жанчыны перадаюць Мілінкевічу кветкі. Што гаворыць ім Мілінкевіч — не чуваць, бо вельмі шумна, гукаўзмацняльная апаратура не дазваляе данесьці ягоныя словы да ўсіх. Тым ня менш, тут сапраўды эўфарычная атмасфэра. Хвілінаў за дзесяць да гэтага быў унікальны пэрформанс нейкага маладзёна, які ўзяў бел-чырвона-белы сьцяг, залез на дах аўтобуса №100, які ехаў па праспэкце, і падчас руху махаў сьцягам, сапраўды рызыкуючы жыцьцём, але пазьней саскочыў на зямлю ўдала. Вельмі шмат бел-чырвона-белых сьцягоў, сьцягоў Эўразьвязу, сьцягоў Менску, украінскіх, грузінскіх, расейскіх. Ёсьць тут і людзі з розных рэгіёнаў Беларусі, і актывісты розных арганізацыяў і партыяў.

**з в а н к і н а « С в а б о д у »**

*СПАДАР: Трэба разагнаць 20 тысяч гэтых! Бязьлітасна! Зразумелі?*





нядзеля, 19 сакавіка 2006, 21:23

## УСЯ ПЛОШЧА ЗАНЯТАЯ ДЭМАНСТРАНТАМІ

***Алесь Дашчынскі, Менск***

Уся Кастрычніцкая плошча занятая дэманстрантамі, людзі прыйшлі падсумаваць вынікі выбараў. Шмат сьцягоў, ёсьць транспарант «Гэта салодкае слова — экс-прэзыдэнт». Сабраліся дзясяткі тысяч чалавек, вельмі добры настрой, мірны й спакойны. Пакуль няма ніякіх спробаў выцесьніць дэманстрантаў з плошчы. Перакрытыя станцыі мэтро «Плошча Перамогі» й «Кастрычніцкая», і цягнікі ідуць ад плошчы Якуба Коласа адразу да плошчы Незалежнасьці.

**з в а н к і н а « С в а б о д у »**

*СПАДАР: Зьвяртаюся да беларускай інтэлігенцыі. Выбарчыя ўчасткі разьмяшчаюцца галоўным чынам у школах і іншых навучальных установах. Адпаведна старшыні й члены выбарчых камісіяў — гэта дырэктары, настаўнікі гэтых школаў. Гэта інтэлігенцыя, краса нацыі, Богам прызначаныя сеяць разумнае, добрае, вечнае, і ў той жа час бессаромна падпісваюць загадзя падрыхтаваныя пратаколы вынікаў галасаваньня, якія ня маюць нічога агульнага з сапраўдным волевыяўленьнем выбаршчыкаў. Адумайцеся, не ідзіце на ўгоду з сумленьнем! Інакш вас праклянуць вашыя дзеці й вашыя ўнукі, і вы ўвойдзеце ў гісторыю пад сьцягам чорнай інтэлігенцыі!*

*СПАДАР, Гомель: Шмат хто з нашых знаёмых, і я, галасавалі за Мілінкевіча. Не разумею, чаму кажуць няпраўду, што ў Гомелі ўсе галасавалі за Лукашэнку? Гэта поўная хлусьня!*

нядзеля, 19 сакавіка 2006, 21:34

## НА ПЛОШЧЫ ІДЗЕ ШМАТТЫСЯЧНЫ МІТЫНГ

**Каля паловы на дзясятую на Кастрычніцкай плошчы пачаўся мітынг. Сяргей Калякін паведаміў, што ў іх затрымалі гукаўзмацняльную апаратуру, таму напачатку Аляксандар Мілінкевіч быў вымушаны выступаць з мэгафонам. Валер Каліноўскі паведамляе з плошчы.**

Мілінкевіч заявіў: «Беларусы перамаглі! Беларусы перамаглі свой страх, калі прыйшлі на плошчу». Мілінкевіч сказаў, што кааліцыя цяпер ператворыцца ў шырокі народны рух за свабоду Беларусі.

Было таксама аб'яўлена, што штабу Мілінкевіча вядомыя вынікі незалежных экзыт-полаў. Паводле іх, Мілінкевіч атрымаў каля 30% галасоў, а Лукашэнка каля 47% галасоў. У выніку Мілінкевіч заявіў, што не прызнае афіцыйных вынікаў выбараў і будзе патрабаваць другога туру. Мілінкевіч назваў выбары «фарсам». Ён выступаў хрыплым голасам, эмацыйна.

Пасьля Мілінкевіча выступіў кіраўнік незалежнага назіраньня Бухвостаў. Потым на плошчу выйшаў Анатоль Лябедзька, які заявіў, што «беларусы ўсталі з кален».

Каля 10-й гадзіны зьявілася гукаапаратура й пачаўся сапраўдны мітынг. У той жа час раптоўна сапсавалася надвор'е — пайшоў моцны сьнег. Дзьме сьцюдзёны вецер.

На сцэну прабіўся іншы кандыдат — Аляксандар Казулін, узяў бел-чырвона-белы сьцяг і такім чынам прывітаў натоўп на плошчы. Казулін сказаў, што беларускі народ «павінен дапамагчы Лукашэнку сысьці». Казулін заявіў, што «рэвалюцыя ўжо адбылася — у розумах людзей». Ён заклікаў разам маліцца за свабоду й перамогу. Адзін са





сьвятароў выйшаў да мікрафона й прачытаў малітву. Апрача сьцягоў, відаць шмат абразоў і крыжоў.

Прыхільнікаў Лукашэнкі заўважана не было. Людзей вельмі шмат. Уся плошча запоўненая. Абапал плошчы — у сквэры, на падыходах — таксама вялікія натоўпы людзей.

Афіцыйныя крыніцы МУС паведамілі пра 3000 удзельнікаў. Гэта моцна заніжаная лічба. На гэты момант тут ужо дзясяткі тысяч людзей.

На знак пратэсту супраць афіцыйнага асьвятленьня выбараў у тэлеперадачах ОНТ, якія трансьлююцца празь вялікі экран на Кастрычніцкую плошчу, удзельнікі акцыі скандуюць лёзунгі «Ганьба!», «Праўды!», «Жыве Беларусь!». Адзін з папулярных лёзунгаў, якія скандуюць удзельнікі: «Верым — можам — пераможам».

А.Мілінкевіч заклікае людзей не разыходзіцца, пакуль ня будуць агучаныя афіцыйныя вынікі ЦВК.

Пазьней Аляксандар Мілінкевіч заклікаў удзельнікаў сустрэчы вярнуцца на Кастрычніцкую плошчу заўтра, у 18:30.

з в а н к і   н а   «С в а б о д у»

*СПАДАР: Я студэнт менскай ВНУ, цяпер знаходжуся каля Казарменнага завулку, дом 1, тут стаяць дзевятнаццаць маленькіх аўтобусаў МАЗ і дваццаць два вялікія вайсковыя КАМАЗы, яшчэ нейкія машыны, ланцуг расьцягнуўся ў кірунку Кастрычніцкай плошчы. У аўтобусах сядзяць АМАП і вайскоўцы.*

нядзеля, 19 сакавіка 2006, 22:05

## НА ДАХУ ПАЛАЦУ РЭСПУБЛІКІ ЗАЎВАЖАНЫЯ ДВА СНАЙПЭРЫ

***Любоў Лунёва, Менск***

На Кастрычніцкай плошчы ў гэты момант, паводле арганізатараў, каля 50 тысяч удзельнікаў акцыі. І людзі ідуць і ідуць. Спачатку з боку Нямігі праход на плошчу быў закрыты, але цяпер людзі прабіліся й працягваюць запаўняць прастору. Шмат супрацоўнікаў міліцыі знаходзяцца ў натоўпе, яны паводзяць сябе ня вельмі прыгожа — некаторыя паводзяць сябе, як п’яныя, адмыслова пазуючы перад камэрамі Беларускага тэлебачаньня. Добра відаць двух снайпэраў на даху Палацу Рэспублікі. Адзін зь іх ляжыць, а другі стаіць побач. Тыя, хто служыў у войску, кажуць, што добрага снайпэра ня будзе відаць, і лічаць, што гэта такі псыхалягічны ціск.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Мне вельмі сорамна, што я не пайшла на плошчу. А заўтра ў 18.30 я й мая дачка абавязкова будзем там! Мы пераможам!*

*СПАДАР: Вельмі рэкамэндую Аляксандру Зімоўскаму й іншым беларускім журналістам падумаць, што ёсьць такая рэч, як люстрацыя, прафэсійная прыдатнасьць. Людзі, якія не разумеюць таго, што яны робяць, гэта адно, а людзі, якія разумеюць і кажуць нахабную хлусьню, — зусім іншае. Аляксандар Зімоўскі, прыйдзе час, калі цябе проста ня пусьцяць на тэлебачаньне, таму што ты падманваў народ.*





нядзеля, 19 сакавіка 2006, 22:16

## А.ЛУКАШУК: СЁНЬНЯ НА ПЛОШЧЫ — ДУХ БЫКАВА

**З Кастрычніцкай плошчы перадае дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода Аляксандар Лукашук:**

Ужо тры гадзіны плошча поўная народу. Апошні раз такую колькасьць людзей, такую колькасьць бел-чырвона-белых сьцягоў менскія вуліцы бачылі толькі на разьвітаньні з Васілём Быкавым. Сёньня раніцай я быў на Ўсходніх могілках на магіле Васіля Ўладзімеравіча, там стаялі сьвежыя кветкі, ягоны партрэт. Сёньня дух Быкава — на плошчы.

Неверагодная колькасьць людзей, неверагодная колькасьць моладзі, прыгожыя твары. Апроч бел-чырвона-белых сьцягоў, тут — блакітныя сьцягі, сьцягі Эўразьвязу, сьцягі руху «Зубар» і Менску, вялікі слоган «Пераможам!».

Доўгі час былі даволі істотныя праблемы з гукаўзмацняльнікам, але вось літаральна некалькі хвілінаў таму актывісты Беларускага Народнага Фронту здолелі прывезьці дадатковую тэхніку. Мне расказвалі, што машына не магла адолець узгорку перад Кастрычніцкай плошчай, бо вуліца ўся абледзянела, дык міліцыянты дапамагалі. Спадзяемся, што камунікацыя цяпер палепшыцца.

Паўгадзіны таму пачаўся вялікі сьнегапад, і была не зусім зразумелая ягоная прырода, але цяпер неба чыстае, нібы нічога не было. Але вельмі сьлізка й вельмі халодна. Ніхто з плошчы не сыходзіць. Ужо выступаў Аляксандар Казулін, шмат разоў выступаў Аляксандар Мілінкевіч. І нядаўна, як мы ўведалі, карцінкі з плошчы паказваў тэлеканал Сі-Эн-Эн.

Кожныя тры хвіліны можна пачуць скандаваньне: «Жыве Беларусь!», «Свабода!».

нядзеля, 19 сакавіка 2006, 22:26

## МІЛІЦЫЯНТЫ ЗАСТАЮЦЦА Ў НЕРАШУЧАСЬЦІ

***Любоў Лунёва, Менск***

Насупраць мяне стаяць супрацоўнікі міліцыі ў цывільным, і выгляд у іх даволі нерашучы. Яны ніякіх дзеяньняў пакуль што не прадпрымаюць. На мітынгу людзі выступаюць адзін за адным. Атмасфэра вельмі сьвяточная, шмат іншаземцаў: украінцы, палякі, літоўцы, — яны кажуць, што Беларусь прайшла нейкі рубеж, і так, як было, ужо ня будзе. Трэба адзначыць, што людзі крыху замерзьлі, тут халодна й вільготна, а снайпэры, якія былі на даху Палацу Рэспублікі, зьніклі.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР, Кіеў: Слухаю Радыё Свабода з Кіева праз інтэрнэт. Хачу павіншаваць беларусаў з тым, што сёньня столькі людзей выйшла на плошчу. Галоўнае цяпер — не спыняцца, працягваць барацьбу. Калі людзей будзе шмат, улада аслабее й беларускі народ зможа выбраць разумнага прэзыдэнта, а не яшчэ раз перапрызначыць «бацьку». Упэўнены, вы атрымаеце свабоду! Украіна з вамі! У нас усё атрымалася, атрымаецца і ў вас.*

*СПАДАР: Так атрымалася, што прыйшлося галасаваць у Боне. І там аб'яднаньне беларусаў у Нямеччыне наладзіла пікет, былі таксама жонка й дачка Захаранкі. У самой амбасадзе, зразумела, ніякіх назіральнікаў не было. Але цікава, што ў прыватнай размове вельмі адказны работнік консуляту сказаў, што Лукашэнка стаў такім, што складана глядзець у вочы эўрапейцам на сустрэчах. Зразумела, што людзі аддавалі галасы ў большасьці за Мілінкевіча. Толькі адзін п'яны крычаў, што галасуе за Лукашэнку.*





нядзеля, 19 сакавіка 2006, 22:34

## ЛЮДЗІ ПЫТАЮЦЬ ПРА ПЛЯНЫ Ў ЛІДЭРАЎ АПАЗЫЦЫІ

***Валер Каліноўскі, Менск***

Людзі, якія стаяць паблізу імправізаванай трыбуны на прыступках Палацу прафсаюзаў, пытаюцца, што рабіць далей, якія пляны ў апазыцыі. Аляксандар Мілінкевіч завіў, што трэба дачакацца афіцыйных вынікаў галасаваньня, а потым выказаць сваё стаўленьне да іх. Аляксандар Казулін заклікаў патрабаваць ад уладаў пераліку галасоў, бо ня можа А.Лукашэнка мець той узровень падтрымкі, пра які гавораць прадстаўнікі Цэнтравыбаркаму й праўладных сацыялягічных цэнтраў.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*КАШАЛЬКОВА МАРЫЯ, Менскі раён: Я — чалавек сталага ўзросту, мне 72 гады. Галасавала за Мілінкевіча. Я радая за беларусаў, якія пераадолелі страх і выйшлі на плошчу. Бог ім у дапамогу! Вось толькі што Ярмошына абвясьціла вынікі выбараў — перамог Лукашэнка. Ды ўсё гэта мана, якая загадзя была вядомая! Мне казала сябра аднаго з выбарчых участкаў у Менску, што бюлетэняў на ўчастку ніхто не лічыў, а пратакол перапісвалі тры разы. Выходзіць, падтасоўка вынікаў выбараў праходзіць на выбарчых участках, а Ярмошына тут, як быццам, ні пры чым. Назіральнікі гэтага ня бачаць альбо ня хочуць бачыць, альбо іх не падпускаюць туды.*

*СПАДАР, Гарадня: Я проста ўражаны той сьмеласьцю дзяўчат і хлопцаў, якія выйшлі на плошчу. Увесь дзень глядзеў польскае тэлебачаньне, дзе пачуў камэнтар, што калі нават сто-дзьвесьце чалавек выйдуць — то гэта героі.*

нядзеля, 19 сакавіка 2006, 22:50

## КОЛЬКАСЬЦЬ ЛЮДЗЕЙ ПАЧЫНАЕ ЗЬМЯНШАЦЦА

***Любоў Лунёва, Менск***

Я знаходжуся побач з Аляксандрам Мілінкевічам. Ён залікае людзей заўтра зноў прыйсьці на Кастрычніцкую плошчу ў 18:30. Людзі зьмерзьлі — выглядае, што неўзабаве пачнуць разыходзіцца. Перад гэтым Аляксандар Казулін таксама прапанаваў людзям зноў прыйсьці на плошчу, а цяпер — пайсьці і ўскласьці кветкі да помніка на плошчы Перамогі.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ, ЗША: Хацела сказаць, што ўсе нашыя сябры, усе беларусы, яны з вамі! І мы вельмі ўдзячныя тым, хто прыйшоў на плошчу. Мы спадзяемся, што свабода будзе ў Беларусі. Усе беларусы ў Амэрыцы за свабодную Беларусь!*

*СПАДАР, Наваполацак: Падлік галасоў скончылі. На другім месцы Мілінкевіч. Пра працэнты й сфальсыфікаваныя пратаколы й казаць няма сэнсу.*

*СПАДАР: Калі Мілінкевіч сабраў столькі галасоў за мяжой, дык забярыце яго, хай ён гэтай дыяспарай камандуе.*

*СПАДАР, ЗША: Дарагія суайчыньнікі! Вітаем вас са Злучаных Штатаў Амэрыкі. З самага ранку вашае радыё гучыць у нас на ўсю хату праз інтэрнэт. Сэрцам мы разам з вамі! Молімся ўсёй сям'ёй за вас. Знаходзімся душой і сэрцам на Кастрычніцкай плошчы разам з вамі! Мае дзеці мараць пра такую свабодную Беларусь і перакананыя, што Беларусь — самая лепшая!*





нядзеля, 19 сакавіка 2006, 23:05

## ДЭМАНСТРАНТЫ СКІРАВАЛІСЯ НА ПЛОШЧУ ПЕРАМОГІ

***Любоў Лунёва, Менск***

Разам зь лідэрамі апазыцыі людзі калёнай пайшлі на плошчу Перамогі. Яны не замінаюць руху транспарту, міліцыянты ня чыняць ім перашкодаў. Машыны сыгналяць на знак салідарнасьці. Пануе эўфарыя, у людзей радасныя твары, усе кажуць, што далей так жыць нельга. Многія мяркуюць, што наагул ня трэба разыходзіцца.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Тэлефаную зь Нью-Ёрку, узрушаны падзеямі ў Менску. Вельмі прыемна, што людзі выйшлі ў такой колькасьці на плошчу. Але, зь іншага боку, ёсьць нейкае расчараваньне лідэрамі апазыцыі, якія, на маю думку, не выкарыстоўваюць такога рэсурсу, як падтрымка народу, ня ведаюць, як да яго падступіцца. Ніякіх канкрэтных дзеяньняў пакуль няма, нейкая разгубленасьць, распусьцілі людзей і сказалі вярнуцца заўтра. Але наўрад ці такая колькасьць выйдзе зноў. І такое ўражаньне, што апазыцыя чарговы раз траціць магчымасьць рэальна супрацьстаяць уладзе.*

*СПАДАРЫНЯ: Ярмошына й Лукашэнка! Вы чарговы раз бессаромна падманулі свой народ! Ці не баіцеся вы Божай кары? Як можна спакойна жыць і без дакору сумленьня глядзець у вочы беларускім людзям і людзям усяго сьвету, якія ведаюць пра вашу нядобрасумленнасьць. Бог вам судзьдзя!*

нядзеля, 19 сакавіка 2006, 23:13

## А.ЛУКАШУК: ВЕЛЬМІ ШКАДА, ШТО НЯМА ТЭЛЕКАМЭРЫ

**Дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода Аляксандар Лукашук — у калёне, якая рухаецца ў бок плошчы Перамогі:**

Маё самае галоўнае ўражаньне — вельмі шкада, што няма тэлекамэры, вельмі шкада нашых слухачоў, якія ў гэты момант ня могуць быць на праспэкце Скарыны, ці, як ён цяпер называецца, праспэкце Незалежнасьці.

Я стаю на мосьце празь Сьвіслач, з абодвух бакоў ідуць дзьве велізарныя калёны. Па цэнтры едуць машыны, і амаль з кожнай — рука з двума пальцамі са знакам «вікторыя», «перамога». У шмат якіх машынах нават бел-чырвона-белыя сьцягі.

Абсалютна фантастычнае відовішча, вельмі радасная вуліца. Адчуваньне карнавалу. Карнавальная ноч у Менску.

Цяпер калёна падышла да плошчы Перамогі й фактычна спынілася, бо ходнікі занадта вузкія. Магчыма, спатрэбіцца паўгадзіны, пакуль людзі змогуць запоўніць прастору плошчы Перамогі.

з в а н к і   н а   « С в а б о д у »

*СПАДАРЫНЯ: Я хачу сказаць, што я таксама сьведка. Я жыву на Чырвонаармейскай, і такой колькасьці ўжо падрыхтаваных машынаў і войскаў — для таго, каб арыштоўваць і саджаць людзей, я даўно ня бачыла. Толькі, можа быць, у фільмах пра гітлераўцаў — калі фашысты ўваходзілі ў нашыя вёскі й сёлы. Гэта мне нагадала вайну з народам, фашызм.*





нядзеля, 19 сакавіка 2006, 23:25

## ЛЮДЗІ ЎСКЛАДАЮЦЬ КВЕТКІ ДА АБЭЛІСКУ ПЕРАМОГІ

***Валер Каліноўскі, Менск***

Галава калёны дайшла да плошчы Перамогі, людзі сталі на прыступках і зрабілі жывы калідор каля вечнага агню, каб іншыя туды маглі падысьці й пакласьці кветкі. Хвост калёны яшчэ далёка адсюль, на мосьце. У той момант, калі лідэры заклікалі людзей ісьці ўскладаць кветкі на плошчу Перамогі, людзей на Кастрычніцкай плошчы прыкметна паменела. Пасьля заканчэньня мітынгу я падышоў да Сяргея Калякіна й запытаў, што ён думае наконт верагоднага працягу акцыяў пратэсту. Калякін зазначыў, што працяг магчымы, але гэта залежыць ад людзей, — калі заўтра ў 18:30 на Кастрычніцкай плошчы зьбярэцца столькі ж альбо болей народу, то народны пратэст будзе мець пэрспэктывы. Заўтра, як мяркуе спадар Калякін, будуць выказаныя асноўныя прэтэнзіі й патрабаваньні да ўладаў. На гэты момант на плошчу Перамогі ўсё падыходзяць людзі, яны скандуюць «Жыве Беларусь!», «За Мілінкевіча!», ускладаюць кветкі, атмасфэра спакойная, міліцыянтаў не відаць, ёсьць толькі супрацоўнікі ДАІ, якія просяць людзей не выходзіць на праезную частку.

з в а н к і   н а   « С в а б о д у »

*СПАДАРЫНЯ: Паважаныя супрацоўнікі радыё! Хачу праз ваш этэр зьвярнуцца да ўсяго беларускага народу, якому неабыякавы лёс нашай дзяржавы. Дарагія бабулі й дзядулі! Маці й бацькі! Браты й сёстры! Давайце ўсе разам прачнемся сёньня й прагаласуем за свабодную, квітнеючую Беларусь — але з новым прэзыдэнтам!*

нядзеля, 19 сакавіка 2006, 23:48

## А.КАЗУЛІН У ЖЫВЫМ ЭТЭРЫ «СВАБОДЫ»:

— Сёньня адбылося самае галоўнае — Беларусь адчула свабоду. Заўтра мы заклікаем нашых грамадзянаў зноў прыйсьці на плошчу, заўтра загучыць Звон Свабоды, нашыя скульптары зрабілі вялікі помнік, заўтра ён загучыць набатам па ўсёй нашай краіне, і гэта будзе пачатак пераменаў у Беларусі. Народ Беларусі ня можа жыць так далей. Мы разумеем, што ня можам падстаўляць людзей, мы павінны трымацца закону й не апускацца да ўзроўню Лукашэнкі, які парушыў Канстытуцыю й законы. Мы будзем патрабаваць скасаваньня гэтых выбараў, адмены лічбаў, якія выклікаюць толькі ўсьмешку. Заўтра будзе вырашальны дзень.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Пайшлі чуткі, што адмяняюцца рэйсы некаторых цягнікоў на Менск, каб не пусьціць людзей з вобласьці, каб яны ня трапілі на мітынг. Калі ласка, абвергніце ці пацьвердзіце гэтую інфармацыю.*

*СПАДАР: Сёньня, у дзень выбараў, Лукашэнка сказаў, што ён галасаваў за Сяргея Гайдукевіча. А я гэтаму ня веру, бо тут няма аніякай лёгікі. Кожны чалавек галасуе за таго, каго ён хоча бачыць прэзыдэнтам. Няўжо Лукашэнка хоча бачыць новым прэзыдэнтам Гайдукевіча? Калі гэта так, то ўзьнікае пытаньне — чаму ён сам удзельнічае ў якасьці кандыдата ў прэзыдэнты? Калі надакучыла быць прэзыдэнтам і хочацца, каб на гэтай пасадзе быў іншы чалавек, то чаго сам лезеш у прэзыдэнты? Не, ня верыцца, каб Лукашэнка галасаваў за Гайдукевіча, гэта хлусьня, чарговы раз. За сябе ён галасаваў — так трэба было й сказаць.*





панядзелак, 20 сакавіка 2006, 00:05

## КАЛЁНА СПЭЦНАЗУ ПАКІНУЛА ЦЭНТАР ГОРАДУ

***Аляксандар Лукашук, Менск***

Я стаю на скрыжаваньні праспэкту Незалежнасьці й вуліцы Янкі Купалы. Толькі што вуліца была перакрытая дзеля пропуску вайсковай калёны. Каля 15 грузавых аўтамабіляў для перавозкі асабовага складу вайскоўцаў ці міліцыі пакінулі цэнтар гораду й скіраваліся да выезду зь Менску. Пачаўся таксама вывад сілаў міліцыі й спэцназу, якія знаходзіліся на прылеглых да Кастрычніцкай плошчы вуліцах. Цяпер рух транспарту аднаўляецца. Удзельнікі мітынгу разыходзяцца. Апошнія сотні людзей застаюцца яшчэ на плошчы Перамогі, але сьцягі згорнутыя, і падзеі сёньняшняй ночы фактычна заканчваюцца. Заканчваюцца мірна, прыгожа й з намерам зноў сабрацца заўтра.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*ІГАР ПАСНОЎ, Віцебск: Няхай сам Мілінкевіч ці ягоны прадстаўнік выступіць па тэлебачаньні, па радыё й прама скажа, што тыя ўлёткі, якія распаўсюджваюцца ад імя дэмакратаў, — фальшыўкі, якія заклікаюць ісьці на плошчу з бутэлькамі, з камянямі. Я ўпэўнены, што калі вы зьвернецеся да ўладаў, да КДБ, яны дазволяць вам зрабіць такі зварот як кандыдата ў прэзыдэнты. Каб пад гэтую марку не пайшла пена, каб людзі не грамілі, як у Францыі. Спыніце гэта! Таму трэба абавязкова сказаць па цэнтральным тэлебачаньні, што гэта, як вы кажаце на «Свабодзе», — фальсыфікацыя. А то што будзе? Будзе сапраўды крывавая нядзеля. Яшчэ гадоў на дзесяць адкінуць дэмакратыю ў Беларусі. Зганьбяць Беларусь і, перш за ўсё, дэмакратыю.*

панядзелак, 20 сакавіка 2006, 00:18

## АКЦЫЯ ПРАТЭСТУ СКОНЧЫЛАСЯ БЕЗ ЗАТРЫМАНЬНЯЎ

***Валер Каліноўскі, Менск***

На плошчы Перамогі застаецца яшчэ некалькі дзясяткаў чалавек, але акцыя апазыцыі ўжо закончылася. Я ня бачыў тут шмат міліцыянтаў, ня бачыў, каб яны імкнуліся некага затрымаць, людзі мірна й спакойна разыходзяцца. У штабе Мілінкевіча зазначаюць, што працяг акцыі будзе залежаць ня столькі ад арганізатараў, колькі ад людзей — найперш ад таго, ці гатовыя яны вытрымаць доўгатэрміновыя пратэсты. На маю думку, людзі прыйдуць і заўтра, бо заўтра яшчэ будзе шмат міжнародных назіральнікаў, замежных журналістаў, і, відаць, заўтра таксама ня будзе нейкага сілавога разгону акцыі. Ня ўпэўнены, што зьбярэцца гэтулькі людзей, як сёньня, магчыма, — меней.

Нядаўна па вуліцы Янкі Купалы праехала некалькі дзясяткаў машынаў і аўтобусаў з унутранымі войскамі й спэцназам, якія рухаліся ад адміністрацыі прэзыдэнта. Гэта вялікая сіла, і, як зазначыў Аляксандар Казулін, дэманстранты не зьбіраліся ісьці супраць яе, а хацелі ладзіць акцыю мірна. Казулін і Мілінкевіч абодва спадзяюцца, што заўтрашняя акцыя пратэсту таксама будзе мірнай. Сёньня не было разгону, бо прыйшло вельмі шмат людзей і прысутнічалі замежныя назіральнікі.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Мой бацька загінуў ад рук фашыстаў у барацьбе з фашызмам у 1942 годзе. А сёньня мне навязваюць нейкага другога «бацьку», ад якога, акрамя хамства й брыдоты, я нічога больш і ня чуў.*





панядзелак, 20 сакавіка 2006, 0:57

## «МЫ ПРЫЙШЛІ НА ПЛОШЧУ БАРАНІЦЬ БУДУЧЫНЮ СВАІХ ДЗЯЦЕЙ»

**Расчараваньне ад таго, што «людзей прыйшло мала», і радасьць ад таго, што «людзей так многа»; сумневы ў тым, ці будуць перамены ў бліжэйшай будучыні, і жаданьне паказаць, што тых, хто прагне свабоды, больш за некалькі працэнтаў... Галасы ўдзельнікаў акцыі за перамены — у рэпартажы карэспандэнта «Свабоды».**

***Севярын Квяткоўскі, Менск***

ДЗЯЎЧЫНА: Мы хочам штосьці пачуць, і паказаць, што нас больш, чым 4% за Мілінкевіча. Цешыць, што тут ня толькі людзі векам ад 18 да 25 гадоў, але й значна старэйшага ўзросту.

ХЛОПЕЦ: Мяркую, што ўсім перакрылі кісларод. Быў вялікі піяр наконт тэрактаў. Многія спужаліся. Многіх дарослых мужчынаў не пусьцілі іхныя жанчыны, іхныя бацькі.

ШКОЛЬНІЦА: Наагул, спадзяваньне на зьмены невялікае, але вельмі хацелася б пабачыць зьмены.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Я пра тую інфармацыю, якую перадалі праз сотавы тэлефон адносна таго, што калі вы зьявіцеся на плошчы, у вас будуць непрыемнасьці з уладамі, адносна правакацыяў і гэтак далей. І «Velcom» дазволіў гэта зрабіць! Я прапаную ўсім абанэнтам «Velcom» перастаць быць ягонымі абанэнтамі й стаць абанэнтам іншай арганізацыі.*

ДЗЯЎЧЫНА: Я спадзяюся, што гэтая акцыя прыцягне ўвагу грамадзкасьці. Найперш беларускай, і замежнай таксама. Мяркую, праз пару гадоў, калі прыцісьне эканамічна, падобныя акцыі стануць больш распаўсюджаныя.

БАБУЛЯ: Не мая гэта справа. Я сваё аджыла, гэта вам, маладым, трэба.

ДЗЯЎЧЫНА: Гэта пераломны момант у нашай рэспубліцы. Хацелася б думаць, што будуць зьмены да лепшага.

— Сёньня?

ДЗЯЎЧЫНА: Сёньня наўрад ці. Пазьней. Але сёньня — як пункт адліку.

СПАДАРЫНЯ: Я зьдзіўлена, што знайшлося столькі адважных людзей. Меркавала, што мы будзем удваіх.

СПАДАР: Хаця й малавата людзей.

СПАДАР: Апошні раз на мітынгу быў восем гадоў таму.

— І вось праз восем гадоў прыехалі?

СПАДАР: А што рабіць? Трэба бараніць будучыню нашых дзяцей.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Хачу вам прапанаваць. А вы вазьміце заўтра, калі людзі выйдуць на пляц, вынесіце гукаўзмацняльнікі ды ўключыце ім званкі з усёй Беларусі, як людзі тэлефануюць і кажуць, як паўсюль фальсыфікацыя, як прымушаюць людзей галасаваць. Вось толькі што й мне сябра пазваніў і таксама сказаў, што нафтавікоў усіх да пятніцы абавязалі прагаласаваць. А ў вёсках і пра кандыдатаў нічога ня ведаюць, я ўжо не кажу пра іхныя праграмы, акрамя Лукашэнкі.*





панядзелак, 20 сакавіка 2006, 1:11

## НА ПЛОШЧУ ЛЮДЗІ ПРЫХОДЗІЛІ СЕМ’ЯМІ

**Прывітаць Аляксандра Мілінкевіча на Кастрычніцкую плошчу Менску некаторыя менчукі прыходзілі сем’ямі, а таксама разам зь сябрамі й знаёмымі.**

***Галіна Абакунчык, Менск***

— Пакуль тут крыху зацішак, скажыце — чаму вы тут усёй сям’ёй?

СПАДАР: Бо сёньня дзень такі лёсавызначальны. Прыйшлі падтрымаць чалавека, за якога мы галасавалі. А хто, калі ня мы? — так мы думалі й прыйшлі.

СКАНДАВАНЬНЕ: Жыве Беларусь! Жыве Беларусь!

СПАДАРЫНЯ: Мы прыйшлі паказаць, што мы ня быдла, а людзі, якія думаюць, разумеюць і хочуць лепшага сваім дзецям.

ЮНАК: Я прыйшоў сюды сказаць «Не!» рэжыму. Нас большасьць, а ня іх — і мы пераможам.

СКАНДАВАНЬНЕ: Адпор! Адпор!

ЮНАК: Відавочна, што ўлада хацела задушыць апазыцыю, але мы бачым, што гэтага не атрымалася.

СКАНДАВАНЬНЕ: Мілінкевіч! Мілінкевіч! Жыве Беларусь! Жыве Беларусь!

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Апазыцыя зноў прайграла. Яна ня выкарыстала свайго патэнцыялу сёньня.*

панядзелак, 20 сакавіка 2006, 4:03

## П.ЗАЛЕСКІ: НА ГЭТАЙ ПЛОШЧЫ НАРАДЖАЕЦЦА ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ

***Любоў Лунёва, Менск***

Кіраўнікі штабоў А.Мілінкевіча й А.Казуліна ўпэўненыя, што колькасьць людзей, якія запатрабуюць правядзеньня новых выбараў, будзе павялічвацца штодня. Падчас мітынгу на Кастрычніцкай плошчы А.Мілінкевіч паведаміў Радыё Свабода.

МІЛІНКЕВІЧ: Гэта вялікая перамога ўсіх. Кожны змагаўся са сваім страхам сам. Перамаглі страх. Людзі адчуваюць асалоду ад таго, што стаяць плячо да пляча. Гэты народ ужо не зламаеш і ў рабства не загоніш. Лічу, што гэта выдатна.

На плошчы прысутнічалі грамадзяне Польшчы, Літвы, Украіны, Нямеччыны ды іншых краінаў. Сябра камісіі ў міжнародных стасунках польскага Сойму Павал Залескі прысутнічаў на мітынгу.

ЗАЛЕСКІ: Відаць, што тут нараджаецца вольная дэмакратычная Беларусь. Гэта важная падзея. Скончыліся афіцыйныя выбары, але важна тое, што адбываецца на гэтай плошчы. Тут нараджаецца беларуская дэмакратыя. Мне казалі, што такой вялікай колькасьці людзей тут яшчэ не было. Усе палякі падтрымліваюць беларусаў, дэмакратыю ў Беларусі. Для нас гэта важна.

Павал Залескі адзначыў, што грамадзяне Польшчы вельмі ўважліва сочаць за падзеямі ў Беларусі й непакояцца за бясьпеку беларускіх грамадзянаў у зьвязку з апошнімі заявамі шэфа КДБ і масавымі арыштамі.

А.Мілінкевіч і А.Казулін заклікалі людзей прыйсьці 20 сакавіка ў 18:30 на Кастрычніцкую плошчу, каб прадэманстраваць уладам, што не саступяць фальсыфікацыям.





панядзелак, 20 сакавіка 2006, 5:09

## ШТО ПРЫВЯЛО ЛЮДЗЕЙ НА ПЛОШЧУ?

***Альгерд Невяроўскі, Менск***

ДЗЯЎЧЫНА: Я была назіральніцай за выбарамі на ўчастку ў Серабранцы. На адлегласьць, зь якой я магла б пэўна бачыць бюлетэні, старшыня камісіі нас не пусьціла. Але я бачыла, як раскладвалі стосы, і бачыла, што стосы Лукашэнкі й Мілінкевіча ішлі фактычна аднолькава. Але ў выніку Лукашэнка атрымаў у дзесяць разоў болей галасоў.

СТУДЭНТ: Я бачыў, як дэканы й камэнданты прымушалі студэнтаў ісьці на датэрміновае галасаваньне, пагражалі выключэньнем з інтэрнатаў і ўнівэрсытэту. Гэта было ў Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце інфарматыкі й радыёэлектронікі. Намесьнік дэкана Буднік заўсёды зганяе людзей на выбары.

МУЖЧЫНА СТАЛАГА ВЕКУ: Моладзь, інтэлігенцыя, працоўныя ня вераць афіцыйнай прапагандзе. Яны за перамены, за свой выбар. А чаму ня ўсе выйшлі? Не, вы маглі сёньня пераканацца, што людзі прачнуліся. Упершыню такі масавы выхад.

званкі на «Свабоду»

*СПАДАРЫНЯ: Дзякуй вам за свабоду й за аптымізм. Ні заўтра, ні пасьлязаўтра я на плошчу прыйсьці не змагу. Вельмі балюча, калі разумееш, што павінен зрабіць нешта, і ня можаш. Толькі ў Менску некалькі тысяч інвалідаў-калясачнікаў. Я разам з вамі. Жыве Беларусь! Усім нам посьпехаў і мужнасьці!*

МУЖЧЫНА СЯРЭДНІХ ГАДОЎ: Шмат гадоў я ня ўдзельнічаў ні ў якіх апазыцыйных мітынгах і дэманстрацыях, але больш няма ў мяне магчымасьці сядзець дома. Улада адабрала ў мяне ўсё: невялікі бізнэс, цяпер кватэру адбірае. І ніхто ня можа дапамагчы: ні пракуратура, ні Вярхоўны суд, ні Вышэйшы гаспадарчы суд. Мне нічога не застаецца, як толькі ісьці й пратэставаць ды спадзявацца, што прыйдзе новы чалавек, які зробіць уладу сумленнай.

МАЛАДЫ ЧАЛАВЕК: Я сюды прыйшоў не за сябе нават змагацца. Я гэта пераджыву, у мяне ёсьць сваё меркаваньне, мне ня трэба глядзець тэлевізар ці чытаць газэты, я сам усё разумею. Але я не перакананы, што мой сын, які будзе расьці ў гэтай краіне, здолее гэтаму супрацьстаяць.

МУЖЧЫНА: Я выпадковы мінак, прыйшоў сюды не таму, што мяне нехта паклікаў. Мне сумленьне баліць. Я мяркую, не павінен прэзыдэнт ісьці на трэці тэрмін. Не дарэмна гэта забаронена ва ўсім сьвеце.

ДЗЯЎЧЫНА: Напэўна, мы здолелі пераадолець самі сябе. Так, было вельмі страшна, але трэба нам падымацца, ня час сядзець. А цяпер нам нічога ня страшна. Ні магчымыя правакацыі, ні магчымыя арышты, нічога не палохае. Нават сьнег ужо ня страшны.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Мая знаёмая, якая працуе ў аршанскай бальніцы льнокамбінату, расказала мне, што іх, усіх супрацоўнікаў гэтай бальніцы, абавязвалі прагаласаваць датэрмінова, быццам таму, што 19 сакавіка ў горадзе плянуюцца тэракты.*





## ПРЭЗЫДЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ Ў АЦЭНКАХ ЭКСПЭРТАЎ «СВАБОДЫ»

**19 сакавіка на «Свабодзе» гучаў бліц-аналіз галасаваньня й падзеяў, што адбываліся на Кастрычніцкай плошчы.**

**20:25. Аляксандар Грыцанаў, філёзаф:**

Першы ўрок — у краіне канчаткова ўсталяваўся аўтарытарны рэжым савецкага фармату. Што шмат людзей галасавала супраць дзейнага прэзыдэнта, у гэтым немагчыма сумнявацца. Тое, што паводле афіцыйных экзыт-полаў каля 10% прагаласавала супраць усіх — ускосна сьведчыць менавіта пра гэта. Шмат чаго абяцалі й апазыцыя, і ўлада, але цяпер заблякаваныя ўсе сродкі сувязі, немагчыма вызначыць, дзе зьбіраюцца людзі. Рэзэрвавых сродкаў сувязі паміж тымі, хто жадае пераменаў, няма. Маё асабістае адчуваньне й мой уласны экзыт-пол паказалі, што Лукашэнка перамог, але адносна, а не абсалютна, ня ў першым туры. Цяпер усё залежыць ад Мілінкевіча. Калі ён будзе паводзіць сябе сёньня й заўтра так, як ён паводзіў сябе ўчора і ўсе апошнія дні — можа быць нейкі вынік. На ім былі сфакусаваныя спадзяваньні грамадзянаў, якія чакаюць пераменаў, і цяпер усе чакаюць слова ад яго.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Цяпер гляджу па БТ панараму навінаў і згадваю Цютчава: «И правды нет в твоих очах, и чувства нет в твоих очах, и нет души в тебе». І чамусьці мне згадваюцца апошнія дні Чаўшэску.*

**21:25. Вадзім Дубноў, намесьнік рэдактара маскоўскага часопісу «Новое время»:**

Мне здаецца , што цяпер людзей тут больш, чым было пяць гадоў таму. Тут цяпер сьнежная бура, як на замову. Адчуваньне больш аптымістычнае, чым пяць гадоў таму, але мне здаецца, што апазыцыя пакуль не гатовая распарадзіцца гэтым рэсурсам. Яна не чакала такой колькасьці народу. Мне здаецца, што апазыцыя ў пэўнай разгубленасьці. Магчыма, гэта «тэхнічная» разгубленасьць, бо на плошчы ніхто нічога ня чуе. Можа, гэта й больш сур'ёзная разгубленасьць, бо ні да якіх актыўных дзеяньняў апазыцыя заклікаць ня можа, а падзеі разгортваюцца даволі хутка. Такая колькасьць народу можа хутка распусьціцца, асабліва на такім холадзе. Цяжка сказаць, ці набраў Лукашэнка 50% насамрэч. Зьвесткі Лявада-Цэнтру, як вы ведаеце, — 47%, паводле прагнозаў прафэсара Манаева — 53—55%, я мяркую, што ў гэтых межах і ёсьць праўда.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*ЯБЛОНСКІ, Маладэчна:*

*Працавітая ды гаротная,*
*Запужаная, шматпакутная,*
*На каленях ты з згорбленай сьпіной —*
*Беларусь мая, край родны мой.*

*Дык паўстань з кален,*
*Разагні сьпіну!*
*Пагукай свабоду,*
*Пагукай вясну!*

*Навучы народ быць упартымі,*
*Нешта годнымі, нешта вартымі.*
*Хопіць быдламі нам быць бяздольнымі!*
*А быць свабоднымі, быць нам вольнымі!*





**22:45. Валянцін Акудовіч, філёзаф:**

Дзень быў вельмі трывожны, але плошча мяне па-добраму ўразіла. Я ня думаў, што гэты страх, які напампоўваўся з дня ў дзень праз усе СМІ, будзе так прарваны простымі, шараговымі людзьмі, якія яго пераадолелі. У іх розны настрой. Камусьці дастаткова, што ён прыйшоў, і гэтых успамінаў яму хопіць надоўга. Вэтэраны прыйшлі з апошнім спадзевам на перамогу. Вельмі станоўчы й пазытыўны імпульс тут атрымалі ўсе, акрамя тых, хто залішне сабе нафантазаваў, што заўтра мы прачнемся ў вольнай краіне. Я ня бачу ў арганізатараў сцэнару — і гэта галоўны закід усіх тут, хто прыйшоў, хто чакаў рэвалюцыі тут і зараз. Адрозна ад Украіны, у нас энэргія супраціву замкнёная сама ў сабе, у нас няма каналаў, празь якія мы маглі б скіраваць энэргію супраціву ў легітымнае палітычнае поле, бо яно заблякаванае з усіх бакоў. Пастаім і разыдземся. Пакуль я раблю адну выснову — у Беларусі (прынамсі, у Менску) ёсьць дастаткова людзей, якія хочуць свабоды й пераменаў, якія ў той ці іншай ступені гатовыя пераадольваць свой страх. Такія людзі ёсьць, і гэта не адзінкі. Ёсьць з кім працаваць. Грамадзтва Беларусі ня страчанае для дэмакратычнага руху.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ, Глыбокае: Мы з вамі! Мы за Мілінкевіча! Мы за свабоду! Мы за тое, каб была свабоднай і шчасьлівай наша краіна й народ. Мы хочам параіць вам узяць абраз і маліцца, ня проста стаяць з кветкамі, а чытаць малітву, заклікаць Бога, каб даў свабоду нам і нашай краіне.*

**23:25. Андрэй Дынько, рэдактар «Нашай Нівы»:**

Самае галоўнае — незалежнае грамадзтва здолела цаной неверагодных высілкаў сарваць «элегантную перамогу». На вуліцу выйшлі дзясяткі тысяч людзей. Другая выснова — арганізатары мітынгу ня маюць пляну дзеяньняў, і гэта — адбітак інтэлектуальнага ўзроўню. На Кастрычніцкай плошчы заднія шэрагі проста нічога ня чулі й пачалі разыходзіцца. Можна паверыць у лічбы экзыт-полу Лявада-Цэнтру — 26% за Мілінкевіча. Маем тое, што маем.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Толькі што праслухаў інтэрвію нямецкага палітоляга Рара. Я зразумеў, што ён верыць у тыя лічбы, якія цяпер агучвае наш Цэнтравыбаркам аб тым, што Лукашэнка атрымаў больш за 80% галасоў. Дык я хачу сказаць, што на прыкладзе Віцебску гэта зусім ня так! Цяпер ва ўчастковых камісіях завяршаецца працэс фальсыфікацыі, галасы падганяюцца пад тыя лічбы, якія былі дадзеныя гэтым участковым камісіям. Трэба зразумець: зусім ня так галасавалі людзі, як агучвае Цэнтравыбаркам!*

*СПАДАР: Браты беларусы! Выбірайце: або жыцьцё й свабоду, або рабства!*



## д з е н ь д р у г і

## ОНЛАЙН-РЭПАРТАЖ З ПЛОШЧЫ

### 17:15

Каля 17-й гадзіны калёны грузавікоў і аўтобусаў з асабовым складам рухаліся ў цэнтар гораду.

### 19:15

Праспэктам Незалежнасьці з Уручча ў цэнтар гораду на вялікай хуткасьці едуць дадатковыя калёны вайсковых грузавікоў. Іх суправаджаюць міліцэйскія аўтамабілі з уключанымі чырвонымі мігалкамі.

Тым часам на плошчы ўжо сабралася 5—6 тысяч чалавек. Яны займаюць прыблізна палову Кастрычніцкай плошчы. Відаць шмат сьцягоў: бел-чырвона-белых, украінскіх, расейскіх, Эўразьвязу, сьцягоў Менску з выявай Маці Божай... На ініцыятыву А.Казуліна прывезьлі бронзавы Звон Свабоды. У 19:15 пачаў выступ А.Казулін. Ён заяўляе, што Лукашэнка ўчыніў «дзяржаўны пераварот».

Перад Казуліным выступіў А.Мілінкевіч. Ён заявіў, што ідэалёгія Лукашэнкі трымаецца на хлусьні й назваў вынікі выбараў дзяржаўным пераваротам і незаконным захопам улады. Мілінкевіч прапанаваў прыняць рэзалюцыю з патрабаваньнем правесьці паўторныя выбары.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Я быў назіральнікам на выбарчым участку ў Менску, і мяне старшыня выбарчай камісіі выдаліў, калі я патрабаваў лічыць галасы выбарцаў адкрыта. Думаю, што ўсе старшыні выбарчых участковых камісіяў зьяўляюцца сакрэтнымі супрацоўнікамі, сексотамі, бо яны нахабна скралі нашыя галасы, галасы выбарцаў. Гэта патрабуе пакараньня паводле 192-га артыкулу Крымінальнага кодэксу.*





### 20:15

Разам зь Лявонам Вольскім людзі на плошчы сьпяваюць ягоныя песьні пра свабоду. Над натоўпам зьявіўся велізарны, на дзясяткі мэтраў, бел-чырвона-белы сьцяг.

Анатоль Лябедзька, выступаючы на мітынгу, сказаў, што марыў, каб кіеўскі Майдан, хаця б на 10 тысяч чалавек, паўтарыўся ў Менску.

Пісьменьнік Уладзімер Арлоў у сваім выступе паўтарыў словы Папы Яна Паўла II: «Ня бойцеся».

Іна Кулей, жонка А.Мілінкевіча, сказала, што нельга дазволіць, каб краінай кіравалі людзі, пры якіх зьніклі Захаранка, Ганчар, Красоўскі й Завадзкі.

На мітынгу прынялі рэзалюцыю зь дзесяці пунктаў. У рэзалюцыі заяўляецца, што «выбарчая кампанія прайшла з парушэньнямі закону», што «Лукашэнка й Ярмошына сфальсыфікавалі вынікі выбараў». У дакумэнце ўтрымліваецца патрабаваньне прызначыць новыя выбары на 16 ліпеня. На плошчы на гэты момант знаходзіцца прыблізна 10—15 тысяч чалавек. На падыходзе да плошчы затрымалі актывіста апазыцыі Ўладзімера Кішкурну.

### 20:30

Толькі што зноў выступіў А.Мілінкевіч. Ён заявіў, што ня будзе сыходзіць з гэтай плошчы ўсю ноч. Ён заклікаў прысутных, каб тыя папрасілі сваіх родных прынесьці гарбату й ежу, каб заставацца на плошчы ўсю ноч.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР, Менск: Наколькі мне вядома, парушэньняў было настолькі шмат, што выбарамі гэта я назваць не магу.*

**21:00**

Некалькі хвілінаў таму на Кастрычніцкай плошчы прагучалі навіны Радыё Свабода. Плошча сустракала іх воплескамі.

Паставілі першыя чатыры намёты. Вакол іх шчыльным шэрагам стаіць ахова. Супрацоўнікі міліцыі й КДБ спрабавалі разбурыць намёты, але ахова не дазволіла.

А.Мілінкевіч і ягоная давераная асоба Аляксандар Дабравольскі заклікалі прысутных не разыходзіцца, тэлефанаваць родным, прасіць іх прыносіць цёплае адзеньне, ежу, каву й гарбату.

«Правы альянс» далучаецца да дружыны на плошчы, дружына «Правага альянсу» ахоўвае гукаўзмацняльную апаратуру й выступоўцаў.

**21:30**

Ужо трэцюю гадзіну ідзе мітынг на Кастрычніцкай плошчы. Прадстаўніца Бабруйску апавяла, што іхнюю машыну затрымалі дарогай, але яны здолелі прарвацца на плошчу.

званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Лукашэнка набраў 82%, як ён сказаў. Па-першае, гэта поўная хлусьня. Па-другое, нават калі б ён набраў 99%, яго ўдзел у гэтых выбарах зьяўляецца нелегітымным. Мілінкевіч — наш выбраны прэзыдэнт! Ён зьяўляецца прэзыдэнтам. Гэта трэба было абвясьціць на плошчы, бо ён займае 2-е месца, а Лукашэнка ня мае права балятавацца. Нельга было сыходзіць з плошчы, трэба было пакінуць ахвотнікаў жыць у палатках. Я б асабіста застаўся на гэтай плошчы, быў гатовы загінуць на гэтай плошчы.*





Сяргей Салаш, якога сёньня вызвалілі з турмы на Акрэсьціна, выступіўшы на плошчы, сказаў, што за Мілінкевіча на Акрэсьціна прагаласавалі 90%.

Прадстаўнікі руху «Хопіць!» заклікалі прысутных прыносіць з дому намёты й разьбіць намётавы лягер. Яны кажуць, калі на плошчы будуць стаяць не чатыры, як цяпер, а хаця б пяцьдзясят намётаў, разбурыць лягер не атрымаецца.

Дэпутат парлямэнту Нарвэгіі, выступаючы на Кастрычніцкай плошчы, заявіў, што вочы ўсяго сьвету сёньня глядзяць на гэтую плошчу ў Менску.

**22:30**

***З Кастрычніцкай плошчы паведамляе Валер Каліноўскі:***

Я паразмаўляў з А.Казуліным. Ён сказаў, што будзе на плошчы да таго часу, пакуль на ёй будуць людзі. Казулін апавёў, што хадзіў па дварах, дзе стаяць амапаўцы, і ўбачыў, што яны настроеныя вельмі жорстка. Палітык спрабаваў пачаставаць іх цукеркамі, але тыя адмовіліся. Паводле Казуліна, разам з амапаўцамі ў дварах стаяць байцы СОБРу й «крапавыя бэрэты». Казулін асьцерагаецца, што калі людзі з плошчы збольшага разыдуцца, байцы могуць разагнаць тых, хто застанецца.

Тым часам А.Мілінкевіч падышоў да намётавага лягеру й падзякаваў людзям, якія там знаходзяцца.

званкі на «Свабоду»

*СПАДАРЫНЯ: Я вам казала, што ў Беларусі больш разумных людзей і што за гэтай тухлай апазыцыяй ня пойдуць. І хопіць вам вычварацца, хопіць хлусіць! Супакойцеся!*

панядзелак, 20 сакавіка 2006, 22:51

## НА ПЛОШЧУ ПРЫЙШЛІ 10 000 ЧАЛАВЕК

***Паведамляе Альгерд Невяроўскі:***

На Кастрычніцкім пляцы Менску працягваецца мітынг дэмакратычнай апазыцыі. Нягледзячы на халаднейшае, чым учора, надвор'е, у ім удзельнічае прыкладна 10 000 чалавек. А.Мілінкевіч зьвярнуўся да ўдзельнікаў мітынгу з прамовай:

— Дарагія суайчыньнікі, шаноўныя сябры! Яны нам сёньня аб'явілі іхныя вынікі. Яны думаюць, што кагосьці пераканаюць. Ім здаецца, што хтосьці паверыць. Большасьць нармальных людзей сьмяецца з гэтых працэнтаў. Гэта ня выбары, гэта — дзяржаўны, антыканстытуцыйны пераварот! Ганьба!

Мілінкевіч заклікаў лічыць Лукашэнку незаконным прэзыдэнтам.

А.Казулін, які разам з прыхільнікамі ўсталяваў на плошчы зробленыя беларускімі мастакамі Звон Свабоды, заклікаў людзей ухваліць Дэклярацыю народу Рэспублікі Беларусь. У ёй адзначаецца, што 19 сакавіка ў Беларусі адбыўся антыканстытуцыйны пераварот і Аляксандар Лукашэнка ў змове са старшынёй Цэнтравыбаркаму Лідзіяй Ярмошынай узурпаваў уладу. А.Казулін выступіў з такімі прапановамі:

— Прызнаць выбары прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, праведзеныя 19 сакавіка 2006 году, адбытымі, але несапраўднымі. Прызначыць правядзеньне паўторных выбараў у адпаведнасьці з законам Рэспублікі Беларусь на 16 ліпеня 2006 году.

На мітынгу таксама выступілі Анатоль Лябедзька, жонка Мілінкевіча Іна Кулей, бард Зьміцер Бартосік, гурт «N.R.M.», акадэмік Аляксандар Вайтовіч, дэпутат Дзяржаўнай думы Расеі Ўладзімер Рыжкоў, дэпутат нарвэскага парлямэнту, актывісты апазыцыі з рэгіёнаў.

Гучала трансьляцыя Радыё Свабода праз сатэліт.

Тым часам А.Мілінкевіч заклікаў людзей:

— Дарагія сябры! Я прашу тых, хто мае сілу й волю, не разыходзіцца. Наш пратэст будзе моцным і доўгім.

На Кастрычніцкі пляц пачалі падвозіць цёплыя рэчы, гарачую каву й гарбату.

### 23:00

Каля 23-й гадзіны здарыўся інцыдэнт каля ўваходу на станцыю мэтро «Кастрычніцкая». Міліцыянты спрабавалі затрымаць юнака, які прывез на плошчу два намёты. Але іншыя ўдзельнікі мітынгу абаранілі яго, і ён ня быў затрыманы. А.Мілінкевіч запрасіў на трыбуну прадстаўнікоў міліцыі й заклікаў іх «абараняць тэрыторыю вольнай Беларусі», якой цяпер стала Кастрычніцкая плошча.

Міліцыя папрасіла ўдзельнікаў акцыі пасьля 23-й гадзіны не ўключаць гучна музыку, і тыя музыку выключылі. На плошчы ўжо знаходзіцца 8 намётаў.

### 23:30

На плошчы застаецца каля 2—3 тысяч чалавек. А.Мілінкевіч папярэдзіў людзей, якія сыходзяць з плошчы, каб яны не ішлі па адным, бо гэта павялічыць рызыку быць затрыманымі міліцыяй. Моладзь на гэтыя словы пачала скандаваць «Застаемся!».

званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Калі б у Мілінкевіча й Казуліна быў гонар, яны б прызналі сваю паразу. А інакш і не магло быць, бо народ верыць свайму прэзыдэнту й цалкам на ягоным баку.*

## 23:45

Перад поўначчу сытуацыя на Кастрычніцкай плошчы спакойная. Людзі гутараць, знаёмяцца, пэрыядычна скандуюць лёзунгі. Некаторыя абменьваюцца тэлефоннымі нумарамі. Пастаўлена 10 намётаў, каля якіх знаходзіцца жывы ланцуг аховы. У намётавы лягер людзей запрашаюць на гарачую гарбату. Некаторыя раздаюць бутэрброды з салам. Людзі зьбіраюцца прабыць на плошчы ўсю ноч.

А.Лябедзька й А.Дабравольскі таксама зьбіраюцца заставацца тут усю ноч.

Каля двух дзясяткаў машынаў са спэцназам стаяць каля Купалаўскага тэатру й каля рэзыдэнцыі прэзыдэнта. Але людзі спадзяюцца, што сілавога разгону ня будзе.

## 00:00

Зьявіліся трывожныя весткі. Паведамілі, што затрыманыя сыны Мілінкевіча — Вітаўт і Аляксандар. Прынамсі, зьвесткі пра затрыманьне старэйшага сына Аляксандра пацьвердзіла Валянціна Палевікова. Яна кажа, што затрыманьне Мілінкевічавага сына адбылося паблізу Кастрычніцкай плошчы.

Карэспандэнтка газэты «Известия» Алена Данейка паведаміла, што яе сына й ягоную сяброўку таксама затрымалі й цяпер яны знаходзяцца ў міліцыі мэтрапалітэну.

з в а н к і н а « С в а б о д у »

*СПАДАР: Паважаная «Свабода»! Дапамажэце Лідзіі Ярмошынай разабрацца з арытмэтыкай. Дапамажэце Цэнтравыбаркаму правільна падлічыць канчатковыя лічбы галасаваньня. 92,6% — яўка выбаршчыкаў на ўчастку, а па падліках атрымоўваецца, што 94,4% прагаласавалі за кандыдатаў. Чаму так атрымалася?*





Выглядае, што міліцыя «бярэ» людзей, калі тыя па адным ці ўдваіх сыходзяць з плошчы або ідуць туды.

Колькасьць людзей стабілізавалася — каля дзьвюх тысяч чалавек застаюцца на плошчы.

## 00:30

Міліцыя затрымала Звон Свабоды, які прывезьлі раней на Кастрычніцкую плошчу. Пасьля таго, як А.Казулін і ягоныя прыхільнікі вырашылі завезьці Звон на кватэру Казуліна, міліцыя спыніла машыну, у якой везьлі Звон. Затрыманьне адбылося літаральна ў арцы пад'езду дому Казуліна. Разам са Звонам затрымалі двух кіроўцаў, іх завезьлі ў РУУС Цэнтральнага раёну. Міліцыя патрабуе, каб падалі дакумэнты на мастацкі твор ад аўтараў — Алеся Шатэрніка й Аляксея Марачкіна. А.Казулін мае намер вызваліць Звон Свабоды ў найбліжэйшым часе.

## 00:45

Прыблізна апоўначы сыны А.Мілінкевіча былі вызваленыя. Як паведаміў старэйшы зь іх, калі яны падыходзілі да Кастрычніцкай плошчы зь цёплымі рэчамі для бацькі й зь ежай, два супрацоўнікі міліцыі схапілі іх, кінулі ў машыну УАЗ і завезьлі ў пастарунак. Там склалі пратакол затрыманьня й забраньня рэчаў, але праз нейкі час зьявіўся вышэйшы міліцэйскі чын, парваў пратакол і загадаў іх вызваліць. Міліцыянты нават давезьлі іх да Кастрычніцкай плошчы. Такім чынам яны змаглі перадаць бацьку цёплыя рэчы й ежу.

Затрыманага раней сына журналісткі газэты «Известия» Алены Данейкі таксама адпусьцілі супрацоўнікі міліцыі на станцыі мэтро «Кастрычніцкая». У яго забралі толькі спальны мех, які ён нес у намётавы лягер.

аўторак, 21 сакавіка 2006, 2:13

## НА КАСТРЫЧНІЦКАЙ ПЛОШЧЫ СТАІЦЬ УЖО 17 НАМЁТАЎ

***Паведамляе Аляксандар Лукашук:***

У Менску 1:20, на плошчы каля 2 тысяч чалавек. Мы тут стаім разам з Уладзем Арловым і налічылі 17 намётаў рознай велічыні. На адным зь іх чырвоным колерам на белым фоне напісана «Полацак з вамі!».

Намёты самыя розныя, вялікія й малыя. Насельнікі гэтых намётаў сядзяць адным колам, мы прынесьлі ім цукеркі й кветкі. Над плошчай лунае больш за дваццаць бел-чырвона-белых сьцягоў, ёсьць таксама сьцягі Украіны, Эўразьвязу, Расеі, руху «Зубар» ды іншыя. Кожныя дзьве-тры хвіліны чуюцца скандаваньні «Жыве Беларусь!», «Верым, можам, пераможам!».

Усе пад'езды да Кастрычніцкай плошчы перакрытыя. Ад плошчы Перамогі й на ўсіх пад'ездах іншымі вуліцамі зьлева й справа рух транспарту спынены, усюды стаіць міліцыя. Магчыма, наступныя паўгадзіны стануць вырашальнымі, бо якраз у гэты момант на плошчы запанавала цішыня.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР, Віцебская вобласьць: Я выбарца з участку №2. Я ўражаны, ня толькі я, але ўсе мае суседзі й калегі на працы: усе галасавалі за Мілінкевіча, а ў выніку атрымалася, што ўсе за адзінага, усенароднага, самаабранага Лукашэнку. Гэта фарс! Як члены выбарчых камісіяў могуць глядзець цяпер людзям у вочы, бо яны агучылі замоўленыя ім лічбы! Вось толькі засталося нашаму непаважанаму Гайдукевічу павіншаваць Лукашэнку зь нелегітымнай элегантнай перамогай.*





аўторак, 21 сакавіка 2006, 2:28

## А.МІЛІНКЕВІЧ: АКЦЫЯ БУДЗЕ ПРАЦЯГВАЦЦА СТОЛЬКІ, КОЛЬКІ ВЫРАШЫЦЬ МОЛАДЗЬ

***Паведамляе Валер Каліноўскі:***

На Кастрычніцкай плошчы ў 1:30 застаецца каля пяцісот удзельнікаў маніфэстацыі, некаторыя зь іх прынесьлі з сабой гітары й сьпяваюць песьні, іншыя выгукваюць лёзунгі, сьмяюцца. Ва ўсіх добры настрой, нягледзячы на сьцюдзёнае надвор'е.

Аляксандар Мілінкевіч і Аляксандар Казулін застаюцца на плошчы, гавораць з удзельнікамі акцыі, абыходзяць намётавы лягер. Аляксандар Мілінкевіч паведаміў, што акцыя будзе працягвацца столькі, колькі вырашыць моладзь. Асноўная частка людзей, якія знаходзяцца на плошчы, — моладзь.

Дванаццаць адмысловых аўтобусаў брыгады спэцназу, якая ахоўвала адміністрацыю Аляксандра Лукашэнкі, каля паловы на другую ночы зьехалі ў месца сталай дысьлякацыі.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Паглядзеў я на нашу бяздарную апазыцыю. Яны хацелі выйграць выбары. Яны сцэнар і той узялі з Украіны, ня ўлічваючы рэаліяў пры такой розьніцы працэнтаў. Там розьніца невялікая была, таму й прайшоў гэты нумар. Ды й лёзунгі не да месца: «Мы перамаглі! Вы свабодныя!». Людзі паслухалі й разышліся з плошчы, раз яны свабодныя. Самі сябе пераканалі, што яны перамаглі, — і задаволеныя. Яшчэ абураюцца, што апазыцыю пасадзілі. За такую працу, за растрату такіх шалёных грошай Эўразьвяз іх павінен усіх пасадзіць.*

аўторак, 21 сакавіка 2006, 2:37

## МОЛАДЗЬ ЗЬБІРАЕЦЦА ПРАЦЯГВАЦЬ АКЦЫЮ НА ПЛОШЧЫ ДА 25 САКАВІКА

***Паведамляе Аляксандар Лукашук:***

Толькі што мы гаварылі з А.Мілінкевічам і ягонай жонкай Інай Кулей. Іна Кулей сёньня выступіла на плошчы вельмі ўдала — эмацыйна, каротка, ёміста. Плошча надзвычай цёпла прарэагавала на гэты выступ. Калі мы зь Інай Кулей пра гэта гаварылі, яна сказала: эмацыйны зварот, эмацыйны водгук — гэта тая мова, на якой размаўляе плошча.

А.Мілінкевіч прызнаўся, што ён упершыню сёньня пачуў публічны выступ сваёй жонкі й быў вельмі ўражаны. Ён не падазраваў, што яна настолькі выдатны аратар. Нарвэскія журналісты, якія прысутнічалі пры гэтай размове, сказалі: «Вось — новая Гілары Клінтан».

А.Мілінкевіч расказваў пра свае падарожжы па краінах Эўропы. На ягоную думку, і гэтыя падарожжы, і тое, як яго там прымалі — усё гэта спрычынілася да таго, што ўчора й сёньня ўдзельнікі сустрэчаў на плошчы па-ранейшаму маюць магчымасьць працягваць выступы, што грубая сіла не была ўжытая, як гэта здаралася раней. Ён

*з в а н к і н а «С в а б о д у»*

*УЛАДЗІМЕР: Што да падзеяў, якія адбыліся ўчора ўвечары на Кастрычніцкай плошчы. Яны прадэманстравалі, што ў нас няма эліты, якая здольная дзейнічаць у экстрэмальных абставінах. Як яе выхаваць — вось над чым мы павінны падумаць, бо калі няма эліты, дык ня будзе ўсяго астатняга.*





думае, што менавіта ягоная эўрапейская вядомасьць і ўвага да Беларусі, якая была выказаная падчас гэтых візытаў, спрычыніліся да таго, што ўлады пакуль асьцерагаюцца ўжываць фізычную сілу супраць удзельнікаў пратэстаў.

Мілінкевіч, сярод іншага, падзяліўся ўражаньнямі ад сустрэчаў з кіраўніком групы расейскіх назіральнікаў Уладзімерам Рушайлам. Гаворка ішла пра магчымае стаўленьне альтэрнатыўнага прэзыдэнта да Расеі. А.Мілінкевіч сказаў, што кожны раз, калі ён быў у краінах Эўразьвязу, у яго там пыталіся — а як новая Беларусь будавала б свае дачыненьні з Расеяй? І ён заўсёды адказваў, што інтарэсы Беларусі — і ў Эўропе, і ў Расеі. Але вось жа ягоныя расейскія суразмоўцы заўсёды мысьлілі катэгорыямі блёкаў — «дык вы з намі або вы зь імі?». Дык вось, адказ «і з вамі, і зь імі» вельмі цяжка было данесьці да расейскіх суразмоўцаў.

Гаворачы пра мэты акцыі на плошчы, А.Мілінкевіч зноў пацьвердзіў, што тое, што адбываецца цяпер, адбываецца з ініцыятывы моладзі, што пляны былі зьмененыя менавіта з увагі на гэтую ініцыятыву. Моладзь хоча тут застававацца, хоча мець тут намёты. Акцыя на плошчы мае працягвацца прынамсі да 25 сакавіка.

*з в а н к і н а «С в а б о д у»*

*СПАДАР: З узброеным рэжымам, які разарваў прыстойнасьць, справядлівасьць і законнасьць, весьці цывілізаваныя выбары — марная праца. Іх вынік прадбачыў акадэмік А.Вайтовіч, ён меў рацыю на 1000 адсоткаў. Згадайце сытуацыю з гітлераўскай Нямеччынай: зь Нямеччынай пакончылі ўсім сьветам. Дыктатары толькі так сыходзяць!*

аўторак, 21 сакавіка 2006, 3:29

## НАМЁТАВЫ ЛЯГЕР ПАБОЛЬШАЎ ДА 18 НАМЁТАЎ

***Паведамляе Альгерд Невяроўскі:***

На другую гадзіну ночы на Кастрычніцкай плошчы ў Менску знаходзяцца каля пяцісот чалавек — у асноўным моладзь. У намётавым лягеры ўжо 18 намётаў. Гэты лягер узялі ў двайное кола маладыя людзі, якія сьпяваюць, размахваюць сьцягамі.

На франтоне будынку Палацу прафсаюзаў вісяць лёзунгі «Верым, можам, пераможам!», «Свабоду!», «Мілінкевіч!». Як сказаў мне камэндант намётавага лягеру Алесь Мазур, моладзь мае намер заставацца на плошчы столькі, колькі будзе патрэбна — і гэтую ноч, і наступную.

Міліцыі навокал няма — толькі часам падыходзяць, паглядаюць здалёк і адыходзяць.

**2:40**

Давераная асоба А.Казуліна Алесь Пашкевіч і аўтары Звону Свабоды Алесь Шатэрнік і Аляксей Марачкін прыйшлі ў Цэнтральны РУУС з дакумэнтамі на Звон, каб забраць яго. Аднак міліцыя адмовілася разглядаць дакумэнты. Звон і аўтамабіль, у якім яго перавозілі, затрыманыя на нявызначаны тэрмін. Падставаў затрыманьня міліцыя не паведамляе.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Хачу выказаць сваё задавальненьне тым, што ў гэтых выбарах перамог мой прэзыдэнт. І хочацца сказаць гэтым дваццаці тысячам, ці нават ста тысячам, якія прыйшлі на мітынг, што ўсё ж перамог наш прэзыдэнт, і ім трэба з гэтым лічыцца.*





аўторак, 21 сакавіка 2006, 3:57

## ЗАТРЫМАНЫЯ АНАТОЛЬ ЛЯБЕДЗЬКА Й АЛЯКСАНДАР ДАБРАВОЛЬСКІ

***Паведамляе Валер Каліноўскі:***

Міліцыя затрымала А.Лябедзьку й А.Дабравольскага. Яны разам з Валянцінай Палевіковай і Людмілай Гразновай у 2 гадзіны пайшлі папіць гарбаты ў бок ГУМу.

В.Палевікова паведаміла, што дарогай назад міліцыянты схапілі Лябедзьку й Дабравольскага. Іх укінулі ў аўтобус і павезьлі ў пастарунак. В.Палевікову й Л.Гразнову не чапалі, але забаранілі ім прайсьці на Кастрычніцкую плошчу.

Плошча фактычна блякаваная. Новыя людзі сюды трапіць ня могуць, бо міліцыя перакрыла ўсе навакольныя вуліцы.

Непаўналетнія актывісты руху «Зубар» Аляксандар Маўчанаў, Аляксандар Карапыш і дзяўчына Наста былі затрыманыя міліцыяй на падыходах да Кастрычніцкай плошчы, калі пайшлі па ежу.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*АНАСТАС СЕМЯНОВІЧ: Вынік выбараў быў даўно вядомы. Тое, што нашыя дарагія й любімыя хлопцы, Алесь Мілінкевіч і Аляксандар Казулін, пабудзілі наш народ — гэта вельмі вялікая перамога. Цяпер вам трэба працягнуць сваю працу. Праўда, лукашысты будуць рабіць усё, каб вас ізаляваць, але, я думаю, што Эўропа й Амэрыка не дазволяць гэтага. Надышоў час — трэба стварыць урад, які будзе вырашаць усе пытаньні. Усіх здраднікаў на чале зь Ярмошынай трэба зафіксаваць, каб потым судзіць. На ўчорашнім мітынгу нас было ня менш за 50 тысяч чалавек, а ня 30, як паведамілі.*

аўторак, 21 сакавіка 2006, 5:09

## ЗАТРЫМАНЫ АЛЯКСЕЙ ЯНУКЕВІЧ

***Паведамляе Валер Каліноўскі:***

Аляксей Янукевіч, давераная асоба А.Мілінкевіча, быў затрыманы міліцыяй, калі адышоў ад намётавага лягеру. Аляксей пайшоў пагрэцца й папіць кавы ў кавярню Дому афіцэраў, дзе яго й затрымалі.

Міліцыянты стаяць на падыходах да плошчы й затрымліваюць усіх патэнцыйных удзельнікаў акцыі.

з в а н к і   н а   «С в а б о д у»

*КАНАНОВІЧ, Менск: Вось мы й атрымалі вынікі галасаваньня, якія былі вядомыя з пачатку выбарчай кампаніі. Колькі ж можна памыляцца адным і тым жа спосабам? Заклікалі на незаконны рэфэрэндум, і тых, хто быў «супраць», залічылі ў падтрымку рэфэрэндуму. З самага пачатку выбарчай кампаніі кіраўніцтва КХП БНФ зьвярталася да штабоў спадароў Мілінкевіча й Казуліна, каб разам праводзіць варыянт народнага галасаваньня, але яны адмовіліся ў ім удзельнічаць. А калі б яны заклікалі сваіх прыхільнікаў прагаласаваць сваім бюлетэнем ці зусім нічога не апускаць у скрыню, а забраць свой бюлетэнь, то на плошчу выйшла б ня 7—10 тысяч, а ў дзясяткі разоў больш! Бо людзі б хацелі аддаць бюлетэні тым, за каго галасавалі. І тыя ж Мілінкевіч і Казулін мелі б на руках доказ, колькі за іх прагаласавала. А заяваў Мілінкевіча й Казуліна пра пералік галасоў, пра перавыбары ніхто не пачуе й ніхто на іх не зрэагуе. Зноў народ падмануты з усіх бакоў. А шкада, народ так верыў прадстаўнікам апазыцыі.*





аўторак, 21 сакавіка 2006, 6:17

## ЯК ПЛОШЧА РЫХТАВАЛАСЯ ДА ПЕРШАЙ НОЧЫ

***Паведамляе Любоў Лунёва:***

На Кастрычніцкай плошчы а 9-й вечара зьявіліся першыя намёты. Людзі пачалі прывозіць цёплыя рэчы, тэрмасы з кавай і гарбатай. Арганізатары заклікалі ўдзельнікаў акцыі не ўжываць алькаголю. Грамадзяне Ўкраіны, якія прысутнічалі на плошчы, былі ўражаныя рашэньнем людзей заставацца, нягледзячы на кепскае надвор’е — вільготнасьць і мароз. Украінцы згадвалі, што ў Кіеве на Майдане Незалежнасьці людзі мелі магчымасьць саграванца ў будынках вакол плошчы і ў мэтро.

А.Мілінкевіч паведаміў Радыё Свабода, што застанецца зь людзьмі столькі, колькі спатрэбіцца.

МІЛІНКЕВІЧ: Людзі самі мяне папрасілі. Ня я прыдумаў гэта. Да мяне зьвяртаюцца студэнты, моладзь. Кажуць: «Мы хочам стаяць. Вы нас толькі не падвядзіце, калі гэта абвесьціце». А я кажу, што калі вы будзеце стаяць, то й я буду стаяць. Гэта мой абавязак. Трэба пратэставаць, гэтая форма нармальная. Канечне, цяжка, таму што не было падрыхтоўкі, няма намётаў, няма спальнікаў. Трэба яшчэ думаць, як наладзіць харчаваньне.

Паколькі ўнівэрсам «Цэнтральны» працуе да 22 гадзінаў, людзі кінуліся ў краму па харчы. Каўбасы набывалі не-

з в а н к і   н а   «С в а б о д у»

*АЛЕСЬ: Учора ўвечары зьвярнуў увагу на тое, што ў бюлетэнях няма подпісаў чальцоў выбарчых камісіяў, нават у тэлевізіі, калі паказвалі выбары Лукашэнкі, на ягоным аркушы не было подпісаў. Якія ж бюлетэні лічылі, я ня ведаю.*

калькі кіляграмаў кожны. Людзі пыталіся адзін у аднаго: «Вы на плошчу? Давайце разам складзем усё ў мяхі, каб было зручней несьці». Прадавачкі, аглядаючыся, рэзалі каўбасу. Яны тлумачылі, што іх можа пакараць начальства. Калі зачынілі ўваход у гандлёвую залю, людзі ў кафэтэрыі літаральна за некалькі хвілінаў раскупілі ўсе бутэрброды й крэмаўкі. Прадаўцы добразычліва дапамагалі складаць усё ў пакеты й жадалі посьпеху.

ІРЫНА: Ва ўнівэрсаме «Цэнтральны» гандляркі засвоілі новую прафэсію — рэзчыцы каўбасы, прычым цэлымі палкамі. Такім чынам народ вырашыў падтрымаць тых, хто будзе ўсю ноч стаяць на плошчы, каб абараніць нашу свабоду.

Людзі ад'яжджалі дахаты, каб пераапрануцца й вярнуцца на плошчу.

МІХАІЛ: Ваўкоў баяцца, у лесе грыбы не зьбіраць. Адбаяліся ўжо, хопіць. Страху няма, таму мы цяпер пойдзем дамоў, уцяплімся й прыйдзем сюды зноў.

Хлопцы цягнулі спартовыя дыванкі.

ЯЎГЕН: Вось, прынесьлі такія дыванкі адмысловыя, каб людзі маглі легчы ці сесьці, нават паспаць. Каб ім было цёпла. У мяне яны былі дома. На жаль, спальнікаў дома не знайшоў.

Некаторыя наракалі на спантаннасьць, на недахват агульнага кіраўніцтва.

За некалькі хвілінаў да поўначы супрацоўнікі міліцыі ў цывільным затрымалі некалькіх чалавек, якія несьлі намёты, коўдры й харчы. У гадзіну ночы настрой у людзей быў бадзёры. Байцы спэцназу ў цывільным хадзілі сярод прысутных і размаўлялі між сабой праз рацыі. Гуртамі міліцыянты стаялі ля ўваходу ў мэтро, каб сагрэцца. Усе падыходы да плошчы ўжо былі перакрытыя.





аўторак, 21 сакавіка 2006, 6:31

## С.ДУБАВЕЦ І В.АКУДОВІЧ ПРЫЙШЛІ НА ПЛОШЧУ ПАДТРЫМАЦЬ ПАКАЛЕНЬНЕ СВАІХ ДЗЯЦЕЙ

***Аляксандар Уліцёнак, Менск***

Большасьць тых, што засталіся на ноч каля намётаў — маладыя людзі. Аднак можна сустрэць і добра вядомых слухачам нашага радыё асобаў. Так, разам з дачкой прыйшоў сюды Сяргей Дубавец.

ДУБАВЕЦ: Мяне вельмі моцна ўражвае тое, што тут сабралася моладзь. Фактычна тыя, хто па ўзросьце мае дзеці. І я лішні раз усьведамляю, што тая праблема, дзеля якой яны сюды прыйшлі, гэта праблема майго пакаленьня, а ня іхнага! Проста чамусьці маё пакаленьне не знайшло ў сабе столькі салідарнасьці, сілы духу, каб стаяць перад абсалютнай пустатой, перад абсалютнай безвыніковасьцю і ўсё ж такі патрабаваць для сябе іншай краіны й іншага жыцьця. Мы сапраўды страшна-страшна малыя, мы адкульсьці вырастаем, і ўсё, на чым мы стаім, гэта на сваёй веры, на сіле духу, а не на якіх там грантах, фінансаваньні Захаду, Амэрыкі й гэтак далей.

звані на «Свабоду»

*СПАДАРЫНЯ: Хачу нагадаць Лукашэнку пра яго першыя выбары. Яму ніхто не перашкаджаў, ніхто не зьбіваў... Не было тады кішэннага парлямэнту. Мілінкевіч робіць прамашку, таму што ён мяркуе ўступіць у Эўразьвяз. Гляньце, што робіцца ў Эўразьвязе, што робіцца ў Францыі, у той самай Нямеччыне, Польшчы! Я галасавала супраць усіх! Дзе пункт «супраць усіх»? Хто сказаў, колькі па гэтым пункце прагаласавала?*

Філёзаф Валянцін Акудовіч ня думаў, што прыйдзе на плошчу 20 сакавіка — кажа, што хацеў захаваць у душы ўзьнёслы настрой ад папярэдняга дня, калі тут сабраліся дзясяткі тысяч людзей. Аднак гэтым разам яго паклікала сям’я…

АКУДОВІЧ: Вось тут побач жанчына пытаецца: «Дзе мае дзеці?», дык і я ў гэткай самай сытуацыі. Жонка прыехала сюды з гарачай гарбатай у тэрмасах, з усім астатнім… І ў намётах цяпер яна, я, сын з дачкой — уся сям’я!

— Што за ўсім гэтым стаіць?

АКУДОВІЧ: Разумееш, пакуль усе залішне сьпяшаюцца абагульняць. А гэта трэба рабіць пасьля таго, як пабачым разгорнутасьць учорашніх 10 ці 30 тысяч… Тады, пазьней, і скажам, ці сапраўды з гэтымі намётамі зьявіцца іншае пакаленьне, іншая генэрацыя, зь іншым разуменьнем змаганьня. Але яны зьявіліся, і гэта пакуль самае каштоўнае.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР, Мар’іна Горка: Выбары ў нас праводзяць мясцовыя органы ўлады, органы кіраваньня, то бок яны праводзяцца райвыканкамам, яны галасуюць так, як яны хочуць.*

*СПАДАР: Скончыліся чарговыя прэзыдэнцкія выбары. Чарговую паразу пацярпела апазыцыя, чарговую перамогу атрымаў Лукашэнка. Адкінем усе гэтыя лічбы, 82%, 6%, але ж 50% і адзін голас Лукашэнка набраў адназначна. Чаму так атрымалася й чаму далей так будзе атрымоўвацца? Да таго часу, пакуль нашая апазыцыя будзе схіляцца перад Захадам, да таго часу, пакуль будуць прымаць заходнеэўрапейскія падачкі, чым больш будзе Захад выказвацца ў падтрымку беларускай апазыцыі, тым больш беларусы будуць на знак пратэсту галасаваць за Лукашэнку ці за каго-небудзь іншага!*





аўторак, 21 сакавіка 2006, 6:38

## З НАЧНЫХ ГУТАРАК НА ПЛОШЧЫ

**У намётах на Кастрычніцкай плошчы — ня толькі жыхары сталіцы, менскія студэнты. Наш карэспандэнт пагутарыў з тымі, хто прыехаў на плошчу зь іншых гарадоў Беларусі.**

***Аляксандар Уліцёнак, Менск***

МАЛАДЫ ЧАЛАВЕК: Завуць мяне Аляксей, прозьвішча Зельскі, працую інжынэрам на дзяржаўным прадпрыемстве. Прыехаў сюды адзін, таму што зьбіраліся групай, але хоць мы й не прадстаўляем ніякай арганізацыі, а проста моладзь, але нашага лідэра, Віталя Броўку, за тры дні да таго забралі й далі яму 7 сутак арышту. Спачатку тут былі толькі чатыры намёты. Іх забралі міліцыянты. Гэта было спантанна, намі ніхто не кіраваў. Проста ў пяці-сямі чалавек былі намёты, якія яны хавалі, а калі пачалі разгортваць, падышлі міліцыянты й адабралі. Але як толькі яны адышлі, зьявіліся яшчэ два намёты, і мы іх паставілі. Потым іх узялі ўжо ў кола, а астатнія прынесьлі жыхары Менску, што жывуць побач.

Каля Аляксея сядзяць хлопцы з Бабруйску, п’е гарбату Сьвятлана са Смаргоні.

СЬВЯТЛАНА: Я зь сябрамі.

— Вы вучыцеся?

СЬВЯТЛАНА: Не, ужо скончыла, я навучалася ва ўнівэрсытэце ў Менску. Але, на жаль, цяпер не працую па спэцыяльнасьці. Таму што няма магчымасьці — я не магу сябе рэалізаваць.

— Пасьля ўнівэрсытэту засталася ў сталіцы ці паехала дадому?

СЬВЯТЛАНА: Палова на палову — жыву на два дамы. Я прагаласавала дома, у Смаргоні, бо ў мяне там прапіска. І прыехала зь сябрам на машыне. З сабой намётаў ня бралі, але сябра сёньня зьезьдзіў дадому, і маці мне сабрала заплечнік.

— Яна не хвалюецца? Не перасьцерагала цябе, што — ой, там жа такім пагражалі!

СЬВЯТЛАНА: Не, яна проста бачыць, што я не магу тут жыць, яна адчувае, што я не магу сябе знайсьці... Таму яна толькі за тое, што адбываецца, што я тут...

На плошчы, у намётах хапае й замежнікаў, як некалі шмат беларусаў было на кіеўскім Майдане. Сярод гэтых людзей — талінец Сыльвэр Мэйкер.

МЭЙКЕР: Я з Таліну. З Эстоніі нас чалавек дзесяць... Мы тут, бо лічым, што выбары мусяць быць сумленныя, адкрытыя. Я быў год таму ў Кіеве. Я эстонец, тут не мая рэвалюцыя. Але я магу сказаць, што дэмакратыя, свабода — агульная справа. І маладыя людзі ня так ужо пужаюцца, яны могуць дабіцца справядлівасьці. Я так рады, што тут стаіць столькі людзей.

### званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Калі зыходзіць зь лічбаў Цэнтравыбаркаму, то колькасьць тых, хто прагаласаваў за Мілінкевіча, складае каля 180 тысяч чалавек. Паводле Ярмошынай было апрацавана спачатку 15, потым 20 працэнтаў выбарчых бюлетэняў. Гэта хлусьня, бо бюлетэні, як правіла, падлічваюцца праз паўтары-дзьве гадзіны на выбарчых участках і зьвесткі перадаюцца ў Цэнтравыбаркам. Чаму яны баяцца празрыстых скрыняў і незалежных назіральнікаў за працэсам галасаваньня й падлікам галасоў? Купка людзей бяз гонару й сумленьня за грошы, адабраныя ў народу, робяць сапраўдны генацыд беларускага народу.*





аўторак, 21 сакавіка 2006, 6:42

## ЦІ БАЯЦЦА ЎДЗЕЛЬНІКІ АКЦЫІ РЭПРЭСІЯЎ НА ПРАЦЫ АБО Ў ВНУ?

***Юлія Шарова, Менск***

Ці не пагражалі вам рэпрэсіямі вашыя працадаўцы альбо кіраўнікі вашых навучальных установаў за ўдзел у акцыях пратэсту, якія ладзіць апазыцыя на Кастрычніцкай плошчы? Ці баіцеся вы такіх рэпрэсіяў? Вось што адказваюць удзельнікі мітынгу.

ДЗЯЎЧЫНА: Сёньня сюды, у намётавы лягер на плошчы, прыйшоў чалавек, ён кіраўнік фірмы, і сказаў, што ўчора яму патэлефанавалі й сказалі: прабачце, але вы — дырэктар такой і такой фірмы, і калі вашыя супрацоўнікі выйдуць на плошчу й мы іх затрымаем, то болей гэтай фірмы ня будзе. Ён не зьвярнуў на гэта ўвагі, ён гэтага нікому з супрацоўнікаў не казаў. Учора я была тут, і тут былі двое супрацоўнікаў ягонай фірмы.

ХЛОПЕЦ: Мы ведаем, хто каго запалохвае, але мы працуем на прыватнікаў, таму ў нас там даволі дэмакратычна. Нашая праца зьвязаная з заходнімі працадаўцамі, таму на нас прэсінгу няма.

ІНШЫ ХЛОПЕЦ: Пэдунівэрсытэт — гэта самы такі пралукашэнкаўскі ўнівэрсытэт. Калі ты не ў БРСМ... Калі за налепку ці яшчэ за што зловяць, дык гэта азначае ня толькі адміністрацыйнае пакараньне, а яшчэ й аўтаматычнае выключэньне. Звычайна так адбываецца ў пэдунівэрсытэце, у замежных моваў, а яшчэ ў БНТУ. Больш-менш лібэральны — РТІ.

МАЛАДЫ ЧАЛАВЕК: Мае працадаўцы былі сёньня тут.

ДЗЯЎЧЫНА: Мае начальнікі таксама былі сёньня тут, на гэтай плошчы.

## 6:00

## РАНІЦУ 21 САКАВІКА НА ПЛОШЧЫ СУСТРЭЛІ КАЛЯ 500 ЧАЛАВЕК

***Паведамляе Валер Каліноўскі:***

Паступова далучаюцца новыя людзі. Каля трыццаці чалавек сустрэлі раніцу ў пастарунках: тыя, хто ноччу адыходзілі ў кавярню ці ў прыбіральню, рызыкавалі быць затрыманымі. Міліцыя арыштавала й Звон Свабоды — ён цяпер знаходзіцца ў Цэнтральным РУУС Менску. А 6-й гадзіне аднавіўся мітынг на Кастрычніцкай плошчы, які пачаўся з гімну «Магутны Божа».

Літаральна пару хвілінаў таму А.Мілінкевіч зьвярнуўся да тых пяцісот маладых людзей, якія прастаялі ўсю ноч на плошчы, дзе разьбіты намётавы лягер — у ім ужо 18 намётаў.

Гэтую ноч правёў на плошчы й А.Казулін.

Маладыя людзі ўвесь час крычаць: «Застаемся! Будзь разам з намі!»

А.Мілінкевіч зьвярнуўся да прысутных, падзякаваў ім — тым, хто прастаяў усю ноч і пачаў новую гісторыю Беларусі. А.Мілінкевіч заклікаў іх пратрымацца яшчэ дзень і яшчэ адну вялікую масавую акцыю распачаць у 18:30 зноў на Кастрычніцкай плошчы.

Выступіў і А.Казулін, які сказаў, што, напэўна, гэтую ноч ня спаў разам зь мітынгоўцамі й Аляксандар Лукашэнка.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР, Салігорск: Размаўляў са знаёмым міліцыянтам, які казаў, што агітавалі галасаваць за Лукашэнку, але людзі галасавалі супраць усіх, за Мілінкевіча баяліся.*





## 7:00

## НА ПЛОШЧЫ ПРАХОДЗІЦЬ ІМПРАВІЗАВАНАЯ ДЫСКАТЭКА

***Паведамляе Альгерд Невяроўскі:***

Людзей у намётавым лягеры паменела, некаторыя студэнты паехалі на вучобу, але некалькі соцень маладых людзей стаяць вакол 18 намётаў.

А.Мілінкевіч і А.Казулін у гэты момант пакінулі плошчу, але зьявяцца тут крыху пазьней. Цяпер вакол маладых людзей езьдзіць камунальная тэхніка, нібыта прыбіраецца плошча.

Дарэчы, міліцыя затрымлівала маладых людзей на падыходах, але непасрэдна да ўдзельнікаў не чаплялася. Камандзір палка міліцыі спэцпрызначэньня палкоўнік Юры Падабед паведаміў журналістам, што ёсьць загад не чапаць удзельнікаў гэтай акцыі.

## 7:30

## ПСЫХАЛЯГІЧНАЯ КАМУНАЛЬНАЯ АТАКА

***Паведамляе Валер Каліноўскі:***

Намётавы лягер з 18 намётаў, у якім мы цяпер знаходзімся, вытрымаў дзесяць хвілінаў таму своеасаблівую псыхалягічную камунальную атаку — трактары, якія прыбіраюць плошчу, пад'яжджалі шчыльна да лягеру й ледзь не закраналі людзей, але нікога не зачапілі. Такім чынам, гэтая атака, так бы мовіць, была адбітая. Пакрыху падыходзяць і новыя людзі, нягледзячы на тое, што выхад з мэтро ў раёне плошчы зачынены.

Паводле папярэдняй інфармацыі, затрыманыя ўначы А.Лябедзька, А.Янукевіч, А.Дабравольскі знаходзяцца на Акрэсьціна, іх будуць судзіць.

аўторак, 21 сакавіка 2006, 7:45

## А.МІЛІНКЕВІЧ: ТРЭБА РАБІЦЬ НОВЫЯ ВЫБАРЫ

***Вольга Караткевіч, Прага***

У жывым этэры Аляксандар Мілінкевіч адказвае на пытаньні нашага радыё.

— Якія ўражаньні ад апошніх двух дзён?

МІЛІНКЕВІЧ: Супэр уражаньні, я не чакаў, што будзе штосьці такое ў Беларусі, што будзе столькі людзей на вуліцах. І ўначы людзі трымаюцца, яны змаглі прастаяць гэтую ноч.

— Якія далейшыя захады? Наколькі рэальна дамагчыся пераліку галасоў?

МІЛІНКЕВІЧ: Не, я лічу, што трэба рабіць новыя выбары. І мы ўжо сказалі, што гэта павінна быць не пазьней, чым у ліпені.

— Як пракамэнтуеце тое, што Расея прызнала вынікі выбараў?

МІЛІНКЕВІЧ: Шкада, што Расея не разумее, што будучыня Беларусі ў тым, што яна павінна быць з намі.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Скончыліся галасаваньне й выбары. Мы галасуем, а Лукашэнка выбірае. Гэтага й трэба было чакаць. Нават Ганчарык, Пазьняк, Шушкевіч набіралі 15—20 адсоткаў галасоў. А цяпер усе галасуюць за Лукашэнку. Гэта абсурд! Няўжо людзям падабаецца гэтая кантрактная сыстэма, гэтае рабства, разьмеркаваньне студэнтаў у Чарнобыльскую зону? Як кажуць: фабрыкуй, фальсыфікуй, але сумленьне май! Яны ўжо ня маюць ні сумленьня, ніякага здаровага розуму!*





аўторак, 21 сакавіка 2006, 8:33

## А.КАЗУЛІН: ЛЮДЗІ НА ПЛОШЧЫ — ГЕРОІ НОВАГА ЧАСУ

***Вольга Караткевіч, Прага***

Аляксандар Казулін даў Радыё Свабода інтэрвію з Кастрычніцкай плошчы.

— Што прымушае Вас уначы быць на плошчы?

КАЗУЛІН: Ёсьць такі панятак, як сумленьне беларускага народу. Гэтае сумленьне ня толькі прывяло сюды 6 ці 7 тысяч чалавек, але й на працягу ўсёй ночы недзе паўтары тысячы чалавек стаялі побач адзін з адным. І самы галоўны лёзунг быў — «Калі мы адзіныя, мы — непераможныя. За свабодную Беларусь!». Трэба сказаць, што нават тыя злыя дзядзькі, якія называюцца супрацоўнікамі СОБРу, якія мелі ня самыя лепшыя намеры, вымушаныя былі зьмірыцца з гэтым магутным сапраўдным уздымам, які адбыўся ў гэтую ноч.

— Адразу пасьля выбараў Вы казалі, што выступаеце за пералік галасоў. Толькі што Мілінкевіч сказаў, што ён выступае за новыя выбары. Ці ўзгодненыя вашыя пазыцыі?

КАЗУЛІН: Ведаеце, мы заўжды кіруемся лёгікай. Спачатку мы патрабавалі пераліку галасоў, але ўлада на пералік ніколі ня пойдзе. Натуральна, што мы цяпер патрабуем новых выбараў. Мы заявілі, што мінулыя падзеі адпавя-

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Чаму вы абражаеце дзясяткі тысяч членаў выбарчых камісіяў, паведамляючы, што быццам бы падлікі няверныя й быццам бы Мілінкевіч мае іншую лічбу? Былі назіральнікі — вы іх абражаеце! Як так можна рабіць?*

даюць азначэньню «антыканстытуцыйны пераварот», і мы патрабуем вяртаньня Беларусі ў прававое, канстытуцыйнае поле — правесьці выбары ў адпаведнасьці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь 16 ліпеня 2006 году. Гэтае патрабаваньне ўжо цяпер падтрымалі й Дзяржаўдэпартамэнт ЗША, і Эўразьвяз. Таму мы ўпэўненыя, што эўрапейская й міжнародная салідарнасьць дапаможа нам дамагчыся нашых патрабаваньняў.

— Як Вы ставіцеся да прапановы З.Пазьняка стварыць кансультацыйны ўрад зь іншымі лідэрамі апазыцыі?

КАЗУЛІН: Я думаю, што наагул гэта нармалёва, бо, натуральна, павінен быць пераходны ўрад, які зможа спакойна гарантаваць пераемнасьць улады й перадачу яе мірным шляхам.

— Што Вы адкажаце тым, хто сьцьвярджае, што апазыцыя прайграла выбары?

КАЗУЛІН: Тыя лічбы, якія назваў Лукашэнка, сьведчаць, што ў нас у краіне прайшлі ня выбары, а выбары прэзыдэнта Лукашэнкі. Сёньня ўсім відавочна, што ён так і ня змог узьняцца да прэзыдэнцкага ўзроўню мысьленьня. Ён па-ранейшаму дэманструе, што ён як быў дырэктарам савецкага саўгасу, так ім і застаўся. Зірнеце на лічбы, якія агучаныя: 93% яўкі, як у «найлепшы» савецкі час. 83% падтрымкі. Нават у тых, хто меў сумневы наконт таго, што выбары могуць быць сфальсыфікаваныя, пасьля агучваньня гэтых лічбаў апошнія сумневы зьніклі. Апазыцыю крытыкуюць, але калі ёй даюць 2%, 3%, 5%, дык відавочна,

званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Нам патрэбная не рэвалюцыя розумаў, як сказаў Казулін, а нам патрэбная рэвалюцыя рэальнасьці! Як яны гэтага ня могуць зразумець? У розумах ня трэба, каб праходзіла нейкая рэвалюцыя. Мы даўно, з 1994 году, галасуем за апазыцыю. І які вынік?*





што апрача гамэрычнага рогату гэта нічога ня выкліча. Таму калі мы кажам пра падлік галасоў... Я прасіў назіральнікаў, каб яны пры ўскрываньні скрыняў абавязкова прысутнічалі й падлічылі там бюлетэні, аднак ніводнага назіральніка не дапусьцілі да ўскрываньня скрыняў. Іх не дапусьцілі да сталоў бліжэй за дваццаць мэтраў. Таму казаць пра тое, што нехта лічыў галасы, не выпадае. Лукашэнка вельмі граматна скарыстаў вядомы выраз Сталіна: ня важна, як галасуюць, а важна, як лічаць.

— Ці захаваецца штаб А.Казуліна як кандыдата?

КАЗУЛІН: Канечне. У нас працуюць сёньня дзьве раўназначныя сілы. Ужо прызнана, што ў Беларусі існуюць два нацыянальныя лідэры, Казулін і Мілінкевіч, і мы вядзем разам працу, каб зьмяніць сытуацыю ў Беларусі.

— Вас абралі віцэ-прэзыдэнтам Эўразійскай асацыяцыі ўнівэрсытэтаў. Дзе знаходзіцца Ваша працоўнае месца й ці зьбіраецеся Вы прыступаць да гэтай працы?

КАЗУЛІН: Рэч у тым, што я быў абраны на зьезьдзе, але знаходзіўся на грамадзкай пасадзе. Калі ўбачылі, што мне ў Беларусі як прафэсіяналу няма месца, то мяне залічылі як намесьніка старшыні выканкаму гэтай сур'ёзнай арганізацыі. У ёй каля ста пяцідзесяці ўнівэрсытэтаў з постсавецкай прасторы. Гэтая праца не вымагае сталай прысутнасьці ў Маскве, тут патрэбнае ўзаемадзеяньне на постсавецкай прасторы. Мы паказваем, што калі прафэсіяналы не патрэбныя ў Беларусі, то прафэсіяналы патрэбныя і ў Расеі, і ў Эўропе.

— Што Вы бачыце ў людзях і якія Вашыя ўражаньні ад настрояў?

КАЗУЛІН: Я магу сказаць, што тыя, хто выйшаў на плошчу, — гэта героі новага часу. Гэта тыя героі, у якіх гарачыя сэрцы, чыстыя душы й сьветлыя намеры. Яны змагаюцца за сваю свабоду, за будучыню Беларусі.

аўторак, 21 сакавіка 2006, 9:21

## А.МАЗУР: НАСТРОЙ ВЫДАТНЫ, НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА СТОМЛЕНАСЬЦЬ

***Вольга Караткевіч, Прага***

У ранішнім этэры «Свабодзе» даў інтэрвію Алесь Мазур — камэндант намётавага лягеру.

— Алесь, распавядзіце, чаму Вы бераце ўдзел у гэтай акцыі?

МАЗУР: Уласна, ня толькі я бяру ўдзел у акцыі — уначы было каля тысячы людзей, цяпер — некалькі соцень чалавек. Мы тут таму, што вынікі выбараў, якія агучыў Цэнтравыбаркам, — гэта хлусьня. Мы патрабуем другога туру выбараў, як і ўсе людзі, што сюды прыйшлі.

— Які настрой жыхароў лягеру, ці доўга вы зьбіраецеся там быць?

МАЗУР: За ноч людзі стаміліся, будзем чакаць, пакуль пад'едуць людзі на зьмену. Настрой выдатны, нягледзячы на стомленасьць, бо людзі зрабілі сапраўды мужны ўчынак, неверагодную справу для Беларусі — проста яшчэ ўвечары ня верылася, што такое магчыма.

— Якая вам патрэбная дапамога?

МАЗУР: Найперш трэба зьмяніць людзей. Каб тыя, хто цяпер можа, хто вольны, не ідзе на працу ці на вучобу, каб прыехалі. І самае важнае — каб прывезьлі гарачую гарбату, таму што людзі проста зьмерзьлі.

— Паведамлялася, што міліцыя ня мае прэтэнзіяў — проста папрасілі зрабіць цішэй музыку па 23-й гадзіне. Гэта так?

МАЗУР: Так, з 23-й да 6-й музыкі не было, і толькі пасьля 6-й гадзіны зноў працягваўся мітынг і канцэрт.





аўторак, 21 сакавіка 2006, 9:41

## «МЫ ХОЧАМ ЖЫЦЬ У ЭЎРАПЕЙСКАЙ БЕЛАРУСІ — І ЯНА БУДЗЕ ТАКОЙ»

**Удзельнікі мітынгу дзеляцца сваімі ўражаньнямі ад падзеяў.**

***Вольга Караткевіч, Прага***

Ірына Тоўсьцік, актывістка руху «Зубар», прастаяла на плошчы гэтую ноч.

— Чаму ты вырашыла быць гэтай ноччу на плошчы?

ТОЎСЬЦІК: Я вырашыла правесьці гэтую ноч з тымі людзьмі, якія ўжо адчулі, што яны на плошчы, што яны свабодныя людзі. Яны — пераможцы. І мы ўсе, хто рабіў гэта, ішоў да гэтага, мы верым у перамогу, і мы пераможам, мы ўжо перамаглі. Гэтая ноч паказала, што ў нас ёсьць людзі, якія хочуць жыць у незалежнай, дэмакратычнай, эўрапейскай Беларусі — і яна будзе такой, я веру.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Па тварах на Бангалоры й на Кастрычніцкай магу канстатаваць: рэвалюцыя ў Беларусі сапраўды адбылася. Што далей? Не здавацца! І згодны з Пазьняком, што трэба ствараць ценявы кабінэт, ценявую мытню, а потым пабачым, хто каго.*

*СПАДАР, Пухавіцкі раён: Уразілі вынікі. Вынікі галасаваньня, як вядома, куюць у раённых органах кіраваньня. Уся бяда ў тым, што падлік галасоў адбываецца бескантрольна. Цяперашнія выбары, як і рэфэрэндум дзеля зьмены Канстытуцыі, — гэта поўная фальсыфікацыя. Адсутнасьць зацікаўленых асобаў ад кандыдатаў прывяла да такіх вынікаў.*

Яшчэ адзін удзельнік мітынгу, які адстаяў ноч разам з усімі ў намётавым лягеры, Яраслаў Берніковіч з Глыбокага, дзеліцца ўражаньнямі.

БЕРНІКОВІЧ: Я хацеў бы падзякаваць усім, хто прыехаў з розных гарадоў Беларусі, хацеў бы падзякаваць менчукам, якія прыносяць сюды гарачую ежу, каву, цёплыя рэчы для жыхароў мястэчка.

— Як доўга Вы зьбіраецеся быць у Менску?

БЕРНІКОВІЧ: Асабіста я сёньня зьеду на суткі, бо ў мяне заўтра паседжаньне суду.

— За што Вас судзяць?

БЕРНІКОВІЧ: За агітацыю.

— А Вы былі ў штабе Казуліна ці Мілінкевіча?

БЕРНІКОВІЧ: Мілінкевіча.

— Які настрой у Глыбокім пасьля выбараў?

БЕРНІКОВІЧ: Усе ведалі, якія будуць выбары, і ведалі загадзя, які будзе вынік.

### з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Трэба мяняць Выбарчы кодэкс па падліку галасоў. Павінны прысутнічаць прадстаўнікі ўсіх прэтэндэнтаў у прэзыдэнты. Яны павінны мець права праверкі бюлетэняў, падлік якіх вёў прадстаўнік другой групоўкі. Выбары павінны праходзіць толькі адзін дзень і толькі на выбарчых участках! Скрыні не павінны пакідаць выбарчага ўчастку. Гэта ня дасьць хоць якога-небудзь сумневу ў падліку галасоў, а 1—2 адсоткі галасоў інвалідаў ня змогуць зрабіць уплыву на ўсе выбары. А так 40 адсоткаў прагаласавалі папярэдне, за сем дзён! А ўсіх вінаватых на гэтых выбарах пакарае суд гісторыі й Міжнародны суд у Гаазе, як над Мілошавічам!*



# д з е н ь т р э ц і

аўторак, 21 сакавіка 2006, 12:02

## НА ПЛОШЧЫ АДБЫЛАСЯ ІМША — АСЬВЯЦІЛІ НАМЁТЫ

***Паведамляе Ігар Карней:***

У гэты час на Кастрычніцкай плошчы знаходзяцца прыблізна тры сотні чалавек. Яны стаяць, як і раней, ушчыльную, адзін каля аднаго, узяўшыся за рукі — стварыўся такі ланцуг, каб, у выпадку чаго, туды не прайшлі супрацоўнікі міліцыі.

Напачатку 11-й гадзіны на плошчы адбылася імша — былі асьвечаныя намёты. Пакуль абстаноўка больш-менш спакойная, прыходзіць шмат людзей, яны прыносяць харчы, гарачыя напоі. Атмасфэра вельмі дружалюбная, усе згодныя, што трэба стаяць да канца, да перамогі. Увесь час гучаць заклікі актывістаў супраціву не разыходзіцца, і ўсе спадзяюцца, што ўвечары людзей будзе вельмі шмат.

Чакаецца прыезд Аляксандра Мілінкевіча, які быў на Кастрычніцкай плошчы ўсю ноч, але зьехаў раніцай. Цяпер на плошчы знаходзяцца іншыя вядомыя палітыкі: намесьнік старшыні БНФ Віктар Івашкевіч, намесьнік старшыні Аб’яднанай грамадзянскай партыі Сяргей Альфер, Вячаслаў Сіўчык.

Толькі што выступіла прадстаўніца дэмакратычных колаў Азэрбайджану. Лунаюць бел-чырвона-белыя сьцягі, сьцягі Эўразьвязу, палотнішчы з Божай Маці — гістарычным гербам гораду Менску. Абвясьцілі, што каля сотні польскіх студэнтаў спрабавалі прыехаць у Беларусь, на Кастрычніцкі пляц, але ім было адмоўлена ў візах. Чакаецца прыезд актывістаў з Гомелю, Магілёва, Горадні. Украінскія прадстаўнікі паведамілі, што з Украіны да іх едуць дадатковыя сілы.





аўторак, 21 сакавіка 2006, 15:59

## НА ПЛОШЧЫ ВЫСТУПІЎ А.МІЛІНКЕВІЧ

***Паведамляе Ігар Карней:***

Каля 15-й гадзіны на Кастрычніцкую плошчу прыехаў і выступіў Аляксандар Мілінкевіч. Ён наведаў кожны намёт, пагаварыў з жыхарамі імправізаванага намётавага лягеру. Тым часам на плошчы паболела людзей, зьявілася яшчэ некалькі новых намётаў. Мілінкевіч сказаў удзельнікам акцыі: «Калі вы прынялі рашэньне тут застацца, то я буду да канца салідарны з вамі». Мілінкевіч таксама заклікаў усіх прыйсьці на плошчу сёньня ў 18:30.

З улікам таго, што многія крыніцы інфармацыі блякаваныя, на плошчы рэгулярна зачытваюць выдрукаваныя з інтэрнэт-сайтаў навіны.

з в а н к і на «С в а б о д у»

*СПАДАР: Той гвалт, фарс, фальсыфікацыя, што адбыліся ў Беларусі 19 сакавіка, былі б немагчымыя бязь яўнай падтрымкі Лукашэнкі імпэрыялістычнымі коламі ў кіраўніцтве Расеі. Галоўная мэта расейскіх ястрабаў — зноў загнаць Беларусь у склад Расеі й як мага хутчэй прызначыць рэфэрэндум па прыняцьці канстытуцыйнага акту аб уступленьні Беларусі ў склад Расеі ў якасьці паўночна-заходняга краю. Аб гэтым ужо адкрыта казалі так званыя назіральнікі ад Расеі на сустрэчы зь беларускім тэлебачаньнем. І гэты рэфэрэндум таксама будзе сфальсыфікаваны. Беларусь зьнікне з мапы зямлі як сувэрэнная дзяржава. Як узнагароду Лукашэнка атрымае дазвол быць вечным губэрнатарам паўночна-заходняга краю аж да самай сьмерці.*

аўторак, 21 сакавіка 2006, 16:36

## НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ЗАХАДЫ МІЛІЦЫІ, МНОГІМ УДАЕЦЦА ПРАЙСЬЦІ НА ПЛОШЧУ

***Паведамляе Галіна Абакунчык:***

Цягам дня падтрымаць удзельнікаў акцыі прыходзілі людзі рознага веку. Многія прыносілі ежу, гарбату й цёплыя рэчы. Усе падыходы й пад'езды да плошчы кантралявалі супрацоўнікі міліцыі. Яны правяралі сумкі ўсіх мінакоў, што кіраваліся да намётавага лягеру. Некаторых спрабавалі затрымаць.

СПАДАР: Старшына Барай запатрабаваў мае дакумэнты й спрабаваў праверыць, што ў мяне ў заплечніку. Я нясу туды ежу. Я ня мог быць там ноччу, і таму вырашыў падтрымаць людзей гэткім чынам.

— Што Вы думаеце пра тое, што цяпер адбываецца на плошчы?

СПАДАРЫНЯ: Я не разумею, навошта напружваць спакойную абстаноўку ў нашым горадзе.

— Як Вы ставіцеся да людзкіх пратэстаў?

ІНШАЯ СПАДАРЫНЯ: Правільна робяць.

СПАДАР: У мяне няма ніякай інфармацыі, бо цяпер жа забаранілі й «Народную Волю», і «БДГ», і іншыя газэты. Дык я думаю, паеду адмыслова сюды, каб пабачыць, што тут адбываецца. Я думаю, што ўсё правільна яны праводзяць. Але мала людзей.

— А самі Вы гатовы падтрымаць гэтую акцыю?

СПАДАР: Гатовы. Чаму ж не? Усе добрыя людзі гатовыя.

— Вы тут былі ўсю ноч? Ня страшна стаяць?

ЮНАЧКА: Стаяць ня страшна, страшна жыць, як мы цяпер жывем.





ІНШАЯ ЮНАЧКА: Настрой вельмі добры, і я спадзяюся, калі мы будзем разам, то пераможам. Таму што Бог — ён рэальна на нашым баку.

— Наколькі я зразумела, Вы нейкія рэчы прынесьлі?

СПАДАРЫНЯ: Так, я коўдру прынесла, зараз пойдзем у краму па прадукты.

ІНШАЯ СПАДАРЫНЯ: Ну, вось прыйшлі падтрымаць моладзь. Раніцай, як пачулі па «Свабодзе», што яны тут праз усю ноч былі, то гарбату, каву прынесьлі — усё, што змаглі.

— Чаму Вы гэта робіце?

СПАДАРЫНЯ: Я не хачу быць быдлам, якое зь мяне зрабіў наш прэзыдэнт, разумееце? Я сьвядомы чалавек, я ня раб, я не прыгонная, я не жывёліна, каб стаяць у хляве.

СПАДАР: Маё прозьвішча Кійко Рыгор. Я прыйшоў як вэтэран падтрымаць моладзь. Моладзь цяпер ня трэба пакідаць адну, і яны пераможуць. Жыве Беларусь!

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Як жа Лукашэнка любіць сваіх дзяцей! Як пачынае хлусіць, кажа: «Клянуся сваімі дзецьмі!». Затое нашых дзяцей судзіць за іншадумства.*

*СПАДАР: Шчыра дзякую й нізка ў ногі кланяюся ўсім барацьбітам з дыктатарскім рэжымам у Беларусі! Вітаю прадстаўнікоў Расеі: Мікіту Бялых, Уладзімера Рыжкова, прадстаўнікоў Украіны й Польшчы, якія дапамагаюць нам у гэтай цяжкай барацьбе. Захоплены гераізмам нашых лідэраў: Мілінкевіча, Казуліна, Сярэдзіча і ўсіх маладых людзей, якія дапамагаюць ім у гэтай высакароднай справе.*

аўторак, 21 сакавіка 2006, 17:21

## НА ПЛОШЧЫ СКЛАДАЮЦЬ СЬПІС ТЫХ, ХТО НЕ ВЯРНУЎСЯ ДАМОЎ

***Паведамляе Любоў Лунёва:***

Сёньня сябры й сваякі затрыманых на Кастрычніцкай плошчы езьдзяць па розных раённых судах Менску. Міліцыянты не даюць ім ніякай інфармацыі. У судах таксама няма зьвестак. Людзі дагэтуль шукаюць сваіх родных, якія былі на плошчы й не прыйшлі дадому. У зьвязку з гэтым на плошчы арганізатары заклікалі людзей складаць сьпісы тых, хто быў на акцыі й не вярнуўся дадому.

Сьведкі распавядаюць, што бачылі, як байцы спэцназу міліцыі позна ўначы зьбівалі некаторых затрыманых. Тых, у каго былі на твары відавочныя сьляды пабояў, выкідалі з аўтобусаў.

У гэты момант на падыходах да Кастрычніцкай плошчы шмат супрацоўнікаў міліцыі ў цывільным, і яны выбарачна затрымліваюць людзей, якія ідуць у бок лягеру, асабліва людзей, якія маюць вялікія сумкі й пакеты. Іх спыняюць і абшукваюць. Тыя, хто мае з сабой тэрмасы з кавай або гарбатай, трапляюць у міліцэйскія машыны.

з в а н к і н а « С в а б о д у »

*СПАДАРЫНЯ: Зьвяртаюся да тых, хто галасаваў за Лукашэнку. Вы не выбіралі, а згадзіліся на нізкія заробкі, мізэрныя пэнсіі; вы згадзіліся на высокія цэны за харчы й лекі; вы не выбіралі, а згадзіліся на жыцьцё бяз будучыні. Мне вельмі шкада вас.*

*СПАДАРЫНЯ, Ліда: Перад выбарамі ішла перадача «Выбар» з галасаваньнем. Але калі набіралі нумар за Мілінкевіча, амаль усім мэталічны голас адказваў: «Няправільна набраны нумар».*





аўторак, 21 сакавіка 2006, 17:40

## З.ПАЗЬНЯК: НАША БУДУЧЫНЯ ВЫРАСТАЕ ЦЯПЕР НА ЦЭНТРАЛЬНАЙ ПЛОШЧЫ МЕНСКУ

**Старшыня Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Зянон Пазьняк заявіў пра падтрымку ўдзельнікаў акцыі ў Менску:**

«Наша будучыня вырастае цяпер, на цэнтральнай плошчы Менску, дзе маладыя беларусы ахвяраваліся й стаяць за вольную Бацькаўшчыну, за справядлівасьць, за новыя выбары беларускага прэзыдэнта. Часам перамога вызначаецца ня колькасьцю, а вытрымкай, дакладнасьцю й арганізаванасьцю. Менавіта гэтак у 1991 годзе нам, дэпутатам Апазыцыі БНФ, якія складалі няпоўных 10% у Вярхоўным Савеце, але дзейнічалі рашуча, удалося, пры падтрымцы людзей на плошчы, спыніць дзейнасьць КПСС у Беларусі й вярнуць незалежнасьць Бацькаўшчыны...

Трэба, каб усе вольныя беларусы, у каго сэрца б'ецца за Бацькаўшчыну, хто сумленны, хто адчувае гонар, — каб сталі на абарону сваёй чалавечай годнасьці й на абарону Бацькаўшчыны. У Беларусі павінен быць беларускі прэзыдэнт, які будзе паважаць народ, гісторыю, культуру, ня будзе зьдзекавацца са Скарыны, з Васіля Быкава, з моладзі. Таму цяпер усе палітычныя разыходжаньні, якія былі, павінны быць адкладзеныя ўбок, і павінны мы ўсе ратаваць нашую Бацькаўшчыну — Беларусь».

з в а н к і н а « С в а б о д у »

*СПАДАР: Учора быў на Кастрычніцкай плошчы — было сапраўднае сьвята. Сёньня накіраваны ў камандзіроўку ў Берасьце, але душою я з усімі на плошчы!*

аўторак, 21 сакавіка 2006, 18:21

## ГАЛАСЫ ЛЮДЗЕЙ З ПЛОШЧЫ

***Ігар Карней, Менск***

Першыя ўражаньні ад перажытай ночы ўкладаюцца ў словы «халодная й нэрвовая». Бо шмат людзей з плошчы наўпрост былі дастаўленыя ў турму. Як жыў сёньня імправізаваны намётавы лягер?

— З маральнага ці фізычнага гледзішча, што самае складанае было гэтай ноччу?

ЮНАК: Самае цяжкае — прастаяць: папросту ногі баляць. І, шчыра кажучы, вельмі халодна было пад раніцу. Але людзі дапамагаюць — ежу прыносяць, гарачую гарбату й каву нясуць пастаянна. Цыгарэты даюць. Усе падтрымліваюць, усе. Толькі вялікія фізычныя нагрузкі на ногі — і ўсё. А больш нічога, усё астатняе ў парадку.

Як і прамінулую ноч, цягам усяго сёньняшняга дня на плошчы стаяла 300—500 чалавек. Стаяць ня толькі падлеткі, як сьцьвярджае афіцыйная прапаганда. Тацяна Гацура, маці трох малых дзетак, кажа, што выйшла сюды перадусім дзеля іх.

ГАЦУРА: Я павінна глядзець сваім дзецям у вочы не саромеючыся. Найперш мяне штурхае асьцярога, каб потым самой не было сорамна. Каб я сябе адчувала свабоднай і з разуменьнем, што ўсё дзеля гэтага зрабіла. Ня столькі хвалююць нейкія палітычныя лёзунгі, як папросту я раблю гэта дзеля дзяцей і сябе самой, дзеля маральнага камфорту.

Увесь дзень да намётавага лягеру ішлі людзі. Ня кожнаму ўдалося прабіцца, бо на падыходах пільныя міліцыянты аглядалі сумкі, і некалькі чалавек, уключна з рэдактарам газэты «Наша Ніва» Андрэем Дыньком, былі дастаўленыя ў аддзяленьні міліцыі. Аднак нават людзі сталага веку ігнаравалі гэткую небясьпеку. Як сказала адна жанчына, хопіць баяцца!

ЖАНЧЫНА: Запалоханы народ, пануе такая паўзучая рабская псыхалёгія. Бо пужаюць на кожным кроку. Паслухайце тэлебачаньне: цэлы дзень адна ўхвала. І так радасна, і так шчасьліва, нібыта, жыве народ. Іншых зьвестак няма ніякіх — мана, мана й яшчэ раз мана. Баяцца людзі, бо гвалтоўна зьмесяць, зганьбяць, зломяць косьці, у турму кінуць. Колькі было паведамленьняў — не ідзеце на плошчу, бо гвалт будзе! Пэўна, яны і ўтвораць гвалт, пачакаўшы, пакуль зьедуць усе госьці. І потым будзе гвалт. Як заўсёды.

А трэцяй дня намётавы лягер наведалі Аляксандар Мілінкевіч і ягоная жонка Іна Кулей. Яны абышлі ўсе намёты, паціснулі рукі ўсім жыхарам, з кожным пагаварылі. Людзі рэагавалі вельмі эмацыйна.

СПАДАР: Мы калі Дземянцея на Шушкевіча мянялі, я ў Смаргонь тэлефанаваў хлопцам, каб яны прыехалі, падтрымалі. Але растапталі нашы галасы — і ўсё.

МІЛІНКЕВІЧ: Яны й цяпер гэтак жа робяць. Робяць несумленна, подла, цынічна. Такая ўлада доўга не пратрымаецца.

СПАДАР: Думаю, калі гэтую ноч перажывем, то ўсё — будзе наша перамога. Думаю, што гэта здарыцца.

МІЛІНКЕВІЧ: Галоўнае, каб людзі моцна ня зьмерзьлі.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Бессаромныя! Свабода называецца! Гэта не свабода — гэта падман народу! Людзі ня ведаюць Бога, не чытаюць слова Божае, не разумеюць, у які час мы жывем! Усякая ўлада Богам пастаўлена, і супраціўляецца ўладзе той, хто ад сатаны!*

ЖАНЧЫНА: Увечары, ведаю, з працы людзі ўсё роўна будуць падцягвацца. Бо калі з раніцы на Бі-Бі-Сі пачалі паказваць, — карцінка як зьявілася, дык валасы дыбарам усталі. Бі-Бі-Сі, «Эўраньюс»... Зусім іншы настрой стаў.

МІЛІНКЕВІЧ: Так. Увесь сьвет на Беларусь зьвярнуў погляды. Нас падтрымліваюць, адусюль тэлефануюць, спачуваюць, гавораць: «Трымайцеся, мы з вамі». Але яны пакуль што толькі так могуць падтрымаць, маральна. Хоць і гэта таксама вельмі важна.

СПАДАР: Пераможам, бо іншага выйсьця ў нас не застаецца. Інакш Лукашэнка на калені нас паставіць зусім. Мы вас падтрымаем!

Над імправізаваным лягерам луналі ня толькі бел-чырвона-белыя й сіня-джынсавыя сьцягі. Свае нацыянальныя харугвы трымалі прыхільнікі дэмакратычных зьменаў з Украіны, Грузіі, Расеі, Польшчы, Літвы й Азэрбайджану.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Уладзімер Уладзімеравіч! Я сам рускі, як і Вы, але імпэрскіх замашак ня маю. Разваліўся Саюз — як кажуць, «поезд ушёл». У самой вялікай Расеі непачаты край працы, ёсьць дзе разьвярнуцца. Вось і наводзьце там парадак! А як нам жыць у Беларусі й з кім, дазвольце вырашаць самім.*

*СПАДАРЫНЯ: Вывозілі людзей у Сібір, колькі людзей вывезьлі! А цяпер людзі жывуць, машыны маюць, дамы будуюць, прадуктаў і хлеба хапае! Дык што вы хочаце — каб у нас рэвалюцыя, вайна была? Мы пражылі дзесяць гадоў, усе мы, простыя людзі, задаволеныя, а вось такія, хто бізнэсам займаецца, ім усё мала. Навошта вы чапаеце таго Лукашэнку? Сорамна! Прадажныя людзі! Пакуль не было гэтай свабоды, усе мірна, ціха жылі!*





## ОНЛАЙН-РЭПАРТАЖ З ПЛОШЧЫ

### 18:00

На плошчы цяпер стаяць ня менш як 2 тысячы чалавек. Людзі атачылі намётавы лягер. Па-ранейшаму людзей затрымліваюць на падыходах да плошчы. Гэтак нядаўна быў затрыманы дэпутат польскага Сэйму Яраслаў Ягела.

На плошчу прыйшоў А.Мілінкевіч. Чакаецца, што ў хуткім часе сюды прыедуць паслы эўрапейскіх дзяржаваў.

### 19:00

На плошчы зьявіліся паслы краінаў Эўразьвязу, яны пагаварылі з удзельнікамі мітынгу. Калі дыпляматы прыехалі на плошчу, тут раптоўна былі адключаныя чатыры ліхтары, якія асьвятляюць пляц. Сустрэча дыпляматаў з удзельнікамі мітынгу праходзіла ў прыцемках.

Цяпер на плошчы знаходзіцца прыблізна 5 тысяч чалавек.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Праз вашую перадачу хачу зьвярнуцца да спадара Лукашэнкі. Паважаны Аляксандар Рыгоравіч! Я закончыла, як і Вы, Магілёўскі пэдынстытут, але я аддала ўсё жыцьцё маладому пакаленьню. Калі слухала Вашую прэс-канфэрэнцыю 20 сакавіка, мне вельмі было сорамна за Вас і, паверце, шкада Вас. Як можа пэдагог так бестактоўна размаўляць з замежнымі прадстаўнікамі? Вы для іх не прэзыдэнт, Вы — твар Беларусі. Ня ганьбіце яго! Вы толькі тых слухаеце, хто падхалімнічае Вам. Як прымушалі галасаваць, усім вядома. Апамятайцеся! Захавайце твар пэдагога!*

**19:30**

У сярэдзіне намётавага лягеру выступае А.Мілінкевіч. Ён сказаў, што мінулай ноччу было затрымана 108 моладзевых актывістаў, якія бралі ўдзел у акцыі. Мілінкевіч сказаў: «Я заклікаю вас усіх — запрасіце сваіх сяброў і знаёмых, каб яны прыйшлі на плошчу 25 сакавіка й паказалі, што мы сіла й што мы пераможам!» 25 сакавіка — 88-я ўгодкі абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі.

Грамадзкі дзеяч Вацлаў Арэшка заявіў: «Гэтымі днямі ў Беларусі адбылася вялікая падзея. Лукашэнка пасьля выбараў прачнуўся ў іншай Беларусі, якая ня хоча жыць пад дыктатурай. Гэта — сапраўдная рэвалюцыя».

**21:30**

На плошчы ў гэты момант каля 5 тысяч чалавек, атмасфэра сьвяточная. Зьявіўся велізарны транспарант «Свабоду палітвязьням». Мілінкевіч часова пакінуў плошчу, каб цяплей апрануцца. Ён заявіў, што будзе тут усю ноч. А.Казулін у сваім выступе гаварыў, што мае дакладную інфармацыю, нібыта ноччу будзе разгон намётавага лягеру. Ён сказаў, што «трэба трымаць гэтую хвалю, каб яна ня

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Ня верыцца, што Мілінкевіч набраў усяго толькі 6% ад усіх галасоў. Таму для мяне асабіста на працягу пяці гадоў 19 сакавіка будзе жалобным днём, чорным днём календара. І яшчэ як мінімум пяць гадоў будзе насаджацца гэтая саўковасьць, і мы будзем жыць у тым балоце, у якім жылі. Людзі, якія галасавалі за Лукашэнку, ня думаюць пра тое, што яны запрыгоненыя гэтай кантрактнай формай найму.*





зьбілася, тады 25 сакавіка на плошчы будзе 100 тысяч чалавек».

Гучыць украінская й беларуская музыка. З другога канца плошчы ўлады ўключылі расейскую папсу. Наконт разгону амапаўцы сказалі нашаму карэспандэнту: «Пакуль каманды не было».

**22:30**

На плошчы каля 3 тысяч чалавек.

ДАІ пачала спыняць машыны, які сыгналамі вітаюць мітынгоўцаў.

Адбыўся такі інцыдэнт. На скрыжаваньне праспэкту й вуліцы Купалы пад'ехаў аўтобус, адтуль выскачылі амапаўцы, яны схапілі васьмёх маладых людзей, што ішлі на плошчу, і ад'ехалі.

**23:15**

На плошчы каля 2 тысяч чалавек, каля будынку адміністрацыі прэзыдэнта — 10 аўтобусаў СОБРу, кіраўнік гэтага злучэньня палкоўнік Паўлічэнка падыходзіў да плошчы й аглядаў мітынг.

А.Мілінкевіч зноў прыйшоў на плошчу й заявіў, што застаецца з тымі, хто будзе тут начаваць.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР, Менск: У мяне такая думка зьявілася, што хутка наш Лукашэнка прыдумае рэфэрэндум, каб увогуле выбараў у нас не існавала, таму што гэтыя выбары — гэта проста фарс.*

серада, 22 сакавіка 2006, 0:02

## ГАЛАСЫ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ АКЦЫІ

***Галіна Абакунчык, Менск***

Што гавораць удзельнікі акцыі на Кастрычніцкай плошчы, чаму яны прыйшлі сюды, чаго дабіваюцца?

СКАНДАВАНЬНЕ: Мілінкевіч! Мілінкевіч!

МІЛІНКЕВІЧ: Дарагія сябры! Я казаў і кажу: я застаюся з тымі, хто на плошчы!

Сьпяваюць беларускія рок-гурты.

— Што Вы скажаце пра тое, што тут адбываецца?

СПАДАР СТАЛАГА ВЕКУ: Вельмі добра. Я просты беларус і вельмі рады, што ў нас такое адбываецца. Жыве Беларусь!

ІНШЫ СПАДАР: Жыве Беларусь! Я вельмі рады й буду тут начаваць.

ЮНАК: Мы спадзяемся дамагчыся перамогі. Дарэшты будзем стаяць тут, каб адбіваць свабоду, праўду й справядлівасьць.

Сыгналяць аўтамабілі, якія едуць праспэктам.

звані на «Свабоду»

*СПАДАР: Хачу «падзякаваць» кіраўніцтву Расеі за прызнаньне «зноў выбранага» прэзыдэнта, за падтрымку рэжыму, які фальсыфікуе вынікі выбараў, прымушае пад націскам галасаваць датэрмінова студэнтаў, калгасьнікаў, рабочых на дзяржаўных прадпрыемствах; за дасланых на выбары назіральнікаў, якія ніколі не заўважаюць парушэньняў. Гэта ўсё называецца будаваньнем саюзнай дзяржавы на аснове хлусьні, гвалту й свавольства.*





Гурт людзей сьпявае:

> «У гушчарах, затканых імглою,
> Шэрым змрокам, на золку зару,
> Ахвяруем табе мы сабою
> Кожны дзень, кожны час, Беларусь».

— Маладыя людзі, вы хто, адкуль?

СПАДАР: Мы сумленныя беларусы, хто не баіцца выйсьці на вуліцу й сказаць «Не!» рэжыму. Бо мы людзі, а ня быдла, якое можна загнаць у стойла. Няхай ён гэта паслухае праз Радыё Свабода, я думаю, што ён уключае час ад часу, каб слова праўды пачуць.

ЮНАЧКА: «Свабода» — адзіны канал, які кажа праўду. Дзякуй, што вы яшчэ ёсьць.

СПАДАР: Я былы журналіст дзяржаўнага радыё, але я адтуль сышоў. Мне сорамна, што я там працаваў, што мусіў танчыць і гаўкаць пад лукашысцкую дудку. Але я сышоў, і дзякуй Богу!

Гурт людзей сьпявае:

> «Бо ня стане змагар, не скарыцца,
> У нядолі, ў няпраўдзе, нідзе».

звані на «Свабоду»

*БЫЛЫ ШАХТАР, Салігорск: Я вельмі задаволены і ўдзячны, што такія людзі, як Мілінкевіч, стаяць на плошчы й абараняюць нашу свабоду. Крыўдна, што я не магу там прысутнічаць. Народу Беларусі Бог дае яшчэ адзін шанец, ён пасылае яшчэ аднаго кіраўніка, такога, як быў у нас Машэраў.*

*СПАДАР, Гомель: Мы галасавалі за Мілінкевіча. Не разумеем, чаму казалі, што Гомель і Магілёўская вобласьць больш за ўсіх прагаласавалі за Лукашэнку. Гэта поўная хлусьня й няпраўда!*

серада, 22 сакавіка 2006, 0:09

## А.КАЗУЛІН ЗАКЛІКАЎ ПАКІНУЦЬ ПЛОШЧУ, ЖЫХАРЫ НАМЁТАВАГА ЛЯГЕРУ ЯГО НЕ ПАСЛУХАЛІ

***Альгерд Невяроўскі, Менск***

Падчас сёньняшняга вечаровага мітынгу, у якім удзельнічала ня менш за 6 тысяч чалавек, Аляксандар Казулін выступіў з прапановай.

КАЗУЛІН: Я ведаю, што ўлада рыхтуецца да таго, каб правесьці масавую зачыстку плошчы. Мы сёньня з вамі, напярэдадні сьвятога сьвята — Дня Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка, павінны добра да яго падрыхтавацца. І сёньня вызваліць плошчу.

На гэтыя словы намётавы лягер адказаў так: «Застаемся! Застаемся! Застаемся!»

Мікрафон узяла адна з жыхарак намётавага лягеру.

ДЗЯЎЧЫНА: Я тут знаходжуся больш за суткі. Гэтай ноччу спадар Казулін таксама нас палохаў і казаў, што нас будуць біць. Я вас прашу! Калі мы зараз сыдзем, 25 сакавіка тут ніхто не зьбярэцца.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Лічу вынікі выбараў прэзыдэнта Беларусі чарговай хлусьнёй дзейных уладаў! Падтрымліваю патрабаваньне паўторных выбараў!*

*Хутка ня будзе ў Беларусі ні аўса, ні жыта —*
*Лізаць будуць падхалімы пустое карыта.*
*Гэтулькі сілавікоў, гэтулькі вяльможаў*
*Наш старанны селянін пракарміць ня зможа!*





А вось якім быў выступ жонкі А.Мілінкевіча Іны Кулей.

КУЛЕЙ: Мы з Аляксандрам былі тут цэлую ноч, і я ведаю, які тут панаваў настрой. Дай Божа, каб ён у нас застаўся да 25-га й далей. Я хачу сказаць, што вельмі цяжкімі былі сёньняшнія некалькі гадзінаў. Таму што вялікая адказнасьць ляжыць на А.Мілінкевічу й на тых, хто паклікаў людзей на гэтую плошчу. Людзей хапаюць. Вялікая адказнасьць, што мерзьне моладзь, бо іх здароўе — гэта здароўе нацыі. Мы хацелі сказаць, што, можа, ня варта стаяць. Але калі мы прайшлі па намётах, мы зразумелі, што ўсе зьбіраюцца заставацца. І мы застаемся разам з вамі й будзем тут да перамогі.

Апазыцыйны актывіст Вячаслаў Сіўчык адразу ж заклікаў хлопцаў і мужчынаў стварыць дружыну для аховы намётавага лягеру ад магчымага нападу спэцпадразьдзяленьняў. Удзельнікі акцыі будуць знаходзіцца на плошчы як мінімум да 25 сакавіка.

Тым часам А.Казулін заклікаў да стварэньня ўраду народнага даверу.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*ІЛЬЛЯ КОПЫЛ: Толькі што прыйшоў з плошчы, пабываў на мітынгу, атрымаў зарад бадзёрасьці. Сёньня па БТ паказвалі тэатар аднаго актора. Ён заявіў, што на мітынгу 19-га было дзьве тысячы юнакоў, якім заплацілі па 20 тысяч беларускіх рублёў. Раней ён казаў, што плацілі далярамі, а цяпер вось ужо перайшоў на рублі. Дык я хачу сказаць, што там былі людзі ад 15 да 80 гадоў, нават былі людзі, якія прыходзілі сем'ямі. То бок, гэты актор, грамадзянін Лукашэнка, займаецца хлусьнёй! Сёньня мне патэлефанавала знаёмая. Яна сказала, што ў яе дачкі, якой 11 гадоў, узялі падпіску, каб яна не наведвала мітынг на плошчы. Думаю, камэнтар тут не патрэбны.*

серада, 22 сакавіка 2006, 0:41

## А.МІЛІНКЕВІЧ: МЫ НЯ БУДЗЕМ ЗЬ ІМІ БІЦЦА

***Алена Радкевіч, Прага***

У 23:30 Аляксандар Мілінкевіч, які знаходзіцца на Кастрычніцкай плошчы, адказаў у жывым этэры на пытаньні «Свабоды».

— Спадар Мілінкевіч, ці ёсьць у Вас сцэнар дзеяньняў на выпадак сілавога разгону мітынгу й намётавага лягеру?

МІЛІНКЕВІЧ: Які можа быць сцэнар, калі сілавы варыянт? Я не такі магутны. Мы ж ня будзем зь імі біцца. Сілавой барацьбы на плошчы ня будзе. Мы просім юрыстаў абараняць затрыманых.

— Ці імаверным Вам падаецца разгон, ці ёсьць прыкметы ягонай падрыхтоўкі? А.Казулін сёньня заявіў, што ў яго ёсьць інфармацыя пра сілавы варыянт сёньняшняй ноччу.

МІЛІНКЕВІЧ: Нас і ўчора папярэджвалі, што вось-вось, але нічога не было. Калі яны разумныя, яны гэтага ня зробяць. Калі дурныя — могуць, але гэта будзе супраць іх.

з в а н к і на «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Лукашэнка паводзіць сябе так нахабна й самаўпэўнена таму, што за яго плячыма Расея. Лічу, што ва ўсіх нашых бедах вінаватая Расея, таму што Беларусь зьяўляецца буфэрам паміж Захадам і Расеяй. І пакуль будзе падтрымка Расеі, у нас нічога ня зьменіцца.*

*АЛЕГ, інвалід зроку: Усё залежыць ад народу самаго, а не ад Лукашэнкі. У нас дэмакратыі нельга зрабіць, таму што ўсё залежыць ад народу, народ павінен сачыць за сабой, трэба перавыхоўваць самаго сябе.*





**00:30**

Каля 1000 чалавек вырашылі начаваць у намётавым лягеры.

Нягледзячы на заклік, каб засталіся адны «сапраўдныя мужчыны», у прыблізна 20 намётах ёсьць як хлопцы, гэтак і дзяўчаты, і людзі сталага веку. Сярод іх А.Мілінкевіч, ягоная жонка І.Кулей і іх старэйшы сын Аляксандар.

Удзельнікі акцыі разумеюць, што ўначы можа адбыцца сілавы разгон. Вулічныя ліхтары на Кастрычніцкай плошчы не гараць, у тым ліку ліхтар, які асьвятляе ўваход у мэтро. Прыехала група БТ, якая рыхтуецца нешта здымаць. Машыны па-ранейшаму вітаюць плошчу сыгналамі. Удзельнікі акцыі самастойна прыбралі ўвесь пляц ад сьмецьця.

Стала вядома, што затрыманы дэпутат польскага Сэйму Яраслаў Ягела ў выніку дамоўленасьцяў паміж польскай амбасадай у Беларусі й Міністэрствам замежных справаў Беларусі выпушчаны на свабоду пры ўмове, што ён адразу пакіне Беларусь. Спадар Ягела ўжо едзе ў Польшчу.

з в а н к і на «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Была назіральніцай у Гомелі й выявіла такія факты. Людзей 19 сакавіка прыйшло значна менш, чым было абвешчана. Бюлетэні ў скрыні датэрміновага галасаваньня ўвогуле не лічыліся. І тое, што яны там рабілі, было зусім не відаць. Яны сталі ў некалькі радоў і закрылі ад назіральнікаў усё, што адбывалася за сталом.*

*СПАДАР: Наконт фальсыфікацыі выбараў. Яшчэ былы прэзыдэнт ЗША Лінкальн казаў: «Можна падманваць невялікую колькасьць народу доўгі час альбо нядоўгі час — вялікую колькасьць народу. Падманваць усіх доўга немагчыма». Таму Беларусь будзе свабоднай!*

**01:30**

У намётавым лягеры па-ранейшаму знаходзіцца каля тысячы чалавек, якія актыўна скандуюць «Застаемся!». Міліцыя затрымлівае ўсіх, хто пакідае лягер. Усярэдзіне лягеру цяпер адбываецца імправізаваная дыскатэка. Пад музыку беларускіх і ўкраінскіх выканаўцаў людзі пртанцоўваюць, каб сагрэцца. Нядаўна адбыўся малебен за Беларусь.

Нашы карэспандэнты бачылі, як прыкладна 15 аўтобусаў з байцамі АМАПу выехалі з прылеглых да Кастрычніцкай плошчы двароў і кварталаў і накіраваліся праспэктам на ўсход гораду. З прычыны гэтых ускосных зьвестак удзельнікі акцыі спадзяюцца, што штурму намётавага лягеру сёньня ня будзе.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Калі б эўрапейскія краіны, напрыклад, бліжэйшая Польшча, абвясьцілі, што ўсе студэнты, якія будуць адлічаныя з інстытутаў, будуць прынятыя ў іхныя інстытуты, то на плошчах было б значна больш моладзі. Падтрымліваю толькі Мілінкевіча!*

*СПАДАРЫНЯ: Вынікі выбараў вельмі зьдзіўляюць, бо ўсе мае знаёмыя, наша сям’я галасавалі за Мілінкевіча. У мяне амаль няма такіх знаёмых, якія б галасавалі за Лукашэнку. Таму я ня веру ў гэтыя вынікі, яны сфабрыкаваныя.*

*СПАДАР: А.Лукашэнка назваў прэзыдэнта ЗША Буша тэрарыстам №1. У 2004 годзе падчас газавай вайны назваў тэрарыстам прэзыдэнта Расеі Пуціна. Хацелася б запытаць у яго, пад якім нумарам ён лічыць бін Лядына? А можа, ён у яго сябра пасьля Садама Хусэйна й Мілошавіча?*





**02:30**

Нягледзячы на незвычайны для гэтай пары году мароз (каля мінус 10 градусаў), больш за тысячу чалавек па-ранейшаму знаходзяцца на Кастрычніцкай плошчы. Людзі разумеюць, што той, хто пакіне плошчу, можа быць адразу затрыманы.

Вакол намётавага лягеру паўколам выстаўленыя сьвечкі. Узяўшыся за рукі, удзельнікі акцыі правялі супольную малітву. Нават цяпер, сярод ночы, увесь час чуваць лёзунгі «Жыве Беларусь!», «Разам!», «Застаемся!». У лягеры па-ранейшаму знаходзяцца А.Мілінкевіч з жонкай і старэйшым сынам. Там і знакамітая сьпявачка Кася Камоцкая. Колькасьць міліцыянтаў вакол відавочна скарацілася. Дэманстранты ўступаюць зь імі ў размовы й спрабуюць пераканаць у сваёй рацыі. Побач з удзельнікамі акцыі знаходзяцца журналісты й міжнародныя назіральнікі.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР, Віцебск: На душы агіда й пустэча — за сябе, за ўсіх нас. Хочацца згадаць радкі Максіма Багдановіча:*

*Народ, Беларускі Народ!*
*Ты — цёмны, сьляпы, быццам крот.*
*Табою ўсягды пагарджалі,*
*Цябе не пушчалі зь ярма*
*І душу тваю абакралі, —*
*У ёй нават мовы няма…*
*Ты крыкнуць ня вольны «Ратуйце!»*
*І мусіш ты «Дзякуй» крычаць.*

*Але, але, але… Час нараджае герояў. Яны прыходзяць тады, калі бязь іх самаахвяраваньня ня выжыць, яны ўздымаюць душу паніклых, яны акрыляюць няўпэўненых, яны — прысуд здраднікам і адступнікам.*

серада, 22 сакавіка 2006, 3:12

## ЗАМЕЖНЫЯ ГОСЬЦІ ПРА ПАДЗЕІ НА ПЛОШЧЫ

***Севярын Квяткоўскі, Менск***

Журналісты, турысты й актывісты грамадзянскіх ініцыятываў некаторых краінаў падзяліліся сваімі ўражаньнямі ад падзеяў на Кастрычніцкім пляцы ў Менску.

Паляк Міхал Янкоўскі піша кнігу пра Беларусь.

ЯНКОЎСКІ: Першае ўражаньне — вялікае шкадаваньне, што падзеі нядзелі 19-га так скончыліся, што хтосьці сказаў: «Ідзеце дадому, заўтра спаткаемся». І ўсё спынілася. У мяне перад вачыма стаіць тая дзяўчына, якая кінула працу, бо чакала перамогі новай, вольнай Беларусі. І яна плача, не разумеючы, чаму людзі не засталіся на пляцы, што ўсё гэта гасьне.

Францужанка Жанэт Дзюпон бывала ў розных краінах сьвету, і верыць, што перамены да лепшага заўжды пачынаюцца з малога.

ДЗЮПОН: Мы чакалі, што рэпрэсіі пачнуцца адразу ж, і не чакалі, што пабачым столькі людзей, якія наважацца прыйсьці пасьля ўсіх пагрозаў, што прыходзілі праз мэйлы й праз СМСкі. Пачынаць трэба з малога. Міліцыя цяпер ня ўмешваецца ў тое, што адбываецца. І трэба рабіць тое, што робіцца, і працягваць гэта рабіць, нават калі прысутнічае 50 чалавек.

Расейскія юнакі зь Екацерынбургу й Масквы бралі ўдзел у падзеях на ўкраінскім Майдане.

ХЛОПЦЫ: Ашаламляльнае адчуваньне, шмат людзей прыйшло. Наагул не чакаў, што тут будзе нейкае падабенства да Майдану. Калі абвясьцілі, што ўсталяваныя першыя тры намёты, гэта ўсім надало крылаў. Гэта ўсё ашаламляе, бо калі мы сюды ехалі, чакалі, што народу будзе меней.





Украінскі хлопец Антон з Ровенскай вобласьці ўпершыню трапіў у Беларусь.

АНТОН: Я ўражаны. Я не чакаў, што будзе так. Я быў настроены, што тут будзе больш страшна, быў настроены на сілавы варыянт. Але, дзякаваць Богу, пакуль нічога такога няма.

— Якая тут на пляцы цяпер атмасфэра?

АНТОН: Баявая, у добрым сэнсе слова. Людзі мабілізаваныя, настрой узьняты. Я мяркую, гэткі самы настрой пратрымаецца яшчэ досыць доўга. Я ў Беларусі першы раз, і пабачыў, што народ Беларусі такі самы, як і народ Украіны. Нават словы «свабода» й «ганьба» гучаць паўкраінску й па-беларуску аднолькава. Мяркую, гэта сымбалічна.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: У нашай краіне суцэльная ідэалёгія, замбіруюць па поўнай праграме! З нармальных разумных людзей робяць клоўнаў і дурняў. Што нам прапануе «Белсаюздрук»? Нуль апазыцыйнай прэсы, затое шырокі асартымэнт парнаграфіі й прапаганды.*

*СПАДАР: Я быў учора й сёньня на плошчы. І мяне вельмі абразіла, што Лукашэнка сказаў, што там былі пятнаццацігадовыя падлеткі, якім заплацілі 20 тысяч, якія трэба адпрацаваць. У мяне ёсьць прапанова правесьці такую акцыю: прынесьці 20 тысяч і кінуць іх недзе паблізу рэзыдэнцыі, калі ён лічыць, што мы адпрацоўвалі гэтыя грошы.*

*БАРЭЛЬ: Сёньня ўвесь вечар трубяць, што 20 тысяч кожнаму давалі ў Менску на плошчы. А колькі ж Лукашэнка дае тысяч даляраў сынам на катэджы? Брыдка слухаць!*

серада, 22 сакавіка 2006, 3:18

## «МЫ ПРЫЙШЛІ ПАСТАВІЦЬ КРОПКУ НА ДЫКТАТУРЫ»

***Галіна Абакунчык, Менск***

Актыўны ўдзел у акцыі пратэсту на Кастрычніцкім пляцы бярэ моладзь. Гэта студэнты, навучэнцы, працоўная моладзь. Многія з гэтых людзей прыехалі зь іншых гарадоў Беларусі.

— Малады чалавек, які загарнуўся ў бел-чырвона-белы сьцяг, — скажыце, хто Вы й адкуль?

ЮНАК: Я прыехаў з гораду Дзятлава Гарадзенскай вобласьці, каб падтрымаць удзельнікаў акцыі пратэсту, адзінага кандыдата. Я тут зь сябрамі, зь якімі некалі вучыўся разам.

— А што адбываецца ў Дзятлаве? Якія настроі там у людзей?

ЮНАК: Там таксама ёсьць мае сябры, якія з намі. Яны пытаюцца, што тут адбываецца, а я ім тэлефаную й распавядаю, запрашаю сюды прыехаць.

— А хто вы, маладыя людзі, адкуль?

ЮНАЧКА: Мы зь Менску, студэнты. Не належым ні да якіх арганізацыяў, але падтрымліваем Аляксандра Мілінкевіча і ўсе гэтыя акцыі за свабоду. Хочам дамагчыся незалежнасьці й свабоды нашай краіне, будзем змагацца да апошняга.

— Ці шмат людзей падтрымлівае вас у вашым асяродку?

ЮНАК: Канечне, шмат. Проста па тэлебачаньні шмат запалохваюць людзей, і таму менш прыходзіць. Я думаю, што калі людзі пабачаць, колькі нас, дык будзе больш, больш і больш.

— Ці ня крыўдна вам, што вы рызыкуеце, а нехта таксама хацеў бы паўдзельнічаць, але ён баіцца?

ЮНАЧКА: Крыўдна, канечне, але кожны сам выбірае свой шлях і свой лёс.

— Маладыя людзі ў коўдрах, адкуль коўдры?

ЮНАК: Людзі далі.

— Вы сюды адкуль прыйшлі — з працы, з вучобы?

ЮНАЧКА: З працы.

— На Вашай працы якія настроі?

ЮНАЧКА: Нэгатыўныя настроі ў мяне на працы. Усе за Лукашэнку.

— Чаму тады Вы прыйшлі?

ЮНАЧКА: Мы прыйшлі, каб тут паставіць кропку на дыктатуры, на ўсім, што было за дванаццаць гадоў.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Лічу, што беларусам трэба браць прыклад перш за ўсё з украінцаў, якія выстаялі на сваім Майдане, даказалі сваю сумленнасьць і несумленнасьць улады. Трэба працягваць змагацца за свабоду, змагацца супраць апошняга дыктара Эўропы. Я жадаю ім шчасьця й посьпехаў!*

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*ВІКТАР БУТТО: Прайшлі выбары, колькі за каго прагаласавала, невядома. Выбарчыя камісіі, Цэнтравыбаркам і назіральнікі паказалі, што выконваць свае абавязкі яны й не зьбіраюцца. Лукашэнка гатовы любому галаву адкруціць, калі той ня будзе рабіць так, як яму выгадна.*

**3:40**

У лягеры ўдзельнікам пратэсту не хапае вады на гарбату й каву. Міліцыя не дапускае да мітынгоўцаў людзей, якія прывозяць у лягер тэрмасы з вадою й гарачую ежу.

А палове на чацьвертую ночы вялікая група вырашыла зрабіць вылазку, каб прывезьці ваду для гарачых напояў. Каля сарака ўдзельнікаў акцыі пратэсту аддзяліліся ад асноўнай групы зь месца, дзе адбываецца мітынг, і скіраваліся да таксі. Міліцыя сачыла за гэтай вылазкай, але нікога не затрымала — праз дваццаць хвілінаў яны вярнуліся з вадою.

На плошчы працягваецца імправізаваная дыскатэка, моладзь стаіць вакол намётаў, выкрыквае лёзунг «Хочам, можам, пераможам!».

А.Мілінкевіч часова адсутнічае, але абяцаў зьявіцца а палове на шостую раніцы.

званкі на «Свабоду»

*СПАДАРЫНЯ: У гэтыя дні «Свабода» — сапраўды глыток сьвежага паветра. Падзяка тым, хто выходзіць на плошчу, хто тэлефануе на «Свабоду», стараецца чытаць незалежны друк. Разам мы моцныя! Мы — Беларусь, краіна ў цэнтры Эўропы, а не Бэрмудзкі трохкутнік, дзе могуць невядома куды зьнікаць людзі, ідэі, памкненьні. У нас не прыродная анамалія, а штучная, а значыць, зь ёй можна справіцца. І вось — прапанова. Паважаны А.Мілінкевіч, мітынгаваць цяпер — гэтага мала, патрабуйце выступу на тэлебачаньні, на радыё са сваёй справаздачай аб выбарах. Зьвяртайцеся па дапамогу да ўкраінскага тэлебачаньня.*





серада, 22 сакавіка 2006, 4:02

## АПЫТАНЬНЕ МІНАКОЎ: ЯК ВЫ СТАВІЦЕСЯ ДА ПРАТЭСТОЎЦАЎ?

***Іна Студзінская, Менск***

— Як вы ставіцеся да людзей, якія на холадзе, у намётах?

СТУДЭНТ: Ім няма чаго рабіць.

СПАДАРЫНЯ: Я ганаруся імі. Яны малайцы, яны ў сабе страх адужалі. Гэта надзея наша.

ХЛОПЕЦ: Мы з Украіны. У вас вельмі слаба. У нас нашмат лепш было ўсё арганізавана. З эканамічнага боку нас падтрымлівалі прадпрымальнікі. Усе людзі былі забясьпечаныя. Плюс увесь Кіеў быў за нашага кандыдата. Увесь Кіеў падняўся.

— Вы — чалавек сталага веку, як ставіцеся да таго, што адбываецца на плошчы?

СПАДАР: Станоўча. Таму што махляр ва ўладзе. З махлярамі цяжка гуляць у карты.

званкі на «Свабоду»

*МІКАЛАЙ ВАСІЛЕВІЧ, Салігорск: 20 сакавіка ў Салігорску ў 20:35 былі агучаныя вынікі прэзыдэнцкіх выбараў у горадзе беларускіх шахтараў. Лукашэнка набраў 69,72%, Мілінкевіч — 16,35%, Казулін — 4,57%, Гайдукевіч — 2,86%. Але мы, салігорцы, ня верым гэтым зьвесткам і лічым выбары сфальсыфікаванымі. Таму і ў нас не было агучана, колькі выбаршчыкаў прагаласавала супраць усіх. У маім дзевяціпавярховым доме амаль усе сем'і прагаласавалі за Мілінкевіча й Казуліна, а гэта больш за сто чалавек. Два Аляксандры, Мілінкевіч і Казулін, у Салігорску — самыя папулярныя палітыкі. Сустрэчы зь імі праходзілі ў перапоўненых залях.*

ІНШЫ СПАДАР: Браў удзел і буду браць. Таму што жыць у краіне, дзе ўсе баяцца ўсяго, мне нецікава. Я магу зьехаць да дачкі ў Канаду, але я гэтага не зраблю. Бо я патрэбны гэтай краіне.

— Вы з кветкамі...

СПАДАРЫНЯ: Так, гэтыя кветкі — для міліцыі, я прапаную ім такі падарунак. Мне заўтра споўніцца 40 гадоў. У мяне дваццаць гваздзікоў, праўда. Я прапаную міліцыянтам кветку, альбо чырвоную, альбо белую. Раніцай бралі, цяпер — не. Але ня гэта важна. Я гляджу ў іхныя вочы й прашу не супрацьстаяць нашым дзецям. Тое, што тут адбываецца, — гэта супрацьстаяньне духу. Мы ня можам перамагчы ўладу сілай, але спрабуем перамагчы духам. З намі Божая праўда, Госпад любіць моцных духам.

ІНШАЯ СПАДАРЫНЯ: Гледзячы на ўсё гэта, мне хочацца плакаць.

— Як ставіцеся да таго, што тут адбываецца?

ХЛОПЕЦ: Ніяк. Я за Лукашэнку галасаваў.

СПАДАРЫНЯ: Пасьля бойкі кулакамі не размахваюць.

ДЗЯДОК: Гэта ўсё куплена па 10 даляраў кожнаму.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Я вельмі ўражаны тым, што абдываецца на Кастрычніцкай плошчы. Мне шкада, што я сам фізычна не змагу там прысутнічаць, працяглы час стаяць. Я інвалід. Але я душой і сэрцам з гэтымі людзьмі. Я ўпэўнены, што сёньня менавіта там, на плошчы, пішацца нашая гісторыя. І яшчэ я ўпэўнены, што дух нашых вялікіх продкаў, змагароў за свабоду лунае над плошчай і падтрымлівае нашых мужных людзей, якія там знаходзяцца. Я ўкленчваю перад вамі, людзі!*





ДЗЯЎЧЫНА: Гэта клёва! У нас ёсьць прапанова зрабіць гэтую плошчу аўтаномнай рэспублікай.

— Што Вас прымусіла ў Вашым, выбачайце, узросьце, выйсьці пад бел-чырвона-белым сьцягам?

СПАДАРЫНЯ: Я за сваіх нашчадкаў, каб ім жылося лепей. Бо за дванаццаць гадоў кіраваньня прэзыдэнта я нічога добрага ня бачыла. І яны таксама будуць жыць у гэтай цемры. Таму стаю, каб не было гэтай цемры, былі сьвятло, свабода й шчасьце.

— Выбачайце за нясьціплае пытаньне, а колькі Вам гадоў?

СПАДАРЫНЯ: Семдзесят чатыры.

ЖАНЧЫНА: У мяне няма словаў. Гэта брыдота! Дзяцей сюды прывялі за даляры, за капейкі.

ДЗЯЎЧЫНА: Мы самі выйшлі. Ужо амаль суткі стаім. Стаім у літаральным сэнсе слова. За 24 гадзіны не прыселі ні на хвіліну. Мы прагнем пераменаў у краіне.

СПАДАРЫНЯ: Для мяне галоўнае — выказаць сваю грамадзянскую пазыцыю. Вось я яе такім чынам выказваю, таму што іншага шляху не засталося. Кожны, хто тут, пераадолеў страх, і выйшаў.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Казулін і Мілінкевіч! Вы не палітыкі, вы злосныя кар’ерысты й амэрыканскія халуі, якія вельмі хочуць узяць уладу. Народ зрабіў выбар правільны, і хопіць шыпець як зьмеі. Хопіць прыкрывацца неразумнымі замбаванымі дарослымі й безадказнымі падлеткамі, якія з бутэлькамі ў руках, п’яныя, гарланілі на плошчы. Хопіць прадаваць краіну й народ амэрыканскім дыктатарам і фашыстам!*

*АРКАДЗЬ, Івацэвічы:*

*Усё ідзе, як ісьці належыць,*
*І нам век волі не відаць,*
*Пакуль мы будзем нашу ежу —*
*Картоплі тонамі ўжываць.*

*Бо ад картоплі люд тупее,*
*Бязвольным робіцца народ,*
*Ня хоча думаць — ня ўмее,*
*Былі б рыдлёўка, агарод…*

*Яшчэ страшней за бульбу яшчык*
*Для нашай кволай галавы,*
*Бо ў ім жыве цяпер падманшчык,*
*Якога ведаеце вы.*

*І днём, і ноччу ў этэры*
*Мой суайчыньнік дарагі,*
*У кожнай хаце ці кватэры*
*Ён пудрыць нацыі мазгі.*

*Яго усе завуць гарантам,*
*Але ня ведаюць — чаго.*
*Пашліце вы абодвух матам:*
*І яшчык гэты, і яго.*

*Бо волі, розуму парэшткі,*
*Што бульба зьнішчыць не змагла,*
*Гарант раструшчыць, як арэшкі,*
*Сваёю хеўраю датла!*

*Ну, а пакуль і я сумую,*
*Нас вельмі шмат, я не адзін.*
*Маю радзіму дарагую*
*Зноў згвалтаваў распусны сын!*





серада, 22 сакавіка 2006, 4:20

## ПАЭТ АНДРЭЙ ХАДАНОВІЧ: ЛЮДЗІ! ДАЛУЧАЙЦЕСЯ ДА НАС!

**Сваімі ўражаньнямі ад мітынгу на Плошчы дзеліцца паэт Андрэй Хадановіч:**

— Хораша, ды мала. Паспрабую вытлумачыць: хораша, бо добры, цудоўны настрой, бо вялікая колькасьць несапсаваных страхам сымпатычных твараў, якія радуюцца, якім ня страшна быць натуральнымі, свабоднымі, якія не баяцца атмасфэрных зьяваў (што, як на злосьць, валяцца на нас, а нам фіялетава), вось стаім, тупаем нагамі. У першы дзень была нейкая незадаволенасьць арганізатарамі, бо маглі б народу й дасуг, так бы мовіць, арганізаваць, больш інтэнсіўны й больш сымпатычны, больш музыкі. Як заўсёды, у нас з ідэямі лепш, чым з тэхнічным забесьпячэньнем (гэта значыць, мікрафон, якасьць гуку не задавальняе). Жывы прыўкрасны музыкант рок-н-рольшчык побач камплексуе, слухаючы ўласныя мэлёдыі, уласныя песьні, якія маглі б у лепшай якасьці гучаць. Але гэта такая драбяза!.. Людзі! Далучайцеся да нас! Будзе болей — будзе лепш адно аднаго ад ветру засланяць!

### 4:40

Стаяньне на плошчы працягваецца, людзі слухаюць кампазыцыі ўкраінскіх і беларускіх рок-гуртоў. Выступіў старшыня Рады беларускай інтэлігенцыі Ўладзімер Колас, які сказаў мітынгоўцам: «Віншую вас і лічу, што мы знаходзімся ў лепшым месцы Беларусі, бо тут нараджаеццца яе будучыня. Трэба стаяць да канца, і мы пераможам». Як прыклад гэтага спадар Колас прывёў дзейнасьць Беларускага ліцэю, які ўжо некалькі гадоў забаронены ўладамі, але, тым ня менш, існуе. Прамова Ўладзімера Коласа была кароткая, але была вельмі прыязна ўспрынятая людзьмі.

серада, 22 сакавіка 2006, 4:55

## БЕЛАРУСКІЯ РОК-МУЗЫКІ ПРА ПАДЗЕІ НА ПЛОШЧЫ

***Іна Студзінская, Менск***

ЛЯВОН ВОЛЬСКІ: Уражаньні самыя пазытыўныя. Адно надвор'е зноў нам не спрыяе чамусьці. А так — уражаньні самыя пазытыўныя. Я не чакаў, што будзе столькі народу, мне здавалася, што ў першы дзень яшчэ прыйдзе 20 тысяч, а назаўтра ўжо нічога ня будзе. Нават дзіўна...

— А як Вы ставіцеся да людзей, якія мерзнуць у гэтых намётах?

ВОЛЬСКІ: Гэта новыя беларускія героі. Трэба кожнаму, хто ў рэчышчы Беларусі існуе, дапамагаць каваю, гарбатай, канапкамі, словам.

— Вельмі цёпла Вас прымае публіка. Вы гатовы выступіць з канцэртам, ці магчыма гэта?

ВОЛЬСКІ: Мы б з задавальненьнем. Але трэба вельмі магутная апаратура. Не падвязуць абсталяваньня. А рабіць нейкі паганенькі канцэрцік — гэта сьмешна, гэта таксама прафанацыя.

з в а н к і   н а   «С в а б о д у»

*СПАДАР, Валожынскі раён: Кастрычніцкая плошча ператварылася ў плошчу герояў, якія пераступілі праз страх! Іх не запалохалі нават расстрэламі. Калі зьявіліся такія змагары, дык мы пераможам! Дай Божа ім сілы выстаяць і перамагчы! Жыве Беларусь!*

*СПАДАРЫНЯ: Людзі, якія на плошчы, родныя, добрыя, трымайцеся, калі ласка, шмат хто ў Менску хоча вам дапамагчы! Будзем старацца. Мы пераможам!*





КАСЯ КАМОЦКАЯ: Трэба падтрымліваць дзеяньнямі, а ня словам, разумееце? Усім выходзіць на плошчу, не сядзець дома, а выходзіць! Пакуль там столькі людзей, яны будуць галодныя й халодныя.

ІГАР ВАРАШКЕВІЧ: Я сам выходжу. Шкада, што малавата людзей. Я тэлефанаваў сябрам, і многія кажуць: «А што, трэба ісьці?». Проста адзін баіцца, другі ня хоча ісьці. Вось такая праўда. Тут ёсьць перамога, што людзі ўсё ж такі не пабаяліся выйсьці на плошчу. Які будзе працяг, я ня ведаю, але я й сёньня пайду.

— Лічыце, што больш павінна выходзіць?

ВАРАШКЕВІЧ: У кожнага, хто стаяў на плошчы ў першы дзень, быў дзясятак знаёмых, якія маглі прыйсьці. І калі б яны прыйшлі, было б 100 ці 200 тысяч. Адны запалоханыя, іншыя маюць надзею на цуд, што нехта штосьці зробіць, і ўсё атрымаецца. Чужымі рукамі. А нешта чужымі рукамі ня зробіцца. Толькі сваімі.

з в а н к і   н а   «С в а б о д у»

*СПАДАР: Родная «Свабода», калі я вас чую, мне хочацца плакаць. А гэтаму хлопчыку на аўтобусе зь бел-чырвона-белым сьцягам, яму з гадамі будзе зроблены помнік.*

*СПАДАРЫНЯ: Калі апазыцыя настойвае на перавыбарах, то трэба вылучыць новых кандыдатаў з тых людзей, якія працуюць на краіну, а ня тых, якія езьдзяць па замежжы, якіх вылучаюць замежнікі й падтрымліваюць, і ня тых, якія нідзе не працуюць. Адпаведна, у кандыдаты не павінны прайсьці ні Казулін, ні Мілінкевіч. Зьвяртаюся да праваахоўных органаў Беларусі. Час скончыць з гэтым бязладзьдзем! Час прымяніць меры да гэтай кучкі правакатараў і здраднікаў!*

серада, 22 сакавіка 2006, 5:29

## У.ГАНЧАРЫК: ТРЭБА ПЕРААДОЛЬВАЦЬ СТРАХ

***Аляксандар Уліцёнак, Менск***

На Кастрычніцкую плошчу 21 сакавіка прыйшоў таксама Ўладзімер Ганчарык, кандыдат у прэзыдэнты на выбарах 2001 году.

— Скажыце, Уладзімер Іванавіч, а што Вас прывяло на плошчу?

ГАНЧАРЫК: Мая грамадзянская пазыцыя. Трэба выказаць салідарнасьць, па-першае, з тымі людзьмі, якім неабыякавы лёс Айчыны. А па-другое, выказаць сваё «фе» таму, што адбылося, такой ганебнай фальсыфікацыі вынікаў выбараў.

— Ня верыце ў вынікі выбараў?

ГАНЧАРЫК: Ну што вы! Я ня верыў у іх пяць гадоў таму, а тым больш цяпер. Я больш чым перакананы, што больш за 30% прыпісана на карысьць адной вядомай асобы. Так што гэта ганебна, што ўлада пайшла на такі крок. Чалавек, які перакананы ў сваёй перамозе, ніколі ня будзе прыпісваць такіх лічбаў.

— Але цяпер на плошчы халодна, надвор'е не спрыяе акцыям пратэсту. Ці верыце, што народу прыйдзе больш, што будуць перамены?

ГАНЧАРЫК: На жаль, гэта трагедыя нашага грамадзтва. Ня ўсе разумеюць, што патрэбна ня толькі пасіўнае процістаяньне, але патрэбныя й актыўныя дзеяньні. Я, калі параўноўваю, што было пяць гадоў таму, то думаю, што нашмат больш стала незадаволеных у краіне. Але й страху стала больш. Улада пастаралася. Гэта таксама факт. Але трэба перაадольваць гэты страх.





серада, 22 сакавіка 2006, 7:20

## АКЦЫЯ ПРАЦЯГВАЕЦЦА ТРЭЦІ ДЗЕНЬ, НА ПЛОШЧЫ 30 НАМЁТАЎ

***Паведамляе Альгерд Невяроўскі:***

Міліцыя канцэнтруецца, але яе няшмат. Дэманстрантаў крыху паменела: людзі хочуць прыняць душ, выпіць кавы, адпачыць. Дагэтуль падчас спробаў пакінуць лягер каля мэтро затрымалі 10—15 чалавек; астатнія лічаць, што лепш стаяць тут, чым апынуцца на нарах. Сытуацыя даволі трывожная. На плошчу пад'яжджаюць людзі з рэгіёнаў.

Гэтую ноч у лягеры правялі актывісты КХП БНФ, лідэр якой Зянон Пазьняк заклікаў падтрымаць моладзь на пляцы. Учора ўвечары была створаная дружына лягеру, якую ўзначаліў Вячаслаў Сіўчык. Маладыя людзі гэтай ноччу ўзмоцнена ахоўвалі ўсе падыходы да лягеру. Цяпер у лягеры знаходзіцца прыкладна 300 чалавек.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*АНАСТАС СЕМЯНОВІЧ: Таварыш бальшавічка Ярмошына! Вы разам са сваёй камандай зрабілі ў Беларусі дзяржаўны пераварот пад кіраўніцтвам галоўнага начальніка. Я Вам, як старэйшы па ўзросьце таварыш, раю тэрмінова спыніць свае паўнамоцтвы й патлумачыць народу, што Вашая каманда ўчыніла злачынства. Калі Вас і Вашу каманду будуць судзіць, а гэта абавязкова будзе, то тады будзе зьніжка. Што Вам, таварыш Лукашэнка, параіць? Тэрмінова зьяжджайце ў Расею да Пуціна. Хай ён Вас там хавае, таму што народ Вас будзе судзіць. Я ганаруся сваім народам, моладзьдзю!*

серада, 22 сакавіка 2006, 7:40

## ДЭМАНСТРАНТЫ ПРЫБРАЛІСЯ ВАКОЛ СВАІХ НАМЁТАЎ

***Паведамляе Валер Каліноўскі:***

Пад'яжджаюць людзі з рэгіёнаў — напрыклад, зь Берасьця. Беларуска Наста прыехала нават з Варшаўскага ўнівэрсытэту — адпрасілася на плошчу.

Пратэстоўцы чакаюць 10-й гадзіны, калі прыйдзе болей людзей. Пляны ўдзельнікаў акцыі — пратрымацца да мітынгу, які прызначаны сёньня на 18:30. Лідэры апазыцыі заклікалі людзей прыходзіць на плошчу кожны дзень да 25 сакавіка ўлучна.

званкі на «Свабоду»

*АЛЯКСАНДАР ЯЦКЕВІЧ, Віцебск: Гэта пачварны ўказ — што з табой можа быць у любую хвіліну не падпісаны кантракт, са спэцыялістам вышэйшай адукацыі, асабліва калі ты жывеш не адзін, як воўк, а за табой стаіць сям'я, і ўся сям'я будзе пакараная...*

*СПАДАР: У нас у рэспубліцы выбары былі празрыстыя, свабодныя й вольныя. Лічу, што і ў сталінскі час Беламорканал будаваўся таксама празрыста, свабодна й вольна.*

*СПАДАР: Для чаго прыдумалі прымусовыя датэрміновыя выбары? 18 сакавіка БТ паведаміла, што за чатыры дні прагаласавала датэрмінова 9% выбаршчыкаў, альбо 480 тысяч чалавек. А назаўтра, 19-га, абвясьцілі, што ўжо датэрмінова прагаласавала аж 31%! Ноччу датэрміновых выбараў няма! Выходзіць, што за адну ноч кінулі ў скрыні 1 мільён 200 тысяч бюлетэняў! Вось вам і «элегантная» перамога аднаго шулера ў гульні з напарсткамі. Шмат хто, у тым ліку й Ярмошына, сядзе за гэта за краты!*





серада, 22 сакавіка 2006, 7:42

## У.КОЛАС: ФОРМА АБРАНАЯ БЫЛА СТЫХІЙНА, АЛЕ ЯНА АБРАНАЯ ДАКЛАДНА

***Вольга Караткевіч, Прага***

Уначы перад удзельнікамі акцыі пратэсту на плошчы выступіў старшыня Рады беларускай інтэлігенцыі Ўладзімер Колас.

— Якія ўражаньні ў Вас ад акцыі пратэсту?

КОЛАС: Уражаньні самыя сьветлыя, я нават не чакаў. Ноч на марозе, ніякага сну, вельмі добры бадзёры настрой. Тая аўра, якая тут утварылася — дарэчы, падобная да той, што ў нас у ліцэі, — заражае аптымізмам. А таксама ўсьведамленьне таго, што ты ня мог тут ня быць.

званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Лукашэнка ўжо даўно стаў блытаць Божы дар зь яечняй. Блытае сябе з народам. Там, дзе трэба казаць, што яго крытыкуюць, ён кажа, што апазыцыя крытыкуе народ. Дзе трэба казаць, што ён сам сябе выбірае, ён кажа, што яго выбірае народ. А народ ужо не такі дурны, ён даўно ва ўсім разабраўся, у гэтым словаблудзтве.*

*ЗЬМІЦЕР, Менск: Ёсьць такое беларускае сьвята — Саракі. Паводле паданьня, некалі напярэдадні 22 сакавіка паляцяць сорак душ анёлаў-пакутнікаў у выглядзе птушак. І толькі тады Беларусь здабудзе волю. Гэта адбылося ўчора на Кастрычніцкай плошчы. У часе выступу гурту «N.R.M.» зь песьняй «Падымі мяне» тысячы людзей былі сьведкамі пралёту сарака птушак. Яны былі незвычайныя, у іх сьвяціліся крылы. І яны сапраўды нагадвалі анёлаў. Птушкі спыніліся, і праляцелі над плошчай. Беларусы, вы вольныя!*

— Як Вы лічыце, ці беларуская інтэлігенцыя дастаткова заангажаваная ў цяперашнюю сытуацыю й канкрэтна — у падтрымку таго, што адбываецца на плошчы?

КОЛАС: Мы ад Рады інтэлігенцыі прынялі зварот да грамадзянаў Беларусі, у якім заклікаем падтрымаць патрабаваньні аб прызнаньні таго, што адбылося пад выглядам выбараў, несапраўдным, і прызначыць нармальныя выбары, якія трэба будзе правесьці ў адпаведнасьці з законам і ў вызначаны Канстытуцыяй тэрмін 16 ліпеня. Мы сваёй Радай будзем хутка зьбірацца яшчэ й будзем усімі сваімі сіламі падтрымліваць гэтыя патрабаваньні. Я лічу, што форма абраная была стыхійна, на жаль, не плянавалася, я так разумею, але яна была абраная дакладна. Цяпер задача нашых лідэраў зрабіць так, каб колькасьць народу тут не памяншалася, а павялічвалася.

— Што Вы сказалі сёньня на плошчы?

КОЛАС: Я павіншаваў усіх з тым, што яны знаходзяцца ў самым лепшым месцы ў Беларусі й, магчыма, на ўсёй зямлі. Будучыня Беларусі пачынаецца тут і цяпер.

званкі на «Свабоду»

*ТАЦЯНА, Смалявічы: Лукашэнку падтрымлівае малаадукаваная частка насельніцтва, якая сама ня ведае, калі жыў Скарына, дзе ён жыў, якая прыняла за чыстую манэту, што Скарына жыў у Піцеры. Калі ў нас і будзе якая рэвалюцыя, дык гэта будзе культурная рэвалюцыя інтэлігенцыі, бо трываць такога невука й хама пры ўладзе ўжо проста немагчыма.*

*СПАДАР: Нічога ў вас, спадары, не атрымаецца. Вы выкарысталі сцэнар Украіны. Там вам сышло з рук. Расея ня дасьць вам Беларусь акупаваць. Нічога ў вас не атрымаецца. Аж да атамнай вайны… А гэтага Буша разаб'юць, як трэску, разам з вамі.*





серада, 22 сакавіка 2006, 8:05

## З.ДАШКЕВІЧ: СТРАТЭГІЯ ЎЛАДЫ — У ПРЫСУТНАСЬЦІ ЖУРНАЛІСТАЎ НЕ РАЗГАНЯЦЬ

***Вольга Караткевіч, Прага***

Зьміцер Дашкевіч — лідэр «Маладога фронту» — арганізацыі, актывісты якой сёньня ўначы несьлі ахову ў зьнешнім коле лягеру.

— Чым адметная гэтая акцыя?

ДАШКЕВІЧ: У першую чаргу тым, што беларускае грамадзтва ўпершыню за апошні час найноўшай гісторыі, за той час, калі аўтарытарны рэжым Лукашэнкі ўсё мацнее, яно пераадолела страх.

— Скажыце, як Вы ацэньваеце дзеяньні міліцыі, якая не чапае пакуль удзельнікаў акцыі?

ДАШКЕВІЧ: Сытуацыя такая: міліцыянты не чапаюць таго, хто знаходзіцца ў намётавым мястэчку, але калі людзі спрабуюць пайсьці дахаты па гарбату, па ежу ці памыцца, яны такіх людзей у мэтро, на прыпынках транспарту ловяць і арыштоўваюць, забіраюць нейкія рэчы, трымаюць некалькі гадзінаў ці судзяць за хуліганства. То бок, я думаю, што ўлада абрала такую стратэгію: у прысутнасьці журналістаў, міжнародных назіральнікаў не разганяць нікога, не чапаць, але калі недзе актывісты мястэчка знаходзяцца паасобку, іх адразу нэўтралізуюць.

званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Лукашэнка — гэта ня Кучма й не Шэварднадзэ, якія зьяўляюцца сынамі свайго народу й далі магчымасьць свайму народу абраць сваіх прэзыдэнтаў. У Лукашэнкі нічога беларускага няма, гэта найміт Расеі. Таму зьдзіўляцца нічому ня трэба.*

серада, 22 сакавіка 2006, 8:33

## А.МІХАЛЕВІЧ: У ГЭТУЮ НОЧ БЫЛО НАШМАТ БОЛЬШ ЛЮДЗЕЙ, ЧЫМ У МІНУЛУЮ

***Вольга Караткевіч, Прага***

На плошчы мінулую ноч прабыў і намесьнік кіраўніка Партыі БНФ Алесь Міхалевіч.

МІХАЛЕВІЧ: Вельмі прыемна, што ў гэтую ноч сапраўды было нашмат больш людзей, чым мінулую, і перакананы, што гэта далёка не мяжа, колькасьць людзей будзе павялічвацца, і ўпэўнены, што ёсьць усе магчымасьці, каб гэта перарасло бліжэй да 25 сакавіка ў вельмі грунтоўную, вялікую акцыю.

— Скажыце, як моладзь успрыняла зварот А.Казуліна, што трэба згортваць намёты?

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР, Хоцімскі раён: Цяпер там нашы хлопцы бунтуюць на Кастрычніцкай плошчы. Дарэмна... Рэч вось у чым. Участак наш у клюбе. 19-га я галасаваў. У клюбе ўздоўж сцэны камісія засядае. У адным куце кабіны для галасаваньня. У іншым — участковы сядзіць зь нейкімі незнаёмымі людзьмі. Напэўна, гэта назіральнікі. А ў трэцім — Госпадзе! — буфэт. Там табе й гарэлка, і закускі розныя. І абвестка: «Тавары прадаюцца зь пяцідзесяціпрацэнтнай гандлёвай зьніжкай». Мама родная! Віно, якое ў краме каштуе дзьве тысячы рублёў, тут прадаюць за тысячу пяцьсот сорак. Ад хваляваньня ледзь прасунуў бюлетэнь у скрынку, бо бачу, як майму суседу «белую» ўразьліў адпускаюць. Узяў і я бутэлечку вінца. І — дамоў, апаражняць. Гэта сусед мой зусім абарзеў, у грамадзкім месцы, на вачах людзей, у прысутнасьці ўчастковага...*





МІХАЛЕВІЧ: Гэты зварот не атрымаў ніякага рэзанансу: усе ўдзельнікі акцыі пачалі скандаваць, што мы застаемся, і проста засталіся на плошчы, і гэта, на мой погляд, вельмі правільнае рашэньне.

— У нашым этэры паэт А.Хадановіч, сьпявачка К.Камоцкая, некаторыя іншыя прадстаўнікі культуры гаварылі, што малавата людзей на плошчы. Відавочна, што людзі мяняюцца — колькі цяпер чалавек?

МІХАЛЕВІЧ: Цяжка ацэньваць, але гэта добра, што тут знаходзяцца сотні людзей. Таксама цяжка ад людзей чакаць, каб яны вытрымалі цэлую ноч, плюс да гэтага заўсёды ёсьць такі фактар, што з раніцы, калі пачынае працаваць мэтро, значная частка людзей, якая вытрымала ноч, калі яны бачаць, што ўжо сьветла, што сілавы варыянт у гэтую ноч не распачаўся, яны прынялі рашэньне паехаць і паспаць. Але да дзясятай гадзіны шмат людзей вернецца.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР:*

*Беларусь, сьмялей уставай з кален!*
*Дзе нашых продкаў слава,*
*Арлоў дзе магутныя крылы,*
*Дзе гонар вялікай дзяржавы?*

*Сапегі і Радзівілы! Дзе ён, народ геройскі?*
*Бацькаўшчына ў бядзе —*
*Чаму сёньня гетман Астроскі*
*Пад Воршу палкі не вядзе?*

*Хіба гэта кара Боская*
*І ўжо не прачнуцца яны —*
*Касьцюшкі і Каліноўскага,*
*Слуцкіх паўстанцаў сыны?..*

серада, 22 сакавіка 2006, 9:49

## ЛІДЭРЫ ГРАМАДЗКАЙ ДУМКІ — ПРА ПАДЗЕІ НА ПЛОШЧЫ

***Вячаслаў Кулік, Менск***

Сярод удзельнікаў акцыі пратэсту — вядомыя дзеячы беларускай навукі й культуры.

Мастак Аляксей Марачкін лічыць, што прадстаўнікі розных палітычных плыняў цяпер вучацца супольнаму змаганьню супраць дыктатуры рэжыму.

МАРАЧКІН: У 2001 годзе на прэзыдэнцкіх выбарах сытуацыя была зусім не падобная на сёньняшнюю. Сапраўды, як кажуць кандыдаты на прэзыдэнта, «Беларусь прачнулася ў новым стане». Ёсьць надзея, што нарэшце мы супольна здольныя прыпыніць гэты гвалт, што ідзе ад уладаў і гэтага кіраўніка. Краіна ў цэнтры Эўропы ня мусіць быць «чорнай дзіркай». А пэрспэктывы я бачу вялікія. Кола гісторыі не перапыніць.

Меркаваньне дэпутата Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, гісторыка Валянціна Голубева.

ГОЛУБЕЎ: Гэта сапраўды пералом у змаганьні Беларусі. Сярод той моладзі, якую мы выхоўвалі ад 1991 году, зьявіліся людзі, цалкам адданыя Беларусі, беларускай справе й дэмакратыі. Я лічу, што якраз тут фармуецца пачатак той грамадзянскай супольнасьці Беларусі, якой

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Я хачу падзякаваць Амэрыцы й Эўропе, што не прызналі выбараў, бо яны былі падманам. Як яны былі зробленыя, усе ведаюць, і мы ведаем. Патрэбныя другія выбары. Я хачу падзякаваць усёй нашай апазыцыі, якая так цьвёрда стаіць за свабоду нашай краіны — Беларусі.*





мы жадаем. Я баюся, што гэты чалавек разгоніць іх, як нас калісьці ў парлямэнце. Усё можа быць. Але без наступстваў гэта ўжо ня пройдзе. І гэта толькі на карысьць Беларусі.

Кінарэжысэр Віктар Дашук палітычную волю народу на плошчы азначае як жыватворны працэс.

ДАШУК: Заўжды любое дзеяньне, нават роздум чалавека, ізаляванага ў сырой цямніцы, як заўважыў паэт, знаходзіць матэрыяльнае ўвасабленьне. Так што цяперашнія дзеяньні на пляцы маюць свой сэнс. Але нам трэба ад крыку пераходзіць да нейкай канкрэтыкі. На жаль, цяпер ніхто не займаецца фактамі фальсыфікацыі выбараў. На жаль...

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Выбары ў Беларусі пры Лукашэнку праводзіць бессэнсоўна. Выбары — гэта спосаб абраньня ўлады толькі ў дэмакратычных краінах. Беларусь такой не зьяўляецца ад 1996 году, калі дыктатар зьмяніў Канстытуцыю. А рэфэрэндум 2004 году наагул яму разьвязаў рукі. У Лукашэнкі няма ніякіх эканамічных посьпехаў. Дастаткова параўнаць з узроўнем жыцьця ў Польшчы, Прыбалтыцы, якія дванаццаць гадоў таму мелі аднолькава нізкі ўзровень зь Беларусьсю. Самы вялікі спад жыцьцёвага ўзроўню адбыўся ў пэрыяд праўленьня Лукашэнкі за 1994—1999 гады. З ростам цэнаў на нафту й газ з 2000 году расейскі рынак дапамог спыніцца падзеньню эканомікі Беларусі. Працавіты беларускі народ пад уплывам хлусьні сродкаў масавай інфармацыі паверыў, што ў гэтым ёсьць заслуга Лукашэнкі, і баіцца згубіць тое, што мае. Праўдзівай інфармацыі народ не атрымлівае ўвогуле. Улада нахабна працягвае трымаць свой народ за дурняў. Таму выбары 2006 году — гэта фарс і растрата народных сродкаў. Трэба шукаць іншыя спосабы пераменаў.*

серада, 22 сакавіка 2006, 10:15

## СПЭЦНАЗ МУС ДРУГІ ДЗЕНЬ ЖОРСТКА ЗЬБІВАЕ ТЫХ, ХТО СЫХОДЗІЦЬ З ПЛОШЧЫ

***Паведамляе Валер Каліноўскі:***

Спэцназаўцы б’юць дэманстрантаў, якія сыходзяць з Кастрычніцкага пляцу. Каля дзевяці раніцы ў лягер вярнуліся два дэманстранты, якім удалося ўцячы ад міліцыі. Міхал Аўдзееў паказаў драпіны й сінякі. Ён заявіў, што хапаюць і зьбіваюць дэманстрантаў, якія хочуць зьезьдзіць дахаты й пераапрануцца.

Спэцназавец, які зьбіў Аўдзеева, па ягоных словах, прадставіўся Ўладзімерам Навумавым (міністрам унутраных справаў Беларусі). Ён хацеў парваць бел-чырвона-белы сьцяг Аўдзеева, але ня здолеў і завязаў яго вузламі.

АЎДЗЕЕЎ: Я буду працягваць пратэст. Мяне зьбілі за тое, што я стаю за Беларусь. Ня мае значэньня, колькі на мне будзе сінякоў, драпінаў і стрэлаў, я застаюся тут да апошняга са сваімі братамі й сёстрамі, якія хочуць жыць у вольнай Беларусі. Але мы ня хочам гвалту з боку супрацоўнікаў міліцыі.

Толькі што Аўдзеева забрала з пляцу машына «хуткай дапамогі».

з в а н к і   н а   « С в а б о д у »

*ПЭНСІЯНЭР, Койданава: Шчыра вітаю юнакоў і дзяўчат, якія сёньня не спалохаліся цемрашалаў, ворагаў беларушчыны й згуртаваліся на плошчы ў Менску. І хачу я іх павіншаваць вершам нашага песьняра Янкі Купалы:*

*Гэй ты гэй, Беларусь, маладая старонка,*
*Уставай жа, ўставай з паніжэньня, з пацёмкаў,*
*Хай жа будзе нязможная ўлада твая,*
*Гэй ты гэй, Беларусь маладая мая!*



## д з е н ь   ч а ц ь в е р т ы

серада, 22 сакавіка 2006, 12:10

## НА ПЛОШЧЫ ІДЗЕ НАБАЖЭНСТВА, ЧАКАЮЦЬ А.МІЛІНКЕВІЧА

***Паведамляе Ігар Карней:***

У гэтыя хвіліны ў намётавым лягеры на Кастрычніцкай плошчы адбываецца набажэнства. Перад гэтым камандзір палка спэцназу Юры Падабед запрасіў усіх прадстаўнікоў тэлекампаніяў падняцца на дах Палацу Рэспублікі. Гэтым самым ён, паводле ягоных словаў, даў ім магчымасьць пераканацца, якая «мізэрная кучка народу» знаходзіцца на плошчы.

Таксама зьявіліся правакатары, якія нецэнзурнай лаянкай абражаюць жыхароў намётавага лягеру, але міліцыя на гэта ніяк не рэагуе.

Усе ў лягеры чакаюць прыезду Аляксандра Мілінкевіча. Міліцыянты па-ранейшаму абшукваюць торбы, і ўсё-ткі нейкім чынам людзям удаецца прыносіць пратэстоўцам харчы.

Паводле праваабаронцаў, за мінулую ноч падчас прыходу й сыходу з пляцу было затрымана каля паўсотні актывістаў. У лягеры папярэджваюць тых, хто едзе адпачываць, каб яны акуратна й абачліва паводзілі сябе ў аўтобусе, бо нават на наступным прыпынку ад Кастрычніцкай плошчы могуць выхапіць проста з аўтобуса й затрымаць — некалькі такіх выпадкаў ужо было.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Я хачу зьвярнуцца да ўсіх хрысьціянаў Беларусі — маліцца за тых, хто на плошчы, маліцца за нашую перамогу. З Богам мы пераможам. Скажам хлусьні — не! Хрысьціяне, яшчэ раз падумайце, не прадавайце Хрыста. Нельга верыць хлусьні.*





серада, 22 сакавіка 2006, 14:25

## НА ПЛОШЧЫ ВЫСТУПІЎ В.СІЎЧЫК

***Паведамляе Ігар Карней:***

Людзей на пляцы паболела. Цяпер іх тут каля 500. Паступова далучаюцца новыя ўдзельнікі пратэсту. На плошчы разьбіта 25 намётаў.

Прадстаўнікам дзяржаўных СМІ доступ у намётавы лягер забаронены.

Асобнай групай стаяць пэнсіянэры — іх каля дваццаці чалавек. Ад гэтай групы некалькі чалавек рэгулярна падыходзяць да ачапленьня, абражаюць удзельнікаў пратэсту й нецэнзурна лаюцца. Міліцыя не рэагуе. Асноўны аб’ект абразаў пэнсіянэраў — бел-чырвона-белыя сьцягі. Калі адзін з удзельнікаў пратэсту папрасіў міліцыянта супакоіць гэтых разьюшаных людзей, міліцыянт адказаў: «У нас у краіне дэмакратыя».

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*ВІКТАР: Мяне вельмі цікавіць, канечне, што людзі стаяць, мерзнуць. Але было б значна лепш, каб мы сабралі подпісы тых, хто галасаваў супраць Лукашэнкі з указаньнем зьвестак пашпарта. Я гатовы нават сам асабіста ўдзельнічаць у гэтым бясплатна, а ня так, як кажа Лукашэнка, што плацяць 20 тысяч. Дык я гатовы сабраць подпісы бясплатна. А стаяць на плошчы будзе менш эфэктыўна. Я думаю, што людзі ўжо не баяцца перасьледу.*

*СПАДАРЫНЯ: Як нізка маральна ўпала Ярмошына! Як яна плюе на народ! Робіць такія фальсыфікацыі: удвая павялічыла працэнты Лукашэнку! Каб у нас у краіне была ўлада, быў Вярхоўны суд, Канстытуцыйны суд, то яна б ужо даўно сядзела там, дзе ёй належыць быць.*

Перад удзельнікамі пратэсту а 13-й гадзіне выступіў Вячаслаў Сіўчык. Ён назваў сёньняшні дзень знакавым.

СІЎЧЫК: Таму што 22 сакавіка 1864 году ў Вільні царскія акупанты зьнішчылі нашага нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага. Ня верце тым людзям, якія кажуць, што незалежнасьць Беларусі дасталася лёгка. За незалежнасьць быў заплачаны вельмі вялікі кошт. А лёс Кастуся Каліноўскага — нават яго аднаго дастаткова дзеля таго, каб беларусы мелі права на сваю дзяржаву й на тое, каб быць нармальным эўрапейскім народам.

званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Спадары карэспандэнты, вы граматныя людзі, прашу, калі ласка, улічваць, што Мілінкевіч заклікае беларусаў на барыкады, то бок, на чарговую каляровую рэвалюцыю. А беларусы добра ведаюць, да якіх вынікаў прывялі каляровыя рэвалюцыі народы тых краінаў, дзе яны прайшлі, — Грузіі, Латвіі, Украіны, Кіргізіі. Таму беларусы ня хочуць заходняй прымусовай дэмакратыі. Беларусы выбралі тое, што падабаецца народу. Я прашу вас: паважайце нас, беларускі народ, не разьдзімайце муху да памераў слана. На плошчы дзьве сотні людзей, а вы паведамляеце, што там 5—10 тысяч.*

*СПАДАРЫНЯ, Магілёў: Лічу, што выбары былі сфальсыфікаваныя. Лукашэнка адабраў мінімум 25% у Мілінкевіча й амаль столькі ж у Казуліна. Такога прэзыдэнта нам ня трэба! Я галасавала за Мілінкевіча. І вельмі шкада тую моладзь, якая цяпер стаіць на плошчы. Няўжо няма старэйшых мужчынаў, якія б маглі падтрымаць гэтую моладзь? Я ўжо не магу спаць тры ночы. Нейкі жах адбываецца! Як гэта можна кінуць моладзь без харчоў, без вады на плошчы на гэтай! Ганьба Лукашэнку! Гнаць яго трэба з гэтага прэзыдэнцтва.*





серада, 22 сакавіка 2006, 15:08

## А 14-Й ГАДЗІНЕ НА ПЛОШЧЫ ЗЬЯВІЎСЯ А.МІЛІНКЕВІЧ

***Паведамляе Ігар Карней:***

А.Мілінкевіч папрасіў прабачэньня ва ўдзельнікаў пратэсту за тое, што не знаходзіцца ўвесь час у намётавым лягеры — удзень ад яго патрабуецца й іншая праца. Ён павіншаваў з днём нараджэньня аднаго з ініцыятараў стварэньня намётавага лягеру Алеся Мазура — лідэра руху супраціву «Хопіць».

МІЛІНКЕВІЧ: Мы вельмі хацелі б вывесьці 25 сакавіка як мага больш людзей. Але я ня фокусьнік, я не факір. Гэта залежыць ад стану душы людзей. Калі яны адчуюць, што гэта момант, калі вельмі важна выйсьці ўсім, — мы будзем іх пераконваць. Таму што 25-га важна прадэманстраваць нашу салідарнасьць, тое, што мы не рабы, што мы можам пастаяць за сябе. Калі грамадзтва сасьпела для гэтага й выйдзе, — я буду шчасьлівы.

У гэтыя хвіліны адбываецца нарада Мілінкевіча са штабам намётавага лягеру.

Зьбітаму спэцназам Міхалу Аўдзееву пасьля агляду лекары параілі ляжаць дома, але ён вярнуўся на Кастрычніцкі пляц.

званкі на «Свабоду»

*СПАДАРЫНЯ: Я ня веру, што ў Беларусі ў нас 83% прыдуркаватых. Ну, ніяк ня ўкладваецца ў галаву. За Лукашэнку галасаваць можа ну зусім дрымучы чалавек, непісьменны, і злачынца, які замараны дзе-небудзь. Нармальны чалавек за яго галасаваць ня будзе. А ў тэлевізары й на радыё ў нас сядзіць моська! Як ні ўключыш, ён усё кажа, што й Буш дрэнны, і Блэр дрэнны, і той дрэнны, толькі Фідэль і Хусэйн добрыя.*

серада, 22 сакавіка 2006, 17:18

## УЛАДЫ СПРАБУЮЦЬ ПРЫБРАЦЬ НАМЁТАВЫ ЛЯГЕР?

***Паведамляе Ігар Карней:***

А 15-й гадзіне на плошчу ў суправаджэньні спэцназаўцаў прыйшлі тры супрацоўнікі «Водаканалу». Яны заявілі, што вада залівае мэтро й што ім трэба знайсьці й праверыць адпаведны люк.

Спачатку ачапленьне лягеру не прапусьціла спэцназаўцаў. Пасьля яны ўсё ж прайшлі. Люк знайшлі пад самым апошнім намётам, папярэдне абшукаўшы ўсе астатнія. Цяпер да лягеру падагналі трактар-экскаватар.

з в а н к і   н а   « С в а б о д у »

*СПАДАР, Слуцак: Выбары — гэта нават не падтасоўка й фальсыфікацыя, гэта злачынства супраць свайго народу. І я ўпэўнены, што ўжо вельмі хутка злачынцы, якія ўзначальвалі ўчастковыя выбарчыя камісіі, адкажуць за гэта. Мы ўсе ведаем іхныя прозьвішчы. На выбары нас ганялі як статак бараноў, нават успамінаць сорамна й агідна. Але зразумейце правільна, што за кожным з нас — сям’я, праца, а нас запалохвалі.*

*СПАДАР: Спадар Лукашук! Парайце свайму сябру Бушу й сябрам з Кангрэсу, хай яны займаюцца дэманстрацыямі пратэсту, якія праходзяць у Амэрыцы, а ня лезуць у справы Беларусі. Парайце французам, каб яны таксама ня лезьлі ў Беларусь, а разабраліся са студэнтамі сваімі. Парайце спадарыні канцлеру Германіі, каб ня лезла ў Беларусь, а разабралася з тымі, каму павялічвалі гадзіны працы. Парайце свайму сябру Качынскаму ў Польшчы, таксама хай ня лезе ў Беларусь, а разьбіраецца зь бядотным становішчам мэдыкаў, якія бастуюць ужо. А то яны лезуць у Беларусь. Мы самі разьбярэмся бязь іх. Навошта сунуць сваё рыла ў наш агарод?*





## ОНЛАЙН-РЭПАРТАЖ З ПЛОШЧЫ

### 18:30

Цяпер сабралася больш за 1000 чалавек. Жыхары намётавага лягеру рыхтуюцца да мітынгу, у якім возьме ўдзел А.Мілінкевіч. Як паведаміў камэндант лягеру Алесь Мазур, у адной з кватэраў у Менску заблякавалі сяброў руху «Хопіць», які быў «маторам» пратэсту. Прынамсі, заблякаваны ў кватэры адзін з актывістаў руху «Хопіць» Сяргей Салаш.

На плошчы трымаецца вялікая расьцяжка — «Плошча Кастуся Каліноўскага». Удзельнікі мітынгу падтрымалі прапанову пісьменьніка Ўладзімера Арлова перайменаваць плошчу.

з в а н к і   н а   « С в а б о д у »

*АНДРУСЬ, Горкі: Яшчэ ў мінулую пятніцу па ўкраінскім тэлебачаньні спадар Жырыноўскі ў простым этэры зрабіў заяву, што толькі Масква кіруе выбарамі ў Беларусі, а ніякі не народ. І калі Масква вырашыла, што будзе Лукашэнка прэзыдэнтам, так яно й будзе. А калі б Крэмль меркаваў інакш, то ўжо 19 сакавіка палова Менску была б у крыві, а Лукашэнка быў бы забіты. Вось такую заяву зрабіў спадар Жырыноўскі. Мяркуйце самі, сябры.*

*СПАДАР: У мяне ёсьць прапанова правесьці антывыбары. Трэба ўсім, хто галасаваў супраць Лукашэнкі, за Мілінкевіча альбо Казуліна, тканіну блакітнага колеру вешаць на платы, на дрэвы, то бок, па ўсёй Беларусі раскруціць гэтую акцыю. Бо нас вельмі шмат. А тое, што кажуць СМІ, што адзінкі за апазыцыю, то хай усе ўбачаць. Яны ў душу нашую ня ўлезуць. Яны могуць, як Вайтовіч сказаў, за горла ўзяць, але ў душу ня ўлезуць.*

**19:00**

Людзі ідуць і ідуць. Цяпер ёсьць дакладна 3—4 тысячы. Актыўна сыгналяць машыны, якія вітаюць мітынгоўцаў, хаця за гэта іх штрафуюць даішнікі. Пачатак мітынгу адкладаецца, але на плошчу ўжо едзе А.Мілінкевіч.

Паболела намётаў, іх ужо каля 40. Людзі слухаюць песьні ўкраінскай групы «Воплі Відаплясава».

На ноч прагноз — 7—9 градусаў марозу.

**19:30**

Сабралася больш за 4 тысячы чалавек. Усе чакаюць прыезду Мілінкевіча. Цяпер у Менску вельмі халодна — халадней, чым было ўдзень. Удзельнікі акцыі кажуць, што пасьля таго, як сьцямнела, стала лягчэй дастаўляць у намётавы лягер ежу, напоі й цёплае адзеньне.

Намётавы лягер упрыгожаны партрэтам Кастуся Каліноўскага й плякатам «Плошча Каліноўскага».

з в а н к і н а « С в а б о д у »

*СПАДАРЫНЯ: Дарагая «Свабода»! Хочацца падзяліць Беларусь, каб у адной жылі такія, як Мілінкевіч, Казулін і тыя, што выйшлі на плошчу, а ў другой — Лукашэнка, Гайдукевіч, Ярмошына й гэтак далей.*

*СПАДАР: Як вам ня сорамна, спадары! Куды вы дзяцей ведзяце! Мы ж вас страляць будзем! Я пайшоў у войска, мне было 15 гадоў, каб радзіму абараняць! А вы лезеце, Мілінкевічы гэтыя, Казуліны! Гэты Калякін, я ж яго ведаю як камуніста былога! Мы вас будзем страляць! Мы будзем патрабаваць ад Лукашэнкі, мы яго выбралі, і мы патрабуем, каб ён прыняў не памілаваньне, а рэпрэсію — пасадзіць усіх у турму пад сьледзтва, а там будзем разьбірацца!*





**20:00**

На плошчы выступіў А.Мілінкевіч. Ён паведаміў, што заходнія краіны складаюць сьпіс беларускіх чыноўнікаў на сотні й тысячы чалавек, якія перасьледавалі, судзілі й звальнялі людзей. Ім будзе забаронены ўезд у заходнія краіны. «Хай яны сядзяць у сваёй турме», — сказаў Мілінкевіч. Паводле яго, дэмакратычная кааліцыя распрацоўвае пляны, як дапамагчы затрыманым падчас акцыяў пратэсту. Днямі ў Варшаве адбудзецца нарада рэктараў польскіх унівэрсытэтаў — пацярпелым і звольненым студэнтам будзе прапанавана працягваць бясплатна навучаньне ў польскіх унівэрсытэтах.

На плошчы Андрэй Хадановіч чытаў свае вершы. Цяпер выступае Вячаслаў Сіўчык. Тут знаходзіцца 5—6 тысяч чалавек.

з в а н к і н а « С в а б о д у »

*ІГАР ПАСНОЎ, лекар зь Віцебску: Паважаны спадар Мілінкевіч! Хацелася б, каб вы згадалі, што ў вас вельмі паважаная маці, настаўніца, заслужаная настаўніца Беларусі. Вы робіце ўражаньне прыстойнага чалавека. Пра якія фальсыфікацыі можа ісьці размова? Я працую ў дзьвюх школах лекарам, на гэтых участках знаходзяцца тыя самыя людзі, мае калегі, простыя настаўнікі, работнікі школы, і яны ўсе лічылі, што выбары праходзілі сумленна, людзі галасавалі сумленна. Навошта ўводзіць людзей у зман? Адумайцеся, паважаны спадар Мілінкевіч! Ня ўдзельнічайце ў гэтай хлусьні!*

*СПАДАР: Да якога часу будуць цярпець такіх назіральнікаў, як Рушайла? Што ні выбары — у яго ўсё добра! У яго што, вочы завязаныя?*

*СПАДАР: Хачу прапанаваць усім кіроўцам аўтамашынаў, калі яны не задаволеныя станам рэчаў у краіне, проста павесьце на антэну свайго аўто сінюю стужку. Так мы пазнаем, што нас многа.*

**20:30**

На плошчы працягваецца мітынг, тут прыкладна 5 тысяч чалавек, закончыў выступ А.Мілінкевіч. Ён сказаў, што рэпрэсіі супраць моладзі, разьвязаныя ўладамі, не прынясуць уладам плёну. У Польшчы адбудзецца нарада рэктараў польскіх унівэрсытэтаў, рэпрэсаваным беларускім студэнтам будзе прапанавана бясплатнае навучаньне ў ВНУ Польшчы й іншых краінах Эўразьвязу.

Спадар Сіўчык у сваім выступе заклікаў моладзь гуртавацца, запрашаць сваіх родных і знаёмых прыходзіць на плошчу.

Тацяна Ваніна зачытала сьпіс з 50 чалавек, якія былі затрыманыя й асуджаныя на працягу сёньняшняга дня.

**21:00**

Мітынг скончыўся. Гучыць музыка. А.Мілінкевіч зьехаў з плошчы, але абяцаў цягам ночы некалькі разоў вярнуцца.

На плошчы зьяўляюцца новыя твары. Замест тых, каго кінулі за краты, прыходзяць новыя людзі. Напачатку тут было вельмі шмат моладзі, але сёньня тут відаць больш пажылых людзей, пэнсіянэраў, якія прыйшлі падтрымаць мітынгоўцаў.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Хацелася б сказаць вялікі дзякуй Мілінкевічу за тое, што ён ёсьць. Бо гэта тое, чаго ў нас сапраўды не было апошнія дванаццаць гадоў. У нас цяпер ёсьць лідэр, і я думаю, што гэта для ўсёй краіны вялікая справа. І ня трэба жывіць вялікіх ілюзіяў наконт Эўропы. Мы ім не патрэбныя.*





серада, 22 сакавіка 2006, 21:42

## ГАЛАСЫ ЛЮДЗЕЙ З ПЛОШЧЫ

**На Кастрычніцкі пляц удзень 22 сакавіка прыходзіла шмат людзей. Адны — падтрымаць удзельнікаў акцыі пратэсту; другія — наадварот, выказаць сваю нязгоду. Некаторыя прыходзілі зь дзецьмі.**

***Галіна Абакунчык, Менск***

— Вы прыйшлі сюды са сваім сынам?

СПАДАР: Так. Мы хадзілі ў аптэку й прыйшлі паглядзець, што тут адбываецца. Вельмі добра, што ніхто не разганяе, што людзі могуць выказацца.

— Ці падтрымліваеце людзей, якія тут на плошчы? І як Вы ставіцеся да акцыі?

СПАДАРЫНЯ СТАЛАГА ВЕКУ: Мне не падабаецца. БТ праўду паказвае: вось гэтая кучка адмарозкаў ганьбіць мой горад і маю зямлю, топчуць яе сваімі бруднымі нагамі!

СПАДАР СТАЛАГА ВЕКУ: Працаваць трэба, здаровыя мужыкі!

ІНШАЯ СПАДАРЫНЯ: А дзе «Народная Воля», дзе іншыя газэты?

СПАДАР: Замаўчыце, жукі…

— Як ставіцеся да таго, што адбываецца?

СПАДАРЫНЯ СТАЛАГА ВЕКУ: Усё вельмі добра, тут сьвята. А гэта — старыя, якія выжылі з розуму. Яны сфармавалі свае погляды пры Сталіну. Акрамя таго, яны глядзяць толькі БТ.

— Маладыя людзі, якія вашыя настрої?

ЮНАЧКА: Чым больш стаім, тым больш расьце спадзяваньне, што нешта адбудзецца добрае.

— Тут шмат пажылых і вельмі агрэсіўных людзей. Як складваюцца вашыя дачыненьні?

ЮНАЧКА: Мы стараемся не зьвяртаць увагі, бо гэтыя людзі гатовыя нават бойку разьвязаць, а нам яна не патрэбная.

— Які настрой?

ЮНАК: Я ўжо ня спаў тры ночы, але настрой вельмі добры.

**22:00**

На плошчу прыйшоў Лявон Вольскі. Ён паведаміў, што напісаў адмысловую песьню, якую прысьвяціў удзельнікам акцыі. Цяпер народ разам зь Лявонам развучвае гэтую песьню.

Міліцыя пакуль паводзіць сябе карэктна, але быў невялікі інцыдэнт: міліцыянты спрабавалі сагнаць людзей з прыступак Палацу прафсаюзаў. Цяпер на плошчы знаходзіцца каля 3 тысяч. Зьявілася інфармацыя пра новыя затрыманьні на падыходзе да плошчы. Чатыры чалавекі з намётамі й спальнікамі былі затрыманыя некалькі хвілінаў таму. Але, нягледзячы на міліцэйскі кардон, за гэты дзень тут зьявіліся некалькі новых намётаў.

з в а н к і н а « С в а б о д у »

*СПАДАР: Я просты рускі хлопец, і я ўдзячны гэтай краіне й гэтаму народу за тое, што я тут жыву, і ён даў мне магчымасьць працаваць спакойна. Але мне крыўдна за Беларусь, за беларускі народ, за тое, што ён баіцца альбо ня хоча адстаяць сваю свабоду.*





**22:30**

Цяпер ідзе канцэрт. Надвор'е халоднае, і натоўп паціху меншае. Людзі сыходзяць дахаты. Але сёньня людзей на плошчы больш, чым учора на гэтую гадзіну.

На Акрэсьціна катэгарычна адмаўляюцца браць людзей, бо ізалятар перапоўнены. Затрыманых ля Кастрычніцкай плошчы завозяць у пастарунак у Навінкі.

Сьведкі кажуць, што каля Дому афіцэру бачылі Зьмітра Паўлічэнку.

Каналізацыйная шахта, якая ўжывалася як прыбіральня, была заблякаваная. Цяпер для гэтых мэтаў зьявіліся вёдры. Улады адмовіліся паставіць біяпрыбіральні.

Адыходзіць з плошчы небясьпечна, бо ёсьць рызыка затрыманьня.

з в а н к і н а « С в а б о д у »

*СПАДАР, Віцебск: Зразумейце, што нашыя тэлефоны праслухоўваюцца, але ж мы не баімся гэтага страху, хай нават у турме падохнем. Але ж ня будуць яны нас, сталых людзей, саджаць у турмы, хаця яны могуць. Гэты ж узурпатар пажыцьцёва будзе прэзыдэнтам, пакуль сто тон золата ня будзе ў Беларусі; ён будзе прэзыдэнтам да таго часу, пакуль яго народ папросіць. Гэта ж абсурд! Увесь дзень толькі ён і яго падхлебнікі на тэлебачаньні, а Мілінкевіча й ніякай апазыцыі няма. Хай Мілінкевіч і іншыя будуць моцныя на плошчы! Хай не баяцца гэтых катаў бальшавіцкіх!*

*СПАДАР: Я чалавек сельскі, але мне ўдалося пабываць на мітынгу 19 сакавіка. І хачу сказаць: тое, што робяць нашыя ўлады — гэта прынамсі нізка й подла ў адносінах да свайго народу. У мяне склалася ўражаньне, што яны лічаць тых, хто прыйшоў на плошчу, нейкімі марсіянамі, а не сваімі людзьмі.*

**23:00**

Цяпер тут знаходзіцца 1,5—2 тысячы чалавек. Яны ўдзельнічаюць у «танцах на лёдзе» на катку й каля катка пад гукі «Крамбамбулі». Інтэрнэт-кавярня «Саюз онлайн», што тут непадалёку, зачыненая да пятніцы. Некаторыя кажуць: гэта азначае, што ўлады будуць цярпець менавіта да пятніцы.

Некаторыя сьпяць у намётах, захутаўшыся, хаця й вельмі халодна. Людзі ўсё ж праносяць сюды ежу, цёплую вопратку. Нядаўна бабуля прынесла дзьве коўдры. Пры гэтым людзі выяўляюць вынаходлівасьць, бо за пранос рэчаў на плошчу можна патрапіць «на суткі».

званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Сёньня пабываў на Кастрычніцкай плошчы. Шкада, што мяне там не было ў нядзелю. Але сёньня я бачыў гэтыя маладыя прыгожыя чыстыя твары, я бачыў гэтае сьвятло ў вачах. Хаця нас было няшмат, усяго толькі некалькі тысяч, я веру, што за гэтай моладзьдзю, за гэтымі людзьмі будучыня нашай краіны! Можа, сёньня мы не пераможам, але я веру, што празь пяць ці праз дваццаць гадоў перамога абавязкова будзе за намі! Пакуль аб гэтым толькі мару, але я веру, што сонца выйдзе з-за хмар!*

*СПАДАРЫНЯ: Я фізычна ня ў стане прыйсьці на майдан і патрабаваць ад улады другога туру выбараў. І хачу праз радыё выказаць свае погляды. Я не хачу такога прэзыдэнта, які загнаў нашую краіну ў ізаляцыю й якога не прымае ўвесь цывілізаваны сьвет. Я не хачу такога прэзыдэнта, які так не паважае беларускі народ, якому хлусіць увесь час. Мне сорамна за такога прэзыдэнта. А я хачу, каб у нас быў прэзыдэнт, якім бы я ганарылася.*





**23:30**

На плошчы застаецца больш за тысячу чалавек. Мы чуем шмат песьняў, выступоўцаў.

АМАП сышоў, але замест яго прыйшлі людзі ў скураных куртках, яны атачылі натоўп. Гэта не байцы спэцназу міліцыі, гэта іншае злучэньне. Яны стаяць і сочаць за ўсім, што адбываецца ў натоўпе.

Каля Палацу прафсаюзаў зьявіліся аўтобусы з танаваным шклом. Сытуацыя напружаная.

Журналісты застаюцца на плошчы. Тут ёсьць камэры Першага расейскага каналу, НТВ. Шэрагу замежных журналістаў, якія мелі акрэдытацыю да канца месяца, акрэдытацыя была скарочаная да 24 сакавіка. Некаторыя журналісты, напрыклад, брытанскія, сёньня ўвечары былі вымушаныя пакінуць Беларусь. Шмат хто выказвае падзяку журналістам. Людзі разумеюць, што пры тэлекамэрах верагоднасьць разгону значна меншая.

званкі на «Свабоду»

*ВАЛЕР ШАЎЧЭНКА, Наваполацак: Кастрычніцкая плошча — гэта мірны пляцдарм дэмакратыі ў Беларусі. Але зьдзіўляе тое, што няма пратэстаў супраць незаконна затрыманых грамадзянаў, спыненьня іх каля плошчы, абшукваньня й забіраньня ежы й рэчаў, супраць жаданьня ўлады цынічна й жорстка задушыць пратэсты празь сьцюжу й адсутнасьць ежы.*

*СПАДАР: У мяне прапанова. Я думаю, што ёсьць толькі адно выйсьце: патрэбна сабраць усе галасы, хто галасаваў супраць Лукашэнкі, і падаць іх у міжнародны суд. Толькі тады будзе нейкі рух зь месца, а так гэта проста атрымоўваецца гаварыльня.*

## 00:30

На гэты момант у намётавым лягеры прыкладна 500 чалавек. Людзі, як звычайна, стаяць вакол намётаў. Сёньняшняя ноч трохі цяплейшая за мінулую. У намётавым лягеры гараць сьвечкі.

Міліцыя й асобы ў цывільным стаяць на выхадах з плошчы.

## 01:00

Удзельнікі акцыі пратэсту адагналі правакатара, які прыйшоў з трыма бутэлькамі шампанскага й прапаноўваў яго мітынгоўцам. Мітынгоўцы скандавалі: «П'янству — бой». Пазьней яны заклікалі міліцыянтаў прагнаць правакатара, і тыя сапраўды ўмяшаліся, але перад гэтым некаторыя камэры пасьпелі зьняць эпізод з шампанскім, якое правакатар піў з рыльца. Раней БТ паведамляла, што жыхары намётаў на плошчы расьпіваюць шампанскае, піва й каньяк. Дэманстранты абураныя хлусьнёй, якую перадае дзяржаўнае тэлебачаньне.

### званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Сёньня ў 23:40 па польскім канале карэспандэнт у простым этэры перадаў з Кастрычніцкай плошчы такі факт. Звычайныя простыя менчукі рознага ўзросту й полу несьлі бутэрброды, каву, тэрмасы й іншае. Дык гэтых людзей схапілі й пакідалі ў аўтобусы. Вы толькі падумайце, гэтых людзей завязуць, заўтра асудзяць на 10—15 сутак! Яны ня ўдзельнічалі ў акцыі, але абвесьцяць іх хуліганамі, дома іх ня будзе, сем'і будуць хвалявацца, праз 10—15 сутак яны выйдуць на працу, іх могуць звольніць. Вось такія маленькія чалавечыя трагедыі. Мала таго, яны застануцца невядомымі… І яшчэ ён перадаў, што ўчора людзей у чорным было больш нават за гэтых хлопцаў.*





## 02:00

За апошнюю гадзіну да ўдзельнікаў акцыі пратэсту тры разы падыходзілі нецьвярозыя маладыя людзі, якія праваквалі мітынгоўцаў: спрачаліся, прапаноўвалі выпіць сьпіртнога. Міліцыянты й байцы спэцназу, якія ўвесь час знаходзяцца непадалёк намётавага лягеру, на гэтыя дзеяньні ніяк не рэагавалі, а ў адным выпадку прыязна размаўлялі зь нецьвярозымі маладымі людзьмі.

Цяпер удзельнікі акцыі слухаюць беларускія гіты, танчаць, але кіраўніцтва лягеру заклікала іх быць больш пільнымі й сачыць, каб ніхто з пабочных асобаў ня мог перасекчы жывога кола вакол намётавага лягеру.

### званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Хачу праз Радыё Свабода зьвярнуцца да двух любячых і клапатлівых маці, якімі іх паказвае беларускае тэлебачаньне. Вольга Абрамава, сёньня Вы давалі камэнтар Радыё Свабода. У гэтым камэнтары Вы сказалі, што вынік выбараў яўны й законны, а тыя людзі, што зьбіраюцца на плошчы, хочуць дамагчыся палітычнага прытулку. Дык вось, гэтыя людзі — гэта сумленьне нашай нацыі, гэта самыя адважныя з нас, а нас мільёны. Сорамна проста за Вас! Цяпер Натальля Пяткевіч. Натальля Ўладзімераўна Пяткевіч, канечне, ня слухае Радыё Свабода, яна занятая вельмі важнымі дзяржаўнымі справамі, ёй няма калі. Затое ёй рэгулярна, я ўпэўнены, прыносяць раздрукоўкі, таму яна таксама павінна быць у курсе. Дык вось, ведайце: сотні тысяч любячых і клапатлівых маці Беларусі ўжо трэцюю ноч ходзяць па ўсіх райаддзелах Беларусі, шукаючы сваіх сыноў, зьбітых і пакалечаных. Яны ня ведаюць, дзе яны, што зь імі. Гэта ў вашай, дакладней, нашай, стабільнай Беларусі.*

**3:00**

Цягам папярэдніх гадзінаў да жыхароў намётаў падышлі шасьцёра п’яных правакатараў. Яны паводзілі сябе падазрона, аднак міліцыянты ставіліся да іх паблажліва. Толькі адзін зь іх быў затрыманы пасьля таго, як ён ледзь не разьбіў фатакамэру журналісту.

Міліцыя нэрвова рэагуе, калі з машынаў, што праяжджаюць, людзі вітаюць удзельнікаў акцыі. Супрацоўнік ДАІ паведамляе нумары гэтых машынаў наступным пастам ДАІ, пасьля чаго машыны затрымліваюць.

**3:30**

Сёньняшняя ноч на плошчы поўная правакацыяў. Да намётавага лягеру пастаянна падыходзяць п’яныя, зьяўляюцца асобы, якія паводзяць сябе дзіўна і ўвесь час чапляюцца да ўдзельнікаў акцыі пратэсту.

Час ад часу таксама пад’яжджаюць здымачныя групы беларускіх тэлеканалаў. Некалькі хвілінаў таму група, якая прадставілася супрацоўнікамі БТ, прыехала здымаць лягер. Яны кажуць, што хацелі даведацца, чаму ўдзельнікі акцыі стаяць на плошчы. Аднак жыхары намётавага лягеру не пажадалі кантактаваць зь імі, сказаўшы, што БТ пастаянна падае пра ўдзельнікаў акцыі няпраўдзівыя зьвесткі й палівае іх брудам.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Апазыцыяй вядзецца абвінавачаньне ўладаў, што выбары былі несправядлівыя й сфальсыфікаваныя, і прыводзяцца некаторыя пабочныя доказы. Але галоўнага доказу не прыводзіцца! А галоўнае, што нідзе не былі дапушчаныя назіральнікамі й членамі камісіяў прадстаўнікі ад апазыцыі! Вось гэта галоўны козыр абвінавачаньня ўладаў!*





**5:00**

Акцыя працягваецца, некалькі соцень удзельнікаў ня сьпяць, рухаюцца, размахваюць бел-чырвона-белымі сьцягамі, а таксама сьцягамі Эўразьвязу, Расеі і Украіны. Гучыць музыка. У намётавым лягеры зьявіліся плякаты з надпісам «За Беларусь без Лукашэнкі».

Міліцыя не прапускае людзей на плошчу: тая заблякаваная міліцэйскімі патрулямі, прапускаюць толькі журналістаў.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР, Менск: Ёсьць такое пажаданьне, каб аб’ектыўна вырашыць спрэчку, без усялякіх абвінавачаньняў аднаго боку й другога. Хай апазыцыя, Мілінкевіч, Казулін, прапануюць Лукашэнку, каб ён даў магчымасьць, доступ да пераліку бюлетэняў на выбарах прэзыдэнта. Бюлетэні ж павінны захоўвацца ў скрынях, і ёсьць магчымасьць правесьці пералік у прысутнасьці прадстаўнікоў апазыцыі. Можна нават зрабіць не агульны пералік, а выбарачна, і ня тых, на якія ўкажуць улады.*

*ВІКТАР: Я не хадзіў і не пайду на Кастрычніцкую плошчу ў Менску. Вельмі спачуваю тым, хто на яе прыйшоў ці пойдзе — сур’ёзна можа пацярпець за праўду, за сваё канстытуцыйнае права, якое забраў Лукашэнка й ягонае атачэньне. Лукашэнка прайграў ушчэнт выбары, але выглядае пераможцам, бо на ягоным баку выступае прэзыдэнт Пуцін і большасьць палітыкаў з Расеі, для якіх законы не пісаныя. Я зарабляю невялікія грошы, магу неяк існаваць, а калі прыйду на плошчу, то змагу аказацца бяз працы й бяз сродкаў на існаваньне. Я зусім не зьдзіўлюся б, калі б за Лукашэнку прагаласавала больш за 100% па зьвестках Цэнтравыбаркаму. І іх бы падтрымалі непасрэдна прэзыдэнт Пуцін і іншыя палітыкі з Расеі.*

чацьвер, 23 сакавіка 2006, 5:24

## Э.ЗАЙКОЎСКІ: МАЛАДЫЯ МЕНШ ЖЫЛІ Ў АФІЦЫЙНАЙ ХЛУСЬНІ

**Гісторык Эдвард Зайкоўскі нядаўна цяжка хварэў. Але калі на Кастрычніцкай плошчы зьявіліся намёты, ён махнуў рукой на лекаваньне й прыйшоў падтрымаць маладых людзей. У іх ён бачыць годную зьмену свайму пакаленьню.**

***Аляксандар Уліцёнак, Менск***

— Што Вас падштурхнула на плошчу? Мне здаецца, у Вас і цяпер хворы голас...

ЗАЙКОЎСКІ: Так, трохі прастуджаны... Прыйшоў, бо абрыдла афіцыйная хлусьня на ўсіх узроўнях, хамства ўладаў абрыдла.

— Вашыя сябры, таварышы — што іх спыняе: праца, страх за яе, абавязак перад сям'ёй?

ЗАЙКОЎСКІ: Спыняе ў пэўнай ступені страх, зьвязаны з кантрактнай сыстэмай, а таксама традыцыйныя беларускія заганы — імкненьне адседзецца, заняцца нейкімі асабістымі дробнымі справамі...

— А маладыя, якія там, у намётах: ім што — няма чаго губляць, і таму яны выйшлі?

ЗАЙКОЎСКІ: Ім таксама пагражаюць: рэпрэсіямі, выключэньнем з ВНУ й гэтак далей. Але маладыя менш жылі ў афіцыйнай хлусьні.

— Як гісторык, ці бачыце Вы месца ў гісторыі для гэтых маладых людзей?

ЗАЙКОЎСКІ: Несумненна!





**6:00**

Раніца, як і папярэдняя, даволі марозная. Усю ноч на плошчы адбывалася дыскатэка — гэта дазваляла моладзі крыху танчыць, каб сагрэцца. Цяпер тут каля 400 удзельнікаў акцыі пратэсту.

Зьявіліся новыя намёты й людзі. Гэта нават не апазыцыянэры, а звычайная моладзь, супрацоўнікі фірмаў, дзяржустановаў — удзень працуюць, уначы стаяць тут. Адзін зь іх паведаміў, што прыйшоў на плошчу пасьля таго, як убачыў прапагандысцкі сюжэт Беларускага тэлебачаньня.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Я зьвяртаюся да крывавай «Свабоды»! Учора па тэлебачаньні паказалі дакумэнтальныя стужкі, як амэрыканцы ўрываюцца ў мірныя дамы й забіваюць людзей. Што гэта такое? Крывавая свабода, крывавы фашызм! І цяпер, калі праваліўся фашысцкі путч, які спрабавалі тут учыніць, цяпер, як сабакі, у тым ліку й вы, брэшаце, а ўкусіць ня можаце.*

*СПАДАР: Аляксандар Рыгоравіч! Нешта Вы так слаба, усяго на 20 тысяч рублёў, ацэньваеце працу тых маладых людзей, якія прыйшлі на Кастрычніцкую плошчу. Вы, напэўна, ня ведаеце цаны беларускіх грошай. Дый адкуль Вам ведаць, калі Вы ўжо даўно жывяце пры сьветлым камунізьме й па крамах ня ходзіце. Але нават зацятыя алкашы не пагадзіліся б падстаўляць свае сьпіны пад дубіны Вашых пэрсанальных апрычнікаў за чатыры пляшкі гарэлкі. Калі хочаце нешта сказаць — думайце, бо ўжо столькі глупстваў нагаварылі, пачынаючы ад лёзьненскіх стрэлаў, што ніхто з прыстойных кіраўнікоў дзяржаваў ня хоча з Вамі дачыняцца. А Вы ўсё адно рвецеся да ўлады, хоць фактычна выконваеце ролю не кіраўніка дзяржавы, а простага штурхача ржавага сацыялізму й калгасна-саўгаснага «раю».*

## 6:30

Намётавы лягер абудзіўся, але гэта ільга сказаць, бадай, толькі ўмоўна, бо асноўная частка ягоных насельнікаў сёньня ня спала. Тэмпэратура цягам ночы была мінус 7—8 градусаў, а заснуць у такі холад даволі цяжка.

Цяпер тут стаяць 34 намёты — 4 намёты былі ўсталяваныя ўчора. Дзяўчаты прыбіраюць тэрыторыю, сьмецьце запакоўваецца ў цэляфанавыя мяхі, выносіцца на сьметніцу. Нягледзячы на тое, што перадаюць дзяржаўныя тэлеканалы, быццам тут расьпіваюць сьпіртныя напоі й шмат сьмецьця, гэта ня так: у лягеры дзейнічае «сухі закон», а сьмецьце рэгулярна прыбіраецца.

Дзейнічае мэдычны цэнтар, удзельнікі зьвяртаюцца па лекі ад кашлю й тэмпэратуры — з-за марозу некаторыя пратэстоўцы прастуджаныя.

### з в а н к і н а « С в а б о д у »

*СПАДАР: Я хачу сказаць па выбарах. Гэта было ў мінулым годзе. Ярмошынай заяўлена: больш за 80% і адзін тур. Усё робіцца паводле сцэнару Савецкага Саюзу — важна ня тое, як хто галасуе, а як лічаць галасы.*

*СПАДАРЫНЯ: Лукашэнка на прэсавай канфэрэнцыі сказаў, што тых хлопцаў, якіх арыштоўваюць, не ў турму садзяць, а садзяць у гатэль. Час ужо ў той гатэль Лукашэнку самога пасадзіць — і за хлусьню, і за ўсё.*

*СПАДАР: У мяне зварот да Лукашэнкі. Аляксандар Рыгоравіч! На гэты раз ты з Пуціным беларускі народ не падманеш! Выбары прэзыдэнта былі сфабрыкаваныя! Гэта зразумеў нават малаадукаваны грамадзянін, гэта зразумеў увесь цывілізаваны сьвет. Трымаць адказ за ўчыненае табой беззаконьне на працягу дванаццаці гадоў табе абавязкова прыйдзецца. У цябе выйсьце адно — гэта згадзіцца правесьці выбары прэзыдэнта ў ліпені безь цябе.*





## 7:30

На Кастрычніцкай плошчы зьявіліся першыя мінакі, якія праходзілі ці праяжджалі побач з намётавым лягерам. Людзі рэагуюць па-рознаму: некаторыя зычліва ставяцца да маладых людзей, махаюць рукамі, фатаграфуюць, выказваюць ім знакі падтрымкі. Некаторыя насьцярожана глядзяць з вокнаў аўтобусаў, некаторыя, як учора, падыходзяць і абураюцца: незразумела, чаго моладзь хоча, якой свабоды й гэтак далей. То бок, людзі розныя й рэагуюць па-рознаму, але гэта натуральна. Нядаўна тут на вялікім экране паказвалі навіны аднаго зь дзяржаўных тэлеканалаў — там давалі слова толькі тым мінакам, якія абураюцца дзеяньнямі маладых людзей.

### з в а н к і н а « С в а б о д у »

*АНАТОЛЬ, Бярозаўскі раён: Прывітаньне. 19 сакавіка я быў са сваімі аднадумцамі зь Бярозы на Кастрычніцкай плошчы. Дзясяткі тысяч людзей, нягледзячы на халоднае надвор'е, на сьнежную буру, якая нечакана ўзьнялася, не сышлі з плошчы. Мітынг доўжыўся далёка за поўнач. Вялікая колькасьць людзей прыехала з розных куткоў Беларусі. На плошчы я чуў, што больш за палову менчукоў не падтрымліваюць Лукашэнку. Дзе ж вы былі 19 сакавіка, дэмакраты з паўтарамільённага Менску?! Падтрымлівалі мітынгоўцаў у цёплых кватэрах, лежачы на канапе? Ці вамі апанаваў страх пасьля прэсавай канфэрэнцыі трох волатаў сілавых структураў? Вось як улада лёгка, без ужываньня сілы выгнала з вас дэмакратычны дух! І зноў мы засталіся ў стойле ня менш як на пяць гадоў. Мы падтрымліваем людзей, якія да сёньняшняга дня знаходзяцца на плошчы.*

*СПАДАРЫНЯ: Вельмі шмат людзей кажуць: яны б перагаласавалі па-іншаму, за Мілінкевіча. Толькі было вельмі мала інфармацыі, шмат хто яго нават ня чуў і ня бачыў.*

чацьвер, 23 сакавіка 2006, 7:00

## Ю.ВІНАГРАДАЎ: ТОЕ, ШТО Я ЧУЎ З РАЦЫЯЎ АМАПАЎЦАЎ — ГЭТА ФАШЫЗМ

**У аўторак увечары на падыходзе да Кастрычніцкага пляцу быў затрыманы дырэктар папулярнай сталічнай кавярні «Лёндан» Юры Вінаградаў, які нес у намётавы гарадок цёплую коўдру. Наша карэспандэнтка Іна Студзінская паспрабавала знайсьці былога воіна-аўганца, а цяпер бізнэсоўца Ю.Вінаградава.**

— Мы знаходзімся ў невялічкай кавярні, дарэчы, вельмі папулярнай. У Менску, трэба з жалем канстатаваць, няшмат такіх прыемных месцаў. Я бачу тут падлучэньне да інтэрнэту, з ноўтбукамі народ сядзіць. Чым прываблівае гэтая кавярня?

СПАДАРЫНЯ: Вельмі падабаецца тут. Таму што сапраўды няшмат такіх месцаў у нашым горадзе.

— А чым падабаецца — атмасфэрай, асартымэнтам, публікай?

ВІНАГРАДАЎ: Тым, што ўчора я быў арыштаваны...

— Ой, а я Вас шукаю. Вы — Юры?

ВІНАГРАДАЎ: Так. Ішоў з коўдрай, бо там дзеці мерзнуць, а амапаўцам у іхных аўтобусах вельмі цёпла. Мяне таксама пасадзілі ў іхны аўтобус.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Лукашэнку Бог памагае: марозам вас цісьне — і ўсё, і ня трэба яму ні разганяць, нічога. А дурныя людзі здароўе згубяць і свабоды той не захочуць. Каму цяпер гэта трэба? Ад добрага лепшага не шукаюць.*





— А чым тлумачылі Ваша затрыманьне?

ВІНАГРАДАЎ: Як звычайна, «абуральным зьнешнім выглядам». Я проста коўдру нес як шалік. Ну а як яе інакш несьці? У пакунку? Бачыў, як бабулек заварочвалі з такімі ж пакункамі, бачыў, як дзяцей заварочвалі. Таму я яе як кашнэ накінуў і пайшоў.

— А колькі Вы праседзелі ў амапаўскім аўтобусе?

ВІНАГРАДАЎ: Я чалавек вопытны, таму нядоўга, хвілінаў сорак. Па-першае, калі мяне затрымалі, я ім дакумэнтаў свах не аддаў. Па-другое, калі мяне затрымалі, вельмі хутка інфармацыя пра гэта зьявілася ў інтэрнэце. Калі б была магчымасьць запісваць амапаўцаў, тое, што я чуў зь іхных рацыяў, каб была магчымасьць перадаць гэта на ўвесь сьвет, — гэта фашызм. Я разумею, што гэта салдаты, якія робяць сваю працу. Яны ня з намі, яны ня супраць нас, але калі ім скажуць «фас»... Сумненьняў у іх я ніякіх не заўважыў...

Гаспадара ўтульнай кавярні «Лёндан», што ў цэнтры Менску, мы выпадкова сустрэлі на ганку. Ён выходзіў разам з наведнікамі й зноў кіраваўся ў бок Кастрычніцкага пляцу.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*НАСТАЎНІЦА: Гаспадар Мілінкевіч! Вы адукаваны чалавек, чаму вам не сказаць дзецям, якіх вы студзіце на холадзе дый ім нічога не абяцаеце, а ўсё толькі сваім дзецям, унукам і праўнукам. А гэтыя дзеці што будуць рабіць? Бяз працы, застудзяцца, без навукі. Вы думаеце толькі ўсё зачыніць, адукацыйныя ўсе ўстановы прадаць. А куды гэтым людзям дзявацца бяз працы, без навукі? У людзей таксама свае дзеці, кожнаму шкада іх. А вам шкада толькі сваіх. А чаму? Не трымайце іх на холадзе, няхай ідуць вучыцца, працаваць, пакуль працы хапае, за працу плацяць, а тады ня будзе працы ніякай, грошай ня будзе, ня будзе грошай — ня будзе й жыцьця.*

чацьвер, 23 сакавіка 2006, 7:05

## АПЫТАНЬНЕ: ЦІ ВАРТА ПЕРАЙМЕНАВАЦЬ КАСТРЫЧНІЦКУЮ ПЛОШЧУ?

**На Кастрычніцкім пляцы гэтымі днямі мітынгоўцы й мінакі актыўна абмяркоўваюць прапанову пісьменьніка й гісторыка Ўладзімера Арлова.**

***Іна Студзінская, Менск***

— Уладзімер Арлоў выступіў з прапановай перайменаваць гэтую плошчу з Кастрычніцкай на плошчу Кастуся Каліноўскага. Як вы да гэтага ставіцеся?

СПАДАР: Я падтрымліваю.

ХЛОПЕЦ: Я таксама station... 

СПАДАР: Плошчы Каліноўскага на дадзены момант у Беларусі няма. А гэта вельмі важная асоба для Беларусі.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Лукашэнка выхваляецца й выдае збор людзей на плошчы на знак пратэсту супраць фальсыфікацыі выбараў як сьведчаньне нейкага жэсту ў бок дэмакратыі. Але гэта ня так, бо вакол удзельнікаў акцыі стаяць і ходзяць супрацоўнікі спэцназу, якія настроеныя варожа, вядуць апэратыўную здымку, каб пакараць людзей потым, у іншым месцы бязь сьведак. Арышты працягваюцца, нагнятаньне страху не спыняецца, як і сілавое ўзьдзеяньне.*

*СПАДАР: У горадзе Маладэчна былі затрыманыя 10 чалавек 20-га чысла за тое, што яны раскідвалі ўлёткі Мілінкевіча.*





ІНШЫ СПАДАР: Я — за тое, каб усё памянялі ў Беларусі, ня толькі плошчу.

ДЗЯДОК: Канечне, мы за. Гэта ж наш нацыянальны герой XIX стагодзьдзя.

БАБУЛЯ: І я таксама згодная, гэта ж наш герой.

МУЖЧЫНА: Трэба, трэба Каліноўскага. Мы ж беларусы!

СПАДАРЫНЯ: Мне вельмі падабаецца, як цяпер яна называецца, — плошча Незалежнасьці.

— Дык гэта ж ня плошча Незалежнасьці, а Кастрычніцкая.

СПАДАРЫНЯ: Усё мы ведаем. Навошта нам нейкі Кастусь?

БАБУЛЯ: Як яна называлася, няхай так і называецца. Якая розьніца? Наша няхай нам і застаецца. Мы ня хочам нічога пераймяноўваць. Я яго ня ведаю, Каліноўскага.

СПАДАР: Падтрымліваем на 100 адсоткаў. Кастусь Каліноўскі — гэта наш герой. А мы — беларусы!

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Ня скажаце, як у гэтыя дні адчуваюць сябе амэрыканскія агрэсары, надзеі якіх ня спраўдзіліся? Іхныя ж грошы пайшлі кату пад хвост. Хто іх падтрымлівае? Па-першае, падлеткі й бяздомныя, якіх накормяць, дадуць выпіць — вось і лямантуюць. Па-другое, некалькі дарослых, якія пэрыядычна зьяўляюцца разгарачыць нямкемцаў, а затым сыходзяць у цёплае месца. Па-трэцяе, сэктанты Яговы, што пайшлі па кватэрах дзеля высьвятленьня, хто ж насамрэч не падтрымлівае правакатараў і здраднікаў. Дарэчы, нейкі падлетак абяцаў сабраць па 20 тысяч рублёў і аддаць дзяржаве. Зрабіце гэта — хоць якая карысьць будзе ад вас. А наагул трэба, каб агрэсары амэрыканскія й Эўразьвязу заплацілі за прыбіраньне сьмецьця пасьля гэтых крыкуноў.*

чацьвер, 23 сакавіка 2006, 8:42

## Т.ВАНІНА: ТУТ ПАДПАРАДКОЎВАЮЦЦА АГУЛЬНАЙ ДУМЦЫ

***Вольга Караткевіч, Прага***

Актывістка Тацяна Ваніна ўжо некалькі дзён знаходзіцца ў лягеры, але спала ў намёце першую ноч.

ВАНІНА: Уражаньні выдатныя, я тут трэцюю ноч — першую й другую спаць было немагчыма, было вельмі халодна, не было спальніка, не было чаго пасьцяліць на падлогу, але мы паціху абжыліся...

— Вы зьбіраецеся заставацца на плошчы?

ВАНІНА: Так. Нашыя палітыкі прымаюць нейкія рашэньні, як доўга мы павінны заставацца на плошчы, але я думаю, што любыя рашэньні, якія будуць прынятыя, яны будуць выкананыя, толькі калі настрой плошчы будзе супадаць зь імі. Тут падпарадкоўваюцца агульнай думцы. Я размаўляла са многімі, і гэта такое дасягненьне, што трэцюю ноч мы ўтрымліваем маленькі лапік зямлі, вольнай зямлі, і сабралася проста цудоўная моладзь, са сьветлымі тварамі, з разумнымі вачыма, з сэрцамі гарачымі, і такі настрой, што яны пакуль што не зьбіраюцца адсюль сыходзіць.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Навошта рабіць выбары, калі Ярмошына другі раз налічыць 100 адсоткаў? А ён сьмяецца ў тэлевізары з гэтага народу, быццам ён пра яго турбуецца. А дзеткі мерзнуць, а маткі плачуць у хатах: як там іхныя дзеці... А Пуцін сьмяецца. Гэтую Ярмошыну трэба патрабаваць, каб яе зьмянілі й пасадзілі. Яна адна лічыць, а я ноч сёньня ня спала, бо ў мяне ў самой дзеці. А яны тамака бядуюць на марозе, сьпяць у намётах.*





чацьвер, 23 сакавіка 2006, 8:47

## А.МІЛІНКЕВІЧ: 25 САКАВІКА ПАКАЖА, НАКОЛЬКІ МЫ ЎПЛЫВАЕМ НА ГРАМАДЗТВА

***Вольга Караткевіч, Прага***

А.Мілінкевіч прыйшоў прывітаць удзельнікаў акцыі пратэсту.

МІЛІНКЕВІЧ: Я сёньня прыйшоў і паведаміў удзельнікам, што вельмі шмат званкоў ад розных людзей. Учора званіў Хавіер Саляна й быў вельмі ўзрушаны тым, што мужныя маладыя людзі ў Беларусі, нягледзячы на такія жорсткія рэпрэсіі, стаяць і патрабуюць свабоды, непрызнаньня вынікаў гэтых псэўдавыбараў. Званіў таксама міністар замежных справаў Літвы. Многа падтрымкі з Эўропы, звоняць з усіх рэгіёнаў. Я лічу, што гэта вельмі важна, таму што Саляна казаў: няпраўда, што Беларусь не чакаюць у Эўропе, як кажа прапаганда. Беларусь чакаюць, але, канечне, не дыктатарскую, а дэмакратычную, маладую, новую, рэфармаваную Беларусь. І гэтыя словы я тут агучыў.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*ТАЦЯНА БАРЭЛЬ: Была ўчора на Кастрычніцкай плошчы. Гавораць пра свабоду Беларусі. Шмат людзей праходзіць міма. Трэба ўкладаць ім у галовы, што парушаецца Канстытуцыя, што ўлада й суд належаць аднаму чалавеку, што тэлебачаньне таксама належыць таму самаму чалавеку (хоць і плацім за яго ўсе мы), што душыцца сумленьне нашай нацыі — пісьменьнікі, што заводы неканкурэнтаздольныя, што памерлі вёскі, што квітнеюць алькагалізм і наркаманія, што вельмі шмат дамоў для пакінутых дзяцей, што моладзі ўсё цяжэй знаходзіць працу дома, што няма свабоднай прэсы, што застой улады — гэта застой ува ўсім, і ніякага прагрэсу — адна стабільнасьць.*

— Беларускае МЗС выклікала паслоў Эўразьвязу, якія наведалі плошчу, і нібыта заявіла пратэст у зьвязку з гэтай акцыяй. Што Вам вядома пра гэта й ці кантактуеце Вы з пасламі эўрапейскіх краінаў у Беларусі?

МІЛІНКЕВІЧ: Так, позна ўвечары ў мяне былі размовы з пасламі Эўразьвязу, таму што на Акрэсьціна тыя людзі, якіх хапаюць тут на плошчы, ня маюць магчымасьці атрымліваць харчаваньне. Усім дазваляюць, а людзям з плошчы — не. Безумоўна, гэта жорсткае парушэньне правоў чалавека. Нават у турме чалавек мае свае правы. І яны яшчэ сёньня будуць займацца гэтым пытаньнем. Я разумею, што рэжым хацеў бы, каб ніхто не заўважыў, што тут абываецца, каб паслы не перадавалі гэтай інфармацыі ў свае краіны, а таксама журналісты, але так ня будзе. Мы падтрымліваем таксама тэлефонныя кантакты з дэмакратычнымі партыямі й лідэрамі ў Расеі. Яны таксама з намі, яны былі тут у дзень выбараў, пасьля выбараў.

— Кіраўніку Вашага штабу Сяргею Калякіну было дрэнна з сэрцам. Дзе ён цяпер і які ягоны стан?

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Мільёны беларусаў традыцыйна супраць Амэрыкі й супраць гэтых усякіх рэвалюцыяў каляровых. І ўсякія вашы нацкоўваньні, правакацыйныя размовы ім — да лямпачкі. Людзі рагочуць з гэтага. Таму тое, што вы робіце, — усё на ўзроўні XIX — пачатку XX стагодзьдзя. Пустое, дзікае, глупотнае ўяўленьне — папросту камэдыя, цырк, апэрэтка ўся гэтая ваша справа. Таму й глядзіць на ўсё гэта кіраўніцтва гораду так: ну, пагаманеце, пастойце — выбар ваш. Надакучыць — сыдзеце. Бо ўсё-ткі былі выбары, сумленныя, справядлівыя. Былі ж усе прадстаўнікі, калі ўскрывалі скрыні й лічылі. Я сам бачыў. Стаялі людзі й бачылі: Лукашэнка — туды, гэты — туды, гэты — сюды. Падлічылі, і ўсё. Якія пытаньні могуць быць?*





МІЛІНКЕВІЧ: Яму прапанавалі легчы ў шпіталь. Я думаю, што гэта ад перагрузкі падчас кампаніі, ён вельмі стомлены. Але сытуацыя трошачкі лепшае, ён не захацеў легчы ў шпіталь і сёньня прыйдзе папрацаваць у штаб.

— Якія пэрспэктывы ў плошчы?

МІЛІНКЕВІЧ: Вельмі цяжка з інфармацыяй, таму што ў нас большая частка актывістаў затрыманая, у турмах, і нават для распаўсюду інфармацыі ўсё менш людзей, кіраўнікі раённых штабоў таксама сядзяць у турме. Але мы спраўляемся з гэтым, працуем у інтэрнэце й з дапамогай газэтаў распаўсюджваем інфармацыю. Я думаю, што 25 сакавіка — важны дзень, і колькасьць людзей будзе вызначаць, наколькі мы ўплываем на грамадзтва. Калі прыйдзе вялікая колькасьць — значыцца, мы трошачкі разбудзілі гэтае грамадзтва, калі прыйдзе менш — зна-

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Калі я ўчора праяжджала паўз Кастрычніцкую плошчу, то пачула камэнтар. Там дзьве жанчыны казалі, што, канечне, гэтай моладзі заплацілі — паўтараючы тое, што лукашэнкаўская прапаганда падкінула ім. Заплацілі ім 20 тысяч кожнаму, вось яны тут і танчаць, і ўсё такое. Ах, мае дарагія суайчыньніцы! Вам, канечне, больш звычна бачыць моладзь, атручаную самагонам і гэтак далей… Мы прызвычаіліся да гэтага, бо ўсё гэта ёсьць выкананьнем той праграмы, якую абвясьціў наш прэзыдэнт на пачатку свайго праўленьня: «Што нашаму народу патрэбна? Нам трэба толькі чарка й скварка». Дык вось гэтая моладзь, што выйшла на плошчу, ня хоча, каб яе жыцьцёвай праграмай была «чарка й скварка», хоча жыць пад уладаю інтэлігентных людзей, якія ведаюць розьніцу паміж Скары́нам і Скорино́й, ведаюць, што Скарына ніяк ня мог «працаваць у Піцеры», яны ня хочуць, каб імі кіраваў чалавек, які зрабіў дзяржаўнай праграмай хамства й ману.*

чыцца, трэба яшчэ працаваць. Гэта працэс, які не ў адзін дзень робіцца.

— І апошняе пытаньне чалавечага пляну. Як Вы вытрымліваеце такія нагрузкі?

МІЛІНКЕВІЧ: Ведаеце, хаця я такі моцны дзядзька даволі, я сам зьдзіўляюся, што ёсьць сілы, а думаю, што сілы ёсьць ад той энэргетыкі, якая сёньня ў Беларусі. Апошнюю ноч я мала спаў, недзе чатыры гадзіны, а ў гэтую ноч мне дазволілі паспаць. Я таксама думаў, што буду стаяць, але мне сказалі, што я патрэбны здаровы, каб не хістаўся на нагах, таму сёньня шэсьць гадзін паспаў.

званкі на «Свабоду»

*СПАДАРЫНЯ: Апошнім часам дужа абураюць паводзіны артыстаў, якія за прэзыдэнцкія ганарары трацяць лепшыя чалавечыя якасьці. Ну, я разумею расейцаў, якія як галодная саранча наляцелі перад выбарамі. Ведаю, чаму «зроблены ў СССР» Газманаў ці мая аднагодка Талкунова славілі й дзякавалі Лукашэнку за нашае добрае жыцьцё, пры якім я, настаўніца-пэнсіянэрка, праверыўшы тысячы сшыткаў, забіўшы зрок, здароўе, за сваю пэнсію 260 рублёў не магу купіць нават належных эфэктыўных лекаў ці добрай ежы. Такія дабрадзеі, дарэчы, як і знойдзеныя пасольствамі назіральнікі, вывезьлі вялікія грошы — таму й хвалілі нашыя парадкі, а найбольш уразіў народны артыст Беларусі Ярмоленка! Ён жа павінен ведаць нашае жыцьцё! Але ж, па ўсім відаць, як зьлез з палацяў, так і адцураўся роднае хаты, беларускасьці. І цяпер павучае — «слухай бацьку!». Да якой жа пошласьці, жаданьня смачней лізнуць гэтаму «бацьку» вядомае месца, скаціўся артыст! Вядома, ён са сваёй сям'ёю незадарма шчыруе на лукашэнкаўскім полі, запаланіў увесь беларускі радыё- і тэлеэтэр. На маю думку, ён ужо даўно не зьяўляецца носьбітам беларускае культуры.*





чацьвер, 23 сакавіка 2006, 8:52

## «ЗАТРЫМЛІВАЮЦЬ НЕ ЗА ХУЛІГАНСТВА, А ЗА ІНШАДУМСТВА»

**Як рэагуюць жыхары сталіцы на затрыманьні ўдзельнікаў намётавага лягеру й суды над імі? Гэтае пытаньне наша карэспандэнтка задавала ў калідорах сталічнага Дому правасудзьдзя.**

***Любоў Лунёва, Менск***

ДЗЯЎЧЫНА: Затрымліваюць гэтых людзей, каб запужаць іншых, каб бацькі, родныя не адпускалі на гэтую плошчу, казалі ім, каб заставаліся дома. Нягледзячы на тое, якой пазыцыі яны прытрымліваюцца. Дзе мы цяпер знаходзімся, ідзе чысты фарс. Правапарушэньня ў тым, што рабілі гэтыя людзі, няма.

ЦЁТКА: Ня можа быць, каб тут судзілі палітычных!

СПАДАР: Ня бачыў я на дэманстрацыях ні п'яных, ні абкураных. Я лічу, што затрымліваюць не за хуліганства, не за парушэньне правапарадку, а за іншадумства. Гэта галоўнае зло для нашай улады.

званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Непакоіць вас пэнсіянэр-мянчук. Колькі радасьці мы зазнаем з таго, што нас павіншаваў маскоўскі Дракула-Мачыла зь перамогай новай прэзыдэнта. Людзі, пільныя будзьце! Гэта нашыя ворагі віншуюць прэзыдэнтаў нашых. Людзі, беражыцеся Дракулы! Ён у крыві ўвесь, ад ног да галавы — у чачэнскай крыві. Ім выгадна, каб беларусы жылі блага, таму што калі мы блага будзем жыць — будзем стаяць на каленях усё жыцьцё перад уладамі расейскімі. Расейскія ўлады баяцца нашай свабоды. Калі б мы займелі свабоду, то і ў Расеі зьмянілася б жыцьцё. Будзьце пільныя, людзі!*

У праваабаронцы Алега Гулака свой погляд на затрыманьні й суды.

ГУЛАК: Адназначна, гэта палітычны перасьлед. Не за рэальныя правапарушэньні, а як сродак барацьбы зь людзьмі, якія думаюць ня так, як улада, і дзейнічаюць ня так, як яна хоча. І за гэта людзі церпяць. Але, я думаю, нельга не адзначыць таго, што такога ўздыму мы даўно ня бачылі. Абнадзейвае тое, што ўлада — хворая, а пры тым грамадзтва — здаровае!

Палітоляг Анатоль Панькоўскі лічыць, што ўлада мае сваю тактыку перасьледу дэманстрантаў.

ПАНЬКОЎСКІ: Гэта сьведчаньне таго, што ўлады не гатовыя да шырокамаштабных дзеяньняў супраць дэманстрантаў. І выкарыстоўваюць тактыку дробных падласьцяў. Зь іхнага гледзішча такая тактыка дазваляе пакрысе давесьці гэтыя выступленьні да нуля.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: 22-га чысла а 12-й быў на Кастрычніцкім пляцы. Пляц уяўляў сабою гнятлівае відовішча: у шэрагах пратэстоўцаў стаяла ня моладзь, стаялі дзеці ў веку ад 12 да 15 гадоў. Калі я падышоў да аднаго юнака й сказаў: «Ну вось, што ты тут стаіш, чаго дамагаесься?» — ён адказаў: «Я хачу свабоды». — «Тады скажы, вось у чым асабіста цябе ў Беларусі прыціскаюць?» — у адказ нямая сцэна. Дзясяткі, сотні мільёнаў даляраў, укінутыя ў беларускую апазыцыю, чарговы раз пушчаныя на вецер! Лепш тыя грошы, што вы выкідаеце на вецер у Беларусь, аддайце польскім беспрацоўным, якія бядуюць, дзе іх 20%... У скрайнім выпадку, аддайце іх грузінскім пэнсіянэрам, якія на мяжы выжываньня, у іх пэнсія 10 даляраў.*





чацьвер, 23 сакавіка 2006, 8:54

## Н.ЯРМАЛІНСКАЯ: УСІХ АБ'ЯДНОЎВАЕ АДНА МЭТА — БАРАЦЬБА З ДЫКТАТУРАЙ

***Вольга Караткевіч, Прага***

Спадарыня Ніна Ярмалінская з Салігорску адбыла на плошчы другую ноч. Які ў яе настрой?

ЯРМАЛІНСКАЯ: Ужо трэці дзень я знаходжуся на Кастрычніцкай плошчы ў цэнтры нашай сталіцы, у гарадку свабоды — нешта накшталт украінскага Майдану Незалежнасьці. Бачу многа людзей маладога, сярэдняга й сталага веку. Усіх іх аб'ядноўвае адна мэта — барацьба з дыктатурай, якая працягваецца й пасьля так званых прэзыдэнцкіх выбараў 19 сакавіка.

— Як Вы ацэньваеце заявы прадстаўнікоў улады аб тым, што маладых людзей, якія ўдзельнічаюць у пратэсьце, купілі, што палітыкі проста выкарыстоўваюць іх дзеля сваіх мэтаў?

ЯРМАЛІНСКАЯ: Я лічу, што ніякай куплі-продажу тут не было. Усіх нас аб'ядноўвае адно жаданьне: зрабіць Беларусь незалежнай, свабоднай краінай, якая будзе мець добрую будучыню, добрую пэрспэктыву ў эканамічным, палітычным і культурным разьвіцьці.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Я вельмі ганаруся тымі людзьмі, якія знаходзяцца на плошчы — у іх вельмі моцны дух праўды, свабоды, справядлівасьці. Я зьвяртаюся да сьвятароў усіх канфэсіяў: трэба быць на плошчы, каб дух веры й справядлівасьці быў мацнейшы й нязломны. Цела можна зьнішчыць, а дух — ніколі. Уладзіслаў Завальнюк, вас вельмі не хапае на плошчы!*

чацьвер, 23 сакавіка 2006, 9:13

## І.КУЛЕЙ: НІЗКІ ПАКЛОН ЗА ТОЕ, ШТО ЯНЫ ВЫХАВАЛІ ДЗЯЦЕЙ, МУЖНЫХ ДУХАМ

***Вольга Караткевіч, Прага***

Сёньня раніцай на плошчы разам з А.Мілінкевічам была, як і амаль заўсёды, ягоная жонка Іна Кулей.

— Іна, як Вы вытрымліваеце такія нагрузкі?

КУЛЕЙ: Я магу адказаць тое самае, што адказаў мой муж: калі тут на плошчы бачыш гэтыя вочы, які ў людзей настрой, як ім хочацца перамогі, то ад гэтай энэргіі кудысьці траціцца стома, што прыходзіць начамі.

— Ці адчуваеце Вы, што зьмяніўся Ваш статус, калі Аляксандар Мілінкевіч стаўся папулярным палітыкам ва ўсёй Беларусі?

КУЛЕЙ: Я б не сказала, таму што па сваім характары ён спакойны й сьціплы чалавек, і таму адчуваньня, што раптам звалілася нейкая вялікая вядомасьць, і ад гэтага зьмяніўся ўнутраны стан, такога адчуваньня няма. А статус залежыць ад таго, як людзі ўспрымаюць, а мне здаецца, што ўспрымаюць як заўсёды.

з в а н к і   н а   «С в а б о д у»

*СПАДАР: Я зьвяртаюся да тых, хто галасаваў за Лукашэнку ў 1994 годзе й прывёў яго да ўлады — выйдзеце на Кастрычніцкі пляц, папрасіце дараваньня ў тых, хто стаіць там, і станьце побач.*

*СПАДАР: Тэлефаную з Магілёва й запрашаю ўсіх людзей, менчукоў і гасьцей сталіцы ўзяць удзел у мітынгу супраць Лукашэнкі ды яго ўлады 25 сакавіка на плошчы й таксама падтрымаць моладзь Беларусі.*





— Пра што ў Вас пытаюцца людзі?

КУЛЕЙ: Часьцей за ўсё пытаюцца пра тое, якая будзе будучая, новая, нармальная Беларусь, пра тое, якія будуць зьмены, што будзе зь сям'ёю, якія будуць падтрымка й прапановы для маладых, як студэнцтву, як тым, хто сёньня за мяжою, вярнуцца дадому, што для іх будзе зробленае. Пытаньні пра новае, спакойнае, разважнае жыцьцё.

— Нагадаю, што днямі А.Мілінкевіч сказаў, што быў уражаны Вашымі аратарскім здольнасьцямі — не чакаў, што Вы будзеце так бліскуча выступаць. Што б Вы перадалі жонкам і блізкім затрыманых і асуджаных у часе гэтай кампаніі?

КУЛЕЙ: Паклон, глыбокі, нізкі паклон за тое, што гэта мужныя жанчыны, гэта мужныя людзі, падзяка вялікая за тое, што яны выхавалі такіх дзяцей, шчырых сэрцам, мужных духам.

з в а н к і   н а   «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Вялікі дзякуй вам за вашую інфармацыю! За тое, што вы асьвятляеце, што адбываецца на пляцы, можна сказаць, рэвалюцыю! Я пэнсіянэрка, мне 65 гадоў. Я так хачу дажыць да чагосьці новага. Нагэтулькі ўжо гэты Лукашэнка надакучыў, ад яго тхне нейкай старызнай. Хочацца чагосьці новага, сьвежага. Вось гэты барадаценькі блакітнавокі твар А.Мілінкевіча, або такі чысты й добры твар А.Казуліна — вось хто мусіў быў балятавацца на прэзыдэнта. А Лукашэнка... Проста няма сілаў ужо на яго глядзець. А Расея, якая яго падтрымлівае... — не дарэмна кажуць: пакажы мне свайго сябра, і я скажу, хто ты. Вось гэты Пуцін і Лукашэнка, яны ўсё штосьці там мазгуюць, штосьці там плянуюць. Напэўна, ім патрэбныя яшчэ пяць гадоў, каб зрабіць сваю нейкую там чорную справу, каб не для народу, а для сябе.*

чацьвер, 23 сакавіка 2006, 10:11

## ЖЫХАРЫ НАМЁТАВАГА ЛЯГЕРУ ПАЧЫНАЮЦЬ ЗБОР ПОДПІСАЎ ЗА ПЕРАВЫБАРЫ

***Альгерд Невяроўскі, Менск***

Сёньня ўдзельнікі акцыі правядуць агітацыйна-палітычную кампанію з заклікам годна адзначыць Дзень Волі, а таксама будуць зьбіраць подпісы людзей пад зваротам «Лічу выбары прэзыдэнта Беларусі 2006 году сфальсыфікаванымі. Патрабую правесьці перавыбары ў адпаведнасьці з Выбарчым кодэксам Рэспублікі Беларусь».

Гаворыць камэндант намётавага лягеру Алесь Мазур:

— Мы вырашылі, што патрэбна неяк рэагаваць на тое, што былі сфальсыфікаваныя выбары, і тое, што вялікая колькасьць грамадзянаў была проста падманутая. Таму былі зробленыя такія лісты, уласная наша ініцыятыва — праводзіць збор подпісаў людзей, якія будуць падыходзіць да намётавага гарадка.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Я хачу зьвярнуцца да ўсіх пэдагогаў Беларусі, асабліва Менску й бліжэйшых гарадоў. Дарагія мае калегі! Вашыя сёньняшнія і ўчарашнія вучні мерзнуць на плошчы, рызыкуюць быць выгнанымі з інстытутаў, яны трапляюць за краты, іх зьбіваюць… Вашыя дзеці ня хочуць жыць і гнісьці ў балоце сёньняшняй маны й гвалту. Вы дазволілі загнаць сябе ў папярэдняе галасаваньне й тым самым здрадзілі ім. Вы што, авечкі або бараны? Як вы будзеце глядзець дзецям у вочы? Што напіша пра вас гісторыя? Выкупіце свой грэх, ідзеце на плошчу, падтрымайце замерзлых дзяцей, не адымайце ў іх будучыні!*

чацьвер, 23 сакавіка 2006, 20:26

## НА ПЛОШЧУ ПРЫЯЖДЖАЮЦЬ ЛЮДЗІ З РОЗНЫХ ГАРАДОЎ БЕЛАРУСІ

***Галіна Абакунчык, Менск***

СПАДАР: Мы прыехалі са Стоўпцаў, бо нам як грамадзянам неабыякавы лёс нашай краіны. Мы прыехалі нават ня дзеля падтрымкі Мілінкевіча, а на знак пратэсту супраць цяперашняга ладу ў краіне. Мы ня згодныя, фактычна, ні з чым: нас прымушаюць жыць па-за законам, нас прымушаюць хлусіць.

СПАДАРЫНЯ: Нічога не пачуеш па БТ, па радыё. Толькі адно: рэвалюцыя не ўдалася, і ўсё.

— А Вы што пра гэта думаеце?

СПАДАРЫНЯ: Відаць, у нашай краіне грамадзтва яшчэ не дасьпела. Я хачу быць тут, быць салідарнай з нашым народам. Тут сабраліся лепшыя людзі — прынамсі, ня горшыя, як кажуць пра гэта.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Вітаю цябе, доўгачаканая «Свабода»! Хочацца моцна падзякаваць тым, хто цяпер знаходзіцца на Кастрычніцкай, і я ім вельмі зайздрошчу, бо асабіста я не магу там быць. Я даглядаю свайго маленькага сына. Менавіта цяпер вырашаецца, у якой краіне ён будзе жыць заўтра, таму наш тата знаходзіцца там — мой муж, ягоны бацька. І мы не баімся, мы нічога не баімся!*

*СПАДАРЫНЯ: Учора на плошчы арыштавалі майго мужа, Грабавога Ўладзіслава. Яму далі 15 сутак. Ён адбывае сваё зьняволеньне на Акрэсьціна. Я ганаруся сваім мужам. Спадзяюся, наш сын будзе ганарыцца сваім бацькам. Нашаму сыну 1 месяц. Жыве Беларусь!*





ІНШАЯ СПАДАРЫНЯ: Надта сорамна за Ярмошыну. Заканчэньне яе жыцьця, пэўна, будзе вельмі цяжкім, бо давядзецца адказваць за ўсе правіны й грахі.

СПАДАРЫНЯ: У нас у вёсцы, у Слуцкім раёне, казалі, што тут бясплатна кормяць і 20 тысяч даюць.

— Што вядома ў Пінску пра падзеі ў сталіцы, як да гэтага ставяцца?

СПАДАР: Розныя настроі ў людзей: ёсьць кансэрватыўныя, якія ўсё ўспрымаюць у штыхі. Але ёсьць маладыя й сьмелыя, рашучыя, якія гатовыя ісьці да канца.

ЮНАК: Я прыяжджаю з Мар'інай Горкі штодня, каб пабыць з аднадумцамі. Асабліва добра тут увечары, калі зьбіраецца шмат людзей, калі адчуваеш, што ты не адзін. І ніякага «адзінства грамадзтва», як аказваецца, няма.

— Чаму Вы тут?

СПАДАРЫНЯ: Бо лёс радзімы залежыць і ад нас. Сын на працы, прыйсьці ня змог. Набыў печыва, яблыкаў, кажа — сходзі. Я й сама б гэта зрабіла. Бо гэтая моладзь — яна разумнейшая за нас.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*ЭДУАРД ВАШКЕВІЧ: У мяне пытаньне да амбасадара Францыі. Перш чым капацца ў бруднай бялізьне Беларусі, пакапаліся б яны ў сваёй бялізьне ў Францыі, са сваімі студэнтамі разабраліся. Па-другое, наколькі неахайная наша апазыцыя: ня можа нават паставіць біяпрыбіральні для дзяцей, якія мітынгуюць і начуюць там. І трэцяе, боль мой. Мой дзіцёнак прастудзіўся ў гэтым намёце й атрымаў пнэўманію. І я хачу зьвярнуцца ў суд на спадара Мілінкевіча, які заклікае нашых дзяцей начаваць там, а сам там ні разу не начаваў.*

## ОНЛАЙН-РЭПАРТАЖ З ПЛОШЧЫ

**19:00**

Гадзіну таму карэспандэнты ацэньвалі колькасьць прысутных на плошчы на паўтары тысячы чалавек. А цяпер людзей паболела. Але колькасьць удзельнікаў трохі меншая, чым у папярэднія дні на гэтую гадзіну. Удзельнікі тлумачаць гэта тым, што, магчыма, многія плянуюць прыйсьці на плошчу ўжо 25 сакавіка, а сёньня адпачываюць.

Міліцыянтаў цяпер няшмат, але прыехала 10 машынаў байцоў спэцназу. Яны разьмясьціліся непадалёк адміністрацыі прэзыдэнта.

Было тут некалькі правакатараў, якія ініцыявалі шумныя спрэчкі. Але цяпер сытуацыя спакойная.

званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Мой вялікі дзякуй маладым людзям, якія змагаюцца на Кастрычніцкай плошчы за будучае Беларусі. Пры ўладзе Лукашэнкі сумленных выбараў быць ня можа. Які б ні быў вынік цяперашняга змаганьня за справядлівыя выбары, лічу, што неабходна зьмяніць акцэнты й пачаць фармаваньне нацыянальнага руху. Па сутнасьці, у Беларусі дзейнічае расейская каляніяльная адміністрацыя. У Горадні 35 расейскіх школаў, адна польская, ніводнай беларускай, выключна расейскія ПТВ, каледжы, ліцэі, унівэрсытэты. Дайшло да таго, што беларускім пісьменьнікам забаронены доступ ва ўсе тыпы навучальных установаў. Хочуць закрыць Саюз пісьменьнікаў. Наперадзе нас чакаюць цяжкія выпрабаваньні. І цяпер трэба рыхтаваць людзей да змаганьня супраць каляніяльнага панаваньня.*

*СПАДАР: Горад Баранавічы, школа №14. За Лукашэнку прагаласавала 30 чалавек. Я быў у шоку. Мяне з працы здымуць.*





На экране, які ўстаноўлены на плошчы, увесь час паказваюць прагноз надвор’я на ноч: 7—8 градусаў марозу. Так што тых, хто вырашыць застацца, чакае яшчэ адно выпрабаваньне.

Па-ранейшаму міліцыя затрымлівае тых, хто выходзіць з плошчы, у мэтро, у падземных пераходах. Напрыклад, група берасьцейцаў, якая тут ужо другі дзень, з 12-й гадзіны нічога ня ведае пра сваю сяброўку Іру Лаўроўскую, якая пайшла ў краму й не вярнулася. Яе мабільны тэлефон адключаны.

Нядаўна выступіў лідэр «Маладога фронту» Зьміцер Дашкевіч, які заклікаў прыходзіць сюды й прыводзіць сваіх сяброў у суботу, 25 сакавіка, на сьвята — Дзень Волі.

Цяпер людзі слухаюць беларускую музыку. А гарадзкія ўлады, каб неяк заглушыць вольны беларускі рок, уключылі праз вялікія дынамікі нейкую гучную савецкую музыку. Асьвятленьня на плошчы няма ўжо трэці дзень.

званкі на «Свабоду»

*ЯЎГЕН САВЕЛЬЕЎ, Віцебск: Я галасаваў за Казуліна, я галасаваў за праўду, за Беларусь — але супраць Лукашэнкі. Ён мне ня сябра, зразумела, але й Эўразьвяз мне таксама ня сябра разам з Амэрыкай. Я лічу, што Беларусь павінна быць усё ж такі з Расеяй, бо Расея — гэта нашы браты-славяне.*

*СПАДАР: Малая колькасьць людзей на Кастрычніцкай плошчы тлумачыцца страхам. Паглядзіце, пратэстоўцы ахопленыя ланцугом амапаўцаў, як гэта было ў Бэслане, быццам праводзіцца антытэрарыстычная ваенная апэрацыя. Улады зрабілі пастку: усіх упускаць і нікога не выпускаць. Гэтая фактычная блякада плошчы, блякада ўдзельнікаў пратэсту зьяўляецца парушэньнем Канстытуцыі, бо няма свабоды, а ёсьць стабільны ціск уладаў і рэпрэсіі.*

**20:00**

Цяпер на плошчы каля 3 тысяч чалавек. Людзі слухаюць музыку, абмяркоўваюць апошнія падзеі, у намётавым лягеры гараць сьвечкі.

Завяршыўся мітынг з удзелам палітыкаў, ён доўжыўся з паўгадзіны. Выступіў А.Мілінкевіч, які заклікаў усіх прыйсьці сюды 25 сакавіка, прывесьці сваіх сяброў і знаёмых. Мілінкевіч заявіў, што гэта будзе не палітычная акцыя, а сьвята: людзі будуць сьпяваць, прыйдзе шмат музыкаў. «Мы не баімся гэтых уладаў, — сказаў Мілінкевіч, — яны нам сьмешныя». Было некалькі пытаньняў да Мілінкевіча. Адно зь іх гучала так: «Ці будуць Вас прымаць у Брусэлі пасьля правалу блакітнай рэвалюцыі?» Мілінкевіч адказаў: «Зусім няпраўда, што штосьці ўжо правалілася». Вольная Беларусь, паводле ягоных словаў, толькі цяпер нараджаецца — сёньня, на гэтай плошчы. А што да кантактаў з кіраўніцтвам Эўразьвязу й падтрымкі зь ягонага боку, то яна, паводле Мілінкевіча, застаецца: сёньня ўвечары Мілінкевіч меў тэлефонную размову з прадстаўнікамі Эўразьвязу.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Аляксандар Лукашэнка, выступаючы пасьля першай акцыі пратэсту 19 сакавіка, сказаў, што нават Бог умяшаўся ў ходу гісторыі такім небывалым сьнегападам. Але ў нас у сям'і адбылося вось што. Кажуць, што вуснамі дзіцяці гаворыць сама ісьціна. Вось што сказаў мой шасьцігадовы сын, магчыма, у адказ на такія мэтэаралягічныя згадкі спадара Лукашэнкі: «Лукашэнка — гэта як зіма, а Мілінкевіч — гэта як вясна. Бо зіма таксама ня хоча саступаць вясьне, яна трымаецца за сваю ўладу. А вясна ўсё роўна ідзе».*





Выступіў на мітынгу й намесьнік старшыні Партыі БНФ Юры Хадыка. Ён выказаў захапленьне моладзьдзю, якая застаецца на плошчы. Хадыка сказаў, што моладзь пераняла сьцяг барацьбы за свабоду з рук старэйшага пакаленьня. Юры Хадыка папрасіў моладзь пратрымацца на пляцы да 25 сакавіка. У адказ людзі скандавалі: «Застаемся! Застаемся!»

Удзельнікам акцыі прыхільнікаў пераменаў прыйшла тэлеграма ад расейскіх дэмакратычных сілаў, падпісаная Людмілай Аляксеевай, Гары Каспаравым і Георгіем Сатаравым. Яны выказалі падтрымку дэмакратычным сілам Беларусі й заявілі, што выбары, якія адбыліся ў Беларусі, на іхны погляд, былі фарсам. Ім сорамна за тое, што расейскі прэзыдэнт Пуцін падтрымаў Лукашэнку. «Сябры! Увесь сьвет цяпер сочыць за вашым процістаяньнем гэтай нелегітымнай уладзе. Трымайцеся!» — напісалі сустаршыні Расейскага грамадзянскага кангрэсу.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*ВІКТАР, Салігорск: Хачу данесьці свае думкі з нагоды стаяньня моладзі на пляцы Кастуся Каліноўскага. Ні ў якім разе да 25 сакавіка з пляцу сыходзіць нельга, бо потым усё будзе перакрыта міліцыянтамі, народу недзе будзе зьбірацца. А так, я ўпэўнены, 25-га тысячы людзей павінны сабрацца на пляцы й разам з гэтай моладзьдзю сказаць сваё «не» дыктатуры!*

*ШПАНАГІН: Перадайце Лукашэнку. Каб паставілі цягнік з вагонамі і ўсіх, хто супраць яго, накіравалі на востраў — і там ім будзе свабода. Гэта Шпанагін зь Нямеччыны, журналіст, адпрацаваў з 1942 году. І цяпер я даведаўся, што такое капіталізм, што такое сацыялізм. Тут сапраўдны быў сацыялізм, а цяпер новыя рускія прыехалі, і стала ўсё ў сто трыццаць два разы даражэй!*

## 20:30

Колькасьць людзей павялічылася. Цяпер на плошчы каля 4 тысяч чалавек. Запаленыя сотні сьвечак. Гучыць музыка. Улады з дынамікаў трансьлююць расейскую папсу, гук якой перабівае адносна слабую апаратуру ўдзельнікаў акцыі.

Лявон Вольскі зноў знаходзіцца на плошчы. Ён сказаў, што «N.R.M.» ня зможа выступіць тут, бо апаратура не дазваляе гэтага зрабіць.

Прыйшла на плошчу Зінаіда Бандарэнка. Сёньня яна прыняла да сябе дадому некалькіх удзельнікаў акцыі — каб тыя адпачылі й прынялі душ. Цяпер яна зноў запрасіла некалькіх чалавек на адпачынак у сваю кватэру.

Міліцыянты забараняюць людзям стаяць на прыступках Палацу прафсаюзаў.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*ІРЫНА ЖАРНАСЕК, пісьменьніца: Хачу зьвярнуцца да бацькоў тых юнакоў і дзяўчат, якія ў гэтыя дні й ночы нясуць нялёгкую вахту свабоды на Кастрычніцкай плошчы ў намётах. Ганарыцеся! Вы выхавалі цудоўных дачок і сыноў! Дзякуй вам за іх. У аўторак з раніцы я была ў Менску, была на плошчы, бачыла, як дрыжаць яны ад холаду, як саграваюць сябе маладым аптымізмам і надзеяй. Яны патрабуюць свабоды, праўды, справядлівасьці. Разам з гэтымі адважнымі дзяўчатамі, юнакамі хацелі б быць многія іхныя равесьнікі, а таксама людзі старэйшага веку. Але яны пакуль што яшчэ не перамаглі свой страх. І ўсё ж не губляем мы надзеі. Прыйдзе час, калі мы павіншуем адзін аднаго зь перамогай, бо ў нашай бацькаўшчыне запануе праўда, свабода, справядлівасьць. Дзеля гэтага будзьма сёньня разам з нашымі дзецьмі.*





## 21:00

Толькі што з плошчы ад'ехала машына «хуткай дапамогі». Яна прыбыла ў намётавы лягер, каб абсьледаваць аднаго з удзельнікаў акцыі пратэсту, Міколу Ільіна, — ён пацярпеў ад АМАПу.

Мікола разам зь сябрамі прывез на плошчу біятуалет: усе навакольныя прыбіральні тут пазачыняныя. Як толькі хлопцы выйшлі з таксоўкі з гэтым біятуалетам, на іх напалі супрацоўнікі АМАПу. Найбольш пацярпеў Мікола: зьбіты міліцыянтамі, на паўхвіліны ён страціў прытомнасьць. Сябры занесьлі Міколу ў лягер і выклікалі «хуткую». Лекары, якія аглядалі хлопца, не маглі нармальна працаваць, бо над лягерам няма ніякага асьвятленьня. Лекары паведамілі, што ў хлопца чэрапна-мазгавая траўма, але ён адмовіўся ад шпіталізацыі.

Адзін з двух біятуалетаў, нягледзячы на гвалт з боку міліцыянтаў, удалося перадаць у намётавы лягер. Раней тут на пляцы заварылі люкі.

Сёньня, як і ў мінулыя дні, максымальная колькасьць людзей назіралася каля 20-й гадзіны. На гэты момант яшчэ каля 3 тысяч чалавек знаходзяцца на плошчы. Людзі слухаюць «Песьні Свабоды» — працягваецца імправізаваны канцэрт.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Хачу зьвярнуцца да квітнеючай папсы, што ганяла фанэру ў акцыях «за квітнеючую беларускую намэнклятуру». Вы — хлопчыкі й дзяўчаты па выкліку, вы клоўны, якія бегаюць па сцэне. Ну, а паважаны «сябар», дык той зусім лізнуў глыбей за ўсіх. Сорамна!*

*СПАДАРЫНЯ: Божа міласьцівы! Дай здароўя ўсім, хто знаходзіцца на Кастрычніцкай плошчы! Дай здароўя Зянону Пазьняку, Мілінкевічу, Казуліну. Наша сям'я ганарыцца імі і ўсім беларускім народам!*

## 21:30

Удзельнікі акцыі абвясьцілі сьпіс умоваў, пры выкананьні якіх яны гатовыя сысьці з плошчы. Перш за ўсё дэманстранты патрабуюць правядзеньня паўторных прэзыдэнцкіх выбараў. Па-другое, яны патрабуюць распусьціць Цэнтравыбаркам і сфармаваць новы ЦВК, у якім будуць рэпрэзэнтаваныя ўсе палітычныя сілы краіны. Па-трэцяе, удзельнікі акцыі патрабуюць вызваліць усіх, хто быў асуджаны або арыштаваны з палітычных матываў. Па-чацьвертае, прыцягнуць да адказнасьці тых, хто датычны да фальсыфікацыяў і парушэньня заканадаўства. Удзельнікі акцыі заявілі, што толькі пры выкананьні ўсіх пералічаных умоваў яны пакінуць Кастрычніцкую плошчу й згорнуць сьцягі.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Не разумею я чыноўнікаў, якія на прадпрыемстве думаюць, што яны з гэтым дыктатарам будуць жыць вечна. Яго, можа, ужо хутка й ня будзе, а вось іх будуць судзіць. Ён жа цяпер саджае за іншадумства нашых дзяцей. Да сумленьня, канечне, я іх не заклікаю, бо яны яго ня маюць, але да адказу прыйдзецца заклікаць.*

*БАРЫС ЭДУАРДАВІЧ: Мяне зьдзіўляе адна рэч. У нас ёсьць парлямэнт, ёсьць міліцыя, суды. Але сярод іх не знайшлося ніводнага добрага чалавека, які б выказаў нешта супраць. Няўжо гэтыя людзі, так званыя слугі народу, настолькі прагнілі ўжо ў сваім гэтым парлямэнце і ў судах гэтых?*

*БАРЭЛЬ: Хачу зьвярнуцца да нашых герояў, якія стаяць на плошчы, якія змагаюцца за вольную Беларусь. Вялікі вам дзякуй! Я вам кланяюся! Кланяюся тым, хто стаіць за праўду, за свабоду, за Мілінкевіча. Надакучыла гэтая палітыка за дванаццаць гадоў! Я ніколі не прагаласую за Лукашэнку! Не прызнаю гэтых выбараў! Бессаромныя выбары супраць свайго народу!*





## 22:00

На плошчы працягваецца імправізаваная дыскатэка. Тут застаюцца 1,5—2 тысячы чалавек. Даволі халодна, дзьме вецер.

Апошняя навіна — затрыманы адзін з арганізатараў лягеру Вячаслаў Сіўчык. Ён меў сёньня заплянаваную сустрэчу ў горадзе й выехаў адсюль. Пазьней паведамілі, што гадзіну таму Сіўчык ужо знаходзіўся ў спэцпрымальніку на вуліцы Акрэсьціна. Сьведкай затрыманьня Сіўчыка стала актывістка зь Берасьця Ірына Лаўроўская — яе таксама сёньня затрымалі міліцыянты. І.Лаўроўскую пакаралі штрафам, і яна змагла вярнуцца на плошчу. Ірына расказала, што разам зь ёю міліцыя затрымала паблізу Палацу Рэспублікі яшчэ 10 чалавек — запхнулі іх у аўтобус, загадалі адключыць мабільныя тэлефоны й тэрмінова павезьлі ў суд. Ірына была аштрафаваная, а астатніх 10 затрыманых пакаралі рознымі тэрмінамі арышту — ад 10 да 15 сутак: іх абвінавацілі ў тым, што яны нібыта брыдкасловілі.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Усе нашы хлопцы й дзяўчаты, якія знаходзяцца ў турмах і мерзнуць у намётах — гэта краса беларускай нацыі. Мы падтрымліваем іх і вельмі імі ганарымся! І хай не турбуюцца добрыя душы, што нашыя дзеці знаходзяцца там без харчоў. Мы стараемся ўвесь час ім падносіць і цёплыя рэчы, і прадукты. І гэтыя дзеці — цудоўныя, яны такія выхаваныя й культурныя. Мы заўсёды бываем там — ні слова мату, ніякай лаянкі — гэта проста цудоўныя дзеці. Мы ганарымся імі!*

*ПЭНСІЯНЭР КАНСТАНЦІНАВІЧ: Зьвяртаюся да прыхільнікаў пераменаў. Тэрмінова знайсьці магчымасьць выпусьціць значок у выглядзе блакітнай кветкі радзімы — васілька.*

## 22:30

Тэмпэратура — 8 градусаў марозу. На плошчы каля 2 тысяч чалавек. Людзі п’юць каву й гарбату, танчаць, каб ня зьмерзнуць.

У апошнія дні Кастрычніцкая плошча ператварылася зь месца збору й кантактаў у крыніцу інфармаваньня. Прыяжджаюць людзі з рэгіёнаў, якія расказваюць пра пасьлявыбарчыя падзеі ў іхных рэгіёнах, тактыку мясцовых уладаў: арышты, затрыманьні, звальненьні з працы.

Мінакі, якія праходзяць праспэктам Скарыны, часам падыходзяць да намётавага лягеру, слухаюць музыку й прамоўцаў.

### з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Народ, верце, дыктатура раней зьнікне, калі вы нам дапаможаце. Дзе ваша пачуцьцё ўласнай годнасьці? Няўжо нашы дзеці сьмялейшыя за вас? Кідайце свой страх і выходзьце на плошчу. Не пакідайце сваіх дзяцей самнасам з дыктатарам!*

*СПАДАР: Людзі! Калі вы хочаце адчуць дух праўды, дух свабоды, дух еднасьці, ідзеце на Кастрычніцкую плошчу, перамажыце свой страх, прабудзьце ноч на плошчы — вы адчуеце, што гэтая ноч была самай шчасьлівай у вашым жыцьці. Паверце мне, я там быў.*

*СПАДАРЫНЯ: 19 сакавіка мы чакалі так, як нашыя бацькі й дзяды чакалі 9 траўня 1945 году — дзень перамогі над фашызмам. Сёньня цемра ахінула нашу радзіму. Прыпеўкі, якія прагучалі на «Свабодзе» — гэта ваша зброя супраць рэжыму. А сьпявачка — сапраўдны герой Беларусі. Затое ж народны артыст Анатоль Ярмоленка, які сьпяваў і скакаў разам са сваім кланам сямейным, сам сябе, выбачайце, людзі добрыя, абас...аў з галавы да пят — даскакаўся й дасьпяваўся.*





## 23:00

На плошчы яшчэ знаходзіцца каля тысячы чалавек: пераважна гэта моладзь, але ёсьць і сталыя людзі. Моладзь па-ранейшаму танчыць, і гэта дапамагае саграваецца, бо на дварэ ўсё халадней.

Пабіты міліцыяй студэнт з Магілёва Мікола Ільін застаецца ў намётавым лягеры. Яго ўхуталі ў цёплыя рэчы, далі лекі.

У мінулыя дні на плошчы было даволі шмат замежных журналістаў, фотакарэспандэнтаў, але цяпер іх паменела. Актывісты лічаць, што тэлекамэры й журналісты даюць ім нейкую гарантыю бясьпекі. Аднак затрыманьні працягваюцца: людзей хапаюць на подступах да плошчы, у мэтро, у пераходах.

Нядаўна ў лягеры была агучаная запіска аднаго з арыштаваных, які знаходзіцца ў спэцпрымальніку на Акрэсьціна. Ён паведамляе сваім сябрам, якія застаюцца на свабодзе, што ў камэрах на Акрэсьціна вязьні сядзяць па пяцёра чалавек, што стаўленьне да іх з боку пэрсаналу спэцпрымальніка добрае.

### з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Нізкі паклон вам, Радыё Свабода, і вашым журналістам за доўгія гады вашай цяжкай працы. Сталіністы, лукашысты звоняць на «Свабоду» — і гэта ваша сьвята, «Свабода». На лукашэнкаўскае радыё яны пазваніць ня могуць, ім дазволена толькі слухаць і глядзець на свайго ідала, які дрыжыць ад страху й нянавісьці да ўсяго разумнага й беларускага. Упэўненая, вельмі хутка яго насьцігне лёс Гітлера, Сталіна, Мілошавіча, Садама Хусэйна. Прачынайцеся, людзі, ідзеце на Кастрычніцкую плошчу, пакуль ня позна.*

**00:00**

Каля поўначы дзьве групы п’яных маладзёнаў, пяць чалавек кожная, бесьперашкодна трапілі на плошчу, нягледзячы на тое, што для большыні іншых яна па-ранейшаму застаецца блякаванай. Адзін зь іх трымаў чырвона-зялёны сьцяг. Маладыя людзі пачалі правакаваць спрэчкі, бойкі… А ў адказ пачулі «Ганьба!». Гэты інцыдэнт здымалі на відэакамэры дзяржаўныя тэлеканалы. Удзельнікі акцыі пратэсту паводзілі сябе стрымана, толькі пэрыядычна сканадавалі «Ганьба!». Празь некалькі хвілінаў цьвярозым і роўным крокам маладыя людзі пакінулі плошчу.

з в а н к і н а « С в а б о д у »

*СПАДАРЫНЯ: Я тэлефаную зь Нямеччыны. Шмат хто тут раней амаль нічога ня ведаў, што ёсьць такая краіна Беларусь, для іх мы ўсе былі расейцамі. Апошнімі днямі сярод найважнейшых тэмаў тэлевізійных навінаў перадаюцца навіны зь Менску. Штодня можна прачытаць у газэтах, што адбываецца ў Беларусі. Добра разумею, што ў такой атмасфэры, у якой адбываліся гэтыя выбары, іх нельга назваць выбарамі. Простыя людзі выказваюць сымпатыю й спачуваньне. Мне казалі людзі старэйшага пакаленьня, што такая абстаноўка была ў іх у час Гітлера, яны слухалі радыёперадачы зь Лёндану пад страхам сьмяротнай кары. Шмат хто разумеў, што такое Гітлер і дыктатура, але нічога ўжо не маглі зрабіць. Я ў захапленьні ад тых, хто на плошчы, не асуджаю нікога, хто баіцца. Малюся за тых, хто можа пераадолець страх ды абставіны й прыйсьці на плошчу. Павінна адбыцца рэвалюцыя ў сьвядомасьці, барацьба павінна быць не гвалтоўнай, а такой, якую вёў Гандзі ў Індыі за вызваленьне свайго народу, такая, якая ідзе цяпер на плошчы. Я заклікаю вас маліцца й прасіць Бога пра дараваньне й дапамогу. Прыйсьці на плошчу ня кожны можа — маліцца можа кожны, гэта вялікая сіла.*





пятніца, 24 сакавіка 2006, 0:19

## НА ПЛОШЧУ ПРЫХОДЗЯЦЬ СЕМ’ЯМІ

**Увечары тут меншае арганізаваных прыхільнікаў Лукашэнкі пэнсійнага веку. Шмат людзей рознага ўзросту прыходзяць падтрымаць пратэстоўцаў.**

***Галіна Абакунчык, Менск***

ГОЛАС З УЗМАЦНЯЛЬНІКА: Цяпер мы даведаліся, што ў пастарунку на Акрэсьціна зьняволена да 600 чалавек. 600 чалавек, не зважаючы на тых, якія выйшлі. Вось яна — перамога ў 83 адсоткі! Гэта жах эўрапейскай краіны. Ганьба!

СКАНДАВАНЬНЕ: Ганьба! Ганьба! Ганьба!

— Я так разумею, вы — сям’я?

СПАДАР: Так, сям’я. Нашаму сынку паўтара году.

— Ня страшна было з такім маленькім хлопчыкам прыходзіць?

СПАДАР: Насамрэч страшна, бо я быў рэпрэсаваны, калі можна так сказаць. У пятніцу ехаў сюды й арыштавалі — далі трое сутак.

з в а н к і н а « С в а б о д у »

*СПАДАРЫНЯ: Да якой агоніі дайшоў рэжым, што арыштоўвае, судзіць і пазбаўляе волі чалавека толькі за тое, што ён нясе бутэрброды й тэрмас гарбаты! Оруэл адпачывае, калі сёньня ў Беларусі цёплае адзеньне ў торбе — гэта крымінал.*

*СПАДАРЫНЯ: Я лічу зусім недарэчным начное знаходжаньне дзяцей на плошчы. Таму што здароўе даражэйшае за ўсё. Ніякая палітыка ня вартая таго, каб рызыкаваць здароўем.*

СПАДАРЫНЯ: Мы прыйшлі таму, што мы стаміліся жыць у няпраўдзе й страху. Каб нашая краіна сталася свабоднай, каб у нас была магчымасьць гаварыць тое, што мы думаем. Таму выйшлі, каб выказаць свой пратэст супраць тых грахоў, якія робіць цяперашняя ўлада.

Сыгналяць аўтамабілі, якія едуць праспэктам.

— На вашую думку, які можа быць плён ад гэтай акцыі?

СПАДАР: Толькі станоўчы — у адраджэньні сьвядомасьці, бо паняверка вялікая. Я сустракаў тут людзей і з Бабруйску, і зь Берасьця, і з Салігорску, і іншых гарадоў. Яны едуць сюды як на востраў свабоды — абудзіцца думкамі й верай у будучыню. Бо тая хлусьня й ілжывасьць па тэлевізіі й па радыё — яна не дае людзям ніякай магчымасьці думаць, верыць і працаваць на будучыню.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Паважаная «Свабода»! Перадайце на Кастрычніцкую плошчу тым, хто стаіць там, паклон ад усяго беларускага народу. Іхныя пакуты ня будуць дарэмныя. Яны першыя, хто супрацьстаяў хлусьні й несправядлівасьці. Усе, хто мае сумленьне, кожную хвіліну зь імі! Мы молімся за іх, ганарымся імі й верым у перамогу! Ня бойцеся, з вамі Бог і будучыня!*

*СПАДАР: Дзялюся інфармацыяй: вы не «Свабода», а «Аль-Каіда». Ясна?*

*СПАДАР: Вы ўяўляеце, што таварыш Мілінкевіч, альбо спадар Мілінкевіч, ператвараецца ў злачынцу? Бо вывесьці дзяцей на плошчу, зімой, у мароз, антысанітарыю — гэта злачынства. Хіба ён вывеў сваіх дзяцей туды й прымусіў іх начаваць на той плошчы? І той жа Казулін — тое самае. Гэта злачынцы, а ня кандыдаты на прэзыдэнта.*





**00:30**

У гэты момант адбываецца трэцяя атака правакатараў на лягер. Каля дзесяці чалавек спрабавалі прайсьці ў сярэдзіну намётавага лягеру. Яны выкрыквалі нецэнзурныя словы й выглядалі п’янымі. На гэта вядучы мітынгу сказаў: «Яны ў руках беса, стварылі сабе ідала, імя якога Бацька».

Драматург Мікалай Халезін, які знаходзіцца на плошчы, спрабаваў зьвярнуць увагу міліцыянтаў на тое, што правакатары п’яныя й нецэнзурна лаюцца. Міліцыянты адказалі, што ня бачаць у гэтым нічога дрэннага й параілі Халезіну выклікаць міліцыю па тэлефоне 02.

Першыя дзьве групы правакатараў здымала група аднаго зь дзяржаўных тэлеканалаў. Пасьля яны ад’ехалі, правакатары зайшлі ў будынак Палацу прафсаюзу. Калі першы раз яны паводзілі сябе так, нібыта вельмі п’яныя, дык потым выйшлі з будынку й трымаліся цьвяроза й стрымана. На дадзены момант яны ўсё яшчэ знаходзяцца паблізу намётавага лягеру.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СЯРЖУК, Менск: Хачу падзяліцца сваёй думкай: у нас за Мілінкевіча прагаласавала, я так разумею, па Менску тысяч сто, калі ўзяць, напрыклад, тыя ж самыя 6 адсоткаў, якія напісала ўлада. Ну й дзе гэтыя сто тысяч, дзе нашая падтрымка? На вуліцы стаіць 5—10 тысяч, а астатнія ўсе сядзяць у норах. Калі ўжо перастанем баяцца ды выйдзем да сваіх людзей — падтрымаць іх?*

*СПАДАРЫНЯ: Вы прымушаеце моладзь с...аць на помнік на слаўнай плошчы! Што вы сабой уяўляеце?! Свалата вы! Вы за Беларусь?! За якую вы Беларусь?! За тую, што вы езьдзіце да гэтых Бушаў і зьневажаеце нас усіх, што ваявалі?! За што мы ваявалі?! Мы выйдзем ўсе на плошчу туды! Вось. Мы вам пакажам, як рабіць рэвалюцыю!*

**01:00**

Прыхільнік Лукашэнкі распачаў бойку. Спачатку ён брыдка лаяўся, паказваў непрыстойныя знакі, выступаў за Лукашэнку, а пазьней пачаў біць аднаго з удзельнікаў акцыі. Міліцыя ня ўмешвалася, аж пакуль мітынгоўцы самі не адвялі й не перадалі хулігана міліцыянтам. Пасьля гэтага адзін зь міліцыянтаў ветліва вывеў яго з Кастрычніцкай плошчы.

Ля намётавага лягеру па-ранейшаму знаходзяцца каля дзясятка прыхільнікаў Лукашэнкі, якія скандуюць «Беларусь — без БНФ!», «За саюз Беларусі й Расеі!», «За Лукашэнку!», а таксама брыдкаслоўі й непрыстойныя выказваньні на адрас пратэстоўцаў. Апрача таго, яны правакуюць журналістаў і пазіруюць перад тэлекамэрамі, выкрыкваючы «Пакажыце нас па «Эўраньюс»!».

Ланцуг абароны вакол намётавага лягеру стаў яшчэ больш шчыльным, арганізатары заклікаюць не рэагаваць на непрыстойныя выкрыкі правакатараў.

з в а н к і н а « С в а б о д у »

*СПАДАР: Алё, Аляксандар Рыгоравіч! Чаму гэта беларуская сьвіньня адыходзіць ад карыта, а Вы ня можаце?*

*СПАДАР: Радыё Свабода ўвесь часта паўтарае выказваньні дурных лукашэнкаўскіх халуёў, якія абражаюць гераічных людзей на Кастрычніцкай плошчы. Гэтыя людзі не заслужылі таго, каб пра іх выказваліся па тыпу, што яны ня бачылі вайны й ня мерзьлі ў акопах. Подзьвіг людзей на плошчы раўнацэнны вялікім баям на вайне. І дзякуй Мілінкевічу за тое, што ён адстойвае гонар і сумленьне ўсіх беларусаў. Лукашэнка страшэнна баіцца, што калі ён зьлезе з прэзыдэнцкага фатэля, то адразу апынецца на нарах.*





**01:30**

Міліцыянты вывелі з плошчы яшчэ аднаго правакатара, які ўдарыў карэспандэнта чэскай тэлевізіі. Раней гэты малады чалавек некалькі разоў спрабаваў трапіць усярэдзіну намётавага лягеру. У прыватнай размове з журналістам «Свабоды» правакатар заявіў, што ўсе ў ягонай кампаніі — простыя рабочыя.

МАЛАДЫ ЧАЛАВЕК: Мы сядзелі тут непадалёк і пілі піва, а пасьля вырашылі выказаць абурэньне гэтай кучцы бамжоў, якія ня бачаць відавочнага, што Лукашэнка перамог!

На ноч на плошчы засталося каля 500 чалавек. Некаторыя пайшлі спаць у намёты. Іншыя сьпяваюць песьні пад гітару.

Рэдкія машыны на праспэкце сыгналяць на знак салідарнасьці.

з в а н к і н а « С в а б о д у »

*СПАДАР: Я расеец, праваслаўны з Самары, пасьля заканчэньня інстытуту прыехаў дваццаць гадоў таму ў Беларусь, пра што зусім не шкадую. Я закаханы ў беларускі народ, шаную беларускую мову й лічу сябе грамадзянінам Беларусі. Нягледзячы на тое, што я гадаваўся й выхоўваўся ў Расеі, вучыўся ў расейскай школе, у расейскім інстытуце, я ведаю, кім быў Францыск Скарына, калі ён нарадзіўся й калі ён памёр. У адрозьненьне ад вашага прэзыдэнта, які скончыў гістарычны факультэт.*

*СПАДАР: Падобна на тое, што ўжо хутка выканаўчая ўлада ажыцьцёвіць расправу над пратэстоўцамі на Кастрычніцкай плошчы, і ня выключана, што сам Лукашэнка ды ягоныя адмарозкі шыю ім будуць адкручваць. Адны зь іх бясьсьледна зьнікнуць, а ў тых, хто застанецца, забяруць у вязьніцах здароўе.*

## 02:30

У лягеры аб’явілі, што прыехалі літоўскія госьці, і 25 сакавіка некалькі літоўскіх рок-гуртоў маюць намер зайграць на плошчы.

Правакатараў цяпер паменела, але за апошнюю гадзіну яшчэ два чалавекі нападпітку спрабавалі прайсьці ў намётавы лягер. Удзельнікі ўжо выпрацавалі й пэўную тактыку: да такіх людзей выходзіць жанчына, недзе 60-гадовага веку, спакойна размаўляючы й беручы іх пад рукі, адводзіць далей ад намётаў. Звычайна яны не вяртаюцца.

Калі зьяўляюцца людзі нападпітку, апэратар БТ пачынае відэазапіс.

Тым часам надвор’е пагоршылася: пахаладала й дзьме моцны вецер. Каб сагрэцца, людзі танчаць. Пэрыядычна скандуюць: «Жыве Беларусь!», «Верым! Можам! Пераможам!», «Міліцыя — з народам!»

У намётавым лягеры зьявіліся сьцягі ўкраінскай арганізацыі «Пора».

**з в а н к і н а « С в а б о д у »**

*СПАДАРЫНЯ: Хачу сказаць, што надакучыла вашая балбатня супраць народу беларускага. Супакойцеся, ня будзьце прыхвасьнямі прадажнымі. Надакучылі! Дайце людзям спакойна жыць! Каго хацелі — мы выбралі, правільна зрабілі выбар.*

*СПАДАР ЖЭРДЗЕЎ, Гомель: Той, хто кажа, што тая моладзь, якая на плошчы мерзьне, псуе сваё здароўе, прадалася за грошы, — сам халуй, і думкі ў яго халуйскія. І вышэйшай думкі ў яго быць ня можа, ён прызвычаіўся каням хвасты круціць у калгасе, на большае ён ня здольны.*





пятніца, 24 сакавіка 2006

## 3:00. МАГЧЫМА, РЫХТУЕЦЦА ШТУРМ ПЛОШЧЫ

***Паведамляе Ягор Маёрчык:***

Толькі што на плошчу падагналі некалькі аўтобусаў. Тут зьявілася некалькі дзясяткаў байцоў спэцназу. Яны набліжаюцца да лягеру.

Падпалкоўнік папрасіў усіх журналістаў выйсьці за кардон міліцыянтаў «у мэтах асабістай бясьпекі». На плошчы зьявілася шмат людзей у цывільным.

Людзі скандуюць «Жыве Беларусь!» і «Міліцыя з народам!».

Адчуваецца вялікая напружанасьць.

На тым баку праспэкту Незалежнасьці зьявілася яшчэ больш міліцыянтаў.

**з в а н к і н а « С в а б о д у »**

*СПАДАРЫНЯ: Добры дзень. Я працую дворнікам цэнтральных гарадзкіх вуліцаў і пачула па беларускім тэлебачаньні, паказвалі менскіх дворнікаў, абураных вялікай колькасьцю сьмецьця ў намётавым гарадку. Ня верце гэтаму, дарагія людзі. Мы, дворнікі, — горшыя за службовых сабак, улада не шкадуе нас, калі ідзе масавая п’янка ў парках на Масьленіцу, калі два-тры дні сьвяткуюць дні гораду й мы прыбіраем начамі, атрымліваючы за гадзіну працы 0,4 даляра.*

*АЛЯКСАНДАР ГАНЧАР, Віньніца: Мне вельмі сорамна за словы Літвіна, нібыта трэба шанаваць права беларусаў. Я ведаю, што абсалютная большасьць прагаласавала супраць Лукашэнкі, ведаю, што абсалютная большасьць украінцаў — за апазыцыю.*

пятніца, 24 сакавіка 2006

## 3:07. РЫХТУЕЦЦА ШТУРМ ЛЯГЕРУ

***Паведамляе Валер Каліноўскі:***

На Кастрычніцкую плошчу падагналі шэсьць грузавікоў МАЗ і аўтобусы, поўныя спэцназаўцаў у бронекамізэльках, у шлемах і з дручкамі.

Журналістаў не пускаюць бліжэй, чым на 50 мэтраў.

Цяпер зьявіўся дадатковы кардон спэцназаўцаў у шлемах.

Увесь лягер абкружаны двайным колам.

Людзі ўзяліся за рукі й маўчаць. Ім усім праз мэгафон загадалі сесьці на зямлю.

Грукат грузавікоў заглушае ўсё. Міліцыянты нешта аб'яўляюць у мэгафон, але нічога не чуваць тут, дзе стаяць журналісты.

Дзьверы грузавікоў адчыняюцца, зь іх выскокваюць спэцназаўцы.

званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Хачу расчараваць вас і ўсіх, хто вам падыгрывае. Быў я там, на гэтай плошчы. Дзяўчаткі й хлопчыкі там стаяць. Скачуць, гойсаюць, сьцягі розныя там падкідваюць. А навошта — яны нават і ня ведаюць. Ды ім заплацілі па 20 тысяч. Вось і ўся гісторыя, уся рэвалюцыя. Потым прыйдзе Мілінкевіч ці нехта яшчэ, пабрэша там крыху й сыходзіць зноў дадому спаць, а іх пакідаюць там. А карэспандэнты замежныя, яны чакаюць, калі міліцыя пачне разганяць тых дзяцей. Гэта анэкдот! І вы гэта падаяце як немаведама што.*





пятніца, 24 сакавіка 2006

## 3:10. ПАЧАЛІСЯ ШТУРМ І ЗАТРЫМАНЬНІ

***Паведамляе Ягор Маёрчык:***

Спэцназаўцы гвалтам вядуць людзей у браняваныя МАЗы. З двух бакоў стаяць па чатыры машыны. Людзі крычаць. Іх запіхваюць у аўтазакі.

Усіх дэманстрантаў вельмі хутка загружаюць у гэтыя машыны. Людзі супраціўляюцца. Яны ўзяліся за рукі. Трымаюць адзін аднаго. Але іх вырываюць па адным. У першую чаргу вырываюць людзей з краю.

званкі на «Свабоду»

*СПАДАРЫНЯ: Хачу павіншаваць гэтых людзей усіх, якія ў Менску пратэстуюць і хочуць, каб была свабода. Дай Бог ім усім здароўя — гэта людзі прыстойныя. І Мілінкевічварты чалавек, раз ён гэта ўсё робіць. Дай Бог і яму здароўя, і ўсім ягоным памочнікам! Хто ганьбіць, дык тым і ганьба. Ганьба Ярмошынай, што яна скруціла выбары, не дала адбыцца выбарам, бо змусіла людзей на працы падпісвацца за Лукашэнку. Людзі, баючыся, падпісваліся.*

*СПАДАРЫНЯ: Скуль вы ўзялі, што Мілінкевіч папулярны палітык? Скуль гэта правакатары й здраднікі лічацца каштоўнымі для дзяржавы? Ён жа ж працуе на ЗША й АБСЭ. Дарослыя людзі гэта разумеюць і пагарджаюць ім. Ну а падлеткам недасьведчаным далі выпіць, заесьці — вось і стаяць, мерзнуць, калі няма чым думаць. А абурэньне бацькоў гэтых падлеткаў выклікае толькі сьмех: якія бацькі, такія ж і дзеткі. І ня трэба звальваць віну на іншых. Добра было б, калі б Бог паслаў мароз мацнейшы й буру на гэтую плошчу.*

пятніца, 24 сакавіка 2006

## 3:15. ІДЗЕ ШТУРМ ЛЯГЕРУ, ЛЮДЗЕЙ ГРУЗЯЦЬ У БРАНЯВАНЫЯ МАЗЫ

***Паведамляе Валер Каліноўскі:***

Тры з шасьці МАЗаў ужо поўныя людзей. Яны, відаць, хутка ад'едуць. МАЗы таксама абкружаныя міліцыянтамі, магчыма, каб прадухіліць доступ фотажурналістаў.

Людзі ўжо супраціўляюцца ня так моцна. Некаторыя самі ідуць у кірунку МАЗаў. На плошчы засталіся намёты. Іх пакуль не разбурылі. Але людзей у іх ужо няма. І ўся тэрыторыя ачэпленая міліцыянтамі.

МАЗы завялі рухавікі і ўжо ад'яжджаюць.

Замежныя карэспандэнты адзначаюць, што вельмі цяжка рабіць фатаздымкі. Над лягерам было вельмі цёмна, а журналістаў выціснулі за два ланцугі міліцэйскага кардону. З такой адлегласьці цяжка было фатаграфаваць штурм.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Гэта тэлефануе пэнсіянэрка з Воршы. Вы чуеце мяне? Я ня ведаю, ці ёсьць у вас дзеці. Якое выхаваньне вы ім даяце? Я пражыла вайну. Вы слухаеце Мілінкевіча. Гэта — мярзотнік, які нясе з сабой фашызм. Паглядзіце, якую брыдоту яны пакідаюць на плошчы. Людзі плююць ім у вочы. І ніякіх там людзей няма. Там сабраныя дзеці, якім трэба вучыцца. А фашызм у нас ня пройдзе ніколі, пакуль будзе на чале Аляксандар Рыгоравіч. Хай жыве гэты чалавек! І хай яму Бог дасьць здароўя за наш дабрабыт. А вы — нягоднікі. Ужо гэтак жа ішоў Гітлер — з ботамі такімі й з губнымі гармонікамі. Так, як цяпер вы выкрыкваеце «Жыве Беларусь!». Праклён на вас усіх!*





пятніца, 24 сакавіка 2006

## 3:25. ШТУРМ СКОНЧАНЫ, УСІХ ЗАТРЫМАЛІ Й ВЫВЕЗЬЛІ З ПЛОШЧЫ

***Паведамляе Ягор Маёрчык:***

Лягер стаіць пусты. Усе шэсьць машынаў МАЗ цёмна-зялёнага колеру, напоўненыя людзьмі, пакідаюць плошчу.

Цяпер застаюцца толькі аўтобусы й міліцыянты. І нават яны цяпер зьяжджаюць.

Зьявіліся людзі ў цывільным. Яны аглядаюць намёты. Нешта шукаюць у іх.

Пад'ехаў звычайны грузавік. Відаць, у яго будуць складаць усе тыя рэчы, што засталіся на месцы намётавага лягеру.

Журналістаў бліжэй за 50 мэтраў не падпускаюць.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*ГУЦІН, Віцебск: Выступаў там нейкі таварыш, які хоча расстрэльваць людзей, што зьбіраюцца сёньня на плошчы. Дык вось, хай пачынаюць зь мяне расстрэлы. Я — інвалід другой групы, і мне ўсё роўна паміраць. Хай пачынаюць зь мяне. Я прайшоў два канцлягеры, і мне дзіка слухаць ад гэтага таварыша, што трэба пачынаць расстрэльваць людзей. Напэўна, ён служыў недзе генэралам. А мяне ведаюць у Віцебску: я займаюся ўшанаваньнем памяці людзей, якія загінулі. А гэты таварыш хоча толькі крыві.*

*СПАДАР: Лічу, што разгону гэтага мерапрыемства на плошчы ня будзе толькі таму, што Масква не дазваляе. А Масква не дазваляе з тае прычыны, што чакаецца саміт, і яны ня хочуць чырванець, што такое адбудзецца. Затое паціху выхопліваюць людзей, употай, па-зладзейску й садзяць.*

пятніца, 24 сакавіка 2006

## 3:32. ПАЎСЮЛЬ РАСКІДАНЫЯ АСАБІСТЫЯ РЭЧЫ, ХАРЧЫ, БАЛЁНІКІ, ЛЕКІ, СЬЦЯГІ

***Паведамляе Валер Каліноўскі:***

А палове на чацьвертую ночы апэрацыя затрыманьня дэманстрантаў скончаная, усіх вывезьлі на МАЗах, але месца па-ранейшаму недаступнае для прэсы. Магчыма, людзі ў цывільным хочуць нешта падкінуць у намёты. На момант штурму ў лягеры знаходзілася 460 чалавек, пераважна моладзь, большая частка — мужчыны. Сярод лідэраў апазыцыі была Валянціна Палевікова.

Цяпер намёты разьбіраюць. Усе рэчы складаюць у падагнаны грузавік.

звані на «Свабоду»

*СПАДАРЫНЯ: Гэта званок зь Бярозы Берасьцейскай вобласьці. Я ганаруся гэтай моладзьдзю, якая цяпер на плошчы, і малюся за іх. Бо ведаю, як ім цяжка. 19-га я са сваімі аднадумцамі — людзьмі ва ўзросьце — прыяжджала на плошчу, і глыток свабоды даў зарад бадзёрасьці. 25-га мы будзем там ізноў. Надакучыла цемрашальства, агрэсія, якія зыходзяць ад прэзыдэнта й сілкуюць ягоны электарат.*

*СПАДАР: Вось Казулін прыняў рашэньне спыніць акцыю на плошчы: маўляў, нельга падстаўляць маладых людзей. Так, спадар Казулін ня хоча на плошчы начаваць, і яму сорамна, што Мілінкевіч з жонкай там цэлую ноч, а ён дома сьпіць. Сорамна чалавеку, таму ён хоча ўсё спыніць. Можна з гэтага зрабіць высновы, які ён актывіст, гэты Казулін. І яшчэ хачу сказаць: «Есть у революции начало», але ня будзе, відаць, у яе ўжо краю. Бо гэта сапраўды — пачатак.*





Паўсюль валяюцца асабістыя рэчы, харчы, балёнікі, лекі, сьцягі.

Бел-чырвона-белыя сьцягі раскіданыя паўсюль. Людзі ў цывільным зьбіраюць усе сьцягі.

Паўсюль валяюцца тэрмасы й пластыкавыя бутэлькі. Ніводнай бутэлькі ад алькагольных напояў няма.

У цэнтры стаіць мангал, на якім гатавалася гарбата.

Цяпер на месцы знаходзяцца ў асноўным толькі журналісты. Яны здымаюць тое, што засталося.

звані на «Свабоду»

*СПАДАР: Пан Мілінкевіч, ці зьбіраецеся Вы кампэнсаваць страты, якія ўчынілі гораду Менску беспарадкамі на Кастрычніцкай плошчы, загадзіўшы яе да непазнавальнасьці? Дзякуй Богу, што толькі плошчу, а ня ўсю Беларусь.*

*СПАДАР: Я падтрымліваю думку, што трэба на 25 сакавіка, у Дзень Волі, перайменаваць гэтую плошчу Акцябарскую, савецкую, і каб яна была назаўсёды названая імем Кастуся Каліноўскага. Гэты дзень стаўся б гістарычным. Падтрымліваю таксама гэтых людзей — мужных, маладых, сапраўдных беларусаў. Хай стаяць да Перамогі! У вайну было горш, а камсамольцы-падпольшчыкі стаялі ў Менску — і перамаглі фашызм. І мы пераможам лукашызм.*

*СПАДАР: У мяне вось такая прапанова: улетку ў Піцеры будзе сустракацца сямёрка — сямёрка разьвітых краінаў, а на ёй будзе прысутнічаць і Пуцін. Трэба быць пасьлядоўнымі, таварышы-панове, і далучыць да гэтай сямёркі яшчэ й дзявятку, дзясятку. Трэба ўзяць туды, у гэтую кампанію, Лукашэнку, вызваліць Хусэйна і ўсіх такіх таварышаў. Кім Ір Сэна — таксама туды.*

пятніца, 24 сакавіка 2006

## 3:35. ЖУРНАЛІСТАЎ ПУСЬЦІЛІ ЗА КАРДОН; НА МЕСЦЫ ЗЬЯВІЎСЯ А.КАЗУЛІН

***Паведамляе Ягор Маёрчык:***

Штурм скончыўся. Усе ўдзельнікі акцыі вывезеныя на грузавіках-аўтазаках у невядомым кірунку. На месцы застаюцца рэшткі намётаў, спальныя мяхі, пакункі, асабістыя рэчы. Супрацоўнікі камунальных службаў апэратыўна кідаюць усё гэта ў грузавікі. Тэрмасы, балёнікі, кампактдыскі, абрыўкі транспарантаў...

Тут усё яшчэ знаходзяцца спэцслужбы. У лягеры ацалеў адзін намёт. На ім выява «Пагоні» й два абразы Божай Маці.

На плошчу толькі што прыехаў Аляксандар Казулін. Яго шчыльным колам атачылі журналісты.

Амаль усе сьцягі сканфіскавалі міліцыянты. Астатнія рэчы зьбіраюць цяпер супрацоўнікі камунальных службаў.

звaнкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Горача падтрымліваю ўдзельнікаў пратэсту на Кастрычніцкай плошчы. Няправільна зробіць Сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), калі пакіне без падтрымкі гэтых мужных змагароў. Чаму маўчаць абласныя гарады? Чаму няма пратэстаў у прамысловых гарадах — Барысаве, Воршы, Наваполацку, Баранавічах і іншых? Гэты пратэст павінен быць паўсюдным. Трымайцеся, хлопцы! Мы з вамі!*

*СПАДАР: Мы цяпер стаім, нас сто чалавек, на тэрыторыі нейкага міліцэйскага лягеру, мерзьнем дзьве з паловай гадзіны. Нікога практычна не выводзяць.*





пятніца, 24 сакавіка 2006

## 3:45. «НАС ПАКУЛЬ НЕ РАССТРАЛЯЛІ. МЫ НЕ ПАНІКУЕМ»

**Адна з затрыманых на Плошчы — журналістка «Нашай Нівы» Тацяна Сьнітко. Яна паведаміла:**

— Мы не супраціўляліся падчас штурму намётавага лягеру. Спачатку мы селі на зямлю й скандавалі «Міліцыя — з народам», а потым замаўчалі. Мы моўчкі проста трымалі адзін аднаго за рукі. Нам не было страшна, бо мы гэтага чакалі. Цяпер нас вязуць у МАЗе-аўтазаку кудысьці за межы Менску. Праз маленькае акенца мы маглі збольшага адсочваць маршрут. Нехта паведаміў, што мы ехалі па Ціміразева, потым па Арлоўскай, цяпер зьвярнулі ўбок. Выглядае, што мы ўжо за горадам. Некаторых хлопцаў зьбілі. У іх на тварах кроў. Дзяўчат у нашым аўтазаку не зьбівалі.

Нас пакуль не расстралялі. Мы не панікуем.

звaнкі на «Свабоду»

*СПАДАРЫНЯ: Калі вельмі шмат гаварыць пра цемрашальства цяперашняга рэжыму, дык тым самым — дапамагаць сіле цемры панаваць над намі. Я прапаную 25 сакавіка на плошчы Кастуся Каліноўскага пачаць мітынг з працяглай супольнай малітвы. І потым у цішыні пастаяць і падумаць. Цішынёй часам можна больш сказаць, чым выкрыкваньнем лёзунгаў. З Богам!*

*СПАДАРЫНЯ: На плошчы ўначы забралі двух братоў — Адамовіч Аляксей Мікалаевіч і Адамовіч Пётар Мікалаевіч. Яшчэ раней, калі быў хапун, забралі трэцяга брата Андрэя.*

пятніца, 24 сакавіка 2006, 5:01

## БЫЛЫ ПОЛЬСКІ ПАСОЛ: ЛЮДЗЕЙ ЦЯГНУЛІ ЗА ВАЛАСЫ І Ў МАШЫНАХ ЗЬБІВАЛІ

***Аляксандар Уліцёнак, Менск***

Былы амбасадар Польшчы ў Беларусі Марыюш Машкевіч быў затрыманы падчас штурму намётавага лягеру, і мы зьвязаліся зь ім адразу пасьля арышту.

МАШКЕВІЧ: Я прашу паведаміць польскаму міністэрству замежных справаў, каб яны вельмі хутка прыехалі. Тут пачалі цягнуць людзей, ачапілі. Усе селі на зямлю, і іх выцягвалі па адным — за руку, за нагу, за валасы. А потым зьбівалі ўжо ў машынах...

Учора ўвечары М.Машкевіч нечакана зьявіўся ў намётавым лягеры на Кастрычніцкай плошчы. Я спытаўся, што яго прывяло сюды?

МАШКЕВІЧ: Я прыехаў кіраваць рэвалюцыяй... Жарт, канечне! Насамрэч я проста хачу падтрымаць людзей, узяць удзел у тым, што параўноўваю зь дзейнасьцю Махатмы Гандзі, зь іншымі рухамі, скіраванымі на змаганьне з дыктатурай. Зь любым гвалтам. Я прыехаў гадзіну таму — і адразу сюды, на плошчу.

— Як у Польшчы ставяцца да сёньняшніх беларускіх падзеяў?

МАШКЕВІЧ: Вельмі пільна адсочваюць сытуацыю, падтрымліваюць. Усе палякі жадаюць, каб беларусы хутка дайшлі да свабоды. Каб трымаліся й верылі, што яна хутка будзе.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Адно толькі меркаваньне: мы жывем у паліцэйскай дзяржаве. Бачыце, што зрабілі: разграмілі ўсё на плошчы Кастрычніцкай. У вялікіх мэталёвых «варанках» павезьлі ўсіх у невядомым кірунку: білі й дзяўчат, і мужчынаў, і хлопцаў — усіх білі спэцназаўцы. Гэта мне паведамілі, калі яшчэ не пасьпелі адключыць мабільнікі. Цяпер ужо датэлефанавацца ніхто зь іх ня можа. Куды павезьлі, што зь імі — ніхто нічога ня ведае. Усё разгромлена, усе пазьбіваныя.*

*СПАДАР: Што гэта за краіна, калі нашчадкі жалезнага Фелікса ўсю ноч шчыравалі на плошчы, затрымлівалі, арыштоўвалі людзей толькі за тое, што яны думаюць інакш. На Акрэсьціне больш няма месцаў. Засталося толькі абсталяваць стадыён «Дынама», і Беларусь будзе нагадваць Чылі часоў Пінацэта.*





з в а н к і н а «С в а б о д у»

*АНАСТАС СЕМЯНОВІЧ: Сёньня 24 сакавіка ў тры гадзіны ночы Лукашэнка й яго абслуга ўчынілі вялікую памылку, за якую здраднікаў будзе судзіць народ. Я Вас абсалютна не разумею. Вы цудоўна ведаеце, разам зь Ярмошынай, як народ галасаваў. Што Вы робіце зь меркаваньнем народу? Вы ўжо даўно не прэзыдэнт. Просьба да Алеся Мілінкевіча й журналістаў. Трэба скласьці сьпісы ўсіх людзей, якія былі на плошчы. Гэта нашы героі, якія будуць упісаныя ў гісторыю Беларусі залатымі літарамі. Я выказваю вам падзяку за ваш мужны подзьвіг, які вы зрабілі, нягледзячы на дыктатуру.*

*АКСАНА НОВІКАВА: Слава сапраўдным героям Беларусі!*

*СПАДАР: Усе вашы перадачы аб дэманстрацыі — хлусьня! Ва ўсіх краінах несанкцыянаваныя мітынгі разганяюць. І правільна зрабілі, што разагналі гэты мітынг, таму што з гэтым зьвярынцам, з Казуліным і Мілінкевічам — усё зразумела.*

пятніца, 24 сакавіка 2006, 5:11

## У ЛЯГЕРЫ БЫЎ СЫН ІНЫ КУЛЕЙ

***Паведамляе Ягор Маёрчык:***

У лягеры быў сын Іны Кулей, жонкі А.Мілінкевіча. Ён быў таксама затрыманы з сотнямі іншых удзельнікаў акцыі пратэсту.

Ад лягеру цяпер фактычна нічога не засталося.

Цікава, што ў адным з намётаў цяпер знайшлі гару пустых бутэлек з-пад гарэлкі. Гэта якраз той намёт, перад якім адразу пасьля штурму круціліся людзі ў цывільным і нешта запісвалі на відэакамэру.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Людзі ўсяго сьвету! Ратуйце Беларусь! Гіне Беларусь! Гінуць нашыя сынкі! Даражэнькі Мілінкевіч і ўсе дзетачкі за кратамі, адабралі ў вас свабоду сваякі-беларусы! Прадалі вас усе тыя, хто галасаваў напярэдадні выбараў — кожны той голас пайшоў за Лукашэнку. Ганьба ўсім выбарчым камісіям за падробку галасоў! А там былі настаўнікі з вышэйшай адукацыяй і з поўнай адсутнасьцю вышэйшай духоўнасьці! Лепш бы вас усіх звольнілі з работы, чым вы будзеце вучыць хлусьні нашых дзяцей! Ганьба ўсім, хто лье балота на мужных праўдадыроў, беларускіх сыноў Мілінкевіча й Казуліна! Ганьба ўсім, каму заплюшчыў вочы кавалак кілбасы ў краме! Ці вы пасьлеплі, людзі? Вашыя мазгі зьеў страўнік.*

*СПАДАР: Дзяўчаты з хлопцамі нешта паскакалі, а салідныя агенцтвы, рэпартэры, амбасадары іншых краінаў… Гэта ж цырк, камэдыя!*





пятніца, 24 сакавіка 2006, 5:37

## І.КУЛЕЙ: ЯНЫ НА АКРЭСЬЦІНА. НАВІНЫ БУДУЦЬ ТОЛЬКІ РАНІЦАЙ

***Іна Студзінская, Менск***

Жонка А.Мілінкевіча Іна Кулей прыехала ў спэцпрымальнік на вуліцы Акрэсьціна, куды, паводле яе інфармацыі, прывезьлі затрыманых на плошчы — у тым ліку яе 20-гадовага сына Ігара, які стаяў у ачапленьні намётавага лягеру.

КУЛЕЙ: Мы цяпер на Акрэсьціна. Яны тут. Мы сёньня адчувалі па тэлевізійнай прапагандзе вячэрняй, што гэта можа быць, таму што рыхтавалася грамадзкая думка, і я прасіла яго, каб ён абавязкова зьвязваўся, калі будуць нейкія моманты, і ён пазваніў у 3 гадзіны 3 хвіліны й сказаў, што іх абкружыла кола спэцназаўцаў, падагналі аўтобусы й пачынаюць выхопліваць з атачэньня, таму што ён стаяў у атачэньні. Мы прасілі, каб яны не аказвалі супраціву. Былі розныя зьвесткі: хтосьці гаварыў, што Валадарка, хтосьці Акрэсьціна, мы прыехалі сюды. Навіны будуць толькі раніцай.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Рэжым Лукашэнкі нагадвае мне вісельніка, у якога на шыі пятля, а пад нагамі табурэтка. У сувязі з гэтым я хацеў бы прапанаваць апазыцыі з улікам разгону лягеру на плошчы. Мне падаецца, трэба ўжо пачынаць дзейнічаць. Трэба выбіць ужо гэты табурэт, які знаходзіцца пад нагамі ў вісельніка. Трэба зьбіраць подпісы за адмену прыгоннага права й кантрактнай формы найму, з-за якога людзі ня могуць свабодна выказваць сваю волю на выбарах, і зьбіраць подпісы за непрызнаньне вынікаў апошніх выбараў.*

пятніца, 24 сакавіка 2006, 6:14

## ПАСЬЛЯ ШТУРМУ НА ВОЛІ ЗАСТАЎСЯ ТОЛЬКІ АДЗІН ЖЫХАР НАМЁТАВАГА ЛЯГЕРУ

***Ягор Маёрчык, Менск***

У часе захопу маніфэстантаў чалавек, які прадставіўся Зьмітром, апынуўся сярод журналістаў і такім чынам пазьбегнуў затрыманьня.

ЗЬМІЦЕР: Падагналі каля дзясятка вялікіх МАЗаў, падобных да лядоўняў на колах. Зь іх выскачылі экіпаваныя спэцназаўцы. Яны сказалі журналістам выйсьці з намётавага лягеру за ланцуг міліцыянтаў. Яны ўзялі ў кола лягер, і пачалася зачыстка. Людзі па камандзе селі на зямлю. Потым прагучала каманда ад старшага афіцэра: «Работайте!», і пачаўся захоп. Спачатку схапілі некалькіх

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*МІКОЛА КАНАХОВІЧ, Пружаны: Я, вэтэран войска, ад шчырага сэрца віншую патрыётаў Бацькаўшчыны, якія амаль тыдзень, ахвяруючы сваім здароўем і жыцьцём, змагаюцца за волю, праўду, справядлівасьць, за будучыню нашай матулі-радзімы. Сынкі, дачушкі і ўнукі мае, што сёньня на Кастрычніцкай плошчы, не здавайцеся, і мы пераможам!*

*СПАДАР: Перадайце народам Эўропы, што рэвалюцыя, якую плянавалі вы, пасьпяхова завяршылася. Народ Беларусі спакойна працуе, жыве, квітнее. І будзе так заўжды. Гэта для вас навука. Вы павінны ведаць, што ў чужы агарод няма чаго курам лазіць. Думайце больш пра сваю Заходнюю Эўропу, хаця ніхто ня кажа, што там дрэнна, ніхто, але тым ня менш. У сваім доме кожны павінен наводзіць парадак самастойна.*





чалавек, якія сядзелі й ляжалі, і пацягнулі іх у гэтыя машыны. А потым па мікрафоне ўвесь час нейкая жанчына прасіла спэцназаўцаў не ўжываць сілу. Яна сказала: вы можаце казаць нам, што рабіць. Пасьля гэтага сытуацыя трохі супакоілася. Усе тыя, хто быў у лягеры, прайшлі ў суправаджэньні АМАПу ў гэтыя машыны.

— Мы знаходзімся на тым месцы, дзе зусім нядаўна быў намётавы лягер. Што вы бачыце?

ЗЬМІЦЕР: Гэта падобна на сапраўдны сьметнік. Рэшткі ежы, рэшткі посуду, некалькі ацалелых намётаў. Я ўпэўнены, заўтра па БТ пакажуць, што тут былі бутэлькі гарэлкі, шпрыцы й іншы бруд.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Лукашэнка годны прэзыдэнт. А Мілінкевіч — гэта кандыдат Буша. І ён ня будзе, народ гэтага не дазволіць. На плошчы — гэта купленыя падонкі для рэклямы на Захад. Прэч ад кіраўніцтва Беларусі!*

*СПАДАРЫНЯ: Сёньня маё сэрца не вытрымлівала вашых паведамленьняў з плошчы Каліноўскага. Можна было здагадвацца, што рана ці позна людзей разгоняць, але ж не такім зладзейскім чынам. Ноччу ў аўтобусах з кратамі — жах. І гэта называецца дэмакратыя. Згодная з Генадзем Бураўкіным, што людзі ішлі на плошчу, каб выказаць свае думкі, бо больш гэтага рабіць няма дзе. Радыё, тэлебачаньне — толькі для халуёў, а астатнія ня могуць туды папасьці. З вамі мы ўсе, мае родныя дзеткі дарослыя, усе, хто хоча пераменаў. Жыве Беларусь!*

*СПАДАРЫНЯ: Ганьба ўсім судзьдзям і сілавікам, якія кідаюць за краты людзей толькі за тое, што ім абрыдлі хлусьня й гвалт. Ці ёсьць у вас дзеці? А ці ж вы бацькі? Вы зьвяругі! Чаму ж ня судзіце тых забойцаў, якія адnялі ў нас мову й радзіму? Каты! Праклінаю вас! Людзі на зямлі, ратуйце Беларусь!*

пятніца, 24 сакавіка 2006, 6:51

## СЯРОД ЗАТРЫМАНЫХ НА ПЛОШЧЫ БОЛЬШАСЬЦЬ — СТУДЭНТЫ

***Любоў Лунёва, Менск***

Вядомыя прозьвішчы некаторых затрыманых — гэта сустаршыня незарэгістраванай арганізацыі «Малады фронт» Зьміцер Дашкевіч, Андрусь Юркоў з Дрыбіна, Валадар Цурпанаў з Магілёва, Яўген Казлоў зь Менску, Віктар Арцем'еў зь Сеньніцы Менскага раёну, Алег Дзячкоў з Магілёва, Мікола Ільін, які атрымаў чэрапна-мазгавую траўму.

Затрыманыя пляменьнікі А.Казуліна Аляксей і Аляксандар, сын Уладзімера Арлова Багдан, былы амбасадар Польшчы Марыюш Машкевіч, палітык Валянціна Палевікова.

Журналіст Вадзім Казначэеў прад'яўляў байцам спэцназу сваё пасьведчаньне, але яны яго запіхнулі ў аўтазак. Вадзім патэлефанаваў па мабільным тэлефоне й сказаў, што знаходзіцца ў адной машыне з Валянцінай Палевіковай.

Сярод затрыманых ёсьць школьнікі. Іх будуць трымаць у спэцпрымальніку для непаўналетніх. Цягам некалькіх гадзінаў іх могуць забраць бацькі. Астатніх затрыманых канвой даставіць у розныя раённыя суды Менску.

звaнкі на «Свабоду»

*СПАДАРЫНЯ: Вельмі дрэнна пачаўся сёньняшні дзень. Мне шкада тых людзей, якія пакутуюць за ўсіх нас і за тых, хто сэрцам і душою зь імі, за тых, хто іх не зразумеў. Няхай дапаможа ім Бог! Наш абавязак падтрымаць іх. Прачніцеся, людзі! Задумайцеся над будучыняй вашых дзяцей і ўнукаў! Будзем разам! Жыве Беларусь!*





пятніца, 24 сакавіка 2006, 7:13

## ПЕРАД ШТУРМАМ ЛЯГЕРУ ПРАТЭСТОЎЦАЎ ПРАВАКАВАЛІ П'ЯНЫЯ МАЛАДЗЁНЫ

***Ягор Маёрчык, Менск***

Распавядае чалавек, які пакінуў плошчу перад пачаткам штурму й нейкім чынам апынуўся за міліцэйскім ачапленьнем.

СПАДАР: У гэтую ноч у лягеры было найбольш людзей. Чалавек да 700, недзе так. Я быў на плошчы тры ночы, улучна з гэтай, і два дні. Нас вельмі моцна гэтай ноччу правакавалі, хадзіла мноства п'яных, кідаліся на натоўп, выцягвалі з натоўпу людзей. Гэта маглі быць курсанты міліцыі, я ня ведаю. А можа, і БРСМ — яны нам корачак не паказвалі. Потым выйшла нейкая гурба людзей, паклікала журналістаў і адвяла іх убок. Спэцназ стаў у шэраг, пачалі пад'яжджаць аўтобусы — недзе тры. Прыяжджалі і ў вялікіх браняваных МАЗах, з кратамі на вокнах. Туды загружалі людзей. Яны вельмі перажывалі, асабліва маладзейшыя. Пачалі хвалявацца за тое, што зь імі будзе далей, тым больш, што ў нас у лягеры было некалькі дзяцей. Дзеці былі з бацькамі. Потым пачаліся заклікі да

звaнкі на «Свабоду»

*СПАДАРЫНЯ: Вельмі абураная тым, што адбылося гэтай ноччу на плошчы Кастуся Каліноўскага. Эўрапейскім краінам трэба не вітацца з Пуціным, не сустракацца, а разам з Лукашэнкам, як дастаўлены Мілошавіч, даставіць у Гаагскі суд і судзіць за генацыд чачэнскага й беларускага народу. Гэта сапраўдны генацыд, вынішчаецца цьвет беларускай нацыі, уся інтэлігенцыя, эліта.*

міліцыі, да журналістаў, каб тыя пачалі здымаць усё гэта, што там робіцца. Выйшаў нейкі чалавек, які сказаў: давайце, на працягу пяці хвілінаў разыходзьцеся, інакай мы будзем ужываць сілу. Я вырашыў «разысьціся». Калі я сыходзіў, мяне спрабавалі спыніць, але ў іх гэта не атрымалася. Напэўна, я адзін адтуль сышоў. У мяне маленькае дзіця дома, жонка сядзела зь ім — у мяне не было іншага выбару, я ўжо паўтара дні быў на плошчы. Якія з нас былі салдаты — ваяваць са спэцназам... Я проста хацеў, каб людзі даведаліся, што адбывалася на гэтай плошчы. Можа, хтосьці палічыць, што я павёў сябе баязьліва, але, шчыра кажучы, я ўжо там вельмі стаміўся, цяпер спрабую даехаць дамоў з цэнтру, і мяне вельмі турбуе лёс маіх сяброў. Мой сябра, які там быў, узяў на працы адпачынак за ўласны кошт наўмысна, каб прыйсьці на плошчу й адстойваць там меркаваньне людзей, бо многія людзі, нават мае сябры, адвярнуліся ад нас у гэтай справе, не захацелі — яны як бы за нас, але выйсьці на плошчу ніхто не захацеў.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Мне вельмі балюча было прачытаць пра тое, што адбылося сёньня ноччу на Кастрычніцкім пляцы. Хачу зьвярнуцца да настаўнікаў. Я сам працаваў у школе, і я бачыў на плошчы некалькіх сваіх вучняў. Я думаю, ім было вельмі прыемна бачыць свайго настаўніка, былога настаўніка, які быў зь імі салідарны. Настаўнікі, тыя, хто працуе ў школах, інстытутах, унівэрсытэтах, ведаю, што большасьць з вас не падтрымлівае сёньняшняга рэжыму, але вы запалоханыя, што вас могуць звольніць з працы. Але, калі вас многа, вы ня будзеце ўсе звольненыя, бо нармальных настаўнікаў ня так шмат. Падтрымлівайце сваіх вучняў, сваіх студэнтаў, бо ім цяпер цяжэй за ўсіх. Яны стаялі за свабоду, яны будуць стаяць за свабоду. Далучайцеся да іх і стойце за свабоду разам зь імі!*





пятніца, 24 сакавіка 2006, 7:52

## «УСІХ УПЁРЛІ ГАЛОВАМІ Ў БЭТОННЫ МУР, СТАІМ НА МАРОЗЕ ЎЖО БОЛЬШ ЗА ГАДЗІНУ»

**Сярод затрыманых знаходзіцца 22-гадовы юнак, у якога яшчэ не адабралі мабільны тэлефон. Хлопец паведаміў Радыё Свабода, што ехаў у апошнім аўтобусе. Разам зь ім было каля 70 чалавек. Цяпер іх паставілі ўздоўж агароджы. Ён зьвязаўся з намі, калі ахоўнікі адышлі ў будынак, і назваў прозьвішчы тых, хто стаіць цяпер разам зь ім.**

ЗАТРЫМАНЫ: Цяпер усіх выставілі за плотам, упёрлі галовамі ў бэтонны мур. Мы на марозе стаім ужо больш за гадзіну. Яны прайшлі, перапісалі прозьвішчы, імёны, імя па бацьку, дату нараджэньня, нацыянальнасьць, непаўналетніх кудысьці адвялі, мы стаім уздоўж плота — яны па адной выбіраюць дзяўчат, кудысьці іх адводзяць у будынак. Нічога не гавораць, не сказалі ні слова, толькі ходзяць, жартуюць наконт таго, што вось гарачай гарбаты ніхто не прынясе, як вам насілі на майдане. Здаецца, пакуль нікога ня білі. Але перад гэтым кожнаму, каго закідалі ў аўтобус, зрабілі адзін-два ўдары.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Пачула раніцай аб разгоне намётаў. Ганарымся моладзьдзю, якая там была, якая змагаецца за нашу будучыню! Дзякуй Богу, здаецца, народ патроху абуджаецца. Ад улады нічога лепшага чакаць не прыходзіцца!*

*СПАДАРЫНЯ: Жыве Беларусь! Арыштавалі лепшых нашых людзей. Заменім іх сотнямі тысяч у Дзень Волі. Жыве Беларусь!*

**7:00**

Некалькі разоў да будынку турмы на Акрэсьціна прыяжджала машына «хуткае дапамогі». Пад'ехалі аўтобусы, на якіх затрыманых павязуць у суды.

Няпоўнагадовых адвялі ў спэцыяльнае памяшканьне, побач з асноўным — іх каля 20 чалавек. Каля будынку знаходзяцца два польскія консулы, якіх не пускаюць да трох грамадзянаў Польшчы, якія былі затрыманыя на плошчы. Консул заявіў, што гэта — парушэньне Жэнэўскай канвэнцыі.

**07:15**

Каля турмы на Акрэсьціна пачалі зьяўляцца маці затрыманых зь перадачамі. Яны сказалі, што ім дазволяць прынесьці перадачы. Іх прыйшло прыблізна чалавек дзесяць.

А.Казулін заклікаў усіх бацькоў дапамагчы затрыманым маральна. Ён сказаў, што калі тут будзе шмат людзей, то й да затрыманых будуць ставіцца лепш.

У двор спэцпрымальніка ўвайшла яшчэ адна група прадстаўнікоў спэцназу — яны, відавочна, будуць дапамагаць складаць пратаколы на затрыманых.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Рэжым Лукашэнкі зноў праявіў сваю сутнасьць — прыбраў намётавы гарадок. Пакуль Эўрасаюз не прарве інфармацыйнай блякады ў Беларусі, пакуль ня будуць прынятыя іншыя кардынальныя меры, антынародная ўлада па-ранейшаму будзе замбіраваць людзей, нахабна сьмяяцца, як учора гэта рабілі Ярмошына й Лазавік, растоптваць усіх разумных і дзейных людзей. Хацелася б пабачыць беларускі Нюрнбэрг, дзе б уся гэтая нахабная зграя скуголіла на лаве падсудных!*





пятніца, 24 сакавіка 2006, 13:56

## ЗАТРЫМАНЫХ РАЗВОЗЯЦЬ З АКРЭСЬЦІНА Ў СУДЫ

***Любоў Лунёва, Менск***

Каля 200 чалавек родных і сяброў затрыманых на Кастрычніцкай плошчы сёньня ўсю раніцу знаходзяцца каля турмы на Акрэсьціна. Некаторыя зь іх прыйшлі сюды ў 6 гадзін раніцы. Уначы тут пабываў А.Мілінкевіч. Людзі прывезьлі харчовыя перадачы й лекі, але іх не прымаюць. Не даюць таксама й сьпісаў затрыманых. Людзі крычалі «Ганьба!», «Жыве Беларусь!», «Свабоду!».

Разам зь людзьмі знаходзіўся А.Казулін, які патрабаваў, каб да прысутных выйшаў нехта з адміністрацыі турмы.

Цягам гэтага часу з Акрэсьціна выехалі тры перапоўненыя аўтобусы з затрыманымі на плошчы. Відавочна, іх павезьлі ў суды, але людзям так нічога й не сказалі. Прысутныя спрабавалі перагарадзіць аднаму з аўтобусаў дарогу.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*АЛЕСЬ ЧОБАТ, Горадня: У Беларусі тры пакаленьні нацыі: сорак адсоткаў — савецкае ваеннае, сорак — паваеннае ніякае й дваццаць — маладое невядомае: сорак — за «бацьку», сорак — за Расею й дваццаць — «так жыць нельга». Сорак адсоткаў — «беларусы-тожа рускія», сорак — «беларусы больше, чем русские» й дваццаць — «беларусы моўныя й маламоўныя». Сорак плюс сорак мінус дваццаць — гэта будзе сорак сем, якія Лукашэнка набірае сам, і гэта будзе восемдзесят два, якія закаханая бяз памяці Ярмошына выводзіць паводле правіла «плян любым коштам». Галасуй — не галасуй, заганяй — не заганяй, а наўкруг сорак плюс сорак мінус дваццаць. Бо такія мы людзі, і ў нас усялякая хлусьня — праўда, а праўда — хлусьня.*

пятніца, 24 сакавіка 2006, 15:34

## У РАЁННЫЯ СУДЫ ПРЫБЫВАЮЦЬ АЎТОБУСЫ З ЗАТРЫМАНЫМІ

***Любоў Лунёва, Менск***

У Дом правасудзьдзя на вуліцы Сямашкі, дзе знаходзяцца суды Ленінскага, Партызанскага й Кастрычніцкага раёнаў Менску, прыехалі два аўтобусы.

У двары суду Маскоўскага раёну стаіць адзін аўтобус. Яшчэ адзін аўтобус накіраваўся ў суд Фрунзенскага раёну. Калі ён выяжджаў з Акрэсьціна, хлопцы на шкле напісалі, што іх вязуць у Фрунзенскі суд. Актывісты апазыцыі пазналі ў гэтым аўтобусе сына Ўладзімера Арлова Багдана, Сержука Мацкойця й некалькіх актывістаў руху «Зубар» з Барысава. Адзін аўтобус выехаў з Акрэсьціна й скіраваўся ў цэнтар гораду, у раён праспэкту Незалежнасьці, у ім былі адны дзяўчаты. Консул украінскай амбасады цягам дня шукае грамадзяніна Ўкраіны Паўла Салыгу, які на плошчы трымаў украінскі сьцяг. Міліцыя дасюль не дае агульнай лічбы затрыманых удзельнікаў акцыі на Кастрычніцкай плошчы.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Вось Эўразьвяз зьбіраецца пашырыць сьпісы непажаданых асобаў. Як па мне, дык і вам трэба было б зрабіць такі сьпіс непажаданых асобаў у вашым этэры, і першым у гэты пералік занесьці Гайдукевіча — былога прэтэндэнта на пасаду прэзыдэнта. Бо ў апошнім сваім інтэрвію ён увогуле зьдзекліва адгукаўся пра людзей, сабраных на плошчы Каліноўскага. Згадайце тую гутарку, калі ён сказаў: «Ну, хай пастаяць, усё роўна ж ніхто нідзе не працуе».*





пятніца, 24 сакавіка 2006, 18:06

## «ТАМ, У ГЭТАЙ МІЛІЦЫІ, ЯНЫ НЕЙКІЯ ХВОРЫЯ, НАПЭЎНА... КАЛІ ІМ НЕХТА НЕ ПАДАБАЎСЯ, ЯНЫ ПАДЫХОДЗІЛІ Й БІЛІ»

***Юлія Шарова, Менск***

Сёньня раніцай з турмы на вуліцы Акрэсьціна выпусьцілі падлеткаў, якіх затрымалі ўначы на Кастрычніцкай плошчы. Дзяўчына, зь якой я пагутарыла, правяла ў пастарунку каля пяці гадзінаў, яе выпусьцілі а 9-й раніцы. Дзяўчына паехала дадому, пераапранулася й прыйшла да турмы, каб даведацца пра лёс сваіх затрыманых сяброў. Дзяўчына апавяла пра тое, што зь ёй адбывалася ў пастарунку.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Добры дзень, паважаныя суайчыньнікі! Прабачце, калі ласка, але я тэлефаную з палітэміграцыі, зь Цюрыху, дзе Ленін з 1900 да 1917 году чакаў, калі ў Расеі будзе рэвалюцыйны дух. Вялікі жаль, што цяпер я ня побач зь Мілінкевічам і Лябедзькам, зь іншымі маімі сябрамі па апазыцыі. Шкада, што я не ў намёце, што я яшчэ на волі, а не ў каталажцы са змагарамі за свабоду. Нам, апазыцыі, трэба ня лаяцца між сабой, а зрабіць плян на будучыню. Ужо гэтыя выбары мы, прабачце, прас...алі: ідэалёгія лукізму, ідэалёгія гвалту й падману зноў узяла верх. Значыць, трэба працаваць і зь міліцыянтамі, і з вайскоўцамі: яны ж — беларусы, яны ж нашы сыны, нашага народу. А ў нас паўгоду працы перад выбарамі — і ўсё. На кожным прадпрыемстве павінен быць свой ідэоляг, свой цьвік, які не сагнецца ні перад чым. Маці й бацькі, ганарыцеся сваімі дзецьмі, якія на беларускім Майдане: яны — барацьбіты за сваё шчасьце й сваіх дзяцей, а вы галасуеце за чарку й скварку.*

ДЗЯЎЧЫНА: Сабралі ўсіх непаўналетніх, завялі іх у нейкі такі пакойчык, там не было ні крэслаў, нічога. Нас пасадзілі ўсіх на падлогу, забаранілі нам падымацца. Потым нас цягалі складаць нашыя сьпісы з тэлефонамі й адрасамі, потым пачалі групаваць паводле ўзросту, паводле месца жыхарства, потым на ўсіх нас складалі пратаколы, таксама вельмі доўга, шукалі розныя налепкі, улёткі, агітацыю розную. Усіх астатніх завялі зноў у той жа самы пакойчык, мы там сядзелі.

Са словаў маёй суразмоўцы, міліцыянты непаўналетніх ня білі, былі хіба толькі маральныя зьдзекі. Калі дзяўчына перачытвала тэкст складзенага на яе пратаколу, міліцыянт удаваў зьдзіўленьне: няўжо яна ўмее чытаць?

Крыху старэйшым за яе хлопцам і дзяўчатам, якіх таксама ў мінулую ноч затрымалі й прывезьлі на Акрэсьціна, давялося цяжэй.

ДЗЯЎЧЫНА: Хлопец, ён страціў прытомнасьць, зь ім зрабілі вельмі непрыемна: ён папросту паўгадзіны праляжаў на падлозе, «хуткая дапамога» прыехала толькі праз паўгадзіны. Потым прывялі яшчэ нейкую зьбітую дзяўчыну, ёй забаранілі з намі нават размаўляць, але яна размаўляць, у прынцыпе, напэўна й не магла.

### званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Патрэбна ў міжнародныя структуры падаць сьпіс грамадзянаў Рэспублікі Беларусь, зь віны якіх не праводзіліся свабодныя й праўдзівыя выбары прэзыдэнта.*

*СПАДАР: Зьвяртаюся да тых, хто галасаваў за Лукашэнку. Людзі добрыя! Няўжо вы яшчэ не здагадаліся, які ён вораг Беларусі й беларускага народу? Задумайцеся, калі вы яшчэ не развучыліся думаць: што ж гэта за ўлада, якая лёзунг «Жыве Беларусь!» лічыць антыдзяржаўным. Няўжо Беларусь ня мае права жыць як краіна?*





Міліцыя абыходзілася з падлеткамі ня вельмі добра й ня вельмі кепска, іх ня білі — пра гэта апавяла мне 16-гадовая Яўгенія, да якой я дазванілася сёньня ў абед. Прывезьлі, паставілі ў нейкім калідоры ўсіх тварам да сьцяны й так прымусілі стаяць паўгадзіны. Яўгенія выйшла з Акрэсьціна ў палову дзявятай раніцы. Яна прыгадвае, як іх везьлі з Кастрычніцкай плошчы разам зь іншымі затрыманымі.

ЯЎГЕНІЯ: У гэтым браневіку было вельмі страшна. Там, у гэтай міліцыі, яны нейкія хворыя, напэўна. Бо яны пачалі шукаць аркушы паперы, каб напісаць рапарты, ні ў каго не было. Яны пайшлі па аўтобусе, шукалі ў кожнага ў заплечніку — калі не было, яны білі. Калі ім нехта не падабаўся з твару, яны таксама падыходзілі й білі.

У двух браняваных міліцэйскіх аўтобусах з затрыманымі на Кастрычніцкай людзьмі былі 22 непаўналетнія, паведаміла Яўгенія. Але агульнай колькасьці затрыманых гэтай ноччу падлеткаў высьветліць пакуль не ўдалося.

### званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Чуў, што вэтэраны — прыхільнікі Лукашэнкі — былі прывезеныя аўтобусамі на Кастрычніцкую плошчу, дзе змагаюцца за дэмакратыю, праўду й свабоду. Я ня ведаю тых вэтэранаў і за каго яны галасавалі. Але я ведаю вэтэранаў Вялікай Айчыннай вайны суседзяў Зьмітра й Тамару, зь якімі жыву на адной пляцоўцы больш за сорак гадоў. Зьміцер быў паранены ў баях пад Масквой у 1941 годзе, Тамара пайшла абаронцам у армію на пачатку вайны. Зьмітру й Тамары за восемдзесят гадоў кожнаму. Зьміцер — капітан, Тамара — старшына. Апошнія гады вайны служылі ў органах. Галасавалі яны за Мілінкевіча. І каб знаць праўду пра Беларусь у сьвеце, Зьміцер купіў у камісійнай краме за дваццаць тысяч радыёпрыёмнік і слухае «Свабоду». Яны — сапраўдныя прыхільнікі дэмакратыі й спачуваюць змагарам.*

пятніца, 24 сакавіка 2006, 18:34

## КАЛЯ 200 ЧАЛАВЕК ЧАКАЛІ НА АКРЭСЬЦІНА ВЕСТАК

***Галіна Абакунчык, Менск***

Цягам дня каля турмы на вуліцы Акрэсьціна заставаліся сваякі й знаёмыя затрыманых удзельнікаў акцыі пратэсту на плошчы. Яны чакалі зьвестак пра лёс затрыманых, а таксама прынесьлі цёплыя рэчы, лекі й прадукты. Людзі, якія гадзінамі стаялі каля сьценаў турмы, нічога ня ведалі пра лёс затрыманых.

— Хто Вы й да каго прыйшлі?

СПАДАРЫНЯ: Да дачкі. Перадачу прынесла.

— У Вас яе бяруць?

СПАДАРЫНЯ: Не. Нічога ня кажуць, я нават ня ведаю, дзе яна. Хоць бы сказалі, ці тут яна. (*Плача.*)

ГАЛАСЫ ЛЮДЗЕЙ: Няхай скажуць бацькам, дзе дзеці?.. Выклічце нам начальніка! У вас сумленьне ёсьць?.. Яны

з в а н к і   н а   «С в а б о д у»

*СПАДАР: У мяне пытаньне да гаспадзіна Лукашэнкі. Аляксандар Рыгоравіч, чаму ва ўмовах эканамічнага цуду ў цэнтры сталіцы ў людзей адбіраюць прадукты харчаваньня? Вы што — недаядаеце?*

*СПАДАР: Афіцыйныя сродкі прапаганды шматразова параўноўваюць нашу сытуацыю з пратэстамі моладзі ў Францыі, якая не жадае працаваць па першым кантракце: маўляў, там распраўляюцца зь непаслухмянымі. Тэлеканалы адкрыта падтрымліваюць страйкоўцаў. А нашу моладзь на Кастрычніцкай плошчы ганьбуюць як тэрарыстаў і адмарозкаў, знарок забыўшыся, што на ўсіх працоўных у Беларусі накінута ярмо кантракту.*





ж ілбом да сьцяны дагэтуль стаяць... Адзін датэлефанаваўся маці... Бачыце, якое ў нас бяспраўе? Жах! Людзі, хто нам дапаможа?

Сябра КХП БНФ Уладзімер Юхо, які быў арыштаваны на 5 сутак за тое, што забраў з участку выбарчы бюлетэнь, якраз у гэтыя хвіліны выйшаў на свабоду.

ЮХО: Усе камэры перапоўненыя. Сказалі, што цяпер яшчэ 90 чалавек прывязуць. Гэты корпус увесь заняты, і кажуць, што другі таксама запоўнены ўвесь.

А.Казуліну, які прынес перадачу сваім затрыманым сваякам, адмовіліся паведаміць пра іхны лёс. Тое, што цяпер адбываецца, будзем абмяркоўваць з А.Мілінкевічам, паведаміў спадар Казулін.

КАЗУЛІН: У нас няма разыходжаньняў. Мы ідзем разам дзеля будучыні. Сёньня мы зь ім сустрэнемся, каб вырашыць, як нам быць.

Да турмы на Акрэсьціна прыходзілі людзі — падтрымаць вязьняў.

СПАДАР: Юры, прыватны прадпрымальнік.

з в а н к і   н а   «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Лукашэнка! Прыпыні вайну, якую ты распачаў супраць свайго народу. Бо за гэта адкажаш. А мы Гітлера перамаглі, і цябе пераможа беларускі народ. Хопіць ужо маўчаць. З падмогай сваіх хаўрусьнікаў душыш беларускіх дзяцей, гад!*

*СПАДАР: Апазыцыя абураная, што ўлады разганяюць, змагаюцца супраць палітычных праціўнікаў рэжыму. Дарагія мае, прачнецеся, калі вы нармальныя, а калі не, то трэба ў Навінкі зьвяртацца. Там стаяла некалькі дзясяткаў хлопцаў — якія гэта палітычныя праціўнікі?*

— Што Вы прывезьлі сюды?

СПАДАР: Гарбату з «Макдоналдсу».

— У Вас тут нехта ёсьць?

СПАДАР: Нікога няма. Але вось гэтае маленькае мястэчка свабоды нам паказала, што нам трэба самаарганізоўвацца й рабіць нейкую маленькую справу. Вось і ўсё.

За падзеямі на Акрэсьціна сачыў юрыст праваабарончага цэнтру «Вясна» Валянцін Стэфановіч.

СТЭФАНОВІЧ: Тое, што тут адбываецца, гэта проста жах. Але чаго можна чакаць ад установы, якую ўзначальвае чалавек, падазраваны ў зьнікненьні й магчымым забойстве людзей? Гэта проста паказвае аблічча нашай улады.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР ЮРЫ: Адказы беларускаму тэлебачаньню. Пра сьмецьце. Улады Менску вінаватыя. Яны мусяць прыехаць і прыбраць, прыгожа й не замінаючы пратэстоўцам, у агульным патоку ўпарадкаваньня. Пра холад. Улада таксама вінаватая. Пра туалеты. Тое самае. Пра тое, што заплацілі. Правільна зрабілі. Бо ўлада чыніць усялякія перашкоды й стараецца забараніць прыносіць ежу, пітво, цёплае адзеньне ды іншае. Пра мысьленьне. Гэта перадавыя людзі, здольныя думаць. Толькі ж так можна абараніць свае права пры існуючым рэжыме. Пра закрытыя твары. Калі рэжым судзіць, зьбівае, перасьледуе, аказвае ціск на сваякоў і іхных дзяцей, — ствараецца пагроза рэпрэсіяў для сяброў і знаёмых. Улада хоча морам, холадам і рознымі нязручнасьцямі забараніць волевыяўленьне канстытуцыйных правоў мітынгоўцаў. Больш няма мэтадаў. Я першы паехаў бы на беларускі майдан і засьпяваў бы беларускую марсэльезу. Няма грошай.*





пятніца, 24 сакавіка 2006, 19:54

## СЁНЬНЯ СУДЗЯЦЬ ЗАТРЫМАНЫХ НА ПЛОШЧЫ

***Алег Грузьдзіловіч, Менск***

У Партызанскім судзе Менску праходзяць працэсы над затрыманымі ўдзельнікамі намётавага лягеру. Супраць моладзі сьведчаць амапаўцы, якія затрымлівалі пратэстоўцаў.

Адразу 16 адміністрацыйных справаў на ўдзельнікаў намётавага лягеру пачалі разглядаць у Партызанскім судзе. Справы разглядаюць судзьдзі Аўдзейчык, Барысёнак, Трубнікаў, Пыкіна й Лебедзь. Калідор суду запоўнены амапаўцамі ў чорных камбінэзонах — менавіта яны ноччу зьнішчылі лягер прыхільнікаў пераменаў. Затрыманых заводзяць па адным у кабінэты судзьдзяў, дзе й адбываюцца слуханьні. Калі прыцягнутыя да адказнасьці не патрабуюць адваката, слуханьні займаюць дваццаць хвілінаў. Калі з адвакатам — паўгадзіны. У такіх выпадках нэрвуюцца амапаўцы — яны скардзяцца, што стаміліся зь нядосыпу.

Мянчук Аляксандар Аляб'еў таксама выглядае нявыспаным, ягонае чорнае паліто пакамечанае. Ён кажа, што пры затрыманьні яго ня білі, але моцна лаяліся й не далі па-

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*АЛЕГ МАКСІМАВІЧ: Тэрміновае паведамленьне ўсім. 21 і 22 сакавіка асабіста хадзіў на Кастрычніцкую плошчу ў Менску. Упэўніўся асабіста, што Мілінкевіч выкарыстоўвае падлеткаў узросту 13—16 год у сваіх мэтах. І гэта ў мароз, калі ноччу было мінус 11. А на тое, што шмат хто зь іх захварэе, а іх там было каля ста чалавек, Мілінкевічу напляваць.*

тэлефанаваць бацькам. Аляксандар далучыўся да мітынгоўцаў толькі ўчора, калі ўпершыню прыйшоў на плошчу разам зь сябрам. Ён згадвае захоп лягеру.

АЛЯБ’ЕЎ: Спэцназ запатрабаваў разысьціся, але людзі адрэагавалі тым, што селі. Ніякіх крыкаў, якія суправаджаюць паніку, я ня чуў. Усе аказаліся з моцнымі нэрвамі.

А.Аляб’ева асудзілі на 10 сутак арышту. Збольшага такі ж тэрмін атрымлівалі й астатнія затрыманыя. Толькі Алесь Мазур (пра якога казалі, што ён загадваў гаспадаркай лягеру), па зьвестках, атрымаў 7 сутак. Аднак амапаўцы ў калідоры суду казалі, што адміністрацыйная справа Мазура хутка ператворыцца ў больш сур’ёзную.

Багдана Арлова таксама судзіў судзьдзя Аўдзейчык, але ў вялікай залі, бо на суд прыйшло шмат сяброў юнака. Арлоў казаў, што за ўсе папярэднія дні ня чуў ад міліцыянтаў аб’яваў пра тое, што мітынг несанкцыянаваны. Міліцыянты Камякоў і Сінічанка сьцьвярджалі, што такія папярэджаньні былі неаднаразова. У перапынку хлопец распавёў, як да іх ставіліся ў ізалятары.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Беларусь стала прытулкам усіх вайсковых пэнсіянэраў, якіх вытурылі з краінаў Заходняй Эўропы й былога СССР. Цяпер яны ўсе ў Беларусі. Гэтая катэгорыя паразытуе на целе беларускага народу, атрымліваючы вельмі вялікія пэнсіі. Гэта аплот Лукашэнкі. І пры гэтым яны ненавідзяць і беларускую мову, і тых, хто на ёй размаўляе. Нашчадкі Міхаіла Мураўёва-вешальніка цягнуць нас зноў у паўночна-заходні край.*

*СПАДАР: Беларусы! Ня слухайце гэтае лукашэнкаўскае тэлебачаньне!*





АРЛОЎ: Збольшага нармальна, але некаторых білі. Калі нас прывезьлі на Акрэсьціна, то паставілі да сьцяны, і тых, хто найбольш запомніўся, білі.

Багдану Арлову далі 10 сутак. Увечары ў Партызанскім судзе пачалі слухаць і справу пляменьніка А.Казуліна — таксама Аляксандра Казуліна. Хлопец запатрабаваў асабістага адваката, і справу на нейкі час адклалі.

Сваякі ўжо асуджаных паспрабавалі перадаць перадачы, але іх на Акрэсьціна не прынялі. Наступныя два дні перадачаў таксама ня возьмуць, бо гэта выходныя.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*ЯЗЭП ШАРШАВЫ, Менск: Паважаная «Свабода»! Вельмі спадабаліся палітычныя прыпеўкі, асабліва гэты куплет:*

*Я купіла калькулятар*
*На апошні грошыкі.*
*Чары-мары мінус-плюс —*
*Вылезьлі ярмошыкі.*

*Вельмі трапна. Усе лічбы падманныя, агідныя, няправільныя было б добра называць «ярмошыкамі». 82,6 ярмошыкаў — гучыць нядрэнна.*

*СПАДАР, Кобрын: Мы вельмі рады, што ў нас ёсьць адзіная магчымасьць пачуць праўду. Мы не прапускаем ніводнага дня разам з жонкай, пастаянна слухаем вас. І вельмі рады людзям, якія супрацьстаяць несправядлівасьці. Вялікі дзякуй тым, хто стаіць за свабоду!*

пятніца, 24 сакавіка 2006, 20:11

## БЫЛОГА АМБАСАДАРА ПОЛЬШЧЫ Ў БЕЛАРУСІ МОЦНА ЗЬБІЛІ

***Уладзімер Глод, Менск***

Марыюш Машкевіч, які працаваў амбасадарам Польшчы ў Беларусі, быў арыштаваны ўначы на Кастрычніцкай плошчы. Ён заявіў, што яго моцна зьбілі, калі везьлі з плошчы ў ізалятар на вуліцу Акрэсьціна.

Пра гэта спадар Машкевіч паведаміў супрацоўнікам консульскай службы амбасады Польшчы ў Беларусі. Гэтую інфармацыю нашаму радыё перадала прэсавая сакратарка амбасады Польшчы ў Беларусі Моніка Садкоўская. Польская амбасада накіравала ў МЗС Беларусі ноту пратэсту з патрабаваньнем забясьпечыць мэдычны догляд М.Машкевічу.

званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Рыгоравіч, ды праўдзі ты гэтыя паўторныя выбары, а то апазыцыянэры ад цябе не адвяжуцца. Толькі хай выбары праводзяць за свой кошт, яны ж сто мільёнаў атрымалі. Калі ня хопіць, Эўразьвяз дапаможа. Усе камісіі хай самі робяць і хай самі лічаць, ну, па адным чалавеку для кантролю ты таксама пакінь. А яшчэ выдай кожнаму калькулятар, каб не памыліліся ў падліку сваіх прыхільнікаў. Няхай ад зайздрасьці яны лопнуць, калі ўбачаць, як мы цябе любім. А на выбары мы прыйдзем хоць дзесяць разоў. Для нас гэта сьвята. І каб цудоўна было б пабачыць, як ты пасьля поўнай перамогі паедзеш, напрыклад, у Англію, а там ганаровая варта ў сваіх шапках і з валынкамі. Прыемна. А то «Боінг» хутка заржавее.*





пятніца, 24 сакавіка 2006, 22:36

## МАЦІ ЗАТРЫМАНЫХ ЦЭЛЫ ДЗЕНЬ СТАЯЦЬ ПЕРАД ЗАЧЫНЕНАЙ БРАМАЙ АКРЭСЬЦІНА

***Паведамляе Лубоў Лунёва:***

Побач са мной — бацькі затрыманых маладых людзей. Яны вельмі абураюцца. Яны хвалююцца. Сярод іх ёсьць людзі, якія больш за двое сутак ня могуць знайсьці сваіх дзяцей. Яны патрабуюць ад міліцыі інфармацыі, але ніхто ім нічога не паведамляе. Толькі часам з-за брамы выходзіць міліцыянт, выкрыквае тры-чатыры прозьвішчы й сыходзіць.

Да людзей толькі што прыехалі А.Мілінкевіч з жонкай І.Кулей. Яны паведамілі, што ня могуць знайсьці сына, якога затрымалі сёньня ўначы на плошчы. А.Мілінкевіч супакойваў бацькоў. Казаў ім, што ня трэба баяцца. Ён заявіў, што людзі будуць стаяць і далей на плошчы, будуць выходзіць на плошчу, каб выказаць пратэст супраць фальсыфікацыі й падману. Месца ў турмах для ўсіх ня хопіць, зазначыў Мілінкевіч. Ён таксама паведаміў бацьк-

званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Мне падаецца, што Бог вельмі жорстка пакарае тых, хто даў загад, і тых, хто яго выконвае, затрымліваць людзей, што нясуць гэтым мужным маладзёнам плошчы цёплыя рэчы, ежу й пітво. Яшчэ хочацца зьвярнуцца да прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў «Чырвонага крыжа» й «Чырвонага паўмесяца», якія могуць цяпер чуць гэтую праграму. Як вядома, нават нацысты пускалі дэлегацыю «Чырвонага крыжа» ў канцлягеры. Мне здаецца, калі прадстаўнікі нейкай лякальнай суполкі гэтай арганізацыі выйдуць пад сваім сьцягам, то, магчыма, у іх будуць больш-менш добрыя шанцы занесьці тыя ж цёплыя рэчы, цёплую ежу.*

кам, што амбасады ўсіх заходніх краінаў сёньня падалі ноты пратэсту ў МЗС і на імя А.Лукашэнкі. Яны патрабуюць неадкладна вызваліць усіх затрыманых на плошчы. Мілінкевіч спадзяецца, што гэта можа паўплываць на беларускія ўлады.

Частка людзей, а разам іх тут цяпер амаль сотня, так і ня ведаюць, дзе іхныя сыны й дочкі. Яны абураюцца, непакояцца. Некаторыя маці плачуць.

Заўтра, нягледзячы на выходны, будуць працаваць суды. Сёньня затрыманых судзілі ўвесь дзень.

Самі супрацоўнікі міліцыі на Акрэсьціна, а іх ня так шмат, выглядаюць вельмі напалоханымі. Раней бацькі заблякавалі выезд з брамак спэцпрымальніка. Бацькі заявілі: калі яны трымаюць нашых дзяцей, то мы ня выпусьцім іх саміх.

Дзіцячы й дарослы спэцпрымальнікі маюць агульны ўнутраны двор і праход. Стала вядома, што кіраўнік і два ягоныя намесьнікі пакінулі спэцпрымальнік, так бы мовіць, чорным ходам — праз выхад з дарослага спэцпрымальніка. Калі бацькі ўбачылі іх машыну з танаваным шклом, яны пачалі скандаваць: «Ганьба! Ганьба!».

### званкі на «Свабоду»

*СПАДАРЫНЯ: Я працую ў школе настаўніцай, хачу расказаць, як у нас праходзілі выбары. У нас на рабоце загадалі, каб 30% прагаласавалі датэрмінова. Хто ня пойдзе галасаваць датэрмінова, з тым не падпішуць кантракту. Кожнага сказалі праверыць па сьпіску, незалежна ад таго, дзе ты жывеш, дзе ты прапісаны. Але ў нас знайшліся сьмелыя людзі, якія адмовіліся ісьці галасаваць датэрмінова. Проста на рабоце мы правялі невялікае апытаньне сярод калектыву. Амаль 50% у нас прагаласавала за Мілінкевіча. Узьнікае пытаньне: адкуль тады ўзяліся 83% за Лукашэнку?*





субота, 25 сакавіка 2006, 12:52

## АМАП ПАЧАЎ ВЫЦІСКАЦЬ ЛЮДЗЕЙ З ПЛОШЧЫ

***Валер Каліноўскі, Менск***

Супрацоўнікі АМАПу выціскаюць людзей з плошчы, дзе сабралася агулам каля сотні чалавек.

Міліцыянты кажуць, што знаходзіцца ў гэтым месцы нельга, бо тут прыбіраюць каток. На прылеглых вуліцах сабралася некалькі дзясяткаў чалавек, якія спрабуюць трапіць на плошчу.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Званю вам з Жодзіна. У сем гадзін вечара калёна (прыкладна зь дзесяці аўтобусаў) у суправаджэньні міліцыі ўехала ў Жодзіна. Магчыма, гэта наша моладзь з плошчы. Хачу падзякаваць усім, хто ўдзельнічаў у гэтай акцыі: вы — малайчыны! Усё, што вы зрабілі, — гэта вялікі подзьвіг. Я сам быў у аўторак на плошчы. На жаль, ня мог удзельнічаць кожны дзень. Папросту мне няма за што дабрацца.*

*СПАДАР: Пратэставаць супраць існуючага крымінальнага рэжыму Лукашэнкі вельмі небясьпечна, дый немагчыма, таму што любы пратэстоўца можа быць звольнены з працы, атрымаць «воўчы білет» і пазбавіцца права на працаўладкаваньне нават сьмецяром, на існаваньне, ну, і наагул на жыцьцё. Рэжым Лукашэнкі можа ў пратэстоўцы забраць здароўе, альбо той назаўсёды зьнікне ў засьценках турмы ці мэдычнае ўстановы, а то й акажацца закапаным жывым. На баку гэтага рэжыму заўсёды выступаюць такія, як міністар замежных справаў і многія іншыя чыноўнікі й палітыкі з надзвычай небясьпечнай Расейскай Фэдэрацыі — апекуна дыктатара.*





субота, 25 сакавіка 2006, 13:01

## ДЭМАНСТРАНТАЎ АДАГНАЛІ АД ПЛОШЧЫ НА НЕКАЛЬКІ ДЗЯСЯТКАЎ МЭТРАЎ

***Альгерд Невяроўскі, Менск***

АМАП выціснуў дэманстрантаў з плошчы й працягвае адганяць іх у бок ГУМу. Удзельнікі акцыі, скандуючы «Ганьба!» й «Жыве Беларусь!», намагаюцца зноў патрапіць на плошчу.

субота, 25 сакавіка 2006, 13:08

## АМАП ЗЬБІВАЕ ДЭМАНСТРАНТАЎ НАГАМІ

***Валер Каліноўскі, Менск***

Удзельнікі акцыі паспрабавалі прарваць ачапленьні міліцыі. Супрацоўнікі АМАПу паваліді іх на зямлю й пачалі зьбіваць нагамі. Сярод пацярпелых ёсьць жанчыны.

Некалькі тысяч удзельнікаў акцыі стаяць на ходніках абапал праспэкту Незалежнасьці. У руках яны трымаюць бел-чырвона-белыя сьцягі й кветкі.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*БАРЫС ЭДУАРДАВІЧ: Людзі добрыя! Выходзьце! Выходзьце ўсе на плошчу! Трэба пашкадаваць нашых дзяцей, дапамагчы ім — і за нашу свабоду, і за ўсё на сьвеце. Трэба выгнаць гэтага вырадка. Выходзьце, людзі — не сядзеце дома, па кухнях. Не сядзеце! Трэба ўсю сілу прыкласьці — няма чаго баяцца. Гэты злыдзень сспалохаўся, як выйшла шмат людзей, спалохаўся ўсімі фібрамі сваёй душы. Людзі, выходзьце — я вас вельмі-вельмі прашу.*

субота, 25 сакавіка 2006, 13:19

## ДЭМАНСТРАНТАЎ ЗАГАНЯЮЦЬ У МЭТРО

***Валер Каліноўскі, Менск***

Міліцыянты заганяюць дэманстрантаў у падземныя пераходы мэтро. Тунэлі забітыя.

На вуліцы Леніна сабралася каля 2 тысяч чалавек зь бел-чырвона-белымі сьцягамі. Іх блякуе ўзмоцнены шэраг АМАПу.

субота, 25 сакавіка 2006, 13:37

## РУХ ДЭМАНСТРАНТАЎ ПЕРАКРЫТЫ

***Альгерд Невяроўскі, Менск***

Дэманстрантаў блякаваў спэцназ. Калёны не дайшлі да Кастрычніцкай плошчы, іх блякавалі на тратуары спэцназаўцы. Людзі кажуць, што іх тут некалькі тысяч.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Хачу выказаць шчырую падзяку міжнароднай супольнасьці за імгненную рэакцыю на гвалтоўнае зьнішчэньне намётавага гарадка на Кастрычніцкім пляцы. Шаноўныя замежныя палітыкі, дыпляматы, журналісты, усе, хто ладзіць пікеты, шчыры вам дзякуй за падтрымку Беларусі ў барацьбе зь ненажэрным рэжымам. Дзякуй назіральнікам АБСЭ за дакладную ацэнку гэтага выбарчага фарсу. Але Лукашэнка... ён жа не разумее нармальнай мовы, ён падпарадкоўваецца толькі аднаму гаспадару — цынічнаму й двурушнаму Пуціну, які й сам гэткі ж, які зьнішчае й свой народ, і без маштабных фальсыфікацыяў выбараў не ўяўляе. Без падтрымкі Масквы наш рэжым даўно сканаў бы.*





субота, 25 сакавіка 2006, 13:42

## З УРУЧЧА Ў ЦЭНТАР МЕНСКУ ЕДЗЕ ТЭХНІКА

***Ягор Маёрчык, Менск***

З боку Ўручча ў цэнтар гораду па праспэкце Незалежнасьці на вялікай хуткасьці рухаецца калёна з дванаццаці аўтобусаў-«пазікаў» і васьмі вайсковых крытых грузавікоў у суправаджэньні «мігалак» ДАІ. У грузавіках заўважаныя вайскоўцы са шчытамі.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Сёньня байцы інфармацыйнага фронту — яны самі сябе так называюць — самі ж сабе ўручалі ўзнагароды. Усе гэтыя пракопавы, казіяткі — мы іх усіх ведаем. Думаў, што яны ўжо дасягнулі мяжы маны й подласьці. Аказваецца — не. Сёньня яны ўзяліся за нашу будучыню, за красу й годнасьць нашай нацыі — за моладзь, якая ў неверагодных умовах, пад прыцэлам снайпэраў, байцоў Паўлічэнкі стаяла на плошчы за нас. Пытаньне да «Свабоды»: ці праводзіцца маніторынг і ці ствараецца архіў гэтага паскудзтва, ад зайздрасьці да якога Гёбэльс варочаецца ў пекле на патэльні, ці будуць ужытыя адносна гэтых інфармацыйных байцоў санкцыі? Таму што беспакаранасьць псуе людзей: яны ж ведаюць, што твораць. Яны ведаюць, што адбываецца ў сьвеце. Усё ведаючы, яны за нашы ж грошы дураць нам галовы. Гэта папросту інфармацыйны тэрарызм.*

*СПАДАР: АМАП разагнаў без папярэджаньня. А хто будзе плаціць за намёты? За ўсё? Іх жа арыштавалі, як тэрарыстаў! Але ж там зброі не было. Але нават тэрарыстаў папярэджваюць, каб здалі зброю, інакш будзем штурмаваць. Штурм быў без папярэджаньня.*

субота, 25 сакавіка 2006, 13:48

## БЛЯКАВАНАЯ ДАРОГА З МАГІЛЁВА НА МЕНСК

***Ягор Маёрчык, Менск***

На буйных аўтамабільных разьвязках стаяць машыны ДАІ. Міліцыянты спыняюць увесь грамадзкі транспарт і робяць фэйс-кантроль. Падазроных асобаў высаджваюць.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Добры дзень! Я заклікаю ўсіх людзей, здольных цьвяроза мысьліць, якія вераць у будучыню, прыйсьці ў царкву й запаліць сьвечку за супакаеньне душы нашага любімага прэзыдэнта Аляксандра Рыгоравіча. Паставіць сьвечкі менавіта за супакой душы. Можа быць, тады Бог зважыць на нас, убачыць сваім ясным паглядам.*

*СПАДАР: Я ўчора чуў па вашым радыё, як адзін перастарэлы лукашыст зьдзекаваўся з прозьвішча Аляксандра Мілінкевіча па бацьку — Баран: маўляў, баран і ёсьць баранам. Пажылыя людзі зазвычай ганарацца сваёй прынцыповасьцю й сумленнасьцю. Цікава, чаму ў гэтым разе ваш слухач не падаў у процівагу Ўладзімеру Барану Рыгора Лукашэнку — гераічна загінулага на вайне з фашыстамі бацьку нашага ўсенародна любімага Аляксандра Рыгоравіча, які, быццам маг-чараўнік, праз дзесяць гадоў пасьля сваёй пагібелі вымудрыўся падарыць нам усім наша сонца нацыі? А, між тым, па тэорыі лукашызму, калі б усё-ткі знайшлося хоць што-небудзь вартае, каб згадаць пра гэтага чалавека, цяпер, напэўна ж, усялякія гэтыя казіяткі, зімоўскія радасна зрабілі б зь яго, падганяючы пад час, перадавога мэханізатара, будаўніка, кіроўцу, ці нават і настаўніка. Але, напэўна, адрозна ад Уладзімера Барана, пра Рыгора Лукашэнку нават казіяткам не ўдаецца што-кольвек прыдумаць. Цёмная гісторыя.*





субота, 25 сакавіка 2006, 13:58

## ДЭМАНСТРАНТАЎ БЛЯКАВАЛІ КАЛЯ ЎНІВЭРСАМУ «ЦЭНТРАЛЬНЫ»

***Валер Каліноўскі, Менск***

Агульная колькасьць дэманстрантаў — больш за 5 тысяч. Калёны выцягнуліся да Галоўпаштамту. Людзі стаяць на ходніках. Яны выкрыкваюць «Жыве Беларусь!», «Свабоды не спыніць!» і сьпяваюць «Магутны Божа». Толькі што з боку адміністрацыі прэзыдэнта выбегла некалькі соцень спэцназаўцаў у баявой экіпіроўцы й з дручкамі. Яны атачылі калёны дадатковым ланцугом.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Дзівосныя рэчы адбыліся ў нашай краіне за апошні месяц. У Беларусі ідзе маленькая халодная грамадзянская вайна. Мы тут так прыблізна прыкінулі: адсоткаў 70 пра гэта нічога ня ведаюць — ні пра сотні затрыманых, ні пра арыштаваных, ні пра звольненых. Ну, ня ведаюць зусім. Тое, што сёньня, у чацьвер, паказала АТН, — папросту дзіва. Патэлефанавала сяброўка маёй жонкі, дастаткова разумная жанчына, лекар, і кажа: «Дык яны ж усе — наркаманы. Ім даляраў надавалі, і цяпер вунь шпрыцоў колькі». Ну, і што тут скажаш? Тут няма ніякага парушэньня прынцыпаў прафэсійнай журналісцкай этыкі? Раскажэце, хто такі Пракопаў, дзе вучыўся; хто такі Казіятка; хто такія сямейства Казаковых, а таксама — Людміла Кавалёва, колькі зарабляюць? Людзі нічога ня ведаюць пра іх. Так выходзіць, што вы самі па сабе, а яны самі па сабе. Оруэлу далёка да нашай рэальнасьці.*

*СПАДАР: Перадайце па радыё, што Мілінкевіча й Казуліна й вас разам трэба адправіць у Сібір — лобзікам валіць лес.*

субота, 25 сакавіка 2006, 14:14

## А.МІЛІНКЕВІЧ ЗАКЛІКАЕ ІСЬЦІ Ў СКВЭР ЯНКІ КУПАЛЫ

***Любоў Лунёва, Менск***

Аляксандар Мілінкевіч, які толькі што зьявіўся ў раёне Кастрычніцкай плошчы, заклікаў удзельнікаў акцыі рухацца ў Купалаўскі сквэр.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Да вас зьвяртаецца беларуска, мянчанка. Так здарылася, што цяпер я жыву за мяжой, на Захадзе, і выкладаю ва ўнівэрсытэце аднаго зь нямецкіх гарадоў. Я хачу зьвярнуцца да маіх калег-беларусаў — настаўнікаў, выкладчыкаў, дацэнтаў, прафэсараў: існуючы рэжым не застанецца абыякавым да лёсаў тых юнакоў і дзяўчат, якія былі на Кастрычніцкай плошчы й змагаліся такім чынам за будучыню нашай краіны. Яны мараць пра лепшае жыцьцё, пра свабоду і, перадусім, пра мажлівасьць свабодна разважаць. Безумоўна, сьведчаньні пра арыштаваных будуць перададзеныя ў навучальныя ўстановы, зь якіх маладых людзей, хутчэй за ўсё, павыключаюць. Паважаныя калегі, у вашых руках лёсы вашых студэнтаў — сыноў Беларусі. Не рабецеся катамі! Наша задача — несьці веды. Мы павінны займацца адукацыяй моладзі, а не ператварацца ў палітынфарматараў, міліцэйскіх шасьцёрак і абаронцаў рэжыму Лукашэску. Падумайце пра будучыню. Лукашэнка ня вечны, якім бы царом ці богам ён сябе ні адчуваў. Каб вам не было сорамна перад студэнтамі, перад моладзьдзю, перад самімі сабой, падтрымайце сваіх навучэнцаў, падтрымайце будучыню нашай краіны. Ня ўдзельнічайце ў пакараньнях і катаваньнях!*





субота, 25 сакавіка 2006, 14:20

## КАЛЯ ТЫСЯЧЫ ДЭМАНСТРАНТАЎ СКІРАВАЛАСЯ ДА ПЛОШЧЫ СВАБОДЫ

***Валер Каліноўскі, Менск***

На плошчы Свабоды ўжо стаіць калёна людзей. Мяркуецца, што разам яны паспрабуюць прайсьці да Купалаўскага сквэру. Канцэнтраваныя сілы АМАПу, узброенага дубінкамі, высадзіліся з машынаў і аўтобусаў у раёне Нямігі, і яны шчыльнымі шэрагамі акальцоўваюць Кастрычніцкую плошчу ззаду Палацу Рэспублікі.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Дарагія людзі! Гвалту гэтага чакаць мы былі павінны. Бо няма ў нас кіраўніка, а карнік ёсьць краіны.*

*ГЕНАДЗЬ МАЙСЕЕНКА: Непрыемная навіна: частка з тых пратэстоўцаў, лёсы якіх дагэтуль невядомыя, апрацоўваецца спэцслужбамі Лукашэнкі з дапамогай спэцоў з Расеі й краінаў-ізгояў — былых ды існуючых цяпер. Гэта мэтады «падсадкі на іголку», узьдзеяньня псыхатропных прэпаратаў, псыхазамбаваньня. Ня кажучы пра тое, што частка затрыманых будзе інфікаваная вэнэрычнымі захворваньнямі. Там ёсьць і грамадзяне іншых краінаў. Частку з гэтых, добра ўжо апрацаваных у патрэбным кірунку, пакажуць потым па тэлебачаньні, а зомбі аддадуць у распараду незалежных мэдычных камісіяў, якія будуць змушаныя тэхнічна прызнаць праўду гэтай залежнасьці. Так што галоўныя правакацыі яшчэ наперадзе. Я ўжо не гавару пра крымінальны аспэкт псэўдафінансаваньня пратэстоўцаў замежнікамі, што будзе таксама паказана па тэлебачаньні ў фашысцкім духу, як у Беларусі непасрэдна, так і ў Расеі.*

субота, 25 сакавіка 2006, 14:49

## А.МІЛІНКЕВІЧ: СТРАХ УЛАДЫ ДАСЯГНУЎ АПАГЕЮ

***Любоў Лунёва, Менск***

Мілінкевіч прыйшоў у сквэр Янкі Купалы. Ён зьвярнуўся да прысутных: «Тое, што ўлады пайшлі на сілавыя дзеяньні ў гэты дзень, сьведчыць пра іхны страх. Ён дасягнуў свайго апагею». Мілінкевіч адзначыў, што менскія турмы перанаселеныя: «Я шукаў свайго сына, і толькі сёньня даведаўся, што ён у Жодзіне». Спадар Мілінкевіч заклікаў іншыя калёны далучыцца да мітынгу ў Купалаўскім сквэры. Але байцы АМАПу й СОБРу перашкаджаюць калёнам злучыцца. У цэнтры гораду знаходзіцца блізу 20 тысяч чалавек.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*ІГАР ПАСНОЎ, лекар зь Віцебску: Хацеў бы павіншаваць вас са сьвятам, — Днём Волі. Для мяне асабіста свабода прыходзіць адно тады, калі чалавек мае права выказаць свой погляд, знаходзячыся ў меншасьці. Сапраўдная свабода — гэта свабода меншасьці выказваць сваю пазыцыю большасьці. Я ўдзячны, што вы ўсё-ткі данесьлі мае думкі, хаця, вядома ж, іх трохі перамянілі. Зрэшты, як і належыць, адпрацоўваючы грошы сваіх гаспадароў. Вы не сказалі самага галоўнага: што Мілінкевіч вывеў на плошчу непаўналетніх дзяцей, зрабіў многіх зь іх інвалідамі, бо застудзілі ныркі, лёгкія. І невядома, колькі соцень дзяцей стануць інвалідамі. І невядома, хто ім за гэта заплаціць кампэнсацыю. Вашы гаспадары з Амэрыкі? Сумняюся. Плаціць будзе той самы беларускі народ. З нашых пэнсіяў, заробкаў мы будзем аплачваць ім інваліднасьць. А Мілінкевіч, Казулін, адпрацаваўшы свае грошы, апынуцца — я ўпэўнены — за мяжой, разам з Навумчыкам ды іншымі. А ўсё ж дзякуй вам хоць за палавінную, але свабоду.*





субота, 25 сакавіка 2006, 14:55

## ДЭМАНСТРАНТЫ ПРАЦЯГВАЮЦЬ ЗЬБІРАЦЦА Ў СКВЭРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

***Альгерд Невяроўскі, Менск***

А.Мілінкевіч падышоў да сабраных каля Палацу прафсаюзаў людзей і заклікаў іх ісьці ў сквэр імя Янкі Купалы. Ён сам узначаліў калёну, у якой знаходзіцца каля 3 тысяч чалавек, калёна рушыла за ім. Людзям, што сабраліся каля ўнівэрсаму «Цэнтральны», міліцыянты перагарадзілі дарогу, каб ня даць ім аб'яднацца з калёнай пад кіраўніцтвам Мілінкевіча.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Мне не зусім зразумелая адэкватнасьць нашай улады. У мяне такое ўражаньне, што ён (Лукашэнка) больш баяўся прайграць, страціць уладу, чым хацеў выйграць. Прыкладам, з гэтымі намётамі. Госпадзе Божа, ты — прэзыдэнт, і ёсьць такія людзі-іншадумцы: узяў бы ды прывез ім біятуалет, паставіў бы сьметніцы. Зьвярнуўся б да іх, урэшце: «Спадарства, ну, хопіць! Спынецеся!» Чаму так не зрабіць? Навошта ты паставіў гэтых чорных людзей? Навошта выстраіў міліцыю, дазволіў зьбіваць? Нашто абшуквалі сумкі ва ўсіх, хто спрабаваў прынесьці ежы? Для чаго гэта ўсё было? Незразумела.*

*СПАДАРЫНЯ: Я заклікаю ўсіх, для каго гэта актуальна, адмовіцца ад карыстаньня калектыўнай тэлеантэнай. Тое, што было паказана сёньня ў «Панараме» па БТ, камэнтары за кадрам з ужываньнем жудаснай лексыкі — папросту ганьба. Мы, беларусы, трацім свае грошы на людзей, якія пазбавіліся розуму. Яны за каго нас увогуле трымаюць? Нам такія мэдыі не патрэбныя! І таксама такія журналісты.*

субота, 25 сакавіка 2006, 14:57

## УДЗЕЛЬНІКІ МІТЫНГУ ПРАГНАЛІ ЗДЫМАЧНУЮ ГРУПУ БТ

***Любоў Лунёва, Менск***

Удзельнікі мітынгу, які адбываецца ў сквэры імя Янкі Купалы, прагналі здымачную групу БТ. Дзяржаўныя журналісты пакідалі сквэр пад крыкі «Паклёпнікі!», «Ганьба!».

субота, 25 сакавіка 2006, 15:02

## НА МІТЫНГУ ВЫСТУПАЮЦЬ В.ВЯЧОРКА Й А.МІЛІНКЕВІЧ

***Валер Каліноўскі, Менск***

Вінцук Вячорка заклікаў да салідарнасьці з тымі, хто сядзіць за кратамі. Мілінкевіч нэгатыўна ацаніў вынікі выбараў.

званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Хачу падзяліцца інфармацыяй. Мне 15 сакавіка ў паштовую скрынку падкінулі газэту «Советская Белоруссия». І там быў фатаздымак: з бутэлькай гарэлкі кіргіз такі. Дык вось што я хачу сказаць: калі праводзіўся рэфэрэндум наконт зьмены Канстытуцыі, прайшла інфармацыя па ўсіх навінах — на радыё і ў газэтах — што даюць піва й грошы ад апазыцыі. Разносіў такі дзябёлы хлопец тое піва. Дык гэта быў супрацоўнік міліцыі, які цяпер працуе на Фабрыцыўса, 12, — Казачонак Зьміцер. Ён раней у ДАІ працаваў, а цяпер — у Экспэртна-крыміналістычным цэнтры. Я яго добра ведаю. Такія падставы робяцца на кожным кроку. І гэта лёгка праверыць.*





субота, 25 сакавіка 2006, 15:04

## НА АКРЭСЬЦІНА ПРЫВЕЗЬЛІ ТРЫ АЎТОБУСЫ ЗАТРЫМАНЫХ

***Галіна Абакунчык, Менск***

Тры мікрааўтобусы, запоўненыя людзьмі, заехалі ў браму турмы.

субота, 25 сакавіка 2006, 15:31

## А.КАЗУЛІН: МЕСЦА АПОШНЯГА ДЫКТАТАРА ЭЎРОПЫ — У ГААЗЕ

***Валер Каліноўскі, Менск***

Аляксандар Казулін заклікаў удзельнікаў па сканчэньні мітынгу ісьці на Акрэсьціна й дамагацца вызваленьня палітвязьняў. Ён дадаў, што месца апошняга дыктатара Эўропы — у Гаазе. Прысутныя скандавалі: «Чамадан — вакзал — Гаага!»

званкі на «Свабоду»

*СПАДАРЫНЯ: Сьмех дый годзе з гэтай Ярмошынай. Будзе гаварыць: «Прыйшлі да фінішу». Абіраюць і помсьцяцца беларускаму народу, у Беларусі — прышэльцы, якія ня маюць ні сумленьня, ні сораму. Для іх набудавалі тут катэджаў, для іх набудавалі кватэраў, а табе за ўсё жыцьцё — звыш сарака гадоў адпрацавала — дулю. Не! Будзем разьбірацца! На вуліцах будзем разьбірацца. У судах будзем разьбірацца! Але вам не дазволім таптаць нашу зямлю й зьдзекавацца з нас. Вось так, Ярмошына! Мы да фінішу не прыйшлі яшчэ. Мы яшчэ прыйдзем да фінішу.*

субота, 25 сакавіка 2006, 16:18

## А.КАЗУЛІН І ЧАСТКА МІТЫНГОЎЦАЎ СКІРАВАЛІСЯ НА АКРЭСЬЦІНА

***Любоў Лунёва, Менск***

Яны крочаць туды, каб дамагчыся вызваленьня ўсіх затрыманых. Ад Купалаўскага скверу да турмы 11 кілямэтраў.

з ванкі на «Свабоду»

*СПАДАРЫНЯ: Чэслаў Мілаш, ляўрэат Нобэлеўскай прэміі па літаратуры:*

*Ты, хто пакрыўдзіў простага чалавека бязьвінна,*
*шчасьліва зарагатаў над яго простай крыўдай*
*і пазьбіраў кругом блазнаў-юрылаў,*
*зло з дабром замяшаў, як у цэбры сьвіньням.*
*Ты, перад кім хоць бы ўсе нахілілі галовы,*
*цноту і розум Сусьвету табе прыпісалі,*
*мэдалі залатыя з тваім профілем карбавалі,*
*радыя, што хоць дзень прайшоў безь ніякай абновы,*
*ты больш ня будзеш спакойны —*
*чалавек пра цябе запомніў.*
*Ты забіць яго можаш — народзіцца новы.*
*Лягуць на сьпісы і ўчынкі твае, і прамовы.*
*Самы лепшы табе цяпер змрок зімовы,*
*вяроўка і сук нахілены месяца-поўні.*
*(Пераклаў Алесь Чобат.)*

*Гэты верш апублікаваны па-беларуску дзесяць гадоў назад, выбіты на помніку польскім рабочым у Гданьску пятнаццаць гадоў назад, а тых рабочых камуністы расстрэльвалі трыццаць пяць гадоў назад, а напісаў гэта Чэслаў Мілаш у 1936-м, семдзесят гадоў назад. Напісаў, як усё роўна пра наш заўтрашні дзень.*





субота, 25 сакавіка 2006, 16:21

## МІТЫНГ У СКВЭРЫ ЯНКІ КУПАЛЫ СКОНЧЫЎСЯ

***Валер Каліноўскі, Менск***

Мітынг у сквэры імя Янкі Купалы ў Менску скончыўся а 15-й гадзіне. Пры канцы ўдзельнікі мітынгу прынялі зварот у Камітэт правоў чалавека ААН і да ўсіх дзяржаваў сьвету, каб яны зьвярнулі ўвагу на падзеі ў Беларусі й паспрыялі вызваленьню затрыманых удзельнікаў апазыцыйных акцыяў.

Затым у прынятай рэзалюцыі ўдзельнікі мітынгу асудзілі мінулую выбарчую кампанію й запатрабавалі правядзеньня новых сумленных выбараў без удзелу А.Лукашэнкі, а таксама запатрабавалі вызваліць усіх палітвязьняў. А.Мілінкевіч заклікаў усіх прысутных далучацца да Народнага руху за свабоду, пра стварэньне якога было абвешчана на мітынгу. Вінцук Вячорка заклікаў памятаць пра наступную буйную акцыю апазыцыі — «Чарнобыльскі шлях».

званкі на «Свабоду»

*СПАДАРЫНЯ ВАЛЯНЦІНА, Глыбокае: Яны* (плача)... *Тыя хлопчыкі й дзяўчаткі — яны стаялі да канца. Яны — сьвятыя. Таму што ведалі боль і бачылі: горад сыта й абыякава, цёпла спаў. Кожную раніцу я бягу да прыймача ў надзеі, што яны яшчэ ёсьць, у надзеі на хоць маленькі крок. Але больш іх там няма. Як цяжка жыць у халопскай краіне, пад расейскім ботам! У XVII стагодзьдзі была вайна, у якой загінуў кожны другі. Яе назвалі крывавым патопам. Гэта было куды страшней, чым у мінулую ўсясьветную на беларускай зямлі. Амаль праз чатыры стагодзьдзі здарылася найстрашнейшае — у нас забралі душу. Бог адвярнуўся ад нас. Толькі наш сьцяг бел-чырвона-белы яшчэ ёсьць. Хутка ўсе пра ўсё забудуцца. І ў Эўропе — таксама. Я вельмі хвалююся — у мяне хворае сэрца.*

субота, 25 сакавіка 2006, 16:46

## ТРЫ ТЫСЯЧЫ ЧАЛАВЕК ІДУЦЬ ВЫЗВАЛЯЦЬ ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ

***Любоў Лунёва, Менск***

На дадзены момант калёна крочыць па вуліцы Багдановіча. Удзельнікі скандуюць «Свабоду!» і «Жыве Беларусь».

субота, 25 сакавіка 2006, 16:59

## СПЭЦНАЗ І АМАП ПЕРАКРЫЛІ ШЛЯХ КАЛЁНЕ. РЫХТУЮЦЦА ДА ЗАТРЫМАНЬНЯЎ

***Любоў Лунёва, Менск***

Пад мостам ля будынку райвыканкаму Маскоўскага раёну Менску шлях калёне, якая рухалася да турмы на вуліцы Акрэсьціна, перакрылі некалькі шэрагаў АМАПу й спэцназу.

З рацыяў міліцыянтаў можна пачуць, што яны чакаюць, каб калёна дайшла да бязьлюднага месца, дзе й мяркуюць затрымаць удзельнікаў шэсьця.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Я хачу сказаць пару словаў пра дзяцей, якіх учора затрымалі на плошчы. Іх называлі адмарозкамі. А гэтыя «адмарозкі» стаялі ў такі сьнег, такі холад… (даруйце, мяне сьлёзы душаць). Заклікаю ўсіх старых, якія не падтрымалі іх, прагаласаваўшы за Лукашэнку, прыйсьці сёньня. Каб не было сорамна пасьля ўсё жыцьцё. Так, можа, і паб’юць нас. Калі ж ня прыйдзем, — нас будуць біць цягам усяго жыцьця.*





субота, 25 сакавіка 2006, 17:08

## ЛЮДЗІ ПАКІДАЮЦЬ ГРАМАДЗКІ ТРАНСПАРТ І ДАЛУЧАЮЦЦА ДА КАЛЁНЫ

***Любоў Лунёва, Менск***

Грамадзкі транспарт спыніўся. Пасажыры далучаюцца да калёны, якая ідзе на вуліцу Акрэсьціна з патрабаваньнем вызваліць вязьняў. У калёне рушыць больш як 10 тысяч чалавек.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Зразумейце адно: калі кот не ўцякае, сабака за ім ня гоніцца, а калі кот уцякае, сабака кідаецца ўсьлед. Калі мы будзем скардзіцца на незаконныя дзеяньні, Лукашэнка, вядома, будзе баяцца. Падумайце: са штабу Мілінкевіча недзе каля трохсот чалавек арыштавалі за распаўсюд інфармацыі падчас сустрэчаў з выбаршчыкамі. Ці гэта не парушэньне? Але ніводнай скаргі Мілінкевіч не падаў. А калі б ён падаў скаргу, значыць, ужо нечага не рабілася б адносна нас. Мы самі дазваляем з сабой так абыходзіцца! Мы ж — сябра ААН. Дык трэба туды скардзіцца. Але трэба прайсьці суды, а не гаварыць: маўляў, у нас няма судоў. Ёсьць суды, і яны змушаныя даваць адказы на ўсялякую скаргу, якую разглядаюць. Трыста чалавек хай напішуць — і атрымаюць адказ ад прэзыдэнта, ад суду, ад пракурора. А потым — у ААН пераслаць, каб там рабілі таксама нейкія захады: выключылі на пэўны час — хаця б на паўгоду — з ААН. І вось тады гэты бык ня будзе лічыць, што яму ўсё дазволена.*

*СПАДАР: Хачу кінуць такі заклік: «адмарозкі» ўсіх рэгіёнаў, яднайцеся! Каб нам скінуць асноўнага неданоска зь ягонай прарасейскай хунтай!*

субота, 25 сакавіка 2006, 17:10

## АМАП ШТУРМУЕ КАЛЁНУ

***Паведамляе Любоў Лунёва:***

Шэрагі міліцыянтаў у касках і са шчытамі расьсякаюць калёну. Яны зьбіваюць дэманстрантаў. Гэта адбываецца ля будынку райвыканкаму Маскоўскага раёну Менску.

Толькі што байцы пад камандаваньнем палкоўніка Паўлічэнкі пайшлі ў атаку. Яны пачалі зьбіваць людзей. Яны б'юць іх дубінкамі, накідваюцца шасьцёра чалавек на аднаго, зьбіваюць дзяцей. Пачалі нешта ўзрываць. Толькі што ў мяне на вачах разьбілі чалавеку галаву. Яны апранутыя ў чорнае, у іх адгазьнікі.

Яны пачалі выстрэльваць — я ня ведаю, што гэта — велізарны выбух, дым, зьбіваюць усіх, хто трапляе пад руку. *(Гук выбуху.)* Вы чуеце? Гэта нейкія гранаты. Спачатку яны страляюць, потым нешта сьвеціцца — дым, страляніна. Шмат зьбітых. Вы чуеце гэта? Кроў… Людзей загналі на гару — усё гэта адбываецца насупраць Тэатру музычнай камэдыі.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Сьпіс непажаданых у краінах Эўразьвязу павінен быць як мага больш поўны: хто хлусіў, хто падпісваў зьвесткі пра няісныя працэнты, — вельмі добра ведалі, на што ідуць. Дык няхай і жывуць у тым асяродку, які самі ствараюць. Іхныя дарогі — Масква, Пэкін, Тэгеран, Гавана. Няма чаго ім шастаць па дэмакратычных краінах! А то прыладаваліся някепска: народ абуваюць у лапці, а самі на курортах заморскіх цешацца ды яшчэ дзетак сваіх там навучаюць. Выгодна ж: не на сялянскіх заробках сядзяць. Няхай жнуць там, дзе сеялі! Вось гэта й будзе значнай дапамогай з боку Захаду дэмакратыі ў Беларусі. Хай кожны адкажа за тое, што робіць!*





За дымавой заслонай нічога не відаць. Магчыма, гэта нейкія дымавыя шашкі. Зьбітыя людзі ляжаць уздоўж дарогі, некаторыя зь іх непрытомныя. Гэта выглядае вельмі страшна. Тут на мосьце электрычка — яна запаволіла хаду, усе людзі кінуліся да вокнаў, людзі крычалі: «Ня трэба, ня біце!». Білі страшна — мужчынаў, хлопцаў. Адну жанчыну двое вялізных мужчынаў схапілі за ногі, павалаклі, пачалі яе зьбіваць па нырках, па жываце. *(Крык: «З дарогі!»)* Вось вы чуеце, як яны кідаюцца на журналістаў. Зараз пачнецца другая частка гэтай апэрацыі. Атакуюць у масках, у бронекамізэльках, у іх у руках — вялізны балён чырвонага колеру, на ім нейкая абрэвіятура, што гэта нейкі газ небясьпечны, яны пачынаюць зрываць зь яго плёмбу.

Казулін пакуль што не арыштаваны — ён пайшоў размаўляць з Паўлічэнкам. Цяпер яны абкружылі тых, што засталіся побач. Побач са мной — польскі журналіст, ён таксама зьбіты. *(Скандаваньне: «Жыве Беларусь!»)* Вось вы чуеце — усё роўна, нягледзячы на тое, што такі жорсткі разгон, на тое, што тут былі такія выбухі — спачатку людзі

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Аляксандар Лукашук ды іншыя там лунёвы, карбалевічы, соусі! Званю вам апошні раз. І болей не хачу ні званіць вам, ні слухаць вас. Чаму? Таму што вы даказалі, што на вашай станцыі самая лжывая, самая аднабаковая інфармацыя. Узяць хаця б інфармацыю пра гэты ваш так званы блакітны майдан. З вашых зьвестак, там такія героі знаходзіліся, такія ціхенькія. А калі іх зрушылі зь месца, то аказалася, што там адны наркаманы, п'яніцы, распусьнікі. А вы перадаяце, што людзі моляцца за іх, што іх так паважаюць. Што ж расказваюць іншыя, пераважная большасьць людзей, — ніякай інфармацыі. Таму вас ня хочацца ні слухаць цяпер, ні званіць вам.*

думалі, што гэта баявыя гранаты — вы чуеце, што людзі ўсё роўна скандуюць «Жыве Беларусь!» — людзі вельмі абураныя такім брутальным зьбіцьцём. Тут яшчэ ёсьць хімічная рота, яны ў чорным, у іх адгазьнікі, нейкія балёны з газам — я ня ведаю, што гэта за газ, але вельмі пячэ вочы. Магчыма, гэта тая самая «чаромха».

Зьбітыя некалькі сьвятароў, якія ішлі разам з Казуліным на перамовы. Тут і Акаловіч, і яшчэ адзін сьвятар, яго таксама зьбілі. Адзін чалавек намагаўся ня даць прайсьці вайскоўцам, калі выбухнула граната, — ён лёг на асфальт, на праезную частку, і яго вельмі моцна зьбілі. Ён дагэтуль ляжыць непрытомны, жанчыны намагаюцца выклікаць яму «хуткую дапамогу», але як яна сюды прыедзе, калі тут усё ачэплена.

з в а н к і н а « С в а б о д у »

*ЛЯВОН ВАЛУЙ: Рэцэпт свабоды яшчэ напачатку нацыянальнага адраджэньня чэскага народу сфармуляваў Масарык адным словам. І слова гэтае — праўда. А пакуль нашы новаабвешчаныя лідэры баяцца вымавіць гэтае гаючае слова, датуль мы будзем задыхацца ў кляяцы хлусьні. Праўда наша ў тым, што Беларусь ператвораная з 1994 году ў палігон расейскага фашызму. Ідэалёгія такога кшталту фашызму — гэта ідэалёгія нянавісьці да ўсяго нярускага. На тэрыторыі Беларусі гэта нянавісьць да найкволейшых праяваў нацыянальнага самавызначэньня. У нас за памянёныя гады зьнішчаная сыстэма нацыянальнай адукацыі — замененая на рускую, зьнішчана этэрная прастора — заменена на рускую. Бэсьціцца гісторыя беларускага народу, і падаецца з гледзішча расейскіх акупантаў. Асаблівая ж нянавісьць да нашай мовы: нас высочваюць і адлоўліваюць з прыкметы мовы, як абарыгенаў. І менавіта гэтую праўду мы мусім сказаць — калі маем сілу. Сказаць альбо закрычаць. А калі ня маем сілы пракрычаць, — дык хоць бы прастагнаць на ўвесь сьвет. І тады нас пачуюць.*





субота, 25 сакавіка 2006, 17:39

## ЗАТРЫМАНЫ ПАВАЛ МАЖЭЙКА

***Валер Каліноўскі, Менск***

Як паведаміла нашаму карэспандэнту Іна Кулей, у Менску міліцыя затрымала аўтамашыну, у якой знаходзіўся прэсавы сакратар А.Мілінкевіча Павал Мажэйка з гукаўзмацняльнай апаратурай, што выкарыстоўвалася падчас мітынгу ў сквэры Янкі Купалы. А.Мілінкевіч і І.Кулей накіраваліся ў Цэнтральнае раённае ўпраўленьне міліцыі, куды павезьлі Мажэйку.

субота, 25 сакавіка 2006, 17:48

## ЗАТРЫМАНЫ А.КАЗУЛІН. ПАРАНЕНЫХ ВЫНОСЯЦЬ НА НАСІЛКАХ

***Любоў Лунёва, Менск***

На месцы разгону калёны пачаўся масавы хапун. Сьведкі бачаць трох параненых, двух выносілі на насілках.

з в а н к і н а « С в а б о д у »

*СПАДАР: Добры дзень, паважаная «Свабода»! На мінулых выбарах я галасаваў за Мілінкевіча. Але як паглядзеў па тэлевізары й прачытаў у газэтах дыялёг шараговага польскага грамадзяніна з Карняенкам — бліжэйшым паплечнікам Мілінкевіча, дык моцна пашкадаваў пра зьдзейсьненае. Ну, які там можа быць прэзыдэнт, калі дзеяньнямі апазыцыі кіруе шараговы функцыянэр з Польшчы, які забясьпечвае іх грашыма?! Гэта быў бы не прэзыдэнт, а самы сапраўдны халуй Захаду й халуй Польшчы. А пад Польшчай мы ўжо былі. Хопіць нам такіх прэзыдэнтаў!*

субота, 25 сакавіка 2006, 19:05

## НАВЕДНІКАЎ НА АКРЭСЬЦІНА ЗДЫМАЛІ НА ВІДЭАКАМЭРУ СПЭЦСЛУЖБЫ

***Галіна Абакунчык, Менск***

Удзень 25 сакавіка да турмы на Акрэсьціна прыйшлі больш за сто чалавек, каб перадаць сваім родным і сябрам неабходныя рэчы, харчы й ваду. Аднак многія не знайшлі сярод затрыманых сваякоў, а прыём перадачаў тут спынілі датэрмінова. Усе прысутныя заставаліся пад пільным наглядам супрацоўнікаў спэцслужбаў зь відэакамэрамі й зброяй.

На галінках дрэваў каля ўваходу ў будынак спэцпрымальніка завязаныя джынсавыя стужкі. На некаторых прыватных аўтамабілях нумары заклееныя белай паперай. Людзі стаяць у чарзе ўздоўж сьцяны. Лідзіі Лысюк, якая зь Берасьця прыехала да сына Зьмітра, пашанцавала патрапіць у будынак.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Я хацеў бы вам сказаць пра тое, каго нам цяпер не хапае. Забітых. Карпенкі, Захаранкі, Ганчара. Крэмль і Лукашэнка ведалі, каго забіваць. А Мілінкевіч, Казулін — гэта ні рыба ні мяса.*

*СПАДАРЫНЯ: Да якое пары вы будзеце муціць народ Беларусі? Каго арыштавалі на плошчы? Ублюдкаў, адкіды грамадзтва, якія ня хочуць нармальна працаваць і жыць. Для іх людзі — гэта быдла. Народ для іх — ніхто. Рабы! Ім патрэбныя лясы, заводы. Уся працоўная Беларусь скрайне абураная. Дзеці… А дзе іхныя бацькі? Чаго ім не хапае? Прэч з працоўнай Беларусі! І вам, Радыё Свабода, хопіць трындзець па радыё! Што вы робіце? Нашто вы лезеце ў нашу краіну? Прадажныя людзішкі, вы за брудныя зялёныя прадалі сваіх продкаў. Прэч зь Беларусі!*





ЛЫСЮК: У яго разьбітыя акуляры, і ён казаў, што спачатку было вельмі страшна. Але калі гэтулькі людзей аб'яднаныя духам свабоды, то страх мінае. Я рада, што мае дзеці робяць выбар на карысьць свабоды.

Каб перадаць зьняволеным неабходнае, людзі прыходзілі сюды ў 6 раніцы, а перадачы ў іх бралі прыкладна а 10-й. Каб упарадкаваць чаргу, людзі склалі сьпіс.

ЮНАК: Сёньня зайшло каля сямідзесяці чалавек.

— А колькі запісалася?

ЮНАК: Сто пяцьдзясят дзевяць.

— Колькі вам стаяць?

ЮНАК: Да вечара будзем.

— Чаму так павольна рухаецца чарга?

ЮНАК: Яны не зацікаўленыя ў тым, каб людзі сябе нармалёва адчувалі. Людзі, якія выходзілі адтуль, ужо казалі, што ёсьць вялікія праблемы зь пітной вадой.

Аднак некаторыя людзі, адстаяўшы гадзіны, не знаходзілі сваіх родных.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Гераічны ўчынак моладзі на Кастрычніцкім пляцы паказаў, што ў Беларусі ўсталяваўся фашызм. Усталяваць фашызм дапамагаюць так званыя вэтэраны й супрацоўнікі міліцыі. Яны павінны ведаць, што як толькі будуць зьнішчаныя дэмакраты, чарга дойдзе й да іх, таму што фашызм усёедны й ненасытны. Ад фашызму больш за ўсё пацярпелі немцы й ні ў чым не вінаваты беларускі народ. Ад беларускага фашызму больш за ўсё зноў пацерпяць беларусы, але ў гэтым ужо будзе іхная віна. Людзі, будзьце пільныя, думайце й супраціўляйцеся фашызму!*

СПАДАР: Учора тут дзень адстаялі, і нам паведамілі, што ён тут. А сёньня таксама дзень адстаялі, і ўжо кажуць, што ён у Жодзіне. Ніякай інфармацыі больш няма.

Пасьля таго, як у спэцпрымальнік скіраваліся некалькі аўтамабіляў з новымі затрыманымі, да будынку пад'ехалі й сталі каля ўваходу некалькі браняваных аўтамабіляў з надпісам «Міліцыя». Усе яны былі запоўненыя людзьмі ў спэцформе й чорных масках. А неўзабаве прысутным абвясьцілі, што прыём перадачаў спыняецца датэрмінова, і гэта асабліва абурыла людзей.

СПАДАРЫНЯ: Такая машына тысяч 250 даляраў каштуе. І мы плацім падаткі, каб нашых сыноў, дачок, братоў, сясьцёр і мужоў вазілі на гэтых машынах за гэтыя краты?!

ІНШАЯ СПАДАРЫНЯ: Больш за тое, мы яшчэ тут павінны заплаціць, што яны нашых дзяцей пабралі. А нашыя дзеці пацягнулі за сабой тую масу народу, які яшчэ не прачнуўся, але сёньня, 25 сакавіка, яны сапраўды прачнуліся. А заўтра прачнецца яшчэ больш. І мы не баімся.

СПАДАР: А чаго мы павінны баяцца, калі мы не парушаем закону? Мы просім — калі не сказаць, што патрабуем — каб гэтыя законы выконваліся. Што, «Жыве Беларусь» — гэта антылукашэнкаўскі лёзунг? Значыць, Лукашэнка супраць Беларусі? Значыць, ён супраць таго, каб яна жыла? Гэта іншароднае цела, а іншароднае цела трэба выдаляць.

Усё, што адбывалася на Акрэсьціна, з даху будынку спэцпрымальніка здымалі супрацоўнікі спэцслужбаў. Разам зь імі там знаходзілася некалькі чалавек зь вінтоўкамі.

з в а н к і н а « С в а б о д у »

*СПАДАРЫНЯ, Віцебск: Людзі! Я вас Богам прашу: расплюшчыце свае вочы, упусьцеце ў свае сэрцы праўду, а ня тую хлусьню, якую вам прапануе беларускае тэлебачаньне. Навучэцеся чытаць паміж радкоў нават у той хлусьні, якую нам падсоўвае цяперашняя ўлада.* (Плача.) *Сілавікі, міліцыянты, судзьдзі, што ж вы робіце са сваім родным народам, з тымі, хто знаходзіўся на Кастрычніцкай плошчы? Гэта ж вашы дзеці, браты й сёстры, бацькі. А як жа ваша душа, сумленьне? Як жа будзеце вы й вашы дзеці людзям глядзець у вочы? І яшчэ: хачу папрасіць Эўрапейскі Зьвяз, каб ён зрабіў вельмі жорсткія захады супраць нашых чыноўнікаў, каб вельмі значна пашырыў сьпіс невыязных чыноўнікаў з тых асобаў, якія працуюць у нашай ілжывай беларускай юстыцыі й на беларускім ілжывым тэлебачаньні. Бо там працуюць несусьветныя падхалімы, пагардныя манюкі й страшэнныя скажэнцы.*

з в а н к і н а « С в а б о д у »

*СПАДАР: Я хачу дазнацца: у якасьці каго гэтых пратэстоўцаў з намётавага гарадка забралі — у якасьці тэрарыстаў, ці каго? Але ж усякага тэрарыста нават папярэджваюць (і ў ваенны час — таксама): здаць зброю й здацца ў палон. Тут жа чатыры дні ўлады дазвалялі заставацца на плошчы й не папярэджвалі, што гэта незаконна. А самі нават спрыялі: міліцыя ахоўвала й не пярэчыла супраць разьмяшчэньня намётаў. Потым жа іх раптам, пасярод начы, пасадзілі ў «варанкі» — гэтыя новыя МАЗы, якіх ён навытвараў (ні ў адной краіне такога няма), і зьвезьлі. Прычым, усю маёмасьць таксама вывезьлі — у кар'еры. Па-першае: хто будзе плаціць за гэта? Па-другое: іх ужо судзяць, але няпоўнагадовых адпусьцілі. Дык, выходзіць, не тэрарысты гэта. Дык і самі яны маглі скласьці гэтыя намёты й сысьці. Я даўно наведваю мітынгі, і ведаю: заўсёды хадзіла машына міліцэйская, зь якой абвяшчалі: «Мітынг не дазволены. Разыходзьцеся, людзі! Інакш вашы дзеяньні будуць лічыцца парушэньнем!». Тут жа ніхто нічога не аб'яўляў. Гэта што ж такое? Гэта азначае: што ня можна быку, дазволена Лукашэнку? Але ж і быка можна ўзяць за рогі й паваліць!*

субота, 25 сакавіка 2006, 19:08

## ШТО АДБЫЛОСЯ ПАДЧАС РАЗГОНУ?

***Рэпартаж Любові Лунёвай, Менск***

А.Казулін напрыканцы мітынгу ў Купалаўскім сквэры заклікаў людзей пайсьці на вуліцу Акрэсьціна да турмы, дзе за кратамі адбываюць арышты сотні палітвязьняў. Калёна пайшла па вуліцы Купалы, а потым па Максіма Багдановіча. За некалькі кілямэтраў яна павялічылася ў некалькі разоў. Людзі выходзілі з крамаў, тралейбусаў і далучаліся да дэманстрантаў. Зь міліцэйскіх рацыяў журналісты пачулі, што апэрацыя пачнецца, як толькі калёна трапіць у бязьлюднае месца.

Пасьля таго, як дэманстранты перайшлі дарогу насупраць Тэатру музычнай камэдыі, пад мостам насупраць Маскоўскага райвыканкаму салдаты ў шлемах і са шчытамі сталі ў некалькі ланцугоў. Наперадзе стаяў палкоўнік Паўлічэнка. Салдаты пайшлі на дэманстрантаў. Адлегласьць паміж вайскоўцамі й дэманстрантамі меншала. А.Казулін разам са сьвятарамі падышоў да Паўлічэнкі.

*(АМАП б'е дручкамі па шчытах.)*

з в а н к і   н а   «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Добрай раніцы, шаноўная «Свабода»! Хачу павіншаваць усіх нашых людзей, асабліва — зьняволеных, зь вялікім сьвятам — Днём Волі. Гэта гістарычны дзень, калі была абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка. І вельмі ня хочацца, каб у гэты дзень, калі выйдуць нашы людзі, улады ганялі іх, зьневажалі, білі нашых людзей. Людзі добрыя! Узьнімеце свае галовы! Ня бойцеся! І дай Бог вам усім усьведамленьня гэтага вялікага сьвята! Я хачу павіншаваць з гэтым сьвятам асабіста спадароў Казуліна, Мілінкевіча і ўсіх! Няхай жыве й квітнее наша Рэспубліка Беларусь.*





КАЗУЛІН: Ну вось вы бачыце, што адбываецца? Мірная дэманстрацыя...

Адразу пасьля гэтага салдаты пайшлі ў атаку. Салдаты й спэцназаўцы зьбівалі кожнага, хто трапляў на шляху. Людзей кідалі на асфальт і зьбівалі нагамі й дубінкамі. Салдаты былі экіпаваныя ў бронекамізэлькі, шлемы, шчыткі на нагах. Раптам пачаліся выбухі.

Алеся Цішука некалькі салдатаў зьбівалі нагамі й дубінкамі. Яму разьбілі галаву. Калі празь некалькі хвілінаў пачалася другая атака — салдаты хапалі людзей, што ляжалі на дарозе, і тых, хто быў наверсе ля плота, і кідалі іх у аўтобусы й аўтазакі. Спэцназаўцы схапілі Алеся, але жанчыны затулілі яго сваімі целамі. Алесю выклікалі «хуткую», і яго забралі ў шпіталь. Яшчэ некалькіх чалавек забралі «хуткія». У аддзяленьнях экстраннай хірургіі менскіх шпіталяў пакуль адмаўляюцца казаць, колькі чалавек там знаходзяцца і ў якім стане.

У гарадзкой міліцыі таксама ня кажуць, куды завезьлі затрыманых удзельнікаў акцыі, сярод якіх і яе арганізатар Аляксандар Казулін.

з в а н к і   н а   «С в а б о д у»

*СПАДАР: У сувязі з тым, што апошнім часам усе навіны слухаюць пераважна толькі па Радыё Свабода, прашу перадаць: няўжо ў нас у Беларусі зьмянілася заканадаўства, калі пры затрыманьні абавязаныя цягам трох гадзінаў паведаміць сваякам, бацькам пра тое, дзе затрыманы? І другое пытаньне: чаму няма ніякай інфармацыі пра тое, што абарону можа праводзіць абаронца, а абаронцам можа быць блізкі сваяк: маці, бацька... Навошта гэтыя адвакаты, каторыя, як казалі ў савецкі час — «засядацелі-ківалы», так і гэтыя адвакаты — яны ж не абараняюць, а грошы бяруць добрыя. Я лічу, проста няма веданьня заканадаўства ў людзей. Трэба, каб з гэтым працавалі праваабарончыя арганізацыі, кшталту «Вясны».*

субота, 25 сакавіка 2006, 21:49

## ЧАЛАВЕК, ЯКОГА ЗЬБІВАЛІ ЧАТЫРЫ АМАПАЎЦЫ, БАРАНІЎ СВАЮ ЖОНКУ

***Валер Каліноўскі, Менск***

Як выглядала месца разгону дэманстрацыі праз гадзіну?

Гэтае месца — вельмі бязьлюднае, непадалёк ад Тэатру музкамэдыі, не даяжджаючы да Маскоўскага райвыканкаму, паміж двума мастамі. Абапал вуліцы — два вялізныя схілы. Тут і цяпер фактычна няма людзей. У асноўным езьдзяць машыны.

Цяпер можна заўважыць толькі шмат сьлядоў на засьнежаных схілах. Выпадковыя мінакі пра тое, што адбылося, нічога ня ведаюць.

Паводле сьведчаньняў людзей, якія бачылі гэтыя падзеі, вядома што адзін чалавек вельмі моцна быў зьбіты, фактычна кантужаны — на яго напалі чатыры амапаўцы, ён ледзьве застаўся жывы. Некаторыя меркавалі, што гэты чалавек загінуў. Ён бараніў сваю жонку, калі на тую напалі супрацоўнікі спэцназу, і тады на яго кінуліся чатыры амапаўцы, пачалі жорстка зьбіваць нагамі да страты прытомнасьці. Каля дзясятка машынаў «хуткай дапамогі» эвакуявалі людзей з гэтага месца. Таму як мінімум дзесяць чалавек шпіталізаваныя, а колькасьць людзей, якія атрымалі нейкія траўмы, значна большая.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: З Днём Волі, беларусы! А тым, хто ня ведае гэтага сьвята — раю «слухаць Бацьку», чытаць «вершы Васіля Быкава» й «творы» Францыска Скарыны пра «Піцер».*





нядзеля, 26 сакавіка 2006, 13:11

## У ЯКІХ УМОВАХ ЗНАХОДЗЯЦЦА АРЫШТАВАНЫЯ Ў ДЗЕНЬ ВОЛІ?

***Алег Грузьдзіловіч, Менск***

Дзясяткі чалавек былі затрыманыя ўчора ў Менску падчас адзначэньня Дня Волі. У якіх умовах давялося ім правесьці мінулую ноч?

Гэтую размову я запісаў зь дзяўчынай, якая ўжо выйшла з ізалятару на Акрэсьціна. Яе затрымалі ў першыя дні абароны намётавага лягеру, калі ў ізалятары ўжо сядзела болей за 200 чалавек. Дзяўчыну зьмясьцілі ў новы корпус, у камэрах якога яшчэ не пасьціралася пабелка. Умовы там аказаліся больш камфортныя, чым у старым корпусе: ёсьць двухпавярховыя ложкі, але таксама бяз спальных прыналежнасьцяў. Галоўнае — прыбіральні ў камэрах хаця б агароджаныя, ва ўмывальніках ёсьць халодная й гарачая вада. Але што да ежы, то яна нічым ня розьніцца ад таго, чым кормяць у старым корпусе. Мая суразмоўніца назвала ежу «неядомай».

ДЗЯЎЧЫНА: Сапраўды, як кажуць на БТ, нас кармілі катлетамі. Але, магчыма з-за таго, што там дрэнная вада, грэцкая ды іншыя кашы, якія яны там вараць, дрэннай якасьці. Пра катлеты я ўвогуле не кажу — усё мясное есьці там немагчыма. Харчаваньне двухразовае, на сьняданак даюць суп, і ён больш-менш. Даюць гарбату, якую цяжка назваць гарбатай, і даюць шмат хлеба. Грамаў 300 на чалавека кожны раз. Такім чынам, калі людзям не прынесьці перадачаў, дык худнеюць там вельмі моцна.

Паводле маёй суразмоўцы, збольшага стаўленьне міліцыянтаў да вязьняў нармальнае. Дзяўчына распавядала, што з затрыманымі вельмі жорстка абыходзіліся спэцназаўцы, у аўтобусе хлопцаў зьбівалі, а вось міліцыянты ў ізалятары патрабавальныя, але карэктныя й не зьневажаюць.





Спэцназаўцы ж адразалі валасы на галовах нават у дзяўчат.

Ці патрапяць затрыманыя 25 сакавіка ў ізалятар на Акрэсьціна? Мая суразмоўца не выключае, што калі ўчора было затрымана болей за 100 чалавек, дык частка зь іх можа апынуцца ў Жодзінскім ізалятары. Туды, як вядома, ужо было зьмешчана ад 100 да 150 абаронцаў намётавага лягеру. Пра ўмовы ў Жодзінскім ізалятары вядома мала. Дзяжурны сказаў Радыё Свабода, што там «усё нармальна, няма чаго хвалявацца», і нават паведаміў, што ў іх трохразовае харчаваньне. Аднак мая суразмоўца ведала, што Жодзінская турма лічыцца самай жорсткай у Беларусі. Яна ня думае, што ў Жодзінскім ізалятары лепш, чым на Акрэсьціна. Я згадваю, што раней пра ізалятар у Жодзіне мне распавядаў праваабаронца Валер Шчукін. Ён пагаджаўся, што бытавыя ўмовы й харчаваньне там ня самыя горшыя, але скардзіўся на стаўленьне ахоўнікаў, вельмі жорсткае й часам зьняважлівае. Валер Шчукін тлумачыў гэта тым, што ў ізалятары працуюць тыя ж вартаўнікі, якія ў іншыя дні дзяжураць у Жодзінскай турме, у тым ліку ў корпусе для пажыцьцёва зьняволеных. Гэтым ён тлумачыў іх надзвычай жорсткае абыходжаньне з затрыманымі.

Дзяжурны ізалятару сказаў, што перадачы можна будзе перадаваць ужо ў панядзелак пасьля сьнядáнку, калі затрыманых асудзяць і прывязуць з суду ў ізалятар.

звaнкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Мы хацелі б пацікавіцца лёсам нашага сына. Яго забралі ў пятніцу, калі разганялі намётавы гарадок. І да цяперашняга часу мы ня маем ніякіх зьвестак. Яго прозьвішча Шыманскі, Ільля Аляксандравіч, яму 18 гадоў. Апошні раз ён патэлефанаваў у 4 гадзіны раніцы, сказаў, што іх арыштавалі й вязуць кудысьці.*

нядзеля, 26 сакавіка 2006, 15:47

## В.ТАРАС: НЕ МАГУ СКАЗАЦЬ ЯМУ: НЕ ІДЗІ!

**«Свабода» падрыхтавала цыкль партрэтаў прыхільнікаў пераменаў, якія пасьля разгрому намётавага лягеру на Кастрычніцкай плошчы былі арыштаваныя, асуджаныя на зьняволеньне, зьбітыя.**

***Аляксандар Уліцёнак, Менск***

Сярод тых, хто сядзіць сёньня ў спэцпрымальніку на Акрэсьціна, — 20-гадовы Антон Тарас. Затрыманы днём 23 сакавіка, калі пасьля ночы на плошчы разам з маці, журналісткай Аленай Лукашэвіч, вяртаўся дадому. Раніцай таго самага дня мы размаўлялі зь дзядулем Антона — вядомым беларускім пісьменьнікам Валянцінам Тарасам. Мы яшчэ ня ведалі, што здарыцца праз гадзіну.

ВАЛЯНЦІН ТАРАС: Дастаткова сказаць, што мой унук на гэтай плошчы начаваў тры ночы — мне, вядома, страшна за яго... Я ночы ня сплю, але не магу сказаць яму: не ідзі! Бо гэта тое, што я сам пасеяў...

У 1943-м, хлапчуком, спадар Валянцін пайшоў у партызаны. І з тае пары лічыць, што чалавек выбірае свой лёс у маладосьці. Сын спадара Валянціна — журналіст Віталь Тарас — усьлед за бацькам далучыўся да беларускага адраджэньня, напачатку 1990-х актыўна ўдзельнічаў у акцыях дэмакратычнай апазыцыі. Я зьвязаўся зь ім адразу, як даведаўся пра арышт ягоных сына й жонкі.

ВІТАЛЬ ТАРАС: Напалову добрая навіна: пазваніла жонка, дваццаць хвілінаў таму — яе судзілі, прысудзілі два ці тры мінімальныя заробкі... Антона ж пакуль не судзілі. Але ўсё троху лягчэй...

— А што Алене інкрымінавалі?





ВІТАЛЬ ТАРАС: Арганізацыя ці ўдзел у несанкцыянаванай акцыі...

— Яна была ў шпіталі, і вось дарогай...

ВІТАЛЬ ТАРАС: Яна выпісалася, але вельмі кепска сябе адчувае... Мы размаўлялі па тэлефоне, жонка сказала, што вось зараз сядуць з сынам у машыну й прыедуць дадому. Але пасьля гэтага іх доўга не было, тэлефон не адказваў. Тады я пайшоў да «Журавінкі», убачыў машыну. Пустую...

— Скажы, калі ласка, Віталь: а хто глядзіць двухгадовую малую Антона?

ВІТАЛЬ ТАРАС: Жонка ягоная.

— Канечне, яна таксама хвалюецца, перажывае?

ВІТАЛЬ ТАРАС: І зразумела: у Цэнтральным РУУСе не хацелі нізавошта прымаць заяву аб зьнікненьні жонкі й сына... Сказалі, што няма такіх. Падманулі... Гэтыя людзі ня могуць ні слова без маны. Гэта проста такое жахлівае, недарэчнае становішча — у якім брудзе, у якім дзярме яны самі апынуліся й хочуць запэцкаць астатніх.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Пераканаўся, што лукашэнкаўскую ўладу недарма называюць злачыннай. Учора ўтапілі ў крыві мірнае шэсьце неабароненых грамадзянаў, затапталі прагу беларускага народу да дэмакратыі, свабоды, незалежнасьці. Адурманеныя лукашэнкаўскай прапагандай міліцыянты выканалі злачынны загад улады. Яны са злосьцю зьбівалі дубінкамі жанчын, моладзь, старых. Побач са мной ляжалі, непрытомныя, двое скрываўленых грамадзянаў. «Хуткую дапамогу» міліцыянты да іх не прапускалі. Вакол стаяў крык і лямант зьбіваных людзей. І хлусіць лёкайскі рупар БТ, калі агучвае вэрсію Навумава, што нехта з натоўпу кідаў выбуховыя пакеты й шашкі — гэта рабілі самі амапаўцы.*

Яшчэ праз гадзіну пасьля нашай размовы стала вядома: Антон атрымаў 11 сутак. Віталь з Аленай паехалі да спэцпрымальніка на Акрэсьціна.

АЛЕНА ЛУКАШЭВІЧ: Мы з мужам правялі адзінаццаць гадзінаў пад разьмеркавальнікам, каб перадаць яму цёплае адзеньне, нейкую ежу, але ніводнай перадачы не ўзялі.

Гэта ўдалося зрабіць толькі 25 сакавіка — якраз на Дзень Волі. Алена Лукашэвіч ведае, у якіх умовах знаходзіцца цяпер яе сын, бо сама была там. Кажа: можна зьмірыцца з холадам у камэрах, з дрэннай ежай, каб не...

АЛЕНА ЛУКАШЭВІЧ: ...каб ня гэтыя людзі, якія там працуюць — яны размаўляюць з табой, глядзяць на цябе... Быццам ты нейкі злодзей, злачынца... І гэта ўсё настолькі жахліва, што ўжо становіцца абсалютна неістотным, якія там сьцены, краты, падмуркі — усё... Я спадзяюся, што нашыя дзеці моцныя — яны ўсё вытрымаюць...

Зноў тэлефаную Валянціну Тарасу.

ВАЛЯНЦІН ТАРАС: Цяпер пішу публіцыстычныя нататкі «Старыя ісьціны». Сапраўды, тое, што адбываецца, ужо ўсё неаднаразова было. Старыя ісьціны таму вартыя й таму каштоўныя, што яны вечныя. І ніхто й ніколі ня зможа іх аспрэчыць. Таму што яны пачынаюцца яшчэ са Сьвятога Пісаньня. Вось за гэтыя старыя ісьціны й стаіць Плошча, наша моладзь. Стаім і будзем стаяць усе мы.

званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Калі вы скончыце балбатнёй займацца? Няўжо вы думаеце, што вас нехта ўсур'ёз успрымае? А што тычыцца Казуліна, Мілінкевіча, Лябедзькі, дык іх трэба ўсіх да сьценкі ставіць! Гэта здраднікі радзімы.*





нядзеля, 26 сакавіка 2006, 17:50

## ТЫХ, КАМУ НЕ ХАПІЛА МЕСЦА Ў МЕНСКІХ ТУРМАХ, ЗАВЕЗЬЛІ Ў ЖОДЗІНА

***Міхал Стэльмак, Жодзіна***

Каля будынку Жодзінскай гарадзкой міліцыі сёньня можна было бачыць бацькоў, сваякоў і сяброў затрыманых. Яны прыяжджалі даведацца пра лёс удзельнікаў акцыі й перадаць ім харчы й самыя неабходныя рэчы.

СПАДАР: Я — Порах Уладзімер.

— Хто ў Вас затрыманы?

ПОРАХ: Сын.

— Як яго завуць?

ПОРАХ: Аляксандар. 22 гады.

СПАДАРЫНЯ: Майго сына завуць Тамілін Ян Станіслававіч, 1986 году нараджэньня.

СПАДАРЫНЯ: Венско Зьміцер Валянцінавіч, 1986 году нараджэньня.

— Хто ў Вас затрыманы?

СПАДАР АНДРЭЙ: Сябра. Язылец Аляксей.

— Уначы?

ПОРАХ: Уначы з 23 на 24 сакавіка.

СПАДАРЫНЯ: Мы ў гэты час спалі.

ПОРАХ: Я кожны раз прыяжджаў, глядзеў на гэты намётавы гарадок і думаў: «Колькі ж ён прабудзе?». Адбылося...

Усіх гэтых наведнікаў жодзінскія міліцыянты супакойваюць — маўляў, няма чаго хвалявацца, бо ўмовы ўтрыманьн-

ня, нібыта, добрыя. Тое ж самае начальнік дзяжурнай часткі капітан Андрэй Пацяшонак заявіў і Радыё Свабода. Ён таксама пацьвердзіў, што тут утрымліваюцца жыхары намётавага лягеру, зьліквідаванага ўначы 24 сакавіка. Міліцыянты адмаўляюцца называць колькасьць апазыцыянэраў, якія знаходзяцца ў Жодзіне, і сьцьвярджаюць, што ўсе яны знаходзяцца ў ізалятары часовага ўтрыманьня. Між тым, жодзінскі актывіст дэмакратычнага руху Зьміцер Чарткоў лічыць гэтую інфармацыю няпраўдзівай.

ЧАРТКОЎ: У Жодзіна былі этапаваныя 176 асобаў, зь якіх шмат дзяўчат. Камусьці рабілася дрэнна. Бацькі спрабавалі перадаць лекі й дамагчыся выкліку цывільных мэдыкаў. Нікога не дапускаюць, бо ўсё ў іх, маўляў, добра, мэдыкамэнтаў хапае, маюць пастаянны догляд. Адзінае, што дазволілі, дык гэта перадаваць цёплую бялізну, каб пераапрануцца, сродкі гігіены — і ўсё. Іх усіх трымаюць на Чапаева, 10 — гэта СІЗА УЖ 15/8.

Паводле спадара Чарткова, у Жодзінскім сьледчым ізалятары часовага ўтрыманьня ўсяго 25 месцаў, і вялікую колькасьць людзей там разьмясьціць складана. Таму зьняволеных, на ягоную думку, трымаюць якраз у мясцовым СІЗА, які за апошні час, нібыта, пашырыўся на некалькі новых корпусаў.

званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Лукашэнка ўсё робіць на карысьць народу. Нават зрабіў спэцМАЗы, каб перавозіць дэманстрантаў. Гэта ж трэба дадумацца да такога! Гэтыя ж МАЗы ў народнай гаспадарцы не працуюць. А колькі гэтых малых белых МАЗікаў, якія перавозяць гэтую «чорную хеўру»! Раней жа такога не было! Нават расейскія журналісты дзівяцца. Гэта колькі народных сродкаў ён траціць на гэтыя мэты? Што, дэманстрацыі кожны дзень адбываюцца?*





нядзеля, 26 сакавіка 2006, 18:07

## КАМЭРЫ ПЕРАПОЎНЕНЫЯ, У ПАНЯДЗЕЛАК — СУДЫ

***Любоў Лунёва, Менск***

Некалькі соцень арыштаваных і затрыманых апазыцыянэраў знаходзяцца ў Менскім спэцпрымальніку, а таксама ў ізалятарах Менскага раёну й вобласьці. Камэры перанаселеныя. У Жодзінскім сьледчым ізалятары знаходзяцца больш за дзьве сотні затрыманых у Менску апазыцыянэраў. Ва ўпраўленьні ўнутраных справаў Менскага раёну трымаюць 59 дзяўчат. Усіх будуць судзіць 27 сакавіка. Сваякам затрыманых больш за двое сутак ня кажуць, дзе адбудуцца суды.

У Менскім спэцпрымальніку знаходзяцца некалькі соцень чалавек, якіх затрымалі цягам тыдня каля Кастрычніцкай плошчы й падчас захопу намётавага лягеру. Сярод іх грамадзяне Ўкраіны, Канады, Польшчы, Грузіі й Расеі.

У Жодзінскім ізалятары часовага ўтрыманьня больш за дзьве сотні чалавек. Адных не пасьпелі судзіць 24 сакавіка, іншых затрымалі ў пятніцу ўвечары на Кастрычніцкай плошчы й 25 сакавіка падчас разгону дэманстрацыі на праспэкце Дзяржынскага. 59 дзяўчат, затрыманых у намётавым лягеры, знаходзяцца ў будынку ўпраўленьня ўнутраных справаў Менскага раёну на вуліцы Скарыны, 20. Іх заўтра адвязуць у суды, але бацькам дагэтуль ня кажуць, у якія. Тая ж сытуацыя з затрыманымі, якіх завезьлі ў Жодзінскі ізалятар.

Бацькі наладзілі кругласутачныя дзяжурствы. Яны дамовіліся сачыць за аўтазакамі й аўтобусамі, калі тыя павязуць людзей з тэрыторыяў ізалятараў. Ва ўсіх судах ад пачатку працоўнага дня таксама будуць сваякі затрыманых. Яны маюць тэлефанаваць адзін аднаму й дыктаваць

прозьвішчы, бо старшыні судоў забаранілі канцылярыям даваць сьпісы дастаўленых у суд. Бацька 18-гадовага Юрыя двое сутак шукаў свайго сына й знайшоў толькі сёньня ў сьпісе Жодзінскага ізалятару.

БАЦЬКА: Праз знаёмых потым даведаўся, што яго павезьлі ў Жодзіна й суду не было. Суд адбудзецца толькі ў панядзелак. Ніхто ня кажа, дзе будзе суд. Мае бацькі намагаліся прыйсьці ў суд Ленінскага раёну, дык там зачынілі дзьверы й іх не пусьцілі. Я так думаю: а навошта гэтыя суды? Маглі б на Акрэсьціна асудзіць агулам усіх... Перажываю... Гэтая ўлада — ня наша ўлада.

Нягледзячы на жорсткі разгон дэманстрацыі й масавыя арышты (а гэта прыкладна сто чалавек штодня), міліцыянты зь сёньняшняга дня пачалі наведваць студэнцкія інтэрнаты й патрабаваць расьпісак у студэнтаў, што тыя ня будуць удзельнічаць у акцыях пратэсту.

нядзеля, 26 сакавіка 2006, 18:48

## ЖУРНАЛІСТА ВАДЗІМА КАЗНАЧЭЕВА АДШУКАЛІ Ў ЖОДЗІНСКІМ ІЗАЛЯТАРЫ

***Міхал Стэльмак, Менск***

Журналіст Вадзім Казначэеў, якога затрымалі 24 сакавіка ў намётавым лягеры, знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрыманьня Жодзіна.

Як паведаміў Радыё Свабода жодзінскі актывіст дэмакратычнага руху АляксандарВаўчанін, гэта пацьвердзілі яму супрацоўнікі жодзінскай міліцыі. Таксама, паводле Ваўчаніна, сёньня стала вядома пра яшчэ двух удзельнікаў апазыцыйнай акцыі — Дзяніса Дзянісава й Зьмітра Завадзкага, якіх шукалі сваякі. Яны таксама знаходзяцца ў Жодзінскім ізалятары.





панядзелак, 27 сакавіка 2006, 18:05

## КАЛЯ СПЭЦПРЫМАЛЬНІКА НА АКРЭСЬЦІНА ЗНОЎ ВЯЛІКІЯ ЧЭРГІ

***Галіна Абакунчык, Менск***

У турме на Акрэсьціна зноў пачалі прымаць перадачы для затрыманых у Менску 24 і 25 сакавіка. Аднак многія людзі дагэтуль ня ведаюць пра лёс сваіх арыштаваных дзяцей і сваякоў.

Спадарыня Тамара прыйшла сюды разам зь сяброўкай свайго сына. Яго арыштавалі ў суботу падчас акцыі пратэсту, але гэта здарылася выпадкова, заяўляе жанчына.

ТАМАРА: Ён машыніст мэтро, ехаў на прымерку працоўнай формы. Вось яны разам зь дзяўчынаю ішлі, і тут гэткі натоўп. Яна неяк адбеглася, а яго чакалі-чакалі — няма. А тут ніхто нічога ня ведае й казаць ня хоча.

— Што Вы пра гэта думаеце?

ТАМАРА: Няма словаў. Гэта такое бясправеў! Я трэція суткі б'юся галавой вось аб гэтую сьцяну й акрамя галаўнога болю нічога ня маю. Бясправеў поўнае! У якой краіне мы жывем?!

Многія людзі прыходзяць сюды ня першы дзень, каб даведацца пра ўмовы ўтрыманьня зьняволеных, аднак ніякай інфармацыі ня маюць.

СПАДАРЫНЯ: Тут муж мой, рэчы забралі, нічога не вярнулі, я нічога пра гэта ня ведаю. Чатыры дні ходзім, каб перадачу перадаць. Гэта жахліва.

Якраз сёньня выйшаў на свабоду адзін з удзельнікаў акцыяў пратэсту, Алесь Лышчык, якога затрымалі раней. Яго адразу ж атачылі людзі, каб хоць штосьці даведацца пра сваіх блізкіх і ўмовы іхнага ўтрыманьня.

СПАДАРЫНЯ: Паслухай, а хлопца там з рудымі валасамі не было?

ЛЫШЧЫК: Не, не было.

СПАДАР: Можа, прозьвішчы чые памятаеш, назаві?

ЛЫШЧЫК: Ці ёсьць тут родныя Воўчака? Некаторых там моцна зьбілі. Вы нам перадачы прыносіце, а нам пэрыядычна карантыны ладзяць.

Каб перадаць зьняволеным лекі, харчы й пітво, людзі мусілі станавіцца ў чаргу з чатырох гадзінаў раніцы. Вось што яны казалі ў інтэрвію Радыё Свабода.

СПАДАРЫНЯ: Учора выйшаў малады хлопец і сказаў, што ў асноўным перадачы ім даходзяць з амбасадаў. А тое, што перадаюць бацькі, блякуецца.

ІНШАЯ СПАДАРЫНЯ: Нідзе ніякай інфармацыі, нідзе немагчыма нічога даведацца. Усё пакрыта нейкай таямніцай, хлусьнёй. Два й тры — гэта пяць. А нам хочуць патлумачыць, што гэта васямнаццаць.

СПАДАРЫНЯ: Калі раней я, можа, і сумнявалася, то цяпер я на сто адсоткаў падтрымліваю сваю дачку і ўсю моладзь, якая тут знаходзіцца.

Каб падтрымаць сваякоў затрыманых, сябры праваабарончага цэнтру «Вясна» прывезьлі й раздавалі ўсім ахвочым гарачую гарбату. Адначасна супрацоўнікі міліцыі фіксавалі нумары ўсіх прыватных аўтамабіляў, якія пад'яжджалі да будынку спэцпрымальніка на Акрэсьціна.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ, Пінск: Сын мой цяпер на Акрэсьціна. Узяла яго кнігі, адна зь іх Бэры Коварда «Олівэр Кромвэль». Цытата: «Тое, што дасягаецца сілай, для мяне — нішто».*





панядзелак, 27 сакавіка 2006, 19:00

## У МЕНСКУ СУДЗЯЦЬ УДЗЕЛЬНІКАЎ ПРАТЭСТУ

***Любоў Лунёва, Менск***

Ува ўсіх раённых судах Менску цягам дня судзілі затрыманых удзельнікаў акцыі на Кастрычніцкай плошчы й шэсьця 25 сакавіка. Людзей прывозілі ў суды з ізалятараў Меншчыны ў аўтобусах і аўтазаках. Сярод тых, каго судзілі, — некалькі журналістаў, былы амбасадар Польшчы Марыюш Машкевіч, грамадзяне Расеі, палітыкі й дзясяткі апазыцыянэраў. Людзей каралі арыштамі. Адна жанчына была аштрафаваная.

У судзе Партызанскага раёну Менску судзілі 25 дзяўчат, якіх затрымалі падчас ліквідацыі намётавага лягеру. Іх трымалі за агароджай, як небясьпечных злачынцаў. Дзяўчат прыводзілі ў кабінэт судзьдзі пад аховай, хутка судзілі й выводзілі. Усіх, за выключэньнем Стасі Гусаковай, якая правядзе за кратамі 12 сутак, арыштавалі на 4 сутак. Маці Стасі Гусаковай Тамара лічыць: ейную дачку пакаралі за тое, што яна — грамадзянка Расеі.

ГУСАКОВА: Мая дачка грамадзянка Расеі. У яе від на жыхарства. Яна вучыцца ў тэхналягічным унівэрсытэце. Мне патэлефанавала абураная дэкан: «Як гэта дзяўчынка, якая толькі прыехала ў Беларусь і толькі атрымала від на жыхарства, умешваецца ў справы Беларусі?» Але мая дачка нарадзілася ў Беларусі, вучылася ў беларускай гімназіі й любіць Беларусь. Канечне, усе гэтыя суткі будуць лічыцца прагуламі, і майму дзіцяці ва ўнівэрсытэце ня будзе чаго рабіць.

Другую групу дзяўчат, з 34 чалавек, судзілі ў Кастрычніцкім судзе. Іх пакаралі арыштамі ад 10 да 15 сутак. У гэтым судзе разглядалі справу польскай журналісткі Веранікі Самалінскай з «Газэты Выборчай». Яе арышта-

валі на 10 сутак. Былога амбасадара Польшчы ў Беларусі М.Машкевіча асудзілі на 15 сутак. У судзе спадар Машкевіч заявіў: ён ня толькі не шкадуе, што быў на плошчы, але ганарыцца. Дыплямат упэўнены, што зьдзейсьніў важны й сумленны ўчынак.

Валянціна Палевікова правядзе за кратамі 15 сутак, а Таццяна Ваніна — 10.

У судзе Савецкага раёну судзілі расейскага журналіста й праваабаронцу Аляксандра Падрабінека. Яго арыштавалі на 15 сутак. Гісторыка Ларысу Андросік судзьдзя Руслан Казадаеў аштрафаваў на 600 тысяч рублёў.

У Ленінскім судзе судзьдзя Вера Тупік забараняла журналістам і назіральнікам АБСЭ прысутнічаць на судах. Яна заяўляла, што ёй гэта папросту не падабаецца. Калі ж спасылаліся на артыкул 229 Працэсуальнага кодэксу, згодна зь якім працэсы мусяць быць адкрытыя, яна крыкнула сакратарцы: «Зачыніце дзьверы й нікога не пускайце!». Выключэньне зрабілі толькі для спэцназаўцаў.

У гэтым жа судзе журналіста Вадзіма Казначэева пакаралі 10 суткамі арышту. Вадзім распавёў «Свабодзе», што зь ім абыходзіліся больш-менш нармальна. У часе затрыманьня і ў аўтазаку нікога ня білі. У судзе ён папрасіў, каб дапыталі сьведкаў з боку міліцыі. Але адказ быў, што гэта немагчыма.

КАЗНАЧЭЕЎ: Трымалі нас спачатку на Акрэсьціна. Але гэта толькі некалькі гадзінаў. Там людзей было ў тры разы больш, чым месцаў. На сем месцаў быў дваццаць адзін чалавек у маёй камэры. У Жодзіне звычайныя турэмныя ўмовы: дзевяць чалавек на восем месцаў. Прымальна. Ну, а камэра як камэра — задуха... Кармілі вельмі кепска. Тое, што я журналіст, на іх не паўплывала. Сказана было наступнае: «Няхай суд разьбіраецца. Невінаватых у нас не саджаюць».





Суды працягваюцца ва ўсіх дзевяці раённых судах Менску. Калі групу з 30—40 чалавек адвозяць у ізалятар, ім на зьмену прывозяць іншую групу затрыманых, якіх будуць караць арыштамі. У судах бацькам паведамілі, што будуць працаваць, колькі патрэбна, каб пакараць усіх.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Я з жалем, болем у сэрцы слухаю вашыя паведамленьні пра разгон дэманстрантаў у Менску на праспэкце Дзяржынскага.*

*Дэманстрантаў разагнаў,*
*Біў дзяцей ён нашых,*
*У турму ўсіх пасаджаў*
*Лукашэнка Саша.*

*Хто ня згодны з прэзыдэнтам —*
*Падстаўляйце сьпінкі,*
*Паспрабуйце, калі ласка,*
*Смак маёй дубінкі.*

*Бацька родны, дарагі,*
*Не забыць ніколі,*
*Што зрабіў з народам ты*
*Сёлета ў Дзень Волі.*

*І хачу праз вашу праграму зьвярнуцца да Аляксандра Рыгоравіча перарobленай вашай прыпеўкай:*

*Севярынец у Сібіры,*
*А Казулін у турме.*
*А Захаранку забілі —*
*Будзе ж, бацька, і табе!*

панядзелак, 27 сакавіка 2006, 19:10

## НЕКАТОРЫХ ДЗЯЎЧАТ ПРЫВЕЗЬЛІ НА СУД У КАЙДАНКАХ

***Міхал Стэльмак, Менск***

Каля 25 удзельнікаў акцыі на Кастрычніцкай плошчы, затрыманых ноччу 24 сакавіка, былі сёньня дастаўленыя з Жодзіна ў Заводзкі суд Менску.

Затрыманых прывезьлі ў Заводзкі суд спэцыяльным міліцэйскім транспартам — аўтазакам і аўтобусам. Іх суправаджала восем амапаўцаў у чорным адзеньні. Выводзілі актывістаў па адным — некаторых з завязанымі рукамі. Сваякі, сябры й аднадумцы ўдзельнікаў акцыі былі ўражаныя гэтым відовішчам — іх ахоўвалі, як небясьпечных крымінальных злачынцаў. Хатняй гаспадыні зь Менску Ціне Палынскай удалося пазнаць знаёмых.

ПАЛЫНСКАЯ: Там дакладна былі Таня Сьнітко, Сьвета Станкевіч і Надзея Сянкевіч. Алі Сідаровіч няма. Значыць, яна недзе ў іншым месцы. Сянкевіч была без кайданкоў, а Станкевіч у кайданках.

Усе, хто прыйшоў прывітаць затрыманых, спадзяваліся пабываць на судовым паседжаньні. Аднак кіраўніцтва суду й міліцыянты не дазволілі прысутнічаць на разглядзе справаў ні журналістам, ні праваабаронцам, ні бацькам удзельнікаў акцыі.

Спаткацца з журналісткай «Нашай Нівы» Тацянай Сьнітко прыйшлі яе сястра Натальля й муж Зьміцер Гарбуноў. Аднак апошняга міліцыянты груба выгналі з будынку суду, што вельмі абурыла спадара Гарбунова.

ГАРБУНОЎ: Я падышоў да жонкі сказаць, што дома ўсё нармалёва зь дзецьмі, а мне: «Ідзі адсюль!». Хіба гэта людзі?





Актывістцы каманды Мілінкевіча Галіне Кастыленцы ўдалося атрымаць прозьвішчы некалькіх жыхароў намётавага лягеру й даведацца пра вынікі разгляданых справаў.

КАСТЫЛЕНКА: Шыла, Станкевіч (хлопец), Церах, Скарабагаты, Хандога, Івановіч (можа быць, недакладнае прозьвішча), Шыманскі, Хамееў, Цімафееў, Чыкмароў — так яны казалі свае прозьвішчы. Некалькі чалавек прайшлі — відаць, ім далі ўказаньне не называць прозьвішчаў. Альбо, можа, стомленыя дзеці. Шэйко Дзяніс — 15 сутак. Станкевіч (хлопец) — 15, кажу, бо ёсьць і дзяўчына Станкевіч. Скарабагаты — 15 сутак.

Аднаму са сваякоў, якога прынялі за міліцыянта ў цывільным, удалося падглядзець, як судзілі затрыманых. Паводле яго словаў, іх ставілі тварам да сьцяны, а амапаўцы гаварылі судзьдзі, пры якіх абставінах іх затрымалі. Не ўдалося патрапіць на закрытыя паседжаньні й праваабаронцу Ўладзімеру Лабковічу, які так пракамэнтаваў для Радыё Свабода ўбачанае ў Заводзкім судзе.

ЛАБКОВІЧ: Такога, як тут, у Заводзкім судзе, насамрэч, не было ніколі. Тое, што ад бацькоў, ад сваякоў, ад блізкіх людзей хаваюць любую інфармацыю пра працэсы — пра тое, дзе іх дзеці, што зь іх дзецьмі, — гэта, канечне, нават не па-чалавечы.

з в а н к і   н а   « С в а б о д у »

*СПАДАР: Хачу перадаць усім жыхарам Беларусі: я вельмі ганаруся сваёй краінай. Усё, што адбывалася на мінулым тыдні, — гэта адраджэньне нашай нацыі. Я думаю, што сам Бог адрадзіў нашу нацыю, падняў яе. І сёньня мы можам сьмела казаць, што мы, беларусы, — вялікая нацыя. Пытаньне гэтага рэжыму — пытаньне вырашанае, яны самі сабе выкапалі яму. У нас ёсьць будучыня, у нас ёсьць пэрспэктыва. І нам ня трэба цяпер сумаваць, трэба рухацца — і ўсё ў нас будзе выдатна!*

панядзелак, 27 сакавіка 2006, 20:18

## ВЯЗЬНІ З АКРЭСЬЦІНА ПЕРАДАЛІ НА ВОЛЮ ЗАЯВУ ПРА ПАДЗЕІ 25 САКАВІКА

***Міхал Стэльмак, Менск***

Палітычныя вязьні, якія ўтрымліваюцца ў менскай турме на Акрэсьціна, перадалі на волю заяву, у якой выказалі стаўленьне да падзеяў 25 сакавіка.

«Крывавыя падзеі 25 сакавіка — гэта сьведчаньне агоніі рэжыму Лукашэнкі. Гэта дэманстрацыя няздольнасьці выйграць выбары па правілах цывілізаваных краінаў. Адказнасьць за жыцьцё й здароўе пацярпелых цалкам ляжыць на Лукашэнку й яго сілавых міністрах. Прэзыдэнцкая кампанія-2006 увойдзе ў эўрапейскую гісторыю як самая цынічная, бессаромная й крывавая. Беларускі рэжым ня толькі пайшоў на татальную фальсыфікацыю вынікаў галасаваньня, але й на выкарыстаньне зброі. Мы патрабуем тэрміновай адстаўкі міністра ўнутраных справаў Навумава й старшыні КДБ Сухарэнкі, а таксама ўсіх, хто аддаваў загады на ўжываньне спэцсродкаў і зброі», — гаворыцца ў дакумэнце.

Як паведамілі Радыё Свабода ў прэсавай службе Аб'яднанай грамадзянскай партыі, заяву падпісалі старшыня Нацыянальнага камітэту аб'яднаных дэмакратычных сілаў Анатоль Лябедзька, намесьнік старшыні АГП Аляксандар Дабравольскі, намесьнік старшыні Партыі БНФ Аляксей Янукевіч, тэатральны рэжысэр Валеры Мазынскі, скульптар Алесь Шатэрнік і іншыя — разам 500 подпісаў.





аўторак, 28 сакавіка 2006, 17:46

## ЧАРГА КАЛЯ ТУРМЫ НА АКРЭСЬЦІНА НЯ МЕНШАЕ ВОСЬМЫЯ СУТКІ

***Галіна Абакунчык, Менск***

Каля турмы на вуліцы Акрэсьціна восьмы дзень стаяць сваякі людзей, затрыманых з намётавага лягеру й падчас сьвяткаваньня Дня Волі 25 сакавіка. Ахвочых перадаць цёплае адзеньне, асабістыя рэчы й ежу штодня тут зьбіраецца больш за 200 чалавек. Усе гэтыя людзі абураныя падзеямі апошніх дзён. Сьпіс наведнікаў людзі перадаюць зь вечара на ранак.

— Ці вялікі ваш сьпіс?

СПАДАРЫНЯ: 202 чалавекі — гэта тыя, хто запісаўся нешта перадаць. Колькі пройдзе, невядома. Бо тут ідуць і ўчорашнія, і сёньняшнія. Зараз ідзе 64-ты чалавек.

— Ці даўно стаіце?

ЮНАК: З учорашняга дня. Мы тут пазьменна чаргу трымаем.

ЮНАЧКА: Там сядзяць нашыя сябры-маладафронтаўцы. Мы да іх ужо чацьвертыя суткі прарываемся, а тут такая чарга. Сябры чацьвертыя суткі сядзяць галодныя.

ІНШАЯ ЮНАЧКА: А некаторыя людзі тут увогуле зь серады. Ім другі раз нешта перадаць не дазваляюць. Гэта проста жахліва. Гэтым улада паказвае сваю слабасьць. Што людзі, моладзь, студэнты сядзяць за кратамі, а бацькі стаяць тут і плачуць па іх.

СПАДАР: У нашага кіраўніка проста нячыстае сумленьне, і ён пойдзе на ўсё — ён тысячы людзей пакладзе на пляцы, каб толькі застацца пры ўладзе. Ён будзе прыкрывацца гэтымі замбаванымі бабцямі, якія, можа, 20—30

адсоткаў галасоў яму й даюць, а астатняе — фальшаваньне. І гэтага не замоўчыш, працэс жа пайшоў!

— Як вы лічыце, пасьля таго, што адбылося, ці хопіць у людзей гарту й сьмеласьці?

СПАДАР: Па-мойму, яшчэ больш. Яны вось гэтымі сваімі дзеяньнямі ўдвая пабольшылі людзей. Тут толькі моладзь ішла, а цяпер і бацькі пойдуць.

СПАДАРЫНЯ: Мы першыя выйдзем на любы мітынг і на любую акцыю. Ён загнаў сябе ў кут: нават тых, хто за яго, супраць сябе настроіў. Ён проста баіцца. Калі ты сапраўды моцны прэзыдэнт, разумны прэзыдэнт, то чаму ты гэтак абыходзісься са сваім народам? Нават міліцыя не задаволеная тым, што адбываецца.

аўторак, 28 сакавіка 2006, 23:24

## «АМАПАВЕЦ КРЫЧАЎ ЯМУ: НЯ БІ ЯЕ, ЯНА ЗУСІМ МАЛАЯ. А ТОЙ БЯРЭ Й Б’Е»

***Вольга Караткевіч, Прага***

Радыё Свабода ўжо паведамляла, што былы польскі пасол у Беларусі Марыюш Машкевіч быў затрыманы падчас разгону намётавага лягеру й арыштаваны на 15 сутак. Разам са спадаром Машкевічам у Менск прыехала Кацярына Кляцоўка. Зь ёй была ейная дачка Вера. Кацярыну й Веру таксама затрымалі на Кастрычніцкай плошчы. Дачку праз дваццаць гадзінаў адпусьцілі, а Кацярыну Кляцоўку асудзілі на трое сутак. Учора яна вызвалілася, а сёньня, па прыезьдзе ў Польшчу, зьвязалася з Радыё Свабода з Варшавы, каб распавесьці пра затрыманьне і ўмовы на Акрэсьціна.





КЛЯЦОЎКА: Аўтобусы прыехалі на плошчу. З усіх бакоў нас ачапілі. Выскачылі амапаўцы, спэцназ. Яны загадалі нам: «Кладзіцеся на зямлю». Мы ляглі на зямлю, а потым ужо другі-трэці давай біць. Я трымалася за Верку. Нейкая дзяўчына стала ў сярэдзіну лягеру й пачала маліцца. У гэтым быў такі драматызм... Мне ня верылася, што я там знаходжуся. Мне здалося, што я нейкі анёл, і я зараз адлячу з Кастрычніцкай плошчы й ня буду ўсяго гэтага цярпець... Верку адзін амапавец схапіў за валасы, пацягнуў. А яшчэ адзін амапавец крычаў яму: ня бі яе, ня бачыш, яна ж зусім малая. А той бярэ й б’е яе... Яны адцягнулі яе. Потым мяне галавой кінулі на асфальт. Падаючы, я патыліцай ударылася аб асфальт. А потым у твар мяне ўдарылі. У мяне цяпер пашкоджаны левы бок твару, сіняк пад левым вокам... Схапілі яны мяне, як нейкую сьвіньню, укінулі ў аўтобус. Крычалі на нас, што мы сьвіньні, маўляў, што мы робім тут, маўляў, вам рэвалюцыі захацелася. У аўтобусе мяне білі па сьпіне... Я ляжу й думкі круцяцца: «Дзе Вера? Дзе Марыюш?» Я іх не пазнала. Я страціла прытомнасьць. І пасьля, ачуняўшы, некалькі хвілінаў іх не магла пазнаць... А потым нам не давалі між сабой размаўляць. Кожнае слова было на вагу золата. За кожнае слова вельмі жорстка крычалі на нас.

— Якія былі ўмовы на Акрэсьціна?

КЛЯЦОЎКА: Калі нас прывезьлі, увесь калідор ужо быў забіты людзьмі. Нам усім крычалі, нібыта мы нейкія рэцыдывісты: «Лицом к стене! Прекратить разговоры! Выключить телефоны!» Потым хадзілі, апытвалі, ці ёсьць няпоўнагадовыя. Так мы каля сьцяны стаялі, нават ня ведаю колькі. Забралі нас каля 3-й раніцы. А стаялі мы ля сьцяны хіба да 13-й гадзіны... Верку адпусьцілі каля 23-й гадзіны вечара. Значыць, дваццаць гадзін яе пратрымалі ў ізалятары. Яе забраў ейны біялягічны бацька. І яму міліцыянты прыгразілі, што калі ён не прытрымае

сваю дачку ад грамадзкай актыўнасьці, то ў яго самаго будуць вялікія праблемы… Страх спаралізаваў маю душу.

— Калі суд пачаўся, якое было абвінавачаньне?

КЛЯЦОЎКА: Мне ўжо тады было ўсё роўна. Мяне адвезьлі ў Ленінскі раённы суд. Там дзесьці ёсьць казэматы, нейкія падвалы. І там, у гэтых падвалах, разьмяшчаюцца гэтыя камэры, у якіх трымалі 10 чалавек у кожнай. Камэры былі перапоўненыя, дык яны пакідалі дзьверы прачыненыя. А ў нашай камэры дзьверы былі зачыненыя. Я пайшла на суд першая. Мяне судзьдзя спыталася, што я бачыла, што я чула? Я адказала, што я нічога такога не выкрыквала. Што толькі лёзунг «Жыве Беларусь!». Ці можна яго лічыць антыдзяржаўным? Судзьдзя сказала, каб я больш «на рэвалюцыі ня езьдзіла». І дала мне трое сутак. І параіла: замест таго, каб рабіць рэвалюцыі, гадуйце дома сваіх дзяцей… Там нам нават не давалі вады папіць. З залі мяне забралі адразу. Міліцыянты былі вельмі злыя, бо самі таксама ня сьнедалі й не абедалі. За кожным чалавекам ідуць тры міліцыянты.

— Ці былі праблемы з выездам зь Беларусі ў Польшчу?

КЛЯЦОЎКА: Я так баялася, што нават паехала ў аптэку, каб купіць супакойвальных таблетак перад паездкай. А Марыюш мне сказаў, калі мяне толькі вызваляць, калі я толькі прыйду дадому, каб брала рэчы і ўцякала.

з в а н к і   н а   « С в а б о д у »

*СПАДАРЫНЯ: Па тэлевізары вяшчаюць, што на плошчы сабралася абкураная й пад наркотыкамі шпана. Ці ёсьць пацьверджаньне лябараторных дасьледаваньняў на наяўнасьць у арганізьме наркотыкаў, хаця б у аднаго затрыманага? Уражаная, што «адмарозкі» й шпана маюць званьне прафэсараў і мандаты кандыдатаў у прэзыдэнты.*





серада, 29 сакавіка 2006, 5:23

## В.ПАЛЕВІКОВА: ПОБАЧ З МАЛАДЫМІ ПАВІННЫ БЫЦЬ СТАЛЫЯ ЛЮДЗІ

***Іна Студзінская, Менск***

27 сакавіка Кастрычніцкі суд сталіцы асудзіў сябру Палітрады Аб'яднанай грамадзянскай партыі Валянціну Палевікову на 15 сутак арышту.

У тую апошнюю ноч В.Палевікова, маці дваіх дарослых дзяцей, у якой трое ўнукаў, была на Кастрычніцкім пляцы. Распавядае сяброўка Валянціны Людміла Гразнова.

ГРАЗНОВА: Яна мяне запрашала на пляц у тую ноч. Яна была ўпэўненая, што нас схопяць, «але трэба ж гэтых дзяцей падтрымаць». Я сказала Валянціне, што не магу, ёсьць іншыя абавязкі. Яна ўжо ведала, на што ідзе. Відаць было, што яна ахвяруе, але гэта быў такі ўздым!

Журналістка Тацяна Мельнічук размаўляла з Валянцінай Палевіковай апоўначы, за тры гадзіны да ліквідацыі лягеру.

МЕЛЬНІЧУК: У апошні вечар перад разгонам мы сустрэліся з Палевіковай у намётавым лягеры. Яна сярод гэтай моладзі трымалася як апякунка. Ёй было вельмі халодна, але яна не паказвала. Яна зьбіралася правесьці там усю ноч, казала, што побач з маладымі павінны быць сталыя людзі, якія могуць падказаць, як сябе паводзіць, калі што. І гэтае «калі што» здарылася…

Валянціна Палевікова з залатым мэдалём скончыла вясковую школу ў Любанскім раёне. Паводле адукацыі — матэматык-праграміст. Працавала ў Навукова-дасьледчым інстытуце сродкаў аўтаматызацыі, у навукова-вытворчым аб'яднаньні «Гранат». Дзесяць гадоў працавала ў Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі, фактычна стварыла жаночую партыю «Надзея». Гаворыць экс-старшыня ФПБ Уладзімер Ганчарык.

ГАНЧАРЫК: У яе вельмі добрыя чалавечыя якасьці. Яна надзвычай добры работнік, вопытны, аддany справе чалавек, які гатовы зрабіць усё для другога чалавека, для агульнай справы.

— А як Вы думаеце, што пацягнула гэтую жанчыну на плошчу? Там у асноўным моладзь зьбіралася, а тут жанчына салідная, сур'ёзная...

ГАНЧАРЫК: Акрамя пачуцьця адказнасьці, у яе ёсьць яшчэ й пачуцьцё рамантызму. Гэта й горныя лыжы, турысцкае юнацтва. Яна вельмі добра знаходзіць агульную мову з моладзьдзю.

Дагэтуль В.Палевікова захапляецца горнымі лыжамі, горным турызмам, ходзіць у пешыя паходы, любіць баскетбол.

Трое сутак гэтая прыгожая, інтэлігентная, вытанчаная жанчына разам зь яшчэ дзесяцьцю дзяўчатамі сядзела ў Жодзінскім СІЗА, у камэры, разьлічанай на васьмёх. У жудасных умовах, на голых нарах, з парашай, без пасьцельнай бялізны, нават без зубной шчоткі.

Намесьніца старшыні Беларускай асацыяцыі журналістаў Тацяна Мельнічук прыгадала, як аднойчы разам зь іншымі палітыкамі, журналістамі яна была запрошаная на імпрэзу, і крыху не ўпісалася, так бы мовіць, у фармат тусоўкі. Тацяна прыйшла ў сьвяточным строі, а гэта быў пікнік у лесе...

МЕЛЬНІЧУК: Не адна я была такая. Побач са мной апынулася вельмі прыгожая жанчына, таксама апранутая не для лесу — Валя Палевікова. Мяне вельмі зьдзівіла чыста так па-жаноцку, як годна яна трымалася ў гэтай сытуацыі. Абцасікі ж не прызначаныя, каб хадзіць па лясных палянках. Але яна заўсёды сабраная, сканцэнтраваная й настолькі жаноцкая пры гэтым, настолькі прывабная... Я вельмі спачуваю ёй цяпер. Вельмі жадаю ёй сілы.





серада, 29 сакавіка 2006, 11:27

## БЫЛЫ ВЯЗЕНЬ ЖОДЗІНСКАЙ ТУРМЫ: ПА ПРАЎДУ Я ПРЫХОДЗІЎ НА ПЛОШЧУ

***Алег Грузьдзіловіч, Менск***

На волю пачалі выходзіць абаронцы намётавага лягеру, якія адбывалі пакараньне ў Жодзінскай турме. Майго суразмоўцу завуць Мікалай. У мяне склалася ўражаньне, што ён мог бы дазволіць назваць ягонае прозьвішча, калі б я настойваў. Але малады чалавек працуе на дзяржаўным прадпрыемстве, і гэта можа яму нашкодзіць. Мікалай правёў на Кастрычніцкай плошчы тры ночы: першую, другую й чацьвертую. Днём адпачываў дома. Кажа: напярэдадні апошняй ночы зьявілася дрэннае прадчуваньне, але зноў нешта падштурхнула на плошчу. Я спытаў пра ўражаньні ад захопу намётавага лягеру.

МІКАЛАЙ: Па-першае, мяне зьдзівіла тое, што падчас нашага арышту не было ніводнага журналіста ў нашым коле. Яны неяк зьніклі, і гэта дало магчымасьць амапаўцам нас захапіць. Я гэтак мяркую. Па-другое, гэта паводзіны амапаўцаў. Яны паводзілі сябе, як фашысты, як злачынцы ў форме. Неаднойчы казалі нам, што нас трэба завезьці ў Курапаты.

Паводле Мікалая, частку жыхароў намётавага лягеру ў Жодзінскай турме разьмясьцілі ў корпусе, дзе знаходзіўся турэмны шпіталь. Вязьняў пасадзілі ў камэры з ложкамі, нават выдалі бялізну. Стаўленьне вартаўнікоў да вязьняў у Мікалая не выклікае нараканьняў.

МІКАЛАЙ: Вартаўнікі добра да нас ставіліся, я нават хачу ім выказаць падзяку. Некаторыя зь іх спрабавалі гаварыць з намі па-беларуску. Бывала, што папярэджвалі, каб не шумелі, але фізычнай сілы не ўжывалі. Пра галадоўку дакладна ня ведаю. Асабіста я першыя дні проста ня еў,

бо ежа дрэнная. Але да нас у камэру прыходзілі й пыталіся, хто тут галадуе.

Я ня мог не спытацца ў Мікалая наконт грашовай узнагароды за ўдзел у падзеях на плошчы. Пра тое, што кожнаму ўдзельніку лягеру нібыта абяцалі такую ўзнагароду, я ўпершыню пачуў ад амапаўцаў у судах падчас працэсаў. Мікалай згадаў, што ён пра гэта пачуў ад амапаўцаў яшчэ раней — калі толькі іх затрымлівалі.

МІКАЛАЙ: Кожны амапавец у нас пытаўся, колькі мы атрымалі, каб там прастаяць. Я лічу, вельмі цынічна так казаць. Не выключаю, што нейкія кадэбісты падыходзілі да нейкіх асобаў, давалі ім грошы, каб гэта зьняць. Зрабіць такое вельмі проста, але ж асабіста я нічога не атрымліваў, і мне нічога не прапаноўвалі. А калі б прапаноўвалі, я б ня браў. Ня дзеля грошай я туды прыходзіў, і мы ўсе туды прыходзілі. Асабіста я зарабляю тыя сярэднія 250 даляраў штомесяц, пра якія кажуць. Але гэта нічога ня значыць. Мне не падабаецца, што Беларусь апынулася сярод краінаў, якія не паважаюць ва ўсім цывілізаваным сьвеце. Па-другое, я ня веру, што Лукашэнка сапраўды атрымаў такую перамогу, пра якую кажуць. Такім чынам, па праўду й справядлівасьць я прыходзіў на плошчу.

званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Хлусьня й дубінкі — зброя ўладаў, як гэта было ў 1937 годзе. Застаецца абʼявіць апазыцыю японскімі шпіёнамі, тэрарыстамі й расстраляць як шалёных сабак. Дзе Захаранка, дзе Ганчар, Завадзкі? Чаму арыштавалі Шарамета, Казуліна? Чаму спачатку зьбіваюць дубінкамі ляжачага чалавека, а потым на насілках яго нясуць у машыну «хуткай дапамогі»? Хто даў права зьбіваць людзей, нападаць на няўзброеных мірных дэманстрантаў і біць іх дубінкамі? Адальюцца амапаўцам усе нашы сьлёзы!*





серада, 29 сакавіка 2006, 16:19

## ДА ТУРМЫ НА АКРЭСЬЦІНА ПРАЦЯГВАЮЦЬ ІСЬЦІ ЛЮДЗІ

***Галіна Абакунчык, Менск***

Штодня тут звычайна зьбіралася больш за 200 чалавек, але цяпер колькасьць наведнікаў значна меншая.

Напярэдадні ахоўнікі раздалі большасьць перадачаў з дапамогай саміх наведнікаў. Добраахвотна насіць пакункі ўзяліся Аляксандар Макаеў, Зьміцер Кудраўцаў і Аляксандар Зялко, якія самі адбылі 15 сутак зьняволеньня за ўдзел у сустрэчы з А.Мілінкевічам 8 сакавіка. Цяпер яны прыходзяць да турмы дапамагчы сябрам, якія яшчэ застаюцца ў зьняволеньні.

МАКАЕЎ: Абстаноўка ў камэрах абсалютна братэрская. Людзі дзеляцца паміж сабой самым неабходным.

ЗЯЛКО: Тыя людзі, якія сядзелі, як ніхто, напэўна, ведаюць, што патрэбна гэтым зьняволеным. І мы спрабуем, як можам, дапамагчы тым, хто цяпер за кратамі. Таму, калі камусьці патрэбная нейкая дапамога, няхай зьвяртаюцца на мой тэлефон.

— Пасьля ўсяго ці гатовыя вы яшчэ да нейкіх дзеяньняў?

КУДРАЎЦАЎ: Мяне ўсё адбытае толькі раззлавала: я згубіў працу, у мяне дзіця на ўтрыманьні — нікога гэта не цікавіла. Але запалохаць — па-мойму, тут нікога запалохаць ужо нельга. І гэткімі пасадкамі можна дамагчыся толькі адваротнага — людзі й надалей будуць выходзіць на вуліцы, і я буду выходзіць. Гэта значыць, улада дамагаецца адваротнага таму, чаго б яна хацела.

Усе дні стаяньня каля турмы сваякам зьняволеных загадвалі прыносіць перадачы не часьцей як раз на тры-пяць

дзён. Аднак сваякі высьветлілі, што гэтае патрабаваньне незаконнае.

СПАДАРЫНЯ: Прыйшла да брата, да ягонай сяброўкі й да іншых знаёмых людзей. Я палічыла — у мяне тут чалавек трыццаць такіх. Мне пашанцавала, брата нават паказалі — бледны, у розных шкарпэтках, але вочы зрабіў бадзёрыя. Перажывае кот, перажываюць два папугаі, у якіх арышт на 10 сутак, бо гаспадароў забралі. Кот нічога ня есьць, кот плача. Ну, але брат дарослы мужчына, а тут жа сядзяць малыя дзяўчаты, зусім маладыя.

СПАДАР: Тут затрыманы мой швагер. Ну што пра гэта думаць? Што паняцьці Беларусь і закон — несумяшчальныя й існуюць нібыта ў двух паралельных сьветах.

СПАДАРЫНЯ: Я толькі хачу нагадаць, што шмат кажуць пра стабільнасьць, але стабільнасьць была і ў Асьвенціме, і ў Бухенвальдзе. Вось такая і ў нас стабільнасьць.

СПАДАР: Гэтая ўлада трымаецца на хлусьні, нянавісьці й страху. Але мне здаецца, што людзі ўжо страцілі страх, а таму ёсьць аптымізм. Ну й яшчэ той факт, што ўлада ідзе супраць Бога. І таму яе дні, можна сказаць, сканчаюцца.

званкі на «Свабоду»

*ЯБЛОНСКІ, Маладэчна: Я вельмі балюча ўспрыняў тое, што адбылося на плошчы 24-га й 25-га на Дзень Волі. Я ўпэўнены, што вінаватыя ў гэтым жудасным зьбіцьці, правакацыях і захопах нявінных людзей дадуць адказ перад народам і асабліва перад Богам. Толькі самім ні ў якім разе ня трэба рабіць паміж сабой нейкіх разборак, трэба трымацца адзін аднаго, яднацца ўсім, не паказваць уладам слабасьці, а толькі сілу духу. Я ва ўсім падтрымліваю Мілінкевіча, веру, што ён здолее вывесьці нас з гэтага балота. І трэба падумаць, як ратаваць Казуліна й палітвязьняў.*





серада, 29 сакавіка 2006, 18:03

## ШКОЛЬНІКАЎ ПАЧАЛІ СУДЗІЦЬ ЯК ДАРОСЛЫХ

***Любоў Лунёва, Менск***

Суд Цэнтральнага раёну Менску разгледзеў справу непаўналетняй школьніцы Веранікі Лазоўскай і вынес ёй папярэджаньне. Дзяўчынку абвінавацілі ў непадпарадкаваньні супрацоўнікам міліцыі. Яе затрымалі на пікеце каля Расейскай амбасады 28 сакавіка, але судзілі за падзеі 6 сакавіка, калі ў яе знайшлі агітацыйныя матэрыялы за кандыдата на прэзыдэнта А.Мілінкевіча.

Судзьдзя Аляксей Бычко не дазволіў паплечнікам Веранікі Лазоўскай, сябрам моладзевай незарэгістраванай арганізацыі «Зубар», прысутнічаць на судовым паседжаньні. Вераніка распавяла ў судзе, што 6 сакавіка міліцыянты затрымалі ейную сяброўку й адвезьлі ў міліцыю Цэнтральнага раёну. Празь нейкі час Вераніка прыйшла туды й пацікавілася, калі адпусьцяць сяброўку. Тады, зь ейных словаў, маёр міліцыі ўдарыў Вераніку й зацягнуў у пастарунак. Дзяўчынку абшукалі й знайшлі ў яе дазволеныя агітацыйныя ўлёткі з партрэтам А.Мілінкевіча. Агітацыйныя матэрыялы забралі, а дзяўчынку, разам зь сяброўкай, адпусьцілі.

ЛАЗОЎСКАЯ: Мяне ўдарылі. Гэта быў маёр Шарагураў. Такі, з вусамі. Спачатку на мяне хацелі скласьці пратакол, што я нібыта нецэнзурна лаялася на гэтага маёра. Потым — што я расклейвала налепкі. Потым мяне палохалі, што завядуць крымінальную справу за заклік прыйсьці на несанкцыянаваную акцыю 19 сакавіка.

Судзьдзя Аляксей Бычко даў дзяўчынцы папярэджаньне. Бацька Веранікі Віктар Пташнік абураны дзеяньнямі ўладаў.

ПТАШНІК: Гэты факт мяне абурае з двух бакоў. З аднаго

боку, я абураны паводзінамі маёй дачкі, якая мусіць найперш вучыцца, а толькі потым займацца палітыкай. З другога боку, мяне абурае ўлада, якая з пустога разьдзімае палітычную справу. Яна тым самым падагравае сытуацыю ў краіне й памнажае колькасьць апазыцыянэраў.

серада, 29 сакавіка 2006, 22:01

## ЧАСТКА ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ ЖОДЗІНСКАГА СІЗА ТРЫМАЕ ГАЛАДОЎКУ

***Міхал Стэльмак, Жодзіна***

У Жодзіне частка ўдзельнікаў акцыі на плошчы трымае галадоўку. Сёньня шостыя суткі іхнага знаходжаньня ў мясцовым ізалятары. Сярод галадоўнікаў — жыхар Смалявічаў Сяргей Гарэлік. Пра гэта Радыё Свабода распавяла яго жонка Ала Гарэлік.

ГАРЭЛІК: Сёньня я чарговы раз перадавала перадачу — ваду, сокі. І зайшоў у гэтую залю перадачаў нейкі начальнік. Я падышла й задала яму сваё пытаньне. Я сказала, што мяне цікавіць здароўе майго мужа. Ён спытаўся ў мяне: «Ваша прозьвішча?» Я адказала: «Гарэлік». Ён прапанаваў выйсьці, сказаў, што вельмі хоча пагаварыць. Мы выйшлі на вуліцу, і ён так і адказаў, што муж галадае.

Паводле Алы Гарэлік, міліцэйскі начальнік паведаміў ёй, што ўчора Сяргея Гарэліка агледаў турэмны лекар і што ціск у яго нібыта нармальны. Аднак жанчына, тым ня менш, вельмі турбуецца наступствамі галадоўкі — ці не пагоршыць яна здароўя мужа, якому неўзабаве споўніцца 46 гадоў. Ала Гарэлік таксама паведаміла, што яе муж браў удзел у акцыі сьвядома — ён былы прадпрымальнік, які пацярпеў ад улады. У Першамайскім судзе Менску 27 сакавіка за ўдзел у акцыі Сяргей Гарэлік быў пакараны 10 суткамі арышту.





Жодзінская міліцыя адмаўляецца афіцыйна пацьвердзіць факт галадоўкі ў мясцовым ізалятары, дзе адбываюць пакараньне больш як паўтары сотні жыхароў намётавага лягеру. Неафіцыйна, аднак, вядома, што Сяргей Гарэлік — не адзіны палітвязень Жодзінскага СІЗА, які трымае галадоўку пратэсту. Як паведаміла Ала Гарэлік, падчас разгляду ў Першамайскім судзе справаў удзельнікаў акцыі абвінавачаныя змаглі перадаць на волю сьпіс тых, хто вырашыў праз галадоўку выказаць пратэст уладам.

ГАРЭЛІК: Гэта значыць, што яны быццам бы самі сябе запісалі. Сваёй рукой. Я бачыла гэты сьпіс і ягоны почырк. І бачыла, што ён там быў. І там было чалавек дваццаць прыблізна. Там не было пранумаравана. Але потым гэты сьпіс кудысьці зьнік.

чацьвер, 30 сакавіка 2006, 6:21

## Т.СЬНІТКО: ГЭТА БЫЎ ТЫДЗЕНЬ СВАБОДЫ

***Іна Студзінская, Менск***

Журналістка «Нашай Нівы» Тацяна Сьнітко пасьля пяці сутак адседкі ў Жодзіне выйшла на волю. У Тацяны двое непаўналетніх дзетак, таму яна атрымала мінімальны тэрмін. Што прывяло яе на Кастрычніцкі пляц?

СЬНІТКО: Я павінна бачыць з самага пачатку й да самага канца жыцьцё людзей на гэтай плошчы. Я павінна была мець гэтую інфармацыю, таму што я разумела, што ўлады пры горшым разьвіцьці падзеяў паспрабуюць усё гэта зганьбіць. Так і адбылося. Па-другое, я адчувала такое грамадзянскае пачуцьцё, якое штурхала мяне прысутнічаць.

Па жыцьці Тацяна — экстрэмалка. Некалькі гадоў таму яна паехала ў гарачую кропку — у Чачэнію. Я запытала-

ся ў яе мужа, Зьмітра Гарбунова: ці ня цяжка жыць з такім актыўным чалавекам?

ГАРБУНОЎ: У сэнсе пабытовым? Маўляў, жонка павінна рабіць тое й тое — можа скласьціся ўражаньне, што ў мяне ўзьнікаюць цяжкасьці з гэтым. Але гэта мяне не абцяжарвае, бо я даўно ўжо прызвычаіўся гэта ўсё рабіць сам. Добра ў тым сэнсе, што мы адно аднаго разумеем. А наконт апошняга выпадку, калі трэба было канчаткова вырашыць, што рабіць на плошчы, калі быў ужо магчымы хапун, калі яна вырашыла, што трэба заставацца, каб быць, па-першае, з народам, а па-другое, выконваць свой прафэсійны абавязак, то я зразумеў яе. Нават ніводнае хвіліны ў мяне не было ніякіх сумненьняў.

Пра самае яркае ўражаньне на плошчы гаворыць Тацяна Сьнітко.

СЬНІТКО: Гэта быў дух людзей. Мяне ўразіла, што сабраліся вельмі розныя людзі, у звычайным жыцьці яны, можа, ніколі б не пазнаёміліся. Разумееце, калі побач дзяўчаты-эвангелісткі, якія сьпяваюць малітвы, а разам зь імі хлопцы-панкі, — і яны ўсе кажуць пра радзіму, пра Беларусь. І так гэта шчыра ў іх! Разумееце, пачуцьцё еднасьці, пачуцьцё пляча побач.

Самае цяжкае ў вязьніцы, лічыць Тацяна, — адсутнасьць інфармацыі. Тое-сёе яны даведваліся з афіцыйных навінаў — у камэры працавала радыё «Сталіца». З інфармацыі пра пікеты БРСМ каля замежных амбасадаў зрабілі свае высновы. А яшчэ ў адной дзяўчыны цудам застаўся мабільнік, ёй расказалі пра Дзень Волі, і гэтыя зьвесткі па вэнтыляцыі імгненна распаўсюдзіліся па Жодзінскім СІЗА.

Пра Тацяну Сьнітко кажа намесьнік рэдактара «Нашай Нівы» Андрэй Скурко.

СКУРКО: Калісьці ў «Нашай Ніве» друкаваліся яе рэпартажы з каўкаскай вайны. Гэта ня першая яе акцыя. У яе рэдкая (была, напэўна, да апошніх дзён) рыса — умее размаўляць з самымі маўклівымі прадстаўнікамі сілавых ведамстваў. Яна наўпрост падыходзіць да спэцназаўцаў і пытаецца: «Як схадзіць ў інтэрнэт-кавярню, каб мяне не забралі?» Ёй тлумачаць... Гэта пры тым, што яна маці дваіх дзяцей. Такіх людзей звычайна Бог ахоўвае. Будзем спадзявацца, што так будзе й надалей.

Пасьля выхаду зь СІЗА першае, што зрабіла Тацяна, — панесла перадачы тым, хто застаецца за кратамі. Цяпер рыхтуе сэрыю рэпартажаў у «Нашу Ніву».

СЬНІТКО: Я тут падлічыла, што лягер пратрымаўся столькі ж, колькі я была ў зьняволеньні. Калі скласьці разам, гэта тыдзень майго жыцьця. Я б сказала, што гэта тыдзень свабоды. Таму што мы спачатку выстаялі, потым мы выседзелі. На жаль, многія застаюцца там. І я адчуваю пастаянна нават віну, што яны там, а я тут. Таму стараюся рабіць, што магу. Каб спрыяць — ну не вызваленьню, а хаця б інфармацыі пра гэта ўсё.

### з в а н к і н а « С в а б о д у »

*СПАДАРЫНЯ: Тэлефануе пэнсіянэрка зь Менску. Мне 73 гады, перажыла акупацыю. Бацькі — удзельнікі менскага падпольля, былі арыштаваныя немцамі й вывезеныя на катаржныя працы ў Нямеччыну. Пасьля вяртаньня на радзіму зноў былі сасланыя, на гэты раз у савецкі лягер, як ворагі народу. І мы былі дзеці ворагаў народу. Скончыўшы інстытут, мяне прынялі на працу на 32-гі абаронны завод, але праз тры месяцы выклікалі ў асобы аддзел, і я была павінна звольніцца. Рэпрэсіі адчула на сваёй скуры. І не хачу, каб у мірны час людзі адчулі тое, што перажыла я. Мы жывем у XXI стагодзьдзі. Трэба, каб прэзыдэнты больш чула ставіліся да нашага народу й навучыліся прыслухоўвацца й да тых, хто мае іншы погляд, а не звальняць іх і не падвяргаць рэпрэсіям.*

чацьвер, 30 сакавіка 2006, 11:43

## 15-ГАДОВАЯ ВЕРА КУПЧАНКА ПРАНЕСЛА НА АКРЭСЬЦІНА ДЫКТАФОН

***Аляксей Дзікавіцкі, Варшава***

Вера Купчанка, якую разам з маці Кацярынай Кляцоўкай і былым амбасадарам Польшчы ў Беларусі Марыюшам Машкевічам затрымалі на Кастрычніцкай плошчы ў ноч ліквідацыі намётавага лягеру, патаемна запісала некалькі гадзінаў таго, што адбывалася ў ізалятары на Акрэсьціна, на партатыўны дыктафон. На стужцы чуваць, як міліцыянты змушаюць стаяць усіх затрыманых тварам да сьцяны, не пускаюць у прыбіральню ды іншае.

15-гадовая Вера Купчанка жыве ў Варшаве, аднак калі ў Беларусі пачаліся акцыі пратэсту супраць фальсыфікацыяў, яна разам з маці й Марыюшам Машкевічам паехала ў Менск, каб быць на Кастрычніцкай плошчы. Доўга, аднак, пастаяць там не атрымалася.

ВЕРА: ...Раптам я пачула, што нехта цягне мяне за валасы — міліцыянт цягне, вельмі моцна. Мама сказала мне крычаць, я крычала моцна, але яны цягнулі мяне — працягнулі так праз увесь пляц і кінулі ў аўтобус, як быдла нейкае. Я так моцна ўдарылася галавой, што дагэтуль баліць.

Ужо ў турме на Акрэсьціна Вера таемна ўключыла дыктафон, які схавала ў пальчатку. Нягледзячы на дрэнную якасьць запісу, на стужцы, аднак, чуваць, як міліцыянты змушаюць затрыманых стаяць тварам да сьцяны й не размаўляць.

МІЛІЦЫЯНТ: Што за расслабон такі, я не разумею? Усе тварам да сьцяны, і ніякіх размоваў паміж сабой!

ЗАТРЫМАНЫ: Прабачце, а ці можна ў туалет?

МІЛІЦЫЯНТ: Нельга! Хто тут не зразумеў, што тэлефоны





трэба адключаць? Будзем забіраць тэлефоны, больш іх не атрымаеце.

Цікавы фрагмэнт запісу, калі адзін з затрыманых спрабуе пераканаць міліцыянтаў, што ўлады іх папросту выкарыстоўваюць. Тыя, аднак, кажуць што «ня хочуць размаўляць» і «гэтага нават ня слухаюць».

МІЛІЦЫЯНТ: Я з вамі не размаўляю й слухаць не хачу — вось цяпер, напрыклад, ня чую.

Веру Купчанку выпусьцілі, бо яна няпоўнагадовая. Дзяўчына, аднак, кажа, што калі ёй споўніцца 18 гадоў, дык ніхто яе не стрымае ад удзелу ў акцыях пратэсту.

чацьвер, 30 сакавіка 2006, 16:34

## ДА СЬЦЕНАЎ ЖОДЗІНСКАЙ ТУРМЫ ШТОДНЯ ПРЫХОДЗЯЦЬ ДЗЯСЯТКІ ЛЮДЗЕЙ

***Міхал Стэльмак, Жодзіна***

Палітычных вязьняў Жодзінскай турмы не пакінулі без увагі сябры й паплечнікі. Сёньня ля турэмных сьценаў можна было пабачыць шмат людзей, якія прывезьлі перадачы арыштаваным.

Турма, дзе трымаюць удзельнікаў акцыі на плошчы, месьціцца на ўскраіне Жодзіна. Дзясяткі наведнікаў зь ліку сваякоў, сяброў і аднадумцаў палітвязьняў ля турэмных сьценаў перазнаёміліся, яны абменьваліся зьвесткамі пра арыштаваных.

СПАДАРЫНЯ: Я — цётка Грынчыка Віктара. Яму споўнілася 19 гадоў 21 сакавіка. Я спакойна не магу казаць... Побач былі такія ж хлопцы. Мы ежу насілі. Кожны дзень езьдзілі. Вечарамі былі там.

— Вы да кагосьці прыехалі?

СПАДАР: Да свайго сябра, Красячкова Віталя. Прыйшоў хлопец з народам стаяць на Кастрычніцкую плошчу. Дакладней, на плошчу Кастуся Каліноўскага. Таму што абрыдла цяперашняе жыцьцё — хлопец хацеў пераменаў. Ён студэнт лінгвістычнага ўнівэрсытэту.

СПАДАРЫНЯ: Мы мімаходзь сына пабачылі, калі яго выводзілі. Чыкмароў Зьміцер. Калі раней у 1990-х гадах былі такія выступы, то хлопцам давалі двое сутак — тады такіх жорсткіх захадаў не рабілі.

Цяпер студэнту Чыкмарову ў Жодзінскай турме давядзецца адседзець 10 сутак. Апроч яго, тут, паводле неафіцыйных зьвестак, знаходзіцца больш як паўтары сотні палітвязьняў. Каля двух дзясяткаў зь іх трымаюць галадоўку пратэсту. Жодзінскія міліцыянты, аднак, ухіляюцца ад камэнтароў на гэтую тэму.

Шмат харчовых перадачаў прывезьлі сёньня ў Жодзінскую турму актывісты Аб'яднанай грамадзянскай партыі на чале з намесьнікам старшыні Сяргеем Альферам.

АЛЬФЕР: У Жодзінскім СІЗА знаходзяцца чатыры сябры АГП — Дзяніс Дзянісаў, Зьміцер Завадзкі, Андрэй Козел і Вадзім Казначэеў. Астатнія людзі, якія тут знаходзяцца, не зьяўляюцца сябрамі нашай партыі, але яны былі разам зь імі на плошчы, і мы лічым нашым абавязкам падтрымаць гэтых людзей. Каб ведалі: мы пра іх памятаем, мы зь імі разам.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Бачыў аўтазакі на Чырвонай. Вельмі неэстэтычна выглядаюць. Там патрэбныя надпісы «За Беларусь!».*





чацьвер, 30 сакавіка 2006, 17:14

## ЛЮДЗІ ІДУЦЬ ДА ТУРМЫ НА АКРЭСЬЦІНА

***Галіна Абакунчык, Менск***

Людзі прыходзяць за некалькі гадзінаў да адкрыцьця, каб перадаць ежу й адзеньне сваім зьняволеным сваякам, а затым пасьпець на працу. Прыходзяць сюды і ўдзень. Зрабіць перадачы да пачатку працоўнага дня ўдаецца далёка ня ўсім, а таму гэтымі днямі многія вымушаныя былі браць адпачынак за свой кошт.

СПАДАРЫНЯ: Сёньня во прыйшлі зранку й толькі цяпер, да абеду, удалося перадаць. Ня ведаю, дзе гэтае дзіця, што зь ім. Кажуць, што там і халодна, і што іх не кармілі першы час. Ня ведаю, чым іх тут кормяць, абы-чым кормяць — і за гэта яшчэ трэба плаціць, 45 500 рублёў. Людзі кажуць, што нават пры немцах ня трэба было плаціць за ўтрыманьне за кратамі.

ІНШАЯ СПАДАРЫНЯ: Крыху менш людзей стала пад мурамі Акрэсьціна — магчыма, першая плыня ўжо схлынула. Людзі перадалі самае неабходнае, хоць праз чатырыпяць дзён, але ўсё ж перадалі. І крыху супакоіліся, што ў людзей цывілізаваных, у XXI стагодзьдзі, нарэшце зьявілася зубная шчотка й кавалак мыла. І гэта ўжо шчасьце, разумееце? Ваду пітную перадалі, бо там вада вельмі дрэнная. Гэта ўсё вельмі цяжка, гэта страшна, гэта нейкі сталінскі рэжым.

СПАДАРЫНЯ: Ведаеце што, хрысьціянская мараль — яна была, ёсьць і будзе заўсёды. І як бы ні гвалцілі людзей, яны ўсё роўна застануцца людзьмі.

СПАДАР: Мы прыйшлі да сябра, да калегі. Яго асудзілі на 15 сутак, а ўвогуле ў нас такіх два чалавекі. Вось прыйшлі перадаць ім перадачу.

— Як ставіцца Вашае кіраўніцтва да гэтых людзей?

СПАДАР: Кіраўніцтва падтрымлівае й не пакіне гэтых людзей. Ніякіх рэпрэсіяў з гэтай нагоды да іх, думаю, ня будзе.

— А што пра гэтую сытуацыю кажуць калегі?

СПАДАР: Мы на ўнутраным сайце нашай кампаніі правялі галасаваньне, праўда, па кандыдатах. У нас апазыцыйныя кандыдаты — Казулін зь Мілінкевічам — больш за 90% набралі.

чацьвер, 30 сакавіка 2006, 17:55

## АПАЗНАНЫ АДЗІН З МОЦНА ЗЬБІТЫХ У ЧАСЕ АКЦЫІ 25 САКАВІКА

***Ігар Карней, Менск***

Толькі праз пяць дзён пасьля шэсьця 25 сакавіка стала вядомае імя чалавека, моцна зьбітага міліцыяй. Гэта 65-гадовы жыхар Віцебскага раёну Ўладзімер Шадэнка. Фаташдымкі скрываўленага чалавека, які не падаваў прыкметаў жыцьця, абышлі ўвесь сьвет. Аднак у менскіх шпіталях адмаўляюцца прызнаць, што лекавалі пацярпелых у часе апазыцыйнай акцыі. А праваабаронцы дагэтуль ня могуць высьветліць лёсу іншага ўдзельніка шэсьця (у прыватнасьці, называлі імя Сяргея Атрошчанкі) — казалі пра верагоднасьць сьмяротнага выніку.

І праз пяць дзён пасьля падзеяў 25 сакавіка ў менскіх шпіталях адмаўляюцца прызнаваць, што да іх прывозілі пацярпелых ад сутычак зь міліцыяй. Аднак пэнсіянэр Уладзімер Шадэнка, які жыве ў вёсцы Дражна пад Віцебскам, расказаў, што браў удзел у апазыцыйнай акцыі, быў моцна зьбіты й мае даведкі аб шпіталізацыі з 4-га клінічнага шпіталю Менску. Пры гэтым лекары згаданага шпіталю ўсё абвяргаюць.

ДАВЕДКА: Не, сярод шпіталізаваных хворага Шадэнкі ў нас няма. У прыёмны пакой тэлефануйце.

ПРЫЁМНЫ ПАКОЙ: Чацьвертая клініка. Шадэнка? Не, такога ў нас не было.

Уладзімер Шадэнка расказаў, што выпадкова ўбачыў у інтэрнэце здымак — ён скрываўлены, ляжыць на асфальце, твар зьбялелы, без праяваў жыцьця. Прычым, прозьвішчы пацярпелага падаваліся розныя, але не Шадэнка.

ШАДЭНКА: Я выйшаў у інтэрнэт, паглядзеў: сапраўды, ляжу я.

— У 4-м шпіталі Вас у сьпісе хворых чамусьці няма...

ШАДЭНКА: Ня ведаю. У мяне даведкі з 4-га шпіталю. Адна засталася на руках (выдадзеная на рэнтгенаграму), другую аддаў у амбуляторыю, дзе яе ўклеілі ў картку. Заўтра якраз паеду швы здымаць.

— Шмат Вам швоў наклалі?

ШАДЭНКА: Нават ня ведаю. Бо наклалі швы, а потым тымі ж ніткамі прышылі валік з ваты — каб кроў не ішла. А наверх яшчэ закруцілі галаву бінтам. Дык я цяпер забінтаваны.

— Сама траўма ад удару дубінкамі — як мяркуеце?

ШАДЭНКА: Так-так. Рэнтгенаграма паказала: узмоцнены сасудзісты малюнак у вобласьці цемя. Але ні пра швы ня пішуць, ні пра зрушэньне мозгу. Зьнялі рэнтгенаграму, што чэрап цэлы, дый усё. А колькі крыві страціў! Я ў шапцы быў (добра, што не згубіў!), — дык поўная крыві. Куртку знаёмыя за ноч ледзьве адмылі. На штанах, кашулі таксама крывавыя плямы.

— Вы памятаеце, як усё адбылося?

ШАДЭНКА: Я ішоў адразу ў калёне. Потым дарогу перагарадзілі, калёна спынілася. Я з калёны выйшаў, збочыў, пайшоў па схіле. Хацеў паглядзець, што за мальцы такія ў спэцназе. А яны якраз пайшлі — шчыты наперад. Адзін мяне тузануў. Я ткнуў у адказ, у шчыт той. На мяне тады іншы кінуўся. А неўзабаве й па галаве атрымаў: нейкі, пэўна, падскочыў ззаду ды па галаве стукнуў. Я й апоўз на зямлю. Нікога не чапляў, а мяне зачапілі. А потым накінуліся іншыя са шчытамі, пачалі таксама лупцаваць: на руцэ сіняк здаравенны, на назе таксама. Пасьля заваліўся — і ўжо нічога ня памятаю.

Уладзімер Шадэнка ўдакладніў: са шпіталю яго вымусілі сысьці ўжо праз тры гадзіны, запісаўшы ў даведцы, што хворы знаходзіўся ў стане алькагольнага ап'яненьня. Якраз гэта спадара Шадэнку й абурыла, бо ў Менск ён прыехаў уласнай машынай, быў за стырном, і гэтак жа зьбіраўся зьехаць назад.

У праваабарончым цэнтры «Вясна» апавялі, што ўчора раніцай ім затэлефанаваў чалавек, які назваўся сваяком яшчэ аднаго пацярпелага 25 сакавіка — Сяргея Атрошчанкі. Суразмоўца прасіў дапамогі ў арганізацыі лекаваньня, аднак цягам дня ў офісе так і не зьявіўся. Зазначым: усе ранейшыя спробы знайсьці чалавека з прозьвішчам Атрошчанка ў менскіх шпіталях аказаліся марнымі.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*ТАЦЯНА БАРЭЛЬ: Пра зграю Паўлічэнкі. Яны лічаць сябе звышчалавекамі на службе дыктатара. А ён падае нам сябе за нашага бога. Што ён дыктатар, цяпер прызнаў увесь сьвет, акрамя Расеі й Кубы. На самай справе гэтая варожая зграя — чорныя пылінкі на нашай чыстай зямлі. І іхнае жыцьцё не пакіне ніякага сьледу. Аддай ім, Божа, па іх заслугах!*





чацьвер, 30 сакавіка 2006, 21:43

## УНАЧЫ З ТУРМЫ Ў МЕНСКУ ВЫПУСЬЦЯЦЬ КАЛЯ ДЗЯСЯТКА ЖАНЧЫН-ПАЛІТЗЬНЯВОЛЕНЫХ

***Міхал Стэльмак, Менск***

Турмы на Акрэсьціна і ў Жодзіне не зьмясьцілі той колькасьці палітвязьняў, якімі папоўнілася Беларусь у выніку нядаўніх прэзыдэнцкіх выбараў і зьвязаных зь імі пратэстаў у Менску. Турма Менскага раёну — трэцяя ўстанова, дзе трымаюць арыштаваных на плошчы, прычым там усе — жанчыны.

Гэтая турма месьціцца на сталічнай вуліцы Скарыны. Сёньня каля яе можна было бачыць сваякоў і паплечнікаў удзельніц нядаўніх акцыяў пратэсту.

ЦІМКОЎСКІ: У мяне тут дачка. Яна студэнтка Белдзяржуніверсытэту. Яна трапіла сюды ў ноч на 24 сакавіка, калі захоплівалі намётавы гарадок. Іх спачатку завезьлі на Акрэсьціна, потым — сюды. Там амапаўцы вялі сябе пабандыцку, бо так зь людзьмі не паводзяць сябе, тым больш з жанчынамі, дзяўчатамі.

Як паведаміў Іосіф Цімкоўскі, ягоную дачку Сьвятлану суд засудзіў на 7 сутак арышту. Мяркуецца, што гэтай ноччу студэнтка-трэцякурсьніца юрыдычнага факультэту БДУ выйдзе на волю. Чакае вяртаньня дадому дачкі Аліны а 3-й гадзіне ночы й жыхарка Менску Сьвятлана Жызьнеўская.

ЖЫЗЬНЕЎСКАЯ: Дачцэ 19 гадоў. Таксама затрымалі яе, калі бралі намётавы гарадок. Кожны дзень хаджу, перадаю перадачы. З учорашняга дня ўвялі плату за ўтрыманьне тут — 3100 рублёў за суткі. Вось яна пабыла тут 7 сутак — мне давялося прыехаць сёньня й заплаціць 21 700 рублёў, каб атрымаць даведку.

Паводле спадарыні Жызьнеўскай, тут утрымліваюцца й жанчыны, якіх арыштавалі падчас акцыі 25 сакавіка. Апроч бацькоў і блізкіх, палітвязьняў гэтай турмы сёньня наведалі актывісты Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Сярод іх — лідэр менскай гарадзкой арганізацыі АГП Ігар Шынкарык.

ШЫНКАРЫК: Мы прывозілі перадачы для тых людзей — нашых партыйцаў з АГП, якіх затрымалі падчас палітычных акцыяў на плошчы. Але мы перадавалі перадачы, нягледзячы на партыйную прыналежнасьць. Толькі б патрапіла ў камэры. Бо мы ведаем, што там усе камэры — палітычныя.

Мяркуецца, што сьцены гэтай турмы сёньня ноччу пакіне каля дзясятка жанчын.

пятніца, 31 сакавіка 2006, 16:52

## З ТУРМЫ НА АКРЭСЬЦІНА ПАЧЫНАЮЦЬ ВЫПУСКАЦЬ ЛЮДЗЕЙ

***Галіна Абакунчык, Менск***

З турмы на Акрэсьціна выпускаюць людзей, якія адбылі адміністрацыйнае зьняволеньне за ўдзел і падтрымку намётавага лягеру, а таксама акцыі пратэсту 25 сакавіка. Гэтак, у ноч на 31 сакавіка вызвалілі некалькі дзясяткаў чалавек. Былых вязьняў вызвалялі таксама цягам дня.

Група маладых людзей прыйшла сустракаць пасьля зьняволеньня свайго сябра.

ЮНАЧКА: Мы сустракаем сябра, якога арыштавалі 21 сакавіка, атрымаў 10 сутак і сёньня мусіць быць вызвалены.

ЮНАК: А 12-й гадзіне павінны былі вызваліць, і мы тут з паўгадзінкі стаім, чакаем.





— Ці хвалюецеся за ягоны далейшы лёс? Гэты чалавек працуе ці вучыцца?

ЮНАЧКА: Натуральна, хвалюемся. Бо ён працуе, а згубіць працу ў наш час — гэта вялікая страта. Але спадзяемся, што ўсё будзе добра.

ІНШАЯ ЮНАЧКА: Наша пазыцыя не зьмянілася, а наадварот — умацавалася. Калі бачыш, як наша ўлада зь беспадстаўнай агрэсіяй, зь беспадстаўнай злосьцю, нейкай жывёльнай (нават словаў не знайсьці), хапае людзей, зьбівае дзяўчат, — я ня ведаю, пра што тут можна казаць, пра якую ўладу...

Неўзабаве зь дзьвярэй турмы выйшлі адразу некалькі чалавек. Іх сустрэлі воклічамі й воплескамі.

— Для Радыё Свабода колькі словаў па вызваленьні.

ЮНАК: Ну, усё нармальна, усё добра, я ні пра што не шкадую.

— Які настрой на будучыню?

ЮНАК: На будучыню — поўны аптымізм. Вы бачыце, якія мы выходзім з турмы? Мы вельмі ўдзячныя сваім сябрам, што прыносілі нам перадачы.

— Якая там была атмасфэра?

ЮНАК: Ды нармальная атмасфэра. Там было шмат вельмі цікавых людзей, шмат людзей знаёмых.

ІНШЫ ЮНАК: Я, да прыкладу, сядзеў у адной камэры з рэдактарам газэты «Наша Ніва» Андрэем Дыньком. У нас былі цікавыя й плённыя гаворкі. І, увогуле, гэта ўсё аказалася, як ні дзіўна, вельмі карысным.

ЮНАК: Пасьля гэтага ўжо нічога не баісься.

Іншыя людзі чакаюць вызваленьня сваіх знаёмых і сяброў днямі, а таму сёньня яшчэ нясуць ім перадачы.

ЮНАК: Некалькі нашых сяброў сядзяць — на Акрэсьціна, у Жодзіне. А дзяўчынка адна на Старабарысаўскім тракце. Яны ўсе атрымалі 10 сутак, і будуць выходзіць у ноч зь нядзелі на панядзелак.

ІНШЫ ЮНАК: Ды ўсё нармальна, усё аптымістычна й пазытыўна. Бо, мне падаецца, насамрэч усё гэта толькі яшчэ раз пацьвердзіла слабасьць улады — і ўсё. Людзі, якія пры ўладзе, — яны папросту баяцца.

пятніца, 31 сакавіка 2006, 18:41

## З АКРЭСЬЦІНА ВЫЙШЛІ 70 ВЯЗЬНЯЎ, ІХ СУСТРАКАЛА КАЛЯ 400 ЧАЛАВЕК

***Любоў Лунёва, Менск***

Каля 90 чалавек выйшлі з-за кратаў ізалятараў Менску й Менскай вобласьці. Большасьць зь іх затрымалі ўначы, калі яны намагаліся прайсьці на Кастрычніцкую плошчу альбо спрабавалі пранесьці туды цёплае адзеньне й тэрмасы з кавай.

У тры гадзіны ночы з ізалятару Менскага раёну выйшлі 15 дзяўчат, якіх затрымалі падчас ліквідацыі намётавага лягеру. 10 чалавек выйшлі з камэраў Жодзінскага ізалятару часовага ўтрыманьня. З турмы на вуліцы Акрэсьціна на волю выйшла каля 70 чалавек. Іх сустракалі больш за чатыры сотні чалавек. Кожнаму скандавалі: «Слава герою!». Марына Квяткоўская не чакала, што яе сустрэне столькі людзей з кветкамі.

КВЯТКОЎСКАЯ: Я была тут 10 сутак. Мяне затрымалі ў раёне Кастрычніцкай плошчы. Я везла на прыватнай машыне рэчы на плошчу — намёт, спальнік, гітару. Нас затрымалі супрацоўнікі СОБРу й спэцназу... Калі б не перадачы, то... Ну, мы б галадалі.





Бацькі Паліны Пархімовіч з гадзіны ночы стаялі ля турэмнай брамы.

ПАРХІМОВІЧ: Ноч. Халодна. Але мы падтрымліваем усю моладзь, якая там знаходзіцца. Мы разам зь імі ўсе гэтыя дні й ночы, мы ведаем, што ім там было вельмі-вельмі цяжка. Думаю, што ўсё лепшае наперадзе. Мы будзем змагацца. Прайшлі праз гэта — і народ ужо іншы. Ня той, што быў пяць гадоў таму.

Аляксандар Дабравольскі не чакаў такой салідарнасьці.

ДАБРАВОЛЬСКІ: Той бок жыцьця таксама шмат хто мусіў паглядзець. Самае галоўнае, што я не сустрэў у ізалятары чалавека, які ўпаў бы духам, сказаў бы: «Усё, больш ня трэба!». Наадварот — усе зразумелі, што ўся гэтая хлусьня ў дзяржаве вартая таго, каб усё мяняць. Ніхто не зламаўся, дзякуй Богу! Турэмнае брацтва, якое тут ёсьць, нам дапаможа. Я не чакаў. Кажу сваім: «Чаго вы ўночы прыпёрліся?!» *(Сьмяецца.)* Гэта прыемна.

Аляксандар Дабравольскі сьцьвердзіў: у няволі не хапала інфармацыі. Арыштаваныя папросту здагадаліся, што 25 сакавіка не абышлося без затрыманьняў.

ДАБРАВОЛЬСКІ: Мы зразумелі, што нешта адбываецца, бо тут, у двары, зьявіліся амапаўцы са зброяй, два белыя браняваныя джыпы. Яны ўвесь час хадзілі з гэтай зброяй, елі тушонку. Ну, быццам бы, да нечага рыхталіся.

Упершыню ў турме міліцыянты праводзілі для палітвязьняў лекцыю, гаворыць Вольга Кузьміч.

КУЗЬМІЧ: Спачатку нас было 12 чалавек. Адна дзяўчына цяжарная. Мы спалі па чарзе. Потым, перад прыходам АБСЭ, дваіх вывелі — толькі каб паказаць, як усё прыстойна. Сёньня нас завялі на ідэалягічную гадзіну з прадстаўнікамі Міністэрства ўнутраных справаў. Там прысутнічалі кіраўнік прафіляктычнага аддзелу спадар Дрозд, ягоны намесьнік Маліноўскі й яшчэ два выкладчыкі з Ака-

дэміі ўнутраных справаў. Яны хацелі нас паставіць на нармальны шлях. Але я ўзяла гаворку ў свае рукі, і яны сышлі ні з чым праз пару гадзінаў.

Людзей развозілі дахаты на машынах. Прадпрымальнікі падагналі некалькі мікрааўтобусаў, каб іншагародніх завезьці дадому разам са сваякамі, што прыйшлі іх сустракаць. А палове на шостую раніцы выйшаў апошні палітзьняволены — з тых, чый тэрмін пакараньня скончыўся ў тры гадзіны ночы. Каля турмы менавіта ў гэтую ноч не працавалі ліхтары, і таму людзі стаялі са сьвечкамі. Гэтак людзі й пакінулі сотні запаленых сьвечак уздоўж дарогі да турэмнай брамы.

субота, 1 красавіка 2006, 14:55

## З ТУРМЫ НА АКРЭСЬЦІНА РЫХТУЕЦЦА ВЫЙСЬЦІ НОВАЯ ГРУПА ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ

***Галіна Абакунчык, Менск***

У ноч на панядзелак з турмы на Акрэсьціна выйдзе група людзей, арыштаваных і зьняволеных на 10 сутак пасьля ліквідацыі намётавага лягеру. Сваякі, знаёмыя й сябры вязьняў па-ранейшаму прыходзяць да турмы, каб перадаць ім асабістыя рэчы, харчы й пітво.

ЮНАЧКА: У мяне, да прыкладу, тут сядзіць бацька адной з маіх сябровак. Яго затрымалі каля «Журавінкі». Ён нес на плошчу ежу, і ў яго, акрамя тэрмаса й галубцоў, больш нічога не было. Вось яго затрымалі, і ён цяпер сядзіць. Асабіста я проста не разумею, навошта гэта рабіць, калі мірныя дэманстранты выказваюць сваю думку, не парушаючы нічыіх правоў і свабодаў? Для мяне гэта дзікунства.

ЮНАК: Улада проста баіцца, вельмі баіцца. І гэтыя крокі,





можна сказаць, як у параненай жывёліны, якая перад сьмерцю б'ецца й кідаецца на ўсё, гэтак жа і ўлада робіць.

ЮНАЧКА: Я лічу, у тым, што адбылося ў апошнія дні, ёсьць таксама й свае плюсы. Да прыкладу, тое, што цяпер вялізная колькасьць людзей незадаволеная. Яны бачаць, што іх родных пасадзілі ні за што. Я лічу, што цяпер колькасьць людзей, якія далучацца да апазыцыі, будзе толькі расьці. Таксама я думаю, што людзі займеюць праблемы на працы й на вучобе, і гэта толькі выльецца ў новую хвалю супраціву.

Праз колькі дзён пасьля масавых арыштаў сваякі зьняволеных пачалі атрымліваць паведамленьні з судоў, якія сталіся адной з тэмаў абмеркаваньня каля сьценаў турмы. Гаворыць спадарыня Крысьціна, якая прыйшла да свайго брата.

КРЫСЬЦІНА: Прыйшоў бацькам афіцыйны ліст з суду пра тое, што ён затрыманы й зьняволены. Цытую: «Задержан на площади, 10 суток, кричал «Жыве Беларусь». Мама сказала, што павесіць на сьцяне. У лісьце процьма артаграфічных памылак. І нават суседзі, якія раней казалі, што, маўляў, вось, ён у вас апазыцыянэр, напэўна, кепска вучыцца й дрэнна паводзіцца, нават яны, пабачыўшы гэты ліст, сказалі, што гэта непісьменная ўлада, якая саджае лепшую моладзь.

СПАДАР: Што тычыцца «адмарозкаў», якія нібыта сюды патрапілі, то асабіста я ніводнага «адмарозка» ня ведаю, я думаю, што сапраўдныя «адмарозкі» ў іншых месцах цяпер.

СПАДАРЫНЯ: Нават міліцыя, многія зь іх казалі потым, што мы чакалі ўбачыць сапраўды алькаголікаў і адмарозкаў. Але калі пачалі пісаць пратаколы, калі даведваліся, зь якіх яны ўнівэрсытэтаў саджаюць людзей, што там выкладчыкі былі, лекары, то нават у міліцыі ўсе ў шоку ад таго, што адбываецца.

субота, 1 красавіка 2006, 17:40

## СЬВЯТАРЫ НА ПЛОШЧЫ Ў МЕНСКУ 19—25 САКАВІКА

***Сяргей Абламейка, Прага***

Гэтымі днямі Радыё Свабода атрымлівае шмат слухацкіх тэлефанаваньняў і СМС-паведамленьняў, у якіх людзі просяць расказаць пра ўдзел сьвятароў у падзеях на Кастрычніцкім пляцы ў Менску.

СЛУХАЧ: У сутычцы ў каньёне ля чыгуначнага моста ў Менску 25-га побач з Казуліным былі два праваслаўныя сьвятары. Хацелася б пачуць ад вас пра іх, хто яны — з аўтакефальнай царквы ці нешта іншае, і даведацца, чым скончылася гэтая сутычка для іх, ці паднялася на іх першабытная дубіна ардэнаносца беларускай праваслаўнай царквы Паўлічэнкі?

Сьвятарамі, пра якіх пытаецца наш слухач, былі прадстаўнікі незарэгістраванай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы на Бацькаўшчыне — так яны самі сябе называюць. Гэта айцы Леанід Акаловіч і Вікенці Кавалькоў. Адразу пасьля падзеяў 25 сакавіка зьявілася інфармацыя, што старэйшы са сьвятароў, айцец Леанід Акаловіч, затрыманы, асуджаны й знаходзіцца ў турме. Я, аднак, знайшоў айца Леаніда дома. Вось як ён расказвае пра свой удзел у шэсьці прыхільнікаў пераменаў на Акрэсьціна.

АКАЛОВІЧ: Я, айцец Леанід Акаловіч, і сьвятар нашай Аўтакефальнай Праваслаўнай беларускай царквы айцец Вікенці Кавалькоў удзельнічалі ў Дні Волі й наагул амаль усе дні былі ў намётавым гарадку, дзе мы маліліся за пасланьне міласьці ласкі Божай, і дзе я асьвячаў намёты. Тым больш, мы не маглі ня ўзяць удзелу ў шэсьці на Дзень Волі й паходзе да турмы на Акрэсьціна. Мэтай было па-





маліцца за нявінна пакараных людзей. Але, на жаль, нас не дапусьцілі, у перамовах мы мусілі патраціць колькі хвілінаў у дэлегацыі разам з Казуліным, але перамовы нічога не далі, і чарнасоценцы гэтыя навaліліся на нас цэлаю зграяю, і дубінкамі пачалі малаціць. Айцец Вікенці й я, мы атрымалі пабоі — у галаву, у грудзі, у ногі. Я страціў на пэўны час прытомнасьць, Вікенцію разьбілі мабільны тэлефон. Гэта было вялікае процістаяньне, і яно скончылася такім чынам, што мы цяпер вымушаныя адлежвацца й лячыць тыя сінякі, якія мы атрымалі.

— Айцец Леанід, якую менавіта царкву вы прадстаўляеце?

АКАЛОВІЧ: Мы прадстаўляем Беларускую Праваслаўную Аўтакефальную царкву на Бацькаўшчыне, якая існуе здаўна, і ўжо болей як дзесяць гадоў, як мы ўзнавілі гэтую царкву й працягваем маліцца за нашу Бацькаўшчыну на роднай мове. Нам, на жаль, забараняюць набажэнствы, штрафуюць, разбураюць нашыя цэрквы, не даюць аднаўляць тых храмаў, якія мы аднаўлялі. Тым ня менш, мы займаемся духоўнай дзейнасьцю сярод тых беларусаў, якія жадаюць маліцца на роднай мове.

— У якой вы юрысдыкцыі?

АКАЛОВІЧ: У юрысдыкцыі, якая ў нас і была. Мы застаемся з тымі, хто нас падтрымлівае. Гэта юрысдыкцыя Амэрыканскага Ўсясьветнага патрыярхату архіяпіскапа Юрыя Рыжага.

Падчас тыднёвага пратэсту прыхільнікаў пераменаў на плошчы багаслужбы адпраўлялі й каталіцкія ксяндзы, і грэка-каталіцкія або ўніяцкія сьвятары, і пратэстанцкія пастары. Нават з Расеі прыяжджаў адзін манах-езуіт, беларус з паходжаньня. Сярод арыштаваных удзельнікаў пратэсту ёсьць дзеці сьвятароў. А сам намётавы лягер меў нават свайго капэляна. Ім быў манах Ордэну марыянаў

айцец Андрэй Сідаровіч з Воршы. Ён зьяўляецца каталіцкім сьвятаром-бірытуалістам, гэта значыць, служыць адразу ў двух абрадах — лацінскім і грэка-каталіцкім. Айцец Андрэй апякуецца ў Воршы дзьвюма парафіямі — рымска-каталіцкай і грэка-каталіцкай. Цяпер ён адбывае 10-сутачны арышт у Жодзінскай турме. Больш падрабязна пра айца Андрэя Сідаровіча мы папрасілі расказаць ягонага сябра, таксама каталіцкага сьвятара й манахамарыяніна айца Алеся Жарнасека.

ЖАРНАСЕК: Айцец Андрэй нарадзіўся ў Вільні, нейкі час там жыў — можа, гадоў дванаццаць. Пасьля вярнуліся сюды ягоныя бацькі, пад Маладэчнам яны жылі недалёка. Вучыўся ён у Барысаве, скончыў, калі не памыляюся, пэдагагічны каледж. Тут, у Барысаве, ён навярнуўся, спазнаў Госпада і ўступіў у Ордэн айцоў-марыянаў. Год пастуляту, навіцыяту, шэсьць гадоў сэмінарыі — я зь ім вучыўся разам на адным курсе, так што разам былі высьвячаныя мы з айцом Андрэем. Цяпер ён працуе ў Воршы, зьяўляецца вікарыем. Апрача гэтага ён — мой сябра.

— Ці пойдзеце сустракаць сябра зь вязьніцы?

ЖАРНАСЕК: Канечне. Думаю, тут зьбяруцца яшчэ некалькі знаёмых ці сяброў. У ноч зь нядзелі на панядзелак, а 3-й ночы яго павінны выпусьціць.

Да расказу айца Алеся Жарнасека я дадам, што ў Беларускай грэка-каталіцкай царкве кожны год 25 сакавіка — Дзень асаблівай малітвы за Беларусь і беларускі народ. І вось якраз у суботу 25 сакавіка сёлета айцец Андрэй Сідаровіч меўся служыць у Чырвоным касьцёле ўрачыстую Літургію для дзьвюх менскіх уніяцкіх парафіяў з нагоды 25 сакавіка. Затрыманьне й суд не дазволілі яму гэтага зрабіць.





субота, 1 красавіка 2006, 15:22

## З ЖОДЗІНСКАЙ ТУРМЫ ВЫЙШЛІ НА ВОЛЮ ЯШЧЭ ТРЫ ПАЛІТВЯЗЬНІ

***Міхал Стэльмак, Жодзіна***

Сёньня ўначы выйшлі на волю ўдзельнікі акцыі пратэсту на плошчы Сьвятлана Станкевіч, Дар'я Зялінская й Яўген Сільвановіч.

Усе трое актывістаў выйшлі пасьля адбыцьця 8-суткавага арышту. Вось што распавяла Радыё Свабода жыхарка Смаргоні, 24-гадовая Сьвятлана Станкевіч.

СТАНКЕВІЧ: Тыя амапаўцы, якія бралі штурмам наш намётавы гарадок, яны сябе паводзілі як зьвяр'ё. Калі нас прывезьлі з Акрэсьціна, нас было сямёра — сямёра дзяўчат. Гэта Наста Ларына, Аля Сідаровіч, Настасься Дарафеева, Надзея Манцэвіч, Іна Габрыельчык, Вольга Карэц плюс я.

— У камэры засталіся людзі пасьля вашага сыходу?

СТАНКЕВІЧ: Так, засталіся. І яны хварэюць. Таму што паветра вельмі цяжкое ў камэры. Не праветрываецца амаль памяшканьне. І таму, калі я сыходзіла сёньня ўначы, дзяўчаты ляжалі плазам, яны кашляюць, у іх насмарк.

У Жодзінскай турме застаюцца ў зьняволеньні прыкладна паўтары сотні палітвязьняў. Сваякі, сябры й паплечнікі пра іх не забываюць — сёньня яны прывозілі сюды перадачы з харчамі. Наведаў Жодзінскую турму й лідэр незарэгістраванай Партыі свабоды Сяржук Высоцкі.

ВЫСОЦКІ: З Партыі свабоды сядзяць хлопцы, як мінімум, двое тут у Жодзінскай турме — Стагній Станіслаў, Васілеўскі Аляксандар. Маладыя хлапцы, і стараемся падтрымаць іх ад нашай арганізацыі — кнігі, прадукты. Усяго ў нас былі затрыманыя 23 чалавекі.

Не засталіся абыякавымі да лёсу палітвязьняў Жодзінскай турмы й мясцовыя актывісты дэмакратычнага руху — у прыватнасьці, Зьміцер Чарткоў, Аляксандар Ваўчанін, Аляксей і Сьвятлана Лапіцкія. Напрыклад, праваабаронца Сьвятлана Лапіцкая сёньня прыносіла перадачы для зьняволеных апазыцыянэраў Зьмітра Рагачова й Зьмітра Лапцёнка.

ЛАПІЦКАЯ: Мы дапамагаем ладзіць перадачы тым дзецям, да якіх ня могуць дабрацца бацькі. Яны паведамляюць, і мы ладзім гэтыя перадачы, каб дзеці не былі забытыя.

нядзеля, 2 красавіка 2006, 16:16

## У НОЧ ЗЬ НЯДЗЕЛІ НА ПАНЯДЗЕЛАК БУДЗЕ ВЫЗВАЛЕНА КАЛЯ 100 ЧАЛАВЕК

***Любоў Лунёва, Менск***

У нядзелю выйшла на волю каля дзясятка чалавек з разьмеркавальніка на Акрэсьціна, якія былі затрыманыя яшчэ падчас існаваньня намётавага лягеру. А ў ноч зь нядзелі на панядзелак будзе вызвалена даволі вялікая група — каля 100 чалавек. Гэта ў асноўным тыя, каго затрымалі пры разгроме намётавага лягеру й арыштавалі на 10 сутак.

У ноч з суботы на нядзелю на волю выйшаў намесьнік старшыні Партыі БНФ Аляксей Янукевіч. Ён быў затрыманы ў першую ноч існаваньня намётавага лягеру, калі а 4-й раніцы пайшоў у інтэрнэт-кавярню Дому афіцэраў папіць гарачай гарбаты. Пры выхадзе з Дому афіцэраў яго затрымалі, пазначыўшы ў пратаколе, што спадар Янукевіч знаходзіўся ў намётавым лягеры на Кастрычніцкім пляцы і ўначы праводзіў мітынг, выкрыкваючы лёзунгі «Далоў дыктатуру» й «Ганьба». Аляксей адседзеў на Акрэсьціна 12 сутак. Сядзеў у адной камэры з Анатолем





Лябедзькам, які яшчэ застаецца ў ізалятары, і зь іншымі, затрыманымі яшчэ да разгону лягеру.

ЯНУКЕВІЧ: Сёньня выходзілі ў асноўным тыя, хто атрымаў такія нестандартныя тэрміны, як, напрыклад, 12 сутак. Разам са мной выйшаў хлопец, таксама дзяўчына, якая атрымала 12 сутак, і яшчэ некалькі чалавек. Але сёньня ўначы выходзіла няшмат чалавек. Больш людзей будзе выходзіць з аўторка на сераду — гэта тыя, хто атрымаў 15 сутак. Іх там яшчэ даволі шмат.

Варта адзначыць салідарнасьць людзей, далёкіх ад палітыкі, кажа праваабаронца Ўладзімер Лабковіч.

ЛАБКОВІЧ: Праваабарончым арганізацыям дапамагаюць звычайныя людзі, якія прыходзяць і пытаюцца, чым дапамагчы. Пастаянна пад Акрэсьціна й пад Жодзінам дзяжураць машыны звычайных людзей, якія самі прапанавалі дапамагаць развозіць палітзьняволеных, асабліва калі тыя не жыхары Менску, і «жодзінцаў», якіх усіх трэба прывезьці ў Менск.

Паводле ацэнак праваабаронцаў, падчас выбарчай кампаніі, з пачатку сакавіка ў Беларусі было затрымана каля 1200 чалавек.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Што ўдзельнікі выступаў пабываюць у ізалятарах, турмах, судах — гэта й няблага. Яны з уласнага досьведу даведаюцца, які стан правасудзьдзя й на якім узроўні ў нас заканадаўчая база, абарона й адвакатура, як абараняе дзяржава правы й свабоду народу. А з дапамогай гэтых людзей, а іх сотні, інфармацыю атрымаюць сваякі, сябры, знаёмыя й гэтак далей. Гэта вельмі карысная інфармацыя будзе для народу на практыцы.*

панядзелак, 3 красавіка 2006, 8:55

## С.СУГАКА: НЕ ДАРМА МЫ ТАМ СЯДЗЕЛІ

***Радыё Свабода***

Кампутарны дызайнэр, вакалістка й мэнэджар «Свабоднага тэатру» Сьвятлана Сугака пасьля 7 сутак адседкі выйшла на волю. Сьвятлана расказвае, як яна трапіла на Акрэсьціна.

СУГАКА: Каля Палацу Рэспублікі затрымала дарожна-патрульная служба. Спыталіся, што везяце. У асабістых рэчах аказаўся намёт. Забралі дакумэнты, сказалі: «Едзем за намі». Я на сваёй машыне прыехала на Акрэсьціна. Артыкул 167, частка першая. Удзел у несанкцыянаваным мітынгу...

У тым, што дзяўчына аказалася сярод тых, хто пратэставаў на плошчы, няма нічога незвычайнага. Вось што расказаў пра яе кіраўнік «Свабоднага тэатру» Мікалай Халезін, які добра ведае Сьвятлану з сумеснай працы.

ХАЛЕЗІН: Сьвета — гэта тая скала, за якую можна схавацца. Яна прыяжджала на працу, калі рыхтаваліся спэктаклі, а ў яе была тэмпэратура... Такая, пры якой нават мужчыны не маглі б падняцца з ложка. Але Сьвета падымалася й працавала. Для мяне гэтая дзяўчынка — нават гераіня. Калі б такіх было шмат у Беларусі, то мы б жылі ў іншай краіне ўжо цяпер!

Сьвятлана — чалавек шматгранны. Акрамя кампутарнага дызайну і ўдзелу ў падрыхтоўцы тэатральных пастановак дзяўчына яшчэ займаецца вакалам. Раней сьпявала ў групе «Тарпач». Цяпер працуе ў сумесным праекце з гуртом «Таварыш Маўзэр». Ягоны кіраўнік Ян Панюціч паўтарае тое, што й Мікалай Халезін.

ПАНЮЦІЧ: Яна мужны чалавек. Ну і, урэшце, яна прыгожая дзяўчына. Сьвета дае ўзровень энэргетыкі, якому хо-





чацца адпавядаць. Для яе вельмі важная рэч — свабода. Напэўна, канфлікты ў «Тарпачы» пачаліся менавіта ад таго, што патрабаваньні да свабоды ва ўсіх розныя. Вось у Сьветы яны максымальныя. І яна была згодная змагацца за свабоду. А ўсе астатнія, відавочна, не настолькі.

У дзень, калі Сьвятлану затрымалі, яна яшчэ з раніцы прыхавала ў кішэнях доўгую нітку й стрыжань. Недзе вычытала, што гэта можа спатрэбіцца ў ізаляцыі — каб рэзаць харчы ці наладзіць сувязь з суседзямі праз вэнтыляцыю. Гэтая запасьлівасьць і добрае веданьне беларускай музыкі аказаліся патрэбнымі ў камэры. Каб лягчэй мінаў турэмны час, дзяўчаты й хлопцы сьпявалі.

СУГАКА: Сьпявалі разам «N.R.M.» — «Паветраны шар», «Тры чарапахі». «Купалінку». Шмат чаго сьпявалі. Размаўлялі паміж камэрамі праз вэнтыляцыю. Навіны перадавалі — праз вэнтыляцыю. Перастукваліся па сьценах, па батарэях у рытме «Жыве Беларусь!». Потым, калі хтосьці выходзіць, на калідоры крычыць: «Жыве Беларусь!», і ўсе, з усіх камэраў, яму адказваюць: «Жыве!».

Сьвятлану на выхадзе з Акрэсьціна чакалі з кветкамі, паветранымі шарамі й шампанскім родныя й сябры — амаль трыццаць чалавек. Дзяўчына ледзьве стрымала сьлёзы. З другога паверху старога корпусу турмы знакам «вікторыя» цягнулі рукі хлопцы. І калі Сьвета сядала ў машыну, пракрычала тым, што заставаліся за кратамі: «Жыве Беларусь!», вязьні дружна адгукнуліся: «Жыве!»

СУГАКА: Я зрабіла высновы, што не дарма мы там сядзелі, і сапраўды — жыве Беларусь! Гледзячы на тое, што адбываецца, што адбывалася там, цяпер я дакладна ведаю, што — жыве! Абавязкова будзем выходзіць. І, я думаю, нас будзе ўжо значна болей, чым было на плошчы. Будзем выходзіць і на «Чарнобыльскі шлях», і на іншыя акцыі пратэсту супраць гэтага рэжыму. З кім я размаўляла, ніхто не казаў, што гэта было марна й што наступны раз ня пойдзе.

панядзелак, 3 красавіка 2006, 16:13

## ПАЛІТВЯЗЬНЯМ ТУРМЫ НА АКРЭСЬЦІНА НЯСУЦЬ АХВЯРАВАНЬНІ

***Галіна Абакунчык, Менск***

З турмы на вуліцы Акрэсьціна ў Менску вызвалілі некалькі дзясяткаў вязьняў. Усе яны адбылі арышты пасьля ліквідацыі намётавага лягеру. Але многія ўдзельнікі акцыі пратэсту застаюцца за кратамі, таму да турмы на Акрэсьціна па-ранейшаму прыходзяць людзі, каб дапамагчы зьняволеным і вызваленым палітычным.

Дзьве менскія пэнсіянэркі Сьвятлана Багданкевіч і Ліна Масалкова прыйшлі да турмы на Акрэсьціна прапанаваць дапамогу.

БАГДАНКЕВІЧ: Мы тут сабралі грошы й прыйшлі перадаць. Можа, хто прыйдзе з бацькоў, са сваякоў.

МАСАЛКОВА: Грошы гэтыя з нашых пэнсіяў, ад людзей, што падтрымліваюць гэтую моладзь, якая пацярпела. Некаторыя з тых, хто сядзелі й цяпер яшчэ сядзяць, маюць патрэбу ў дапамозе. Усьведамляючы гэта, мы гуртам сабралі крыху грошай, каб камусьці перадаць і дапамагчы.

БАГДАНКЕВІЧ: Мы гэтак усьцешаныя тым, што знайшлася моладзь, якая выявіла мужнасьць, сьмеласьць. Мяне вельмі цешыць, што ў нашай цяжкай сытуацыі знайшліся такія людзі, і захацелася далучыцца да гэтага, неяк дапамагчы, калі самі ня трапілі сюды.

МАСАЛКОВА: Зрабіць хоць нейкі ўнёсак у гэтую сьвятую справу, бо яны, можна сказаць, сядзелі й за нас. Таму проста грамадзянскі абавязак, чалавечы й хрысьціянскі абавязак — дапамагчы кожнаму.

Сёстры Яна й Надзея прынесьлі ў турму перадачу для сваіх блізкіх і сяброў.





НАДЗЕЯ: У мяне затрыманы муж, 15 сутак далі, яшчэ засталося пяць. Чакаем.

ЯНА: Я прыйшла зь сястрой, але ў мяне тут шмат сяброў было. Праўда, пераважна ўжо выйшлі, бо камусьці 5 сутак далі, камусьці 10. Найбольш мужу сястры — 15.

НАДЗЕЯ: Мне здаецца, што тым, што ўлада робіць, яна толькі настройвае людзей супраць сябе. Бо колькі я тут стаяла, размаўляла зь людзьмі, усе бацькі казалі, што цяпер яны сваіх дзяцей адных не адпусьцяць, а пойдуць разам. І бацькі, і сябры, і родныя гэтак кажуць. Нейкі штуршок адбыўся, і цяпер гэта павінна пертварыцца ў сьнежны камяк. Прынамсі, я адчуваю такі настрой.

ЯНА: Мне падаецца, што ўлада перабольшыла ў сваіх дзеяньнях, і цяпер мэханізм запушчаны, людзі ня спыняцца. Вядома, вельмі многія людзі напужаныя. Але мне здаецца, што тое, што адбылося — гэта ўжо ўнікальна. Таму мне здаецца, што будзе абуджэньне, будуць перамены. І хутка.

панядзелак, 3 красавіка 2006, 19:46

## НА ВОЛЮ ВЫЙШЛІ ЯШЧЭ КАЛЯ 200 ЧАЛАВЕК

***Любоў Лунёва, Менск***

З ізалятараў Менску й Менскай вобласьці выйшлі каля дзьвюх соцень палітвязьняў. Іх затрымалі падчас ліквідацыі намётавага лягеру й арыштавалі на 10 сутак. Каля тысячы чалавек сустракалі ноччу палітвязьняў ля брамаў ізалятараў воклічамі «Слава героям!».

У Менску ля брамы турмы на Акрэсьціна сабраліся больш за пяцьсот чалавек. Людзі запалілі сьвечкі й паставілі іх уздоўж дарогі. Некалькі чалавек замацавалі на агароджы насупраць турмы расьцяжку «Разам!».

БЯЛЕВІЧ: Нас было ў камэры спачатку дзесяцёра, потым шасьцёра, а цяпер засталося трое. Тут абыходзіліся добра, а вось спэцназ... Зьбівалі. Зьдзекаваліся на Акрэсьціна й на месцы, калі нас бралі... У аўтобусы закідвалі, нагамі «дапамагалі». Але — калі б я сядзеў дома, то яшчэ горш бы сябе адчуваў.

Адначасова каля ізалятару Менскага раёну каля двухсот чалавек сустракалі дзесяцёх дзяўчат, што выйшлі на волю. Ім падарылі кветкі й разьвезьлі машынамі дахаты.

Каля ізалятару часовага ўтрыманьня ў Жодзіне больш за чатыры сотні чалавек сустракалі 84 палітвязьняў, якія адбылі 10 сутак арышту. Усіх сустракалі воплескамі. Сярод тых, хто выйшаў на волю, былі людзі, якія трымалі галадоўку на знак пратэсту супраць дзеяньняў уладаў. Максім Буйніцкі з Бабруйску быў адзіны, хто некалькі дзён трымаў сухую галадоўку.

БУЙНІЦКІ: Мы абвясьцілі галадоўку ад моманту затрыманьня. Нас адмыслова зьмясьцілі ў адной камэры. Мы сядзелі спачатку ўсямёх, а потым упяцёх. Два чалавекі галадалі асобна ад нас. У судовай залі 27-га я абвясьціў сухую галадоўку. Пратрымаўся два дні, а потым зрабілася кепска, і я перайшоў на простую галадоўку. Ну, і вытрымаў яе. Вельмі прыемна адчуваць падтрымку. Гэта надае сілаў для новай барацьбы.

Стас Пачобут з Горадні з 1994 году ўдзельнічае ў апазыцыйных акцыях і не аднойчы за гэта адбываў арышты. Упершыню ён трапіў у Жодзінскі ізалятар і змог параўнаць умовы ўтрыманьня ў розных турмах.

Людзей сустракалі сем’ямі. Маці студэнта Мікіты Баталава сказала, што ганарыцца ўчынкам свайго сына.

БАТАЛАВА: Калі ў чацьвер у яго замоўк мабільны, а потым па тэлевізіі мы ўбачылі, што лягер разбураны, мы зразумелі, што наш сын там. Гэта быў такі жах! Ня ведалі, дзе яго шукаць... Мы самі з Жодзіна й сталі шукаць яго тут. Можна кнігу пісаць пра тое, як мы яго шукалі па ўсіх судах. Людзі сталі спачуваць, суседзі, на працы. А я ўсім кажу, што ня плачу, а ганаруся сваім сынам.





Журналіст Вадзім Казначэеў быў прыемна зьдзіўлены, калі ўбачыў столькі народу й сваіх калегаў у такі час.

КАЗНАЧЭЕЎ: Абыходзіліся досыць карэктна. Але турма ёсьць турмой, канечне.

— Вы першы раз трапілі?

КАЗНАЧЭЕЎ: Першы, першы! Спадзяюся, што апошні, шчыра кажучы. Затое я пабачыў зь сярэдзіны гэтую сыстэму пэнітэнцыярную.

За кратамі ізалятараў застаюцца людзі, якіх арыштавалі на 15 сутак падчас ліквідацыі намётавага лягеру. Сярод іх грамадзяне Польшчы, Расеі, Украіны й Канады. Яшчэ некалькі дзясяткаў чалавек адбываюць арышты за ўдзел у шэсьці 25 сакавіка.

аўторак, 4 красавіка 2006, 16:07

## ПЕРАДАЧЫ ВЯЗЬНЯМ НА АКРЭСЬЦІНА НЯСУЦЬ НАВАТ НЕЗНАЁМЫЯ ЛЮДЗІ

***Галіна Абакунчык, Менск***

Садавіну, сокі й іншыя прадукты многія наведнікі прыносяць у турму з уласнай ініцыятывы. Гэта людзі рознага веку й заняткаў, у тым ліку студэнты, бізнэсоўцы й пэнсіянэры. Спадарыня Лілія Жукава прынесла салодкія напоі й булачкі, але перадаць гэта зьняволеным надзвычай цяжка, паведаміла яна Радыё Свабода.

ЖУКАВА: Я прыйшла сёньня сюды не таму, што ў мяне тут нехта сядзіць. Я прыйшла зрабіць перадачу моладзі,

якая была разагнаная й схопленая з намётавага гарадка, — на любую камэру, дзе палітычныя сядзяць. Дык не, давайце ім дакладнае прозьвішча. Ну, вось дзяўчатам аддала перадачу, і вельмі шчасьлівая й радасная ад гэтага.

— Чаму Вы гэта робіце?

ЖУКАВА: Я гэта раблю ад шчырай душы й сэрца. Бо я іх падтрымліваю, я імі ганаруся. Бо гэта нашая эліта, нашая моладзевая эліта, а ня гэтыя лукамолы й бэрэсэмы.

На дзьвярах турмы вісіць абвестка, што перадачы можна рабіць не часьцей за раз на пяць дзён. А пасьля таго, як каля турмы зьявілася шмат валянтэраў, ахоўнікі пачалі адмаўляцца браць перадачы ад чужых людзей. Гаворыць Зьміцер, які мае на Акрэсьціна сяброў.

ЗЬМІЦЕР: Учора затэлефанавалі знаёмыя з Украіны й папрасілі зрабіць перадачу для аднаго чалавека з Украіны, які патрапіў тут у турму падчас падзеяў. Мы прынесьлі перадачу, але ўзьніклі вялікія праблемы: апошнія некалькі дзён тут адмаўляюцца браць перадачы ад каго-небудзь, акрамя сваякоў. Гэта азначае, што знаёмцы цяпер ня могуць рабіць перадачаў, і нас разьвярнулі з гэтай перадачай і адправілі. Прыкладна такая ж гісторыя днямі здарылася з чалавекам зь Віцебску. Пры гэтым, вялікай чаргі тут няма — большасьць людзей павыходзіла ўжо. А таму незразумела, чаму ня браць перадачаў ад усіх.

Спадарыня Людміла чакае вызваленьня свайго сына пасьля 15 сутак арышту. Гэта адбудзецца ў ноч на суботу, а сёньня яна падрыхтавала апошнюю перадачу.

ЛЮДМІЛА: Сказалі больш не прыходзіць, бо тут у іх хапае й харчаваньня, і вады — усяго ў іх хапае. Хаця хлопцы выходзяць і распавядаюць, як халодна ў камэрах, і толькі голыя нары. А яны сядзяць у тым, у чым былі арыштаваныя.





— Ці падтрымліваеце свайго сына пасьля ўсяго?

ЛЮДМІЛА: Пасьля ўсяго, што адбылося, у мяне, наадварот, загартаваўся дух барацьбіта за свабоду, за справядлівасьць. Я цяпер нічога не баюся й цалкам падтрымліваю свайго сына. Ён — герой, герой Беларусі, ён — патрыёт. А тым адсоткам, пра якія нам абвясьцілі, я ня веру.

аўторак, 4 красавіка 2006, 21:58

## З ТУРМЫ НА АКРЭСЬЦІНА ВЫЙШАЎ НА ВОЛЮ ЛІДЭР ВЯЛЕЙСКАЙ СУПОЛКІ ПАРТЫІ БНФ

***Міхал Стэльмак, Менск***

Аляксей Сюдак выйшаў з турмы на Акрэсьціна, дзе яго трымалі 15 сутак, бадзёрым і, паводле ягоных словаў, нязломленым.

СЮДАК: Самае цікавае было 25 сакавіка, як Казулін вёў людзей да Акрэсьціна. Я тады яшчэ знаходзіўся ў камэры, вокны якой выходзілі ў двор. Туды, у двор, загналі спэцназ з аўтаматамі, пісталетамі. Сапраўдны спэцназ — не з савецкай зброяй. Загналі туды два такія аўтамабілі, як «хамэр» — гэта расейскай вытворчасьці «тыгры». І яны стаялі там з гэтымі шчытамі куленепрабіўнымі. Мы разумелі, што нешта сур'ёзнае адбываецца, што, відаць, людзі ідуць сюды, хаця мы й ня ведалі, што людзі напраўду ішлі. Потым дазналіся, што ўсіх разагналі, што там кідалі гранаты газавыя або яшчэ што. Шмат чаго чулі — людзі перадавалі, некаторыя новыя прыходзілі ў камэру.

А.Сюдак сёньня паведаміў падрабязнасьці свайго затрыманьня 19 сакавіка. У той дзень ён знаходзіўся ў Менску, аднак у другой палове дня раптоўна зьнік. Вялейскі актывіст расказаў, што ў дзень выбараў сустракаўся ў дамоўленым месцы з грамадзянамі Украіны, пасьля чаго

выйшаў на вуліцу, дзе й быў затрыманы міліцыянтамі. Дарэчы, з украінцамі, што прыяжджалі на беларускія выбары, ён меў магчымасьць бачыцца і ў турме на Акрэсьціна.

СЮДАК: Украінцы, якія сядзелі са мной у камэры, сказалі, што вельмі файна, што яны сюды трапілі. «Таму што мы змаглі пабачыць, што такое насамрэч Беларусь. Бо калі да вас прыяжджаеш і ідзеш па вуліцы — гэта адна Беларусь, а вось гэта — іншая Беларусь».

Сустракалі Аляксея Сюдака каля турмы на Акрэсьціна яго вялейскія сябры й паплечнікі з дэмакратычнага руху — Віталь Паўлоўскі й Алесь Наркевіч. За некалькі гадзінаў да сустрэчы з кіраўніком суполкі Партыі БНФ яны наведалі Жодзіна, дзе ў мясцовай турме ўтрымліваецца яшчэ адзін вялейскі актывіст дэмакратычнага руху Зьміцер Абразцоў. Ён быў затрыманы ў Менску на Кастрычніцкай плошчы падчас ліквідацыі намётавага лягеру. Зьміцер Абразцоў — чалавек, паважаны ў асяродзьдзі вялейскіх дэмакратаў.

НАРКЕВІЧ: Я лічу, што ён увогуле пачынальнік адраджэнскага руху ў нас на Вялейшчыне. Ён ад самага пачатку бярэ ўва ўсіх гэтых падзеях самы актыўны ўдзел — за беларушчыну, за Беларусь. Мы прывезьлі яму перадачу.

Зьміцер Абразцоў арыштаваны на 15 сутак і будзе знаходзіцца ў Жодзінскай турме яшчэ крыху больш за трое сутак.

званкі на «Свабоду»

*СПАДАР: Карацей, выбары прайгралі. Мілінкевічу й Казуліну будзем біць па галаве. А тым, хто сюды прыедзе нешта тварыць, яшчэ горш будзе. Спынеце цырк разам з Лукашэнкам. Гэты ваш цырк не на карысьць ні вам, ні нам. Прайгралі ўсе!*





аўторак, 4 красавіка 2006, 6:24

## У.ШАДЭНКА: НЯ ТЫЯ МЫ ЛЮДЗІ, КАБ БАЯЦЦА ІСЬЦІ ПАД ДУБІНКІ...

***Радыё Свабода***

Вясковец зь Віцебшчыны Ўладзімер Шадэнка стаў вядомы ў Беларусі й па-за межамі краіны пасьля менскіх падзеяў 25 сакавіка: зьбіты амапаўцамі й спэцназам, ён ляжаў непрытомны перад аб'ектывамі фота- й кінакамэраў...

Калі па беларускім тэлебачаньні сказалі, што ў Менску пацярпеў толькі адзін дэманстрант, абураны Ўладзімер Шадэнка, які трапіў у 4-ты клінічны шпіталь з прынамсі яшчэ трыма пацярпелымі, патэлефанаваў у рэдакцыю газэты «Наша Ніва». Інтэрвію зь ім рабіў журналіст Аркадзь Шанскі.

ШАНСКІ: Да нас затэлефанаваў падпісчык, сказаў, што хоча аднавіць справядлівасьць: ён быў моцна зьбіты 25 сакавіка, аднак ні ў адной справаздачы не было ягонага прозьвішча. Мяне вельмі ўразіла тое, што гэты 65-гадовы чалавек — колішні малалетні вязень Асьвенціму, у нашыя дні стаў ахвярай сёньняшняга рэжыму.

У часе інтэрвію высьветлілася, што Ўладзімера Шадэнку прывезьлі ў шпіталь з адкрытай траўмай галавы, аднак роўна праз тры гадзіны выставілі адтуль, наклаўшы павязку й выдаўшы даведку: «Быў у стане алькагольнага ап'яненьня». Між тым, Уладзімер Шадэнка праехаў за рулём уласнае машыны амаль 300 кілямэтраў да Менску. Таго самага дня ён зьбіраўся вяртацца дадому. Для Радыё Свабода спадар Шадэнка наноў згадаў усё, што зь ім тады адбылося — з самага пачатку, калі ён трапіў на мітынг у Купалаўскім сквэры.

ШАДЭНКА: Усё гамоняць, гамоняць. Колькі ж можна! Ну,

думаю, дарма прыехаў! А калі сказалі, што пойдзем на Акрэсьціна, на знак салідарнасьці з затрыманымі, дык я й пасунуўся з усёй кампаніяй. І ішлі ж акуратна, па ходніках, на чырвонае сьвятло спыняліся, нікога не чапалі, наадварот, крычалі «Міліцыя з народам!». А тут на табе: з дубінамі на такую мірную дэманстрацыю! Пачалі са мной тузацца — крутыя паўлічэнкаўцы зь дзедам бяззбройным! Ды яшчэ лупанулі ззаду, а потым, як чалавек упаў, яшчэ лупілі. Вакол загаласілі: «Забіваюць! Забіваюць!» Больш нічога ня памятаю...

Гледзячы разгон дэманстрацыі па тэлевізары, даўняга знаёмца Шадэнку пазнаў віцебскі апазыцыянэр Барыс Хамайда, рэдактар і выдавец незалежнай газэты «Выбар».

ХАМАЙДА: Гэта было пасьля прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі 2001 году. Ён падышоў да мяне й пытаецца: «Ці выходзіць «Выбар»?» Адказваю: «Не. Няма цяпер грошай на газэту». А ён кажа: «Рыхтуй газэту. Я дам грошы». І даваў некалькі разоў. У мяне склалася аб ім такое ўражаньне, што ён, калі трэба, можа за Беларусь і жыцьцё аддаць.

Выхаванец гарадзенскага дзіцячага дому, Уладзімер Шадэнка аб'езьдзіў калісьці ўвесь Савецкі Саюз: працаваў у Расеі й ва Ўкраіне, зарабляў «вялікія грошы» ў Якуціі ды Магадане, але пятнаццаць гадоў таму вярнуўся ў Беларусь.

ШАДЭНКА: Ня тая там культура, ня той народ. Я ж беларус, і мяне заўсёды абражае, калі мяне завуць «малодшым братам», зьневажаюць гісторыю, культуру. Я тады заўжды ўступаю ў спрэчкі, прыводжу доказы.

Тая самая рашучасьць, кажа Ўладзімер Шадэнка, прывяла яго і ў першыя шэрагі дэманстрантаў.

ШАДЭНКА: Ай, колькі лямanту: «Застрашылі ўсіх!» — і Нью-Ёрк піша, і Эўропа. Ты ж пра частку пішы, а не пра ўсіх! Мяне ніхто не застрашыў, і я не баюся. Я ж і тым





паказаў, якія ішлі ды ў шчыты грукалі, што ня тыя тут людзі сабраліся, ня тыя!

Разважаючы пра тое, чаму яго не перасьледавала міліцыя са спэцслужбамі, а ў шпіталі не пазначылі, што ён зьбіты дэманстрант, Уладзімер Шадэнка прыйшоў да простае высновы: дзяржаве сорамна паказаць той факт, што ад амапаўскіх дубінак пацярпеў не «адмарозак», як кажуць па тэлебачаньні, а вязень фашызму й пэнсіянэр. Паводле афіцыйных СМІ, такіх людзей у Беларусі берагуць і шануюць... Але дакумэнтальныя здымкі, дзе ён ляжыць з прабітай галавой пад нагамі амапаўцаў, бачыў ці ня ўвесь сьвет.

серада, 5 красавіка 2006, 18:03

## З ЖОДЗІНСКАЙ ТУРМЫ ВЫЙШЛІ НА ВОЛЮ ЯШЧЭ СЕМ ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ

***Міхал Стэльмак, Менск***

Яны адбывалі тут 12-сутачны арышт. Усе яны былі затрыманыя падчас гвалтоўнай ліквідацыі намётавага лягеру.

Сьцены турмы пакінулі шасьцёра хлопцаў і адна дзяўчына: Аляксей Більдзюк, Мікіта Красноў, Алег Гнечык, Сяргей Шмялёў, Віктар Грынчык, Зьміцер Завадзкі й Станіслава Гусакова. Усе яны лічаць свой 12-сутачны арышт беспадстаўным. Вось што расказала 18-гадовая студэнтка першага курсу Беларускага тэхналягічнага ўнівэрсытэту Станіслава Гусакова, якую пакараў зьняволеньнем Ленінскі суд Менску.

ГУСАКОВА: Затрымалі, таму што я, быццам, нешта ня так сказала. На жаль, і сьцягам я не магла размахваць — у руках быў тэрмас. Наш міліцыянт, які быў у мяне сьведкам, даводзіў, што я выкрыквала лёзунгі «Луку на мыла!» ды іншыя нецэнзурныя лёзунгі. Судзьдзя яго падтрыма-

ла. Я сказала, што ніхто мне індывідуальных заўвагаў не рабіў, і ўвогуле я вось гэтага маладога чалавека бачу ўпершыню — нават затрымліваў мяне ня ён. Судзьдзя дала мне за гэта 12 сутак. Дзяўчыне, якая са мной сядзела, далі 15 сутак. Ёй наагул задалі толькі адно пытаньне: «Колькі табе заплацілі?» Яна адказала: «Мне не плацілі. Я — не залётная, я — ідэйная». «Ах, ідэйная... — 15 сутак».

Станіслава Гусакова цьвердзіць, што захавала бадзёры настрой і жаданьне працягваць змаганьне за праўду. Гэткі ж настрой і ў 19-гадовага кампутаршчыка Віктара Грынчыка, які падчас акцыі на плошчы ўпершыню далучыўся да дэмакратычнага руху. Ён нават не шкадуе, што апынуўся ў турме, бо тут, кажа, знайшоў сяброў-аднадумцаў:

ГРЫНЧЫК: Пасьля таго як з 10 суткамі многія пайшлі, да нас перавялі іншых хлопцаў, зь іншых камэраў. Але ўсё роўна адчувалася адзінства. То бок, людзі там былі зьяднаныя адной прыемнай ідэяй. Мы заўжды разумелі адзін аднаго з паўслова. Такой кампаніі, напэўна, нідзе не сустрэнеш ува ўсёй Беларусі.

серада, 5 красавіка 2006, 22:56

## УДЗЕЛЬНІЦУ НАМЁТАВАГА ЛЯГЕРУ ЗАТРЫМАЛІ НА БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКАЙ МЯЖЫ

***Любоў Лунёва, Менск***

Актывістку незарэгістраванага моладзевага руху «Зубар» Тацяну Ялавую затрымалі на беларуска-літоўскай мяжы. Дзяўчына з 20 сакавіка была ў намётавым лягеры на плошчы. Пасьля ліквідацыі лягеру Тацяну зьбілі байцы спэцназу міліцыі. Дзяўчыну адвезьлі ў шпіталь, дзе мэдыкі аказалі ёй першую дапамогу. Дзяўчына адмовілася ад шпіталізацыі, каб яе потым не забралі зноў на Акрэсьціна. Гаворыць маці Тацяны Ялавой.





ЯЛАВАЯ: Яна вельмі кепска выглядала. Ёй балела сьпіна, галава. Яна казала, што вельмі баляць ныркі... Білі нагамі, вельмі жорстка білі. Яна ледзь магла сядзець на лаўцы. Калі паднялася, то ледзь ня страціла прытомнасьць... Чэрапна-мазгавая траўма. Баялася, што прыедуць з Акрэсьціна й зноў яе туды забяруць. Тацяна адмовілася ад шпіталізацыі й зьехала са шпіталю на таксоўцы. Я яе потым ня бачыла. Мне толькі тэлефанавалі й казалі, што яна сябе вельмі кепска адчувае. У яе высокая тэмпэратура, баліць галава, два разы траціла прытомнасьць.

Тацяна Ялавая патэлефанавала сваёй маці са Смаргоні пад 23-ю гадзіну ночы. Яна паведаміла, што яе дапытвалі супрацоўнікі міліцыі й КДБ. Дзяўчына казала, што яе запалохвалі, пагражалі крымінальнай справай. Урэшце на яе склалі адміністрацыйны пратакол за пражываньне ў іншым месцы без прапіскі й адпусьцілі.

Многія студэнты Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту зь Вільні ўдзельнічалі ў вулічных апазыцыйных акцыях у Менску. Яны ўпэўненыя, што пасьля кругласутачнага відэаназіраньня з боку міліцыі й спэцслужбаў іхныя твары ідэнтыфікавалі, каб пасьля затрымаць на беларускалітоўскай мяжы.

з в а н к і   н а   « С в а б о д у »

*ВІКТАР БУТТО: Неабходна лідэрам апазыцыі пачынаць абараняць кожнага, хто пратэстуе супраць рэжыму Лукашэнкі, і абараняць не на словах, а на справе. Трэба аказваць у поўным аб'ёме маральную, матэрыяльную, юрыдычную дапамогу; трэба ствараць фонды нябачныя, але рэальныя, бо трэба, каб асноўная праца ў абароне правоў і свабодаў тых, хто пратэстуе, і тых, хто жадае пратэставаць, была добра наладжаная ў падпольлі.*

серада, 5 красавіка 2006, 17:37

## ДА ТУРМЫ НА АКРЭСЬЦІНА ПРЫХОДЗЯЦЬ БЫЛЫЯ ПАЛІТВЯЗЬНІ

***Галіна Абакунчык, Менск***

На Акрэсьціна прыходзяць былыя насельнікі турмы, якіх арыштавалі падчас разгрому намётавага лягеру. Свае арышты адбылі, цяпер прыходзяць падтрымаць сяброў.

КУРЦОЎ: Мяне завуць Курцоў Глеб. Мне далі 10 сутак, якія я адбываў на Акрэсьціна. А цяпер насіў хлопцам перадачу, бо адзін зь іх сірата, яму няма каму перадачу зрабіць, а ў іншага хлопца проста непаразуменьне з бацькамі.

СЕВЯРЫНА: Мяне завуць Тацяна Севярына, а прыходзіла да Івана Бурыкіна разам з маім сябрам. Я яго ніколі ў жыцьці ня бачыла, ня ведаю яго, але была на ягоным месцы й ведаю, што гэта такое. А мне ж яшчэ й пашанцавала — толькі чацьвёра сутак адседзела.

— Якія пачуцьці Вы перажывалі там?

СЕВЯРЫНА: Думаю, што ў нашай краіне цяпер самае свабоднае месца — турма. Бо там свабодныя людзі, аднадумцы, якія падтрымліваюць адзін аднаго.

КУРЗОЎ: Падтрымка — гэта галоўнае. Калі б не было падтрымкі, то я ня ведаю, што б мы рабілі. Калі я выйшаў і даведаўся, наколькі складана было зрабіць перадачу, то я проста падзівіўся мужнасьці ўсіх гэтых людзей. Вельмі вялікая падтрымка сяброў з унівэрсытэту. Яны хадзілі ў дэканат, размаўлялі з выкладчыкамі. Канечне, ёсьць настаўнікі, якія адмоўна ставяцца да ўсяго, што адбылося, але ўвогуле людзі падтрымліваюць.

Студэнты БДУ, якія выступаюць у студэнцкім тэатры, таксама прынесьлі перадачу свайму зьняволенаму сябру.

ЮНАЧКА: Мы студэнты, разам граем у студэнцкім тэатры. Забралі нашага калегу з тэатру, далі 15 сутак, і вось мы да яго пазьменна ходзім.

— Як удаецца абыходзіцца без актора?

ЮНАЧКА: Цяжка. У нас пакуль што прастой. Вось чакаем, пакуль ён выйдзе — і адразу ж будзем спэктакль ставіць.

ІНШАЯ ЮНАЧКА: Вельмі сымбалічна, што 27 сакавіка, Дзень тэатру, мы адзначалі вось тут, пад сьценамі гэтай турмы, бо перадавалі яму перадачу. Мы яго падтрымліваем, як можам, бо ён адзіны ў нас за ўсіх адседжвае.

серада, 5 красавіка 2006

## З ОНЛАЙН-КАНФЭРЭНЦЫІ З КРЫСЬЦІНАЙ ШАЦІКАВАЙ

***Уладзімер Каткоўскі, Прага***

Крысьціна Шацікава — адна з удзельніц акцыі пратэсту ў намётавым лягеры на Кастрычніцкай плошчы. Крысьціна была ў лягеры ад першага да апошняга дня й арганізавала ягоную ахову. У ноч на 24 сакавіка, як і іншыя ўдзельнікі акцыі, была затрыманая АМАПам, чатыры дні правяла за кратамі. Асуджаная судом Кастрычніцкага раёну Менску на 20 базавых велічыняў (620 тысяч рублёў). Жыве ў Магілёве, маці дваіх дзяцей. Крысьціна Шацікава — стрыечная сястра апэратара тэлекампаніі ОРТ Зьмітра Завадзкага, які зьнік у 2000 годзе. Цяпер Крысьціна арганізоўвае дапамогу тым пратэстоўцам, якія яшчэ знаходзяцца ў турмах.

**Зь якімі правакацыямі давялося сутыкнуцца жыхарам намётавага лягеру?**

П’яныя людзі, якія не былі п’янымі. Яны толькі рабілі выгляд, што п’яныя. Зьяўляліся людзі, якія спрабавалі справакаваць на бойку, ударыць. Я была за межамі кола. І

калі нехта зь іх спрабаваў ударыць кагосьці, я станавілася паміж імі. Але ніякіх udараў не было. Перад журналістамі яны не насьмельваліся ўдарыць дзяўчыну. А значыць, не былі й п'яныя.

**Прывітаньне, Крысьціна! Дзякуй вам за ваш грамадзянскі ўчынак — гэта ўжо гісторыя. Безумоўна, тое, што адбылося, павінна было зьяднаць удзельнікаў. Скажыце, ці ёсьць якія-небудзь думкі наконт гэтага — ці трэба неяк аформіцца, і галоўнае — як працягваць барацьбу далей?**

Дзякуй вялікі. Тыя людзі, якія былі на беларускім майдане, там былі й сябры нейкіх арганізацыяў і партыяў. Але на дадзены момант тыя, хто былі на плошчы, ня хочуць уступаць у ніякія палітычныя арганізацыі. Яны проста адчуваюць свабоду ў сабе. Ці мы зьбіраемся нешта рабіць далей? Мы гэта ўжо робім. Мы чакаем інаўгурацыі й, думаю, дастойна яе сустрэнем. Кожны дзень нехта нешта робіць. Гэта ў пэўнай ступені арганізавана, але няма арганізацыі. Гэта проста робіцца людзьмі, якія там былі.

**Што было самым цяжкім падчас існаваньня лягеру? Сяргей, Вялейка.**

Самы цяжкі момант — гэта калі пад'ехалі аўтазакі й наступіла цішыня. Гэта апісаць словамі немагчыма. Быў момант, калі мы зразумелі, што мы альбо зламаемся (унутры), альбо застанемся. Было разуменьне, што тыя людзі, якія цяпер на плошчы, сталі самымі блізкімі. Самае страшнае, калі ты разумееш, што іх будуць зьбіваць, бо надзеі на тактоўныя паводзіны АМАПу не было. Быў страх, што гэтых людзей ты ўжо не пабачыш. Пры затрыманьні разьбівалі наш ланцуг. Людзі сядзелі на зямлі, трымаючы рукі. Ланцуг разьбівалі нагамі. Адной дзяўчыне пляснулі кіпенем у твар. Яшчэ адну дзяўчыну штурханулі на мангал, дзе быў адкрыты агонь. Прычым, яе нават патрымалі над мангалам.





Яшчэ адна цяжкасьць — адсутнасьць прыбіральні. Было вельмі халодна, і ты разумееш, што ня можаш пастаянна грэцца гарбатай, каб не было патрэбы хадзіць у прыбіральню. Я сама ані ў люк, ані ў біяпрыбіральню ніводнага разу не хадзіла. А толькі раз на суткі з дапамогай журналістаў выходзіла ў якую-небудзь кавярню побач з Кастрычніцкай плошчай.

**На Вашую думку, ці варта было ўдзельнікам акцыі 25 сакавіка ісьці на Акрэсьціна?**

На маю думку, ня трэба было. Я не магу адказваць за іншых, але на маю думку — не. Мы лічылі, што трэба ісьці да будынку тэлекампаніяў БТ і ОНТ.

**Які Ваш прэзыдэнт?**

Калі вялася перадвыбарчая кампанія, былі Казулін і Мілінкевіч, якія стаялі наперадзе. Асабіста я хацела б бачыць прэзыдэнтам Мілінкевіча, як адзінага кандыдата. Але зноў жа людзі выйшлі на плошчу не за Казуліна й Мілінкевіча, а за сваю свабоду, за свабодную краіну, у якой ня будзе страху. Хто канкрэтна будзе прэзыдэнтам, гэта пытаньне другое. Там былі людзі й за Мілінкевіча, і за Казуліна, і гэта не было праблемай.

**Раскажыце пра сваіх дзетак — чым яны цікавяцца...**

У мяне два сыны — Мікіта (10 гадоў) і Ягор (8 гадоў). Таксама маю малодшую сястру, якой хутка споўніцца 13 гадоў. Дзеткі цікавяцца музыкай, маляваньнем, танцамі.

**Выказваю павагу. Якая з палітычных апазыцыйных партыяў Вам найбольш імпануе?**

Мне цяжка адказаць, таму што ў працэсе таго, што цяпер адбываецца, гэта стане лепш відаць. Першапачаткова я была блізкая не да партыяў, а да руху «Зубар», які вельмі шмат зрабіў для таго, каб тое, што адбылося, — адбылося. Цяпер цяжка меркаваць аб партыях. Цяпер усе ро-

бяць адну справу. Калі будуць больш відавочныя вынікі, можна будзе вырашаць.

**Якія падарункі ці знакі ўвагі Вас радуюць?**

У мяне цяпер пашкоджанае вока пасьля затрыманьня. Мне ўсе хлопцы кажуць, што гэта мне не перашкаджае, што я ўсё адно прыгожая. Гэта самы лепшы падарунак. А наагул, любы падарунак прыемны. Часам на вуліцы паказваюць знак перамогі, вікторыі — ты ня ведаеш гэтага чалавека, але разумееш, што ён табе родны й блізкі.

**Абураюць паводзіны амапаўцаў і гэбэшнікаў, якія ня толькі выконвалі злачынныя загады, але яшчэ й зьдзекаваліся зь людзей. Чым Вы можаце патлумачыць такія іх паводзіны: гэта ім далі такі загад, ці ў АМАП і КДБ ідуць людзі з адхіленьнямі, магчыма, на глебе нейкіх псыхічных ці сэксуальных комплексаў?**

У абарону АМАПу хачу сказаць зараз, што яны выконвалі сваю працу, і гэта не было жорстка. Яны проста выконвалі загад. У іх прафэсія такая — выконваць загады. Тая частка злыдняў, якія зьбівалі, якія зьдзекаваліся, вельмі шкада, што такія сапраўды псыхічна хворыя людзі з садысцкімі схільнасьцямі працуюць там. АМАП і «адмарозкі» — гэта зусім не адно й тое ж. Былі сярод іх і людзі, якія нават дапамагалі. Напрыклад, калі мяне цягнулі ў аўтазак, то адзін з амапаўцаў пачаў з усёй сілы штурхаць, а другі пры гэтым выхапіў мяне зь ягоных рук, і хаця ён і мацюгаўся, але, фактычна, тым самым мяне ўратаваў ад брутальнага абыходжаньня. Калі ўжо нас прывезьлі на Акрэсьціна, то ў аднаго міліцыянта была папка з налепкай «Достал!». Ён выводзіў нас у прыбіральню, дазваляў пакурыць. У прынцыпе, АМАП мала чым адрозьніваецца ад народу. Многія ўсё разумеюць, але баяцца.

**Я лічу, што падлеткі 15—16 гадоў павінны ўстрымацца ад удзелу ў акцыях пратэсту, бо яны найчасьцей кіруюцца пачуцьцямі, а ня розумам. Таму любы палітык можа выкарыстаць падлеткаў у сваіх інтарэсах, а будучая кар’ера маладых людзей будзе зламаная, бо невядома, колькі яшчэ пратрымаецца наша подлая ўлада. Як Вы да гэтага ставіцеся?**

Вы вельмі нізкай думкі пра нашых падлеткаў. Гэта памылковае меркаваньне. Гэтыя падлеткі часам з-за гэтых пачуцьцяў разумнейшыя, чым усе палітыкі разам узятыя.

**Простите, а Вам не кажется, что первейшая Ваша обязанность — это воспитывать своих детей, а не тусоваться с подростками на площади? Кстати, с кем они оставались всё то время, что Вы были в Минске?**

Мае дзеці заставаліся з маімі бацькамі ў Магілёве, з бабуляй і дзядулем. Што датычыць, як вы выказаліся, «тусаваньня з падлеткамі», то там былі «падлеткі» й 60 гадоў. Тое, што я там «тусавалася», то гэта быў самы важны крок у выхаваньні дзяцей. Калі б я засталася дома, невядома, хто б зь іх вырас. Забітыя, напужаныя людзі? Канечне, маім бацькам хацелася б, каб я была зь дзецьмі й зь імі. Дома ўсе хвалююцца, усе перажываюць. Але першыя словы, якія мне сказалі бацькі (і ўсім тым, хто быў на плошчы): «Мы вамі ганарымся». Гэта й ёсьць выхаваньне сваім прыкладам.

**Пытаньне, якое апошні час усё часьцей фармулюецца ў асяродку неабыякавых людзей: чаму на плошчы ў ноч захопу з моладзьдзю не было дакляраваных лідэраў? Яны ж прывялі народ на пляц, а затым мякка аддалі адказнасьць за гэта самому народу...**

Добрае пытаньне. Чаму нехта вырашыў, што нас нехта «вывеў» на плошчу? Мы самі выйшлі на плошчу. Нас ня могуць «вывесьці» ні Казулін, ні Мілінкевіч, ні нейкая арганізацыя. Кожны выйшаў дзеля сябе, дзеля сваіх дзяцей, дзеля сваёй будучыні, а ня нейкіх палітыкаў. І калі

цяпер ёсьць такія меркаваньні пра Казуліна й Мілінкевіча, то я нават не хачу гэта абмяркоўваць. Але будзем глядзець далей, як яны сябе будуць паводзіць і што рабіць. Але мы выйшлі ня дзеля палітычнай гульні, а дзеля сваёй краіны. Тыя, хто быў на плошчы, тыя, хто далучыўся да нас пасьля выхаду з турмы, яны па-ранейшаму разам. Ніхто спыняцца не зьбіраецца. Што датычыць арганізацыі, то скажу наступнае. Чым больш робіш папяровых плянаў, тым менш шанцаў, што ажыцьцёвіш іх. Мы — прыклад таго, што можна зрабіць без усялякай арганізацыі. Гэта датычыць і пабудовы лягеру на адкрытым месцы. Усе былі ўпэўненыя, што ў нас нічога не атрымаецца, бо ў нас не было ніякай арганізацыі, і гэта быў сапраўды мінус. Зноў жа гэта прыклад, што наш народ здольны арганізоўваць сябе. І нават адсутнасьць арганізацыі не перашкодзіла нам дамагчыся таго, чаго мы дамагліся.

**Ці не зьбіраецеся Вы з паплечнікамі ўтварыць сваю арганізацыю ці клюб? Эва, Вільня.**

Плянаў вельмі шмат. Усё гэта будуць бачыць іншыя людзі. Вы будзеце бачыць нас на вуліцах. Падыходзьце да людзей, якія носяць значкі «За Свабоду» й джынсавыя стужкі. Падыходзьце й пытайцеся.

званкі на «Свабоду»

*СПАДАРЫНЯ: Хачу нізка схіліць галаву й выказаць шчырую падзяку тым маці, якія выхавалі такіх цудоўных дзяцей, якія стаялі ў Менску ўсе гэтыя дні. Шчыра вам дзякую за вашых дзяцей! Будзьце мужнымі, жанчынкі! І яшчэ. Падтрымліваю прапанову стварыць фонд у падтрымку тых, хто на гэтай плошчы быў і хто ня мае сродкаў цяпер, хто звольнены з працы, і нашым студэнтам. Я пэнсіянэрка, але калі будзе фонд, адлічу ад сваёй пэнсіі тое, што магу.*





серада, 5 красавіка 2006, 9:15

## К.ШАЦІКАВА: АМАПАЎЦЫ ВЫСЫПАЛІ З ПАКЕТАЎ ШПРЫЦЫ Й БУТЭЛЬКІ, А БТ ГЭТА ЗДЫМАЛА

***Радыё Свабода***

Сёньня Крысьціну пазнаюць на вуліцах. На наступны дзень пасьля вызваленьня з-за кратаў яна ехала ў спэцразьмеркавальнік на Акрэсьціна — каб арганізаваць перадачы для тых, хто яшчэ чакаў суду ці вызваленьня. Выпадковая размова з таксістам прыемна ўразіла Крысьціну.

ШАЦІКАВА: Я выйшла з аўтобуса каля рэстарацыі «Белая вежа» — а там прыпынак таксовак. Дзьверы адной з машынаў адчыніліся, і мужчына кажа: «Вам на Акрэсьціна? Сядайце». Я аўтаматычна села, але на мой запытальны позірк ён сказаў: «Вы не палохайцеся, я Вас па тэлевізары бачыў — вы ўсе такія малайцы!» — і адвез мяне на Акрэсьціна, адмовіўшыся ад грошай.

Крысьціна прысутнічала на менскай дэманстрацыі 19 сакавіка і, калі зразумела, што акцыя пратэсту мае быць доўгая, вырашыла не вяртацца дадому ў Магілёў. Двое малых дзяцей засталіся зь ейнымі бацькамі… Тыя, хто жыў у намётавым лягеры, адзначаюць: менавіта Крысьціна ў пэўны момант пачала каардынаваць дзеяньні аховы намётавага лягеру. Расказвае актывіст незарэгістраванага моладзевага руху «Зубар» Аляксандар Атрошчанкаў.

АТРОШЧАНКАЎ: Першая ноч была, безумоўна, самай страшнай і адказнай — ніхто ня ведаў, што будзе ў наступную хвіліну, гадзіну, што будзе ранкам. Крысьціна ў пэўны момант узяла на сябе адказнасьць, пачала кіраваць колам людзей, якія абаранялі намётавы лягер. Магчыма, яна інтуітыўна адчувала, што трэба рабіць…

Ад панядзелка — пачатку жыцьця Плошчы, Крысьціна спала 15—20 хвілін на суткі. Але было не да сну. Асабліва

ў ноч зачысткі. Уражаньняў ад працэсу зьнішчэньня лягеру хопіць на ўсё жыцьцё, кажа Крысьціна. Ці забудзецца, напрыклад, як адзін з тых, хто быў апрануты ў чорную ўніформу, плеснануў кіпенем у твар дзяўчыне. Ня менш уразілі тэлевізійнікі й «акторы», якія «ставілі карцінку» для беларускіх тэлеканалаў...

ШАЦІКАВА: Разам з бэтэшнікамі з машынаў выйшлі амапаўцы зь белымі пакетамі ў руках. Яны пайшлі на тэрыторыю лягеру, пачалі проста кучамі высыпаць з пакетаў шпрыцы, бутэлькі, а БТ гэта здымала. Пасьля гэтага з машынаў выйшлі людзі, імідж якіх прыпамінаў наркаманаў, алькаголікаў — ну, відаць з твараў... І іх таксама пачалі здымаць, браць «інтэрвію».

У чаканьні суду Крысьціна правяла ў ізалятары 4 сутак, а затым прысуд: штраф 620 тысяч беларускіх рублёў. Між тым, паводле закону, утрыманьне за кратамі Крысьціны да суду было неправамоцнае: калі жанчына мае двух няпоўнагадовых дзяцей, адміністрацыйнае правапарушэньне не прадугледжвае затрыманьня болей як на тры гадзіны.

Андрэй Макарэвіч, адзін з тых, хто правёў на плошчы некалькі начэй і атрымаў за гэта 7 сутак арышту, апавёў, як пазнаёміўся з Крысьцінай на прыступках Акрэсьціна.

МАКАРЭВІЧ: Яна мяне сустрэла, калі мяне ўжо вызвалілі. Зь бел-чырвона-белымі кветкамі, ружамі й дыскам «Песьні Свабоды». Наагул, Крысьціна — цікавы чалавек. З аднаго боку, жаноцкая й мяккая. З другога, калі зьяўляецца пытаньне, якое трэба вырашаць, у ёй прачынаецца лідэр.

Самае галоўнае дасягненьне плошчы, на думку Крысьціны Шацікавай, — гэта адчуваньне свабоды. Яна параноўвае гэта са скокам з парашутам. Спачатку вельмі страшна, але калі здолееш скочыць — болей бяз гэтага ня можаш жыць.





чацьвер, 6 красавіка 2006, 15:11

## З ЖОДЗІНСКАЙ ТУРМЫ ВЫЙШЛІ НА ВОЛЮ ЯШЧЭ ЧАТЫРЫ ПАЛІТВЯЗЬНІ

***Міхал Стэльмак, Жодзіна***

Яны адбывалі 13-сутачны арышт. Камэры пакінулі Максім Знак, Аляксей Мітрафанаў, Аляксей Язылец і Аляксей Мікульчык. Прыгадвае 20-гадовы мянчук Аляксей Мікульчык, які да затрыманьня прабыў на Кастрычніцкай плошчы двое сутак.

МІКУЛЬЧЫК: Бралі нас жорстка. Закідвалі ў машыны, як непатрэбныя рэчы. Як дровы. Да суду была надзея, што не дадуць так шмат сутак. Мяне паўгадзіны судзілі. АМАП склаў паперу, што крычалі антыдзяржаўныя лёзунгі «Далоў Лукашэнку!», «Далоў урад!». Я сказаў, што мы выкрыквалі «Жыве Беларусь!». Судзьдзя пытае: «Выкрыкваў лёзунгі?» Я кажу: «Так, выкрыкваў!»

Паводле Аляксея, найбольш яны непакоіліся за дзяўчат, да якіх, ён лічыць, міліцыя паставілася жорстка й зьдзекліва. У Жодзінскай турме юнака трымалі ў камэры №78. Тут было дзесяць хлопцаў-палітвязьняў, пра якіх у Аляксея Мікульчыка засталіся найлепшыя ўражаньні. Гэткай жа думкі пра сваіх былых сукамэрнікаў і іншы палітвязень, які сёньня выйшаў на волю — 23-гадовы Аляксей Мітрафанаў зь Менску.

МІТРАФАНАЎ: Асноўнае ўражаньне — гэта людзі, якія там былі. Такой колькасьці годных і разумных людзей у адным месцы я яшчэ ня бачыў.

Са словаў А.Мітрафанава, пасьля ягонага сыходу з камэры там засталося яшчэ трое палітвязьняў, якія адбываюць 15 сутак. У камэры, дзе сядзеў Аляксей Мікульчык, гэткае ж пакараньне працягваюць адбываць пяцёра палітзьняволеных. Разам у Жодзінскай турме, са зьвестак жо-

дзінскай праваабаронцы Сьвятланы Лапіцкай, знаходзіцца яшчэ 38 удзельнікаў акцыі на плошчы. Мяркуецца, што ўсе яны павінны выйсьці на волю ў ноч з 7 на 8 красавіка. Як і іншых палітвязьняў, іх зьбіраюцца сустрэць жодзінскія актывісты дэмакратычнага руху.

ЛАПІЦКАЯ: Мы таксама плянуем сустрэць усіх астатніх людзей. Частку, я мяркую, забяруць родныя. Але некаторыя выходзяць і нават ня ведаюць, будуць іх сустракаць ці не. Дзякуй людзям, якія дапамагаюць, зьвязваюцца з намі. Яны прыяжджаюць у Жодзіна, забіраюць вязьняў, якія выходзяць з нашага СІЗА, і вязуць іх у Менск.

чацьвер, 6 красавіка 2006, 15:23

## ДА ТУРМЫ НА АКРЭСЬЦІНА ПРАЦЯГВАЮЦЬ ПРЫХОДЗІЦЬ ЛЮДЗІ

***Галіна Абакунчык, Менск***

Некалькі дзясяткаў чалавек, арыштаваных падчас разгону акцыяў пратэсту, былі пакараныя максымальным тэрмінам адміністрацыйнага арышту — 15 сутак. Увесь гэты час да іх прыходзяць сваякі й сябры.

ЮНАЧКА: Сябар — студэнт РТІ, а я — студэнтка БДУ. Мы прыйшлі да яго зь перадачай. Яны там вельмі прасілі больш вады, газэтаў — нейкай інфармацыі. І ўсё. Ежы яны не прасілі. Казалі, што ў камэрах цёпла. Гэта праз тых людзей мы ведаем, якіх ужо выпусьцілі.

ЮНАК: Адзін з маіх сяброў навучаецца ў Акадэміі мастацтваў — ці, дакладней сказаць, напэўна, навучаўся. Што зь ім цяпер, я нават ня ведаю.

ЮНАЧКА: Мы падыходзілі да дэкана й прасілі, каб яго не адлічвалі з унівэрсытэту, бо ён сірата: у яго ёсьць толькі бабуля старэнькая, сястра — і ўсё.





— І што вам адказалі?

ЮНАЧКА: Нічога. Сказалі, што яшчэ будуць разьбірацца.

— Што вы пра ўсё гэта думаеце?

ЮНАЧКА: Ну, што я думаю? Несправядліва гэтак рабіць. Да прыкладу, стаялі гэтыя з БРСМ. Ня ведаю, санкцыянаваны гэты мітынг, несанкцыянаваны — але ім нічога не было. Чаму ж з гэтымі людзьмі робяць такое?

Многім даводзіцца прыдумляць сваё сваяцтва зь вязьнямі турмы, бо ад чужых людзей прымаць перадачы па-ранейшаму адмаўляюцца.

ЮНАК: Я прыйшоў да свайго сябра Сенчанкі Аляксандра, які вучыцца на чацьвертым курсе БДУ. Ён знаходзіўся на плошчы, адтуль яго й забралі ў 3 гадзіны 15 хвілінаў. Не пускаюць. Кажуць, што мусіць быць сваяк. А ён сам зь Віцебску. Буду пісаць паперу й казаць, што я — брат па бацьку. *(Сьмяецца.)* Інакш — ніяк.

чацьвер, 6 красавіка 2006, 8:23

## Я.ВАЎКАВЕЦ: ДЗЯЎЧАТ ЗАКІДВАЛІ, ЯК МЯШКІ

***Іна Студзінская, Менск***

Яўген Ваўкавец — жыхар Жодзіна. У сакавіку ён правёў за кратамі 14 сутак — прычым, у розных турмах.

ВАЎКАВЕЦ: Рэч у тым, што я адседзеў 7 сутак у Жодзіне, калі мяне затрымалі. Дзень пабыў на волі й адседзеў яшчэ 7 сутак у Менску.

Яўген быў сябрам жодзінскай каманды А.Мілінкевіча. 15 сакавіка ўначы міліцыянты затрымалі яго разам з паплечнікамі Сержуком Гудзіліным і Алесем Чырэйкам на вуліцы, а мясцовы суд пакараў хлапцоў арыштам на 7 сутак за нібыта ўчыненае імі хуліганства. Калі яны выйшлі

на волю, даведаліся, што ў Менску на Кастрычніцкай плошчы зьявіўся намётавы лягер. Нягледзячы на папярэджаньне жодзінскіх праваахоўнікаў, хлопцы рушылі ў сталіцу й засталіся на плошчы да яе гвалтоўнага разгону.

ВАЎКАВЕЦ: Калі нас затрымлівалі, то да мужчынаў яшчэ больш-менш неяк ставіліся. Канечне, высьпяткі былі й гэтак далей, але дзяўчатак закідвалі, як нейкае сьмецьце. Закідвалі, як мяшкі. Мы, як маглі, баранілі дзяўчатак. Але ж гэта было жудасна.

Летась Яўген у ліку іншых моладзевых актывістаў браў удзел у галадоўцы пратэсту супраць выключэньня студэнтаў з навучальных установаў з палітычных матываў. Яго жодзінскі паплечнік Зьміцер Чарткоў прыгадвае, што Яўген трымаўся годна падчас амаль двухтыднёвай акцыі.

ЧАРТКОЎ: Хлопец ідэйны. Крыху гарачы. Але вельмі файны сябра. Калі што трэба, ён зробіць. Спакойна прыняў рашэньне й пайшоў галадаваць. Сказаў — зрабіў. Таму што вырашаўся лёс сяброў, дый свой лёс. І ён мужна з намі трымаўся.

У дэмакратычны рух Яўген Ваўкавец прыйшоў у часе рэфэрэндуму 2004 году, які скасаваў для А.Лукашэнкі абмежаваньне прэзыдэнцкіх тэрмінаў. За пратэст супраць гэтага рашэньня хлопца ўпершыню пакаралі 10 суткамі арышту. А ўсьлед за гэтым выключылі зь вечаровай школы. Пасьля яму так і не ўдалося прадоўжыць навучаньне. Паводле кіраўніка жодзінскай суполкі АГП Аляксандра Ваўчаніна, для Яўгена Ваўкаўца, як і некаторых іншых моладзевых актывістаў, праблема адукацыі зьяўляецца на сёньняшні дзень першачарговай.

ВАЎЧАНІН: Я хацеў бы сказаць, што ня трэба губляць адукацыю. Трэба паступаць ва ўнівэрсытэты, у інстытуты. Як бы цяжка ні было, але ж адукацыя павінна быць на першым месцы.





Яўген Ваўкавец пагаджаецца зь меркаваньнем А.Ваўчаніна й кажа, што плянуе працягваць навучаньне. Але пакуль ён чакае вызваленьня з турмаў усіх удзельнікаў нядаўніх апазыцыйных акцыяў у Менску.

ВАЎКАВЕЦ: Канечне, я буду сачыць за імі. Можа, якую перадачку перадам абавязкова. Таксама я буду назіраць за менчукамі. Таму што я там сядзеў, там засталіся хлопцы, якія яшчэ сядзяць «на сутках». І абавязкова іх сустрэнем — ня толькі жодзінскіх, а й менскіх.

пятніца, 7 красавіка 2006, 15:14

## У ТУРМЕ НА АКРЭСЬЦІНА ЗАСТАЮЦЦА 59 ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ

***Галіна Абакунчык, Менск***

У ноч на суботу з турмы на Акрэсьціна выйдуць 42 чалавекі, якія былі арыштаваныя падчас разгрому намётавага лягеру на плошчы. Усе яны адбываюць адміністрацыйныя арышты тэрмінам 15 сутак. У турме застаюцца яшчэ 17 палітычных вязьняў, арыштаваных і зьняволеных падчас акцыі пратэсту 25 сакавіка. Пасьля 15 сутак арышту яны выйдуць на волю ў нядзелю 9 сакавіка. Сваякі зьняволеных кажуць, што апошнія дні чаканьня — самыя цяжкія.

СПАДАРЫНЯ: Сын у мяне тут. Сёньня ўжо апошні дзень, але трэба яшчэ заплаціць. Ведаеце, нэрвы ўжо здаюць. Я ня думала, што ў апошні дзень будзе гэтак цяжка. Натуральна, што злосьць такая зьявілася, асабліва за тыя першыя чатыры дні, калі невядома было, дзе яны. Гэта даравацъ немагчыма. *(Плача.)*

ДЗЯЎЧЫНА: Крыху лепш цяпер на сэрцы, бо ў першыя дні ні есьці, ні спаць немагчыма было. Я прыйшла да свайго сябра, які тут адбывае 15 сутак. Ён вельмі таленавіты чалавек, прафэсійны музыкант. Сядзіць з добрымі людзьмі

— журналістам, мастаком. Як выйдзе — можа, напішa што. Альбо, можа, разам што зробім, я таксама музыкант. У яго сарвалася некалькі канцэртаў, таму як вызваліцца — адразу на канцэрт паедзе. Вядома, хацелася б, каб наша краіна вырвалася з гэтага палону, канцлягеру, можна сказаць, які, пэўна, ня тут, на Акрэсьціна, а ўжо па мяжы праходзіць. Мы любім сваю краіну. Але тое, што тут творыцца, — канечне, на гэта спакойна глядзець нельга.

Сябры палітвязьняў, якія выйдуць з турмы толькі ў нядзелю, працягваюць несьці зьняволеным перадачы.

ЮНАК: Я прыйшоў да сваіх сяброў, зь якімі вучыўся пяць гадоў. Мы летась закончылі ўнівэрсытэт. Іх забралі 25 сакавіка й адпусьцяць у нядзелю. Ну, я паспрабую яшчэ дзьве перадачы зрабіць.

— Што пра гэта ўсё думаеце?

ЮНАК: Калі яшчэ мы вучыліся, то й тады студэнтаў не пускалі ў інтэрнаты, заганялі галасаваць датэрмінова. Цяпер гэта было яшчэ горш. Я вельмі рады, што 19-га людзі выйшлі на вуліцу. Я ганаруся тымі, хто стаяў на плошчы. Мы таксама хадзілі на плошчу, насілі ім ежу, а 25 сакавіка разам зь сябрамі выйшлі на вуліцу. Канечне, пасьля таго, што адбылося 25-га, калі людзей папросту забіраюць на вуліцы, — быў страх. Але цяпер я ведаю шмат людзей, гатовых выйсьці на вуліцу, хоць дагэтуль яны ні разу такога не рабілі.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*МІКАЛАЙ, Менск: Спадар Казулін! Ваша месца ў турме! Вас правільна пасадзілі, каб Вы больш не выступалі. А Вы, спадар Мілінкевіч, абавязаны, калі ў Вас ёсьць грошы, ня езьдзіць па замежжах, а лепш перадаць гэтыя грошы на Чарнобыльскую зону. Хай хоць там людзі пажывуць, як мае быць.*





пятніца, 7 красавіка 2006, 19:55

## «РАЗЬМЕРКАВАЛЬНІК НА АКРЭСЬЦІНА — ЗВЫЧАЙНАЯ ТУРМА...»

***Алег Грузьдзіловіч, Менск***

Комплекс закратаваных будынкаў на менскай вуліцы Акрэсьціна хутка адзначыць сваё трыццацігодзьдзе. У свой час там сядзелі Віктар Ганчар, Анатоль Лябедзька, Людміла Гразнова, Валер Шчукін. А нядаўнія падзеі ў сталіцы зрабілі турму вядомай на ўвесь сьвет. Сотні палітвязьняў, якія пабылі ў ёй за тры апошнія тыдні, дапамаглі стварыць дакладную карціну ўтрыманьня арыштаваных.

Афіцыйная назва гэтай установы для ўтрыманьня адміністрацыйна арыштаваных — «Гарадзкі прымальнік-разьмеркавальнік». Аднак у народзе яе папросту называюць турмой. Ці дакладнае такое вызначэньне, тлумачыць палкоўнік міліцыі Алег Алкаеў, былы начальнік сьледчага ізалятару на вуліцы Валадарскага.

АЛКАЕЎ: Нагляд ёсьць, але жорсткай аховы няма. Калі ўцёкі са сьледчага ізалятару караюць ужываньнем зброі, то на Акрэсьціна знаходзяцца адміністрацыйна арыштаваныя, і адносна іх гэта не ўжываецца. Але збольшага гэта і ўся розьніца. Краты тыя ж — турма тая ж.

Што будынак на Акрэсьціна — гэта ўсё ж ня проста прымальнік для вулічных хуліганаў, а сапраўдная турма, у канцы сакавіка зьведалі каля 700 чалавек, якія пратэставалі супраць фальсыфікацыі выбараў у Беларусі. Такую лічбу падавалі праваабаронцы на падставе сьпісаў, узятых у судах. Між тым, адміністрацыя ўстановы дакладнай колькасьці вязьняў не называе.

А якая думка тых, хто адседзеў там, як кажуць, па поўнай праграме? Зьміцер Грыбовіч з Маладэчна адбыў 10 сутак у старым корпусе турмы.

ГРЫБОВІЧ: Калі мяне выводзілі, то я ўбачыў на стале паперу, колькі на нашым паверсе было вязьняў. Было пазначана 58 чалавек. У нашай камэры, самай вялікай — дваццаць, потым камэра — дванаццаць чалавек, дзесяць, сем, шэсьць. Разам тры паверхі зь вязьнямі й адзін адміністрацыйны паверх. Мяркую, чалавек дзьвесьце можна туды запіхнуць.

Дваццаць чалавек у камэры старога корпусу пры норме дзесяць — далей можна не казаць пра перанаселенасьць, адсутнасьць сьвежага паветра. Нядаўна ўстанову на Акрэсьціна пашырылі — пабудавалі дадатковы пяціпавярховы корпус. Магчыма, там прынцыпова новыя ўмовы, якія нарэшце пачалі адпавядаць XXI стагодзьдзю, эўрапейскім стандартам? Расказвае Надзея Батура зь Менску.

БАТУРА: Калі сядзелі чатыры чалавекі ў двухмясцовай камэры, то пакутавалі ад задухі, пылу, смуроду. Паветра стаіць, вэнтыляцыя быццам ёсьць, але амаль не працуе. Пакой маленькі: паўтара мэтра на чатыры. Мы чацьвёра спалі па чарзе на гэтых ложках з дошак, абабітых жалезнымі вугалкамі. Ніяк не маглі сагрэцца, але нам забаранілі ўзяць яшчэ вопратку. У мяне была ў торбе спадніца, хацела нацягнуць на штаны — не далі. Так на голых дошках, на голым жалезе й ляжалі...

Надзея Батура адзначае адзінае станоўчае адрозьненьне ад старога корпусу: адгароджаныя прыбіральні — цяпер ня так ужо сорамна перад сваімі ж і вартаўнікамі, якія час ад часу зазіраюць у акенца. Але што да ўмоваў жаночай гігіены, то й тут усё на ўзроўні пазамінулага стагодзьдзя, кажа яшчэ адна мянчанка, Алена.

АЛЕНА: Жанчынам нічога не выдаецца, зусім. Мы прасілі хаця б туалетную паперу ўзяць з нашых торбаў — нічога не давалі. Да таго часу, як нам праз два дні прынесьлі першую перадачу, было вельмі няўтульна, вельмі, як гэта сказаць... некамфортна.





Усе вязьні Акрэсьціна скардзяцца на турэмную ежу. Студэнт Глеб Курцоў на маю просьбу доўга ўспамінаў хаця б нейкую смачную страву, пачаставаную ў турме, і нарэшце, да гонару мясцовага кухара, успомніў пра суп.

КУРЦОЎ: Першыя тры дні вельмі дрэнна кармілі. З суду нас прывезьлі пасьля дзевяці вечара і ўвогуле ў першы дзень не пакармілі. Улічыце, што везьлі з суду не ў аўтобусе, а ў аўтамабілі для зьняволеных, там мы сядзелі ў такіх цесных жалезных «стаканах». Потым дзьве гадзіны стаялі на марозе. У людзей шнуркі пазабіралі, стаяць халодна, пачалі мерзнуць... Кажам, завядзіце ў памяшканьне. Не заводзяць. Потым вось тры дні дрэнна кармілі й толькі на шосты дзень — больш-менш. У супе была й макарона, і бульба разам. Проста сьвята было.

Колькі разоў кормяць вязьняў на Акрэсьціна? Гэтае пытаньне зусім не рытарычнае. Паводле закону, у Беларусі зьняволеным альбо арыштаваным мусяць даваць тры разы на дзень гарачую ежу. Аднак турма на Акрэсьціна, падобна, выключэньне з гэтага правіла. Усе вязьні на адзін голас кажуць пра двухразовае харчаваньне. Гандляр Аляксей Кез распавёў, як спрачаўся на гэтую тэму з начальнікам турмы.

КЕЗ: Дзесяць дзён сядзелі ў гэтым пакойчыку, і нікуды нас не выводзілі: ні на шпацыр, ні ў сталоўку. Такога не было, як я бачыў на фатаздымках, быццам водзяць у сталоўку. У камэру прыносілі. Давалі звычайную баланду ды сечку, а напярэдадні прыезду назіральнікаў з АБСЭ давалі боршч і катлеты. А як яны зьехалі, зноў засталіся толькі сечка й баланда. Кармілі два разы на дзень, хаця павінны былі тры. Нават калі начальнік турмы прыходзіў да нас разам з прадстаўнікам АБСЭ, ён крычаў: «Чаму два разы? Тры!» — але чаго нам хлусіць, кармілі два разы.

Усе спробы дамовіцца пра інтэрвію з кіраўніцтвам турмы былі марныя. У найлепшым выпадку можна зьвязацца зь

дзяжурным і пачуць ад яго некалькі словаў. Я запытаўся, чаму, насуперак закону, вязьняў кормяць толькі двойчы на дзень. Адказ быў катэгарычны: «Харчаваньне ў нас трохразовае. Паўтараю — трох-ра-зо-ва-е. Астатнія пытаньні не па тэлефоне».

Усе палітвязні з турмы на Акрэсьціна скардзіліся на халадэчу ў камэрах. Толькі з-за гэтага было немагчыма спаць, ня кажучы ўжо пра адсутнасьць месца ці сьвежага паветра. Ня дзіва, што шмат хто захварэў. Ці аказвалася ў такіх выпадках мэдычная дапамога?

КУРЦАЎ: Цягам двух дзён прыходзіў доктар. У паловы камэры былі застуджаныя вушы, бо чалавек сьпіць на халодным, а падкласьці няма чаго. Доктар ціскае на вузлы зь левага боку — баліць, з правага боку — не баліць. «На табе тры таблеткі анальгіну й лячыся...» Гэта ў іх лекі на ўсе выпадкі й ад усіх хваробаў.

Адрозна ад мэдычнага — бытавое, так бы мовіць, назіраньне за арыштантамі пастаўлена на дастаткова высокі, хоць пакуль прымітыўны ўзровень. Дагэтуль вартаўнікі сочаць за імі праз акенца ў дзьвярах. Але ў новым корпусе паўсюдна ўсталяваныя ўжо спэцыяльныя відэакамэры, якія неўзабаве будуць фіксаваць кожны рух вязьняў. А пакуль тэхніка нібыта не працуе. Пра гэта мне казала, напрыклад, студэнтка Ксенія Кручок, са спасылкай на вартаўнікоў. Але каб нават электроніка ўжо дзейнічала, яе б гэта ня вельмі турбавала.

КРУЧОК: ...А потым ужо й не заўважаеш. Хай глядзяць, калі ім так падабаецца. Што зь іх возьмеш...





пятніца, 7 красавіка 2006, 8:06

## Т.НЯДБАЙ: НЕ ШКАДУЮ, ШТО Я ТАМ СЯДЗЕЛА

***Юлія Шарова, Менск***

Сёстры Тацяна Нядбай і Ірына Дарафейчук былі затрыманыя ўдзень 21 сакавіка ў падземным пераходзе каля Дому афіцэраў. Тацяну асудзілі на 5 сутак за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі, Ірыну — за дробнае хуліганства. Пазьней Ірына страціла працу.

Таня Нядбай — чалавек, далёкі ад палітыкі. Студэнтка-філёляг пятага курсу БДУ, ужо вядомая як таленавітая паэтка, фіналістка леташняга конкурсу імя Ўладзімера Караткевіча. На барыкады ніколі не імкнулася, пісала тонкія, насычаныя музычнымі асацыяцыямі вершы. Пасьля пяці сутак на Акрэсьціна раптам захацела паспрабаваць сябе ў прозе.

НЯДБАЙ: Цяпер я буду пісаць прозу пра міліцыянтаў. Такую жорсткую прозу пра міліцыянтаў. Ну вось ужо напісала пра тое, як я там адседзела, яшчэ ёсьць такая задума — напісаць пра тых дзяўчат, бо сапраўды былі файныя дзяўчаты, якія сядзелі з намі ў камэры.

У падземным пераходзе, дзе іх затрымалі, сёстры сустракаліся, каб разам пайсьці на плошчу. Паколькі Іра несла тэрмас з кавай і цёплыя рэчы для абаронцаў намётавага лягеру, яе затрымалі адразу. Таню адпускалі, бо яна ніякіх рэчаў пры сабе ня мела, але яна вырашыла застацца разам з арыштаванай Ірынай. Ірына кажа, што імпульсіўнасьць — адна з асноўных рысаў характару ейнай сястры.

ДАРАФЕЙЧУК: Шмат якія ўчынкі робяцца на імпульсе. Як тое, што яна засталася са мной пры затрыманьні, хоць яе нібыта адпускалі. Калі прыйшоў ахоўнік расьсяляць нас у розныя камэры, яна сказала: «Я нікуды адсюль не пай-

ду!» Другое — гэта абвостранае адчуваньне справядлівасьці й патрэбы ў справядлівасьці, імкненьне давесьці гэтую справядлівасьць іншым, у тым ліку спэцназаўцам, міліцыянтам — каму заўгодна.

За салідарнасьць з удзельнікамі акцыі на плошчы Ірына ўжо расплацілася працай: пакуль яна сядзела свае 7 сутак на Акрэсьціна, яе звольнілі з Інстытуту прадпрымальніцкай дзейнасьці, дзе Ірына выкладала культуру народаў сьвету. 21 сакавіка ў дзень затрыманьня павінен быў вырашацца й лёс ейнай кандыдацкай дысэртацыі — яна вывучала спэцыфіку гендэрнай культуралізацыі ў традыцыйнай беларускай культуры.

ДАРАФЕЙЧУК: Ня ведаю, чым цяпер скончыцца абарона маёй дысэртацыі, бо рэктар, які звольніў мяне, паабяцаў, што паклапоціцца, каб не было нават папярэдняй абароны, ня кажучы пра абарону і ўсё астатняе.

Беларуская літаратарка, перакладчыца Марыя Мартысевіч сьвяткавала свае народзіны ў той дзень, калі Ірына выйшла з Акрэсьціна.

МАРТЫСЕВІЧ: У дзень вызваленьня Іра акурат была ў мяне ў гасьцях. Яна прыйшла ў піжаме. Яна сказала, што памыцца пасьпела, а выспацца — не. Потым сказала, што самае галоўнае для яе было адчуць хатнюю атмасфэру пасьля таго тыдня зьняволеньня. Тое, што менавіта хатнія людзі, людзі мяккія выходзяць на плошчу й кажуць уголас пра сваю пазыцыю — гэта істотна.

Адразу пасьля вызваленьня, кажа Таня Нядбай, было прыкрае адчуваньне, што ўсе пакуты Акрэсьціна давялося вытрываць ні за што: быў спадзеў усё ж выйсьці з турмы ў вольную краіну.

НЯДБАЙ: Я не шкадую пра тое, што я там сядзела, не шкадую пра тое, што туды патрапіла. Я ня вельмі вялікая «зорка», каб нешта зрабіць на пляцы. Я думала, што лепей я адсяджу, а хтосьці там, можа быць, штосьці больш дзейснае, больш эфэктыўнае зробіць. Бо ўсё адно трэба некаму сядзець. А калі мы выйшлі й я ўбачыла, што ходзяць людзі, што ўсё нармальна — яны задаволеныя, яны сьмяюцца, яны жывуць у той краіне, у якой хочуць жыць. То проста прыкра сапраўды...

Людзей, зь якімі яны адбывалі зьняволеньне, сёстры называюць «згуртаванымі Акрэсьцінам». Такое ўражаньне, быццам міліцыянты наўмысна сабралі там самых розных, нават вельмі далёкіх ад апазыцыі людзей, каб стварыць сапраўдную моцную арганізацыю.

субота, 8 красавіка 2006, 13:15

## З ТУРМЫ НА АКРЭСЬЦІНА ВЫЙШЛА КАЛЯ 40 ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ

***Галіна Абакунчык, Менск***

Усе яны былі арыштаваныя падчас разгрому намётавага лягеру й адбылі максымальны тэрмін адміністрацыйнага зьняволеньня — 15 сутак.

Палітычных вязьняў сустракалі сваякі й паплечнікі, якія адбылі пакараньне й выйшлі на волю. Да турмы на Акрэсьціна прыйшлі й вядомыя ў краіне людзі —музыка Лявон Вольскі, тэатральны рэжысэр Валеры Мазынскі, праваабаронца Людміла Гразнова, а таксама шматлікія журналісты. Прысутныя сустракалі людзей зь бел-чырвона-белымі сьцягамі, кветкамі, запаленымі сьвечкамі, а таксама воклічамі й скандаваньнем «Жыве Беларусь!».

У турме засталіся 17 чалавек, якія адбываюць 15 сутак за ўдзел у акцыі пратэсту 25 сакавіка. Яны выйдуць на волю ў нядзелю, 9 красавіка.

субота, 8 красавіка 2006, 13:31

## М.МАШКЕВІЧ: Я РАДЫ, ШТО МОГ БЫЦЬ ЗЬ БЕЛАРУСКІМІ СЯБРАМІ Ў ЦЯЖКІ ЧАС

***Аляксей Дзікавіцкі, Варшава***

Сёньня ў Варшаве Ежы Машкевіч прывітаў свайго сына Марыюша Машкевіча — былога амбасадара Польшчы ў Беларусі, які ўчора выйшаў на волю. Ежы Машкевіч сустракаў сына каля беларускай амбасады, дзе трымаў галадоўку пратэсту. Марыюш, абняўшы бацьку, сказаў, што ганарыцца ім, хаця вельмі непакоіўся за стан ягонага здароўя.

МАШКЕВІЧ: Я вельмі рады, што на свабодзе, але таксама й вельмі рады, што мог быць са сваімі беларускімі сябрамі ў той цяжкі час. Тое, што яны зрабілі, будзе ўзнагароджана свабодай. Жадаю ўсім беларусам хуткай свабоды. Жыве Беларусь!

М.Машкевіч сказаў, што міліцыянты яго зьбілі разам зь іншымі, хто быў у намётавым лягеры. Паводле ягоных словаў, міліцыянты былі вельмі агрэсіўныя.

МАШКЕВІЧ: Калі намётавы лягер акружыў спэцназ, людзі скандавалі «Міліцыя з народам!», але было відаць, што міліцыянты настолькі агрэсіўныя, што няма сэнсу да іх зьвяртацца з такімі заклікамі. Гэта як у нас у 1980-я гады. Але ведаю, што сярод міліцыянтаў таксама шмат такіх, хто супраць рэжыму. Адвакат Вера Страмкоўская сказала мне, што двое беларускіх судзьдзяў адмовіліся ад сваіх пасадаў пасьля ўсяго гэтага, што ў беларускіх варунках азначае ў пэўным сэнсе страту грамадзянскіх правоў. Гэта сьведчыць пра тое, што грамадзянская супольнасьць у Беларусі, хаця й паволі, але паўстае.

М.Машкевіч падкрэсьліў, што беларускую візу яму не анулявалі, і таму, як толькі будзе нагода, ён, напэўна, наведае сваіх сяброў у Беларусі.





субота, 8 красавіка 2006, 16:32

## З ЖОДЗІНСКАЙ ТУРМЫ СЁНЬНЯ ВЫЙШЛІ НА ВОЛЮ 34 ПАЛІТВЯЗЬНІ

***Міхал Стэльмак, Менск***

Сярод іх былі палітвязьні, якія трымалі ў зьняволеньні галадоўку пратэсту. Усе 34 чалавекі, якія сёньня пакінулі камэры Жодзінскай турмы, правялі тут 15 сутак. Сярод іх была й адна дзяўчына — 19-гадовая студэнтка Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту культуры Ганна Касьцюк.

КАСЬЦЮК: Магчыма, я проста не спадабалася судзьдзі. Яна спыталася, колькі мне далі грошай. Я адказала, што мне грошай не плацілі. Тады яна кажа: «Значыцца, ідэйная...» Яшчэ адной дзяўчыне далі 12 сутак. Яна выйшла праз 12 дзён, і я трое сутак сядзела ў камэры адна, бо дзяўчат больш не было.

Гэтыя апошнія тры дні адзіночнага ўтрыманьня ў Жодзінскай турме былі для Ганны Касьцюк найбольш складанымі. Аднак ужо пасьля першых гадзінаў знаходжаньня на волі да яе вярнулася радасьць жыцьця — дзяўчына адчула падтрымку сяброў.

Бадзёры настрой і ў большасьці іншых былых палітвязьняў, у тым ліку ў Дзяніса Зюкава й Васіля Хадневіча, якія ўсе 15 сутак знаходжаньня ў гэтай установе трымалі галадоўку пратэсту. Як зазначыў 25-гадовы праграміст зь Менску Дзяніс Зюкаў, іхная галадоўка была лягічным працягам акцыі на Кастрычніцкай плошчы. Дзяніс ужо пачаў выхад з галадоўкі й адчувае сябе няблага. А вось што распавёў пра акцыю галадоўкі ў Жодзінскай турме 41-гадовы Васіль Хадневіч, які сёньня вярнуўся адтуль дадому — у мястэчка Сьвіслач Пухавіцкага раёну.

ХАДНЕВІЧ: Пасьля суду мы напісалі заяву, што галадуем па такой і такой справе й з такіх вось прычынаў... І ў

маёй камэры галадавалі ўсе людзі, хто сядзеў са мной, — а сядзела пяцёра. Тром далі 10 сутак — яны галадавалі 10 сутак. А Зюкаву Дзянісу й мне далі 15 сутак кожнаму, і мы галадавалі 15 сутак.

субота, 8 красавіка 2006, 18:51

## ВЯЗЬНЯЎ АКРЭСЬЦІНА СУСТРАКАЛІ СКАНДАВАНЬНЕМ «ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!»

***Галіна Абакунчык, Менск***

З турмы на вуліцы Акрэсьціна ў Менску выйшла вялікая група палітычных вязьняў. За ўдзел у акцыі пратэсту на Кастрычніцкай плошчы 15 сутак арышту атрымалі 42 чалавекі. Усе яны былі вызваленыя ў тры гадзіны ночы 8 красавіка. Сустракаць палітычных вязьняў да турмы прыйшлі ня толькі менчукі, але й людзі з розных рэгіёнаў і гарадоў Беларусі — усяго каля 200 чалавек.

СПАДАР: Вядомы гомельскі фотамастак рабіў замалёўкі ў намётавым мястэчку й патрапіў сюды. Вось мы прыехалі яго сустрэць з Гомелю.

— А ў Вас што ў руках?

СПАДАРЫНЯ: Праваслаўны абраз. Я хрысьціянка й лічу, што ўсе сумленныя людзі павінныя цяпер маліцца за лёс нашай Бацькаўшчыны.

Неўзабаве зь дзьвярэй турмы групамі тры-пяць чалавек пачалі выходзіць нядаўнія вязьні Акрэсьціна.

ЮНАК: Я вельмі рады, што тут нас сустракае шмат народу, я рады, што я не зажурыўся, як і ўсе мае сябры ў камэры.

Вызваленых удзельнікаў намётавага лягеру сустракалі вядомыя людзі — рэжысэр Валеры Мазынскі, лідэр гурта «N.R.M.» Лявон Вольскі, рэдактар газэты «Наша Ніва» Андрэй Дынько й многія іншыя.

— Спадар Вольскі, а Вы каго сустракаеце?

ВОЛЬСКІ: Я сустракаю ўсіх, хто сёньня выходзіць. Была ў нас такая прыватная ініцыятыва прыехаць сюды. Мы таксама дарым падарункі гэтым людзям — касэту з маёй перадачай, якая называецца «Квадракола».

— А хто раздае дыск «Песьні Свабоды?»

ЮНАЧКА: Мы, дочкі Аляксандра Казуліна Вольга й Юля.

— Які ваш настрой?

ЮНАЧКА: Баявы. Як і ў нашага бацькі.

Многія людзі трымалі ў руках бел-чырвона-белыя сьцягі. Вось як пракамэнтавала падзеі праваабаронца Людміла Гразнова:

ГРАЗНОВА: Ёсьць такая ўжо прымаўка, што ўвесь бамонд — на Акрэсьціна ці каля яго. І гэтая хваля ўсё больш накрывае ўсіх, хто думае й хто не абыякавы. Мяркую, што ніякіх пяці гадоў для таго, каб ён сышоў, ня будзе. Усё будзе нашмат хутчэй, і пульс гэтых пераменаў нарастае на нашых вачах.

з в а н к і   н а   « С в а б о д у »

*ВІКТАР МАЛАШУК: Сябры! Віншую з вынікам! Прыхільнікі дыктатуры цудоўна ведаюць, колькі нас. Вось і прыціхлі, як мышы пад венікам. Яны не чакалі такога рэзанансу. Народ пераадолеў страх. А людзі, якія прайшлі ізалятары, турмы — гэта залаты фонд апазыцыі. Страшна першы раз, а потым страху няма. Можаце запытаць у тых, хто прайшоў праз гэты смурод, гразь і зьдзек з закону ў міліцэйскіх пастарунках.*

нядзеля, 9 красавіка 2006, 18:21

## З ТУРМЫ НА АКРЭСЬЦІНА Ў НЯДЗЕЛЮ ВЫЙШЛІ 18 ПАЛІТВЯЗЬНЯЎ

***Галіна Абакунчык, Менск***

З турмы на Акрэсьціна выйшлі 18 чалавек, якіх арыштавалі за арганізацыю намётавага лягеру, а таксама за ўдзел у акцыі пратэсту 25 сакавіка. У турме застаюцца яшчэ некалькі чалавек, зьняволеных за ўдзел у палітычных акцыях.

Дзяжурныя міліцыянты называлі розны час вызваленьня вязьняў, а таму сваякі й сябры рэпрэсаваных былі на Акрэсьціна ў 14 гадзінаў — час першых затрыманьняў 25 сакавіка.

— Каго сустракаеце?

ЮНАК: Сябра свайго. Вельмі добры чалавек, а яму ў пратакол напісалі, што ён брыдка лаяўся. У чалавека дзьве вышэйшыя адукацыі — пра што вы кажаце?!

СПАДАРЫНЯ: Ён трымаў плякат «За радзіму». Калі «За Беларусь» пішуць на кожным слупе — гэта можна. А калі плякат у руках трымаць, то не.

СПАДАР: У Беларусі таталітарны рэжым. Проста мы жывем у маленькай краіне ў цэнтры Эўропы. Калі б мы былі ў Сярэдняй Азіі, то прыгналі б БТРы, і людзей проста расстралялі б, але міжнародныя арганізацыі яшчэ нам дапамагаюць. Усё гэта, канечне, страшна. Але гэта ня вечна, шкада толькі, што вельмі невялікая колькасьць людзей разумее.

Сярод тых, хто прыйшоў сустракаць вызваленых, былі й людзі, што адбылі 10 сутак арышту й выйшлі колькі дзён таму.





ЮНАК: Нас напхалі ў гэтую турму, як селядцоў у бочку. Бо яны не чакалі гэтулькі дэманстрантаў, увогуле не спадзяваліся, што нехта выйдзе. Варта працягваць, бо народ не такое быдла, як яны хочуць думаць.

Першыя вызваленыя пачалі выходзіць з турмы напачатку 15-й гадзіны.

СПАДАР: Алесь Стральцоў. Настрой цудоўны, працоўны. У апошнія сем дзён я абвясьціў галадоўку на знак пратэсту супраць крымінальных справаў на лідэраў і актывістаў дэмакратычнага руху Беларусі. Вялікая памылка Лукашэнкі, што ён даў нам магчымасьць пабачыцца, пагутарыць і пра ўсё дамовіцца. Кожная камэра — гэта восемдзесяць чалавек, што раўназначна добрай суполцы. І гэтыя — наймацнейшыя сярод суполак Беларусі.

Паводле дзяжурных турмы, у нядзелю выйшлі апошнія 18 палітычных вязьняў. Аднак вызваленыя паведамляюць, што за кратамі застаюцца яшчэ некалькі чалавек.

аўторак, 11 красавіка 2006, 6:47

## С.СТАНКЕВІЧ: АМАПАЎЦЫ ПАВОДЗІЛІ СЯБЕ ЯК НЕЙКАЕ ЗЬВЯР'Ё

***Міхал Стэльмак, Менск***

24-гадовую ўраджэнку Смаргоні Сьвятлану Станкевіч арыштавалі на 8 сутак. Сьвятлана выйшла на волю 1 красавіка. Дзяўчыну сустрэлі ля сьценаў турмы, прывезьлі ў Менск і прытулілі на ноч добрыя людзі.

СТАНКЕВІЧ: Мне падалі шаўковую піжаму, мяккую падушку. У такіх шыкоўных умовах, калі параўнаць з турмой. Увогуле я не магла заснуць ад мноства інфармацыі. Я адразу палезла ў інтэрнэт, таму што там, у турме, быў

інфармацыйны голад. Я нават не заснула — увесь час праседзела ў інтэрнэце ў гэтай піжаме.

Сьвятлана паводле адукацыі журналістка. Яшчэ падчас вучобы на журфаку ўладкавалася ў «Новую газету Сморгони». Гэтае незалежнае выданьне летась зьліквідавалі ўлады. Я спытаў у былога рэдактара й заснавальніка тыднёвіка Рамуальда Ўлана: ці думаў ён, што Сьвета апынецца на плошчы?

УЛАН: Ведаеце, для мяне гэта было крыху нечакана. Я яе ведаў спакойнай, памяркоўнай дзяўчынай. Гэта сьмелы ўчынак. Я вельмі ганаруся тым, што яна зрабіла. Я яшчэ раз скажу, што для мяне гэта ў нейкім сэнсе неспадзявана было. Яна больш культурніцкія тэмы асьвятляла. Не гарачыя, не канфліктныя. Я ня думаў, што яна такі сьмелы чалавек.

Сьмелай называюць Сьвятлану й іншыя людзі, хто яе ведае. А яшчэ яны лічаць, што Сьвятлану прывяла на плошчу адданасьць справе нацыянальнага адраджэньня. Вось меркаваньне яе сяброўкі Алены Гормаш.

ГОРМАШ: Дзяўчына, якая заўсёды была апантаная такімі ідэямі — найперш ідэяй нацыянальнага адраджэньня. Каб Беларусь увайшла ў склад Эўразьвязу, каб вярнулася нацыянальная сымболіка...

У памяці самой Сьвятланы дагэтуль засталіся падзеі апошняй ночы намётавага лягеру.

СТАНКЕВІЧ: Тыя амапаўцы, якія бралі штурмам наш гарадок, яны паводзілі сябе, як нейкае зьвяр'ё. Калі прывезьлі на Акрэсьціна, то адной дзяўчыне плюнулі проста ў твар...

Сьвятлану за ўдзел у акцыі пасадзілі ў Жодзінскую турму. Тут яна правяла 8 сутак. Што запомнілася?

СТАНКЕВІЧ: Калі нас прывезьлі з Акрэсьціна — нас было сямёра. Сямёра дзяўчат — гэта Наста Ларына, Аля Сідаровіч, Анастасія Дарафеева, Надзея Манцэвіч, Іна Габрыельчык і я. У нас заўжды ад раніцы да вечара было ўключанае радыё «Сталіца» — ня вельмі добрае ў пляне навінаў. У нас праз вэнтыляцыю быў міні-чат зроблены. Калі залазіш на рашотку, якая знаходзіцца ля дзьвярэй, падсоўваесься бліжэй да вэнтыляцыі, то можна пачуць галасы зь іншых камэраў. І мы там абгаворвалі навіны, якія мы пачулі. І калі нешта там вельмі абразьлівае казалі, што, напрыклад, Беларусь стала папярок горла эўрапейскім буржуям і гэтак далей, то мы проста адказвалі грукатам, тупатам, крыкамі «Жыве Беларусь!».

серада, 12 красавіка 2006, 6:35

## Б.АРЛОЎ: МЫ ЎПЭЎНІЛІСЯ, ШТО ГЭТА НАША ПАЗЫЦЫЯ

***Радыё Свабода***

Багдан, малодшы сын вядомага гісторыка й пісьменьніка Ўладзімера Арлова, трапіў за краты на 10 сутак разам з усімі абаронцамі лягеру. Цяпер ён з усьмешкай успамінае, як байцы крычалі «разойдитесь», пры тым, што лягер быў ачэплены. Але тады чамусьці не сьмяялася... Сёньня ж — зусім іншы настрой.

БАГДАН АРЛОЎ: Мы так селі й прыкінулі: ну, дык ці перавыхаваліся мы? І прыйшлі да высновы: не, нічога ў нашых галовах не зьмянілася. Наадварот, упэўніліся, што гэта наша пазыцыя. І дзесяць сутак, і 365 сутак, і 859 сутак яе ўсё роўна ня зьменяць.

Юля, сымпатычная спадарожніца Багдана, слухае йківае галавой. Яна верыць свайму сябру. І захапляецца яго мужнасьцю.

ЮЛЯ: У мяне шмат сяброў, якія сымпатызуюць зьменам у

краіне. Але ў іх на першым пляне праца, асабістыя праблемы... Яны эканомяць час, яны баяцца. Яны пасіўныя, і нічога ня робяць. Я паважаю Багдана за тое, што ён вельмі сумленна й ад чыстага сэрца нешта робіць.

Пасьля вяртаньня на волю Багдан Арлоў часта чуе ад знаёмцаў: «Ну й які вынік вашага супраціву, сядзеньня за кратамі?»

БАГДАН АРЛОЎ: Галоўным вынікам вулічнага супрацьстаяньня сталася рэвалюцыя, якая, як бы ні банальна прагучала, адбылася ў сьвядомасьці вялікай часткі людзей. Пра гэта мне неаднаразова казалі знаёмыя, сябры й незнаёмыя таксама: яны былі ўражаныя, колькі людзей думаюць так, як і яны. Гэта галоўны вынік. А тое, што цяпер не праходзіць ніякіх вулічных акцыяў... Гэта можна сьпісаць і на мэнталітэт беларусаў. Для іх было ўжо вялікім учынкам проста прыйсьці на плошчу. Канкрэтныя вынікі? Ніколі ня ведаеш, што адбудзецца заўтра. Калі няма спадзяваньняў, то навошта жыць?!

Багдан вучыўся ў беларускай клясе, потым — у Беларускім гуманітарным ліцэі. Гэта не магло не адбіцца на выхаваньні пачуцьця нацыянальнай годнасьці. Вялікае значэньне, лічыць ягоны бацька, мела й сямейнае выхаваньне.

УЛАДЗІМЕР АРЛОЎ: Мне здаецца, што Багдан проста выхоўваўся ў нармальнай сям'і. І атмасфэра ў гэтай сям'і выпрацоўвала ў яго тыя маральныя прынцыпы, якія неабходныя чалавеку. Але апрача ўсяго іншага, мы зь дзяцінства выхоўвалі ў Багдана веру ў тое, што ў яго ёсьць свая краіна. Што гэтая краіна завецца Беларусь, што яна абавязкова будзе незалежнай эўрапейскай дзяржавай. І я б не сказаў, што Багдан трапіў ні за што ў турму. Ён трапіў туды за свае перакананьні. Мы з Багданам проста падзялілі апошнія ночы перад 25-м. Дамовіліся, што ён будзе з чацьвярга на пятніцу на пляцы, а я — зь пятніцы на суботу. Бо разам з калегамі-літаратарамі, музыкамі, бардамі дамовіліся ў ноч на 25-га, а другой гадзіне пачаць літаратурна-музычны марафон пад назвай «Раніца Свабоды». Як вядома, нашая задума адтэрмінавалася, а Багдан трапіў за краты. Я адчуваў толькі гонар за яго, стоячы ў гэтых чэргах каля турэмных муроў...





чацьвер, 13 красавіка 2006, 6:43

## Н.МІЛАВАНАВА: РАНЕЙ Я ПАЛІТЫКАЙ НЕ ЦІКАВІЛАСЯ

***Радыё Свабода***

Муж і жонка Зьміцер Паўлавіцкі й Наста Мілаванава адседзелі ў турме на Акрэсьціна 12 і 5 сутак адпаведна. Пра гісторыю свайго арышту й ягоныя ўрокі расказвае студэнтка-выдатніца тэхналягічнага ўнівэрсытэту сталіцы Наста.

МІЛАВАНАВА: Схадзілі мы з мужам у ГУМ... Падарунак для сястры выбралі. Да вучобы заставалася гадзіна, вырашылі прагуляцца да плошчы Перамогі. Ну й дагуляліся. Падышлі людзі ў цывільным. І яны ж нас адвезьлі на Акрэсьціна. І ўсё, прыпаялі артыкулы. Да гэтага я палітычнымі пытаньнямі не цікавілася. Зусім! Пакуль не пасадзілі туды, дзе даведалася шмат новага. Высновы: усё робіцца па ўказцы, уся сыстэма правасудзьдзя ў нас прынцыпова адсутнічае. Міліцыянты самі — поўныя «беспредельщики».

Зьміцер Паўлавіцкі кажа, што палітыкі Лукашэнкі ніколі не вітаў, але й пратэставаць на Кастрычніцкай плошчы не зьбіраўся. І тым ня менш, за турму... дзякуе! Тым, хто садзіў і хто ахоўваў.

ПАЎЛАВІЦКІ: Адседка была сапраўды дзіўная. Вялікі дзя-

куй за тое, што мяне пазнаёмілі з такой колькасьцю разумных, інтэлігентных людзей. Ніводнага «адмарозка» ў камэры не было — толькі годныя людзі, з вышэйшай адукацыяй, прадпрымальнікі, студэнты... Да нас трапіў і чалавек з пратэстанцкай царквы, ад якога я шмат даведаўся пра дачыненьні ўладаў і рэлігійных рухаў у Беларусі.

МІЛАВАНАВА: Непасрэдна ў камэры я шмат даведалася пра палітыку, якой раней не цікавілася, бо вучуся на архітэктурным факультэце, па мастацкай спэцыяльнасьці... А цяпер зьявіліся й настроі пратэстныя.

Разам з Настай адбывала пакараньне яшчэ адна Наста — Кавалёва. Тая села зусім ні за што.

МІЛАВАНАВА: Дзяўчынка вучыцца на факультэце тэалёгіі й багаслоўя. Дэкан у іх — Філарэт. Датэрмінова прагаласавала, прыехала на вучобу. Выйшла з мэтро. Яна з валізкай была, бо ў інтэрнат не пасьпявала, а ў валізцы — рэчы й ежа. У пераходзе да яе й падышлі. А потым 3 сутак далі на судзе. А факультэт знаходзіцца якраз каля Палацу прафсаюзаў. Туды іншым чынам ніяк не прайсьці...

Зь яшчэ адной выпадковай ахвярай міліцэйскага хапуна — актывістам БРСМ — Наста Мілаванава ехала на суд у адным аўтобусе.

МІЛАВАНАВА: Хлопчык, якому далі 7 сутак. Ён едзе ў аўтобусе, б’ецца аб шкло й кажа: «Актывіст БРСМ, ляўрэат лукашэнкаўскай прэміі... Ну што я тут раблю?!» І так ўсю дарогу грукаў лбом у шкло...

Наста ня ведае дакладна, ці ачуняў ён ад стрэсу затрыманьня, ці зразумеў, чым адрозьніваюцца «лукамольцы» ад маладафронтаўцаў. Але дзяўчына лічыць, што рэжым згубіў свайго прыхільніка.





пятніца, 14 красавіка 2006, 6:42

## В.КУЗЬМІЧ: ЗЬБІТАГА ХЛОПЦА ПРОСТА ВЫКІНУЛІ З АЎТОБУСА, ПАПЯРЭДЗІЎШЫ: ПРЫЙДЗЕШ ЯШЧЭ РАЗ — ЗАБ’ЕМ

***Радыё Свабода***

Моладзевы лідэр Вольга Кузьміч — актывістка штабу А.Мілінкевіча, каардынатарка інтэрнэт-праекту studenty.by. Вольгу й ейных сяброў затрымалі а 4-й гадзіне першай раніцы намётавага лягеру. І адразу павезьлі на Акрэсьціна. Вольга кажа: вельмі пашанцавала, што іх ня білі.

КУЗЬМІЧ: Мы апошнія былі ў тым аўтобусе, і нас ня білі. А тыя, каго затрымалі да нас, былі моцна зьбітыя — у крыві. І калі везьлі на Акрэсьціна, яны пачалі перажываць — як давезьці — мусіць, нейкай адказнасьці ўсё ж баяліся. Аднаго хлопца, моцна зьбітага, проста выкінулі з аўтобуса на прыпынку, папярэдзіўшы: калі яшчэ раз прыйдзеш — проста заб’ем.

Людзей, якія выступалі ў судзе сьведкамі, Вольга бачыла ўпершыню. Гэныя сьведкі давалі супярэчлівыя паказаньні, якія не адпавядалі й пратаколу затрыманьня. Са словаў аднаго зь іх, Вольга была адна.

КУЗЬМІЧ: Судзьдзя сам яго запытаўся: дык чаму ж Вы менавіта на яе зьвярнулі ўвагу? Адказ быў ашаламляльны: «Яна была нейкая ўзбуджаная». У судзе нехта пажартаваў: маўляў, як жа спэцназавец мог прайсьці спакойна міма самотнай узбуджанай дзяўчыны ўначы.

Падчас утрыманьня на Акрэсьціна Вольга прыйшла да высновы, што міліцыянты моцна розьняцца ад спэцназаўцаў.

КУЗЬМІЧ: Сярод іх ёсьць цалкам адэкватныя людзі. Мне наагул шкада іх — гэтых міліцыянтаў-ахоўнікаў на Ак-

рэсьціна, яны, лічы, усё жыцьцё бавяць у вязьніцы, нічога ня бачаць... Калі мы там знаходзіліся, дык нашая прысутнасьць была для іх нейкай прагалінай сьвятла — не бамжы сядзяць, а прыгожыя дзяўчаты. Яны прыходзілі на працу — паголеныя, акуратныя, з парфумаю... Як на сьвята. Ну, і даведацца ад іх можна было хоць нешта — што на вуліцы адбываецца... Апошнія дзьве гадзіны перад вызваленьнем былі самыя цяжкія. І мы ўжо ні ў чым сабе не адмаўлялі: крычалі «Луку на муку» й гэтак далей. І дзяжурныя ніяк не рэагавалі.

Разам з Вольгай затрымалі ейнага сябра — Юрася Сідуна. Да Акрэсьціна яны ехалі разам, але далей адно пра аднаго нічога ня ведалі.

СІДУН: Я ўсе гэтыя 10 сутак ня ведаў, што з Вольгай, у якой яна камэры, колькі сутак далі, і ці перадаюць у іхную камэру нейкія перадачы, бо наша камэра была вельмі ізаляваная інфармацыйна — мы зусім нічога ня ведалі, што адбываецца звонку. Толькі калі мяне сустрэлі па вызваленьні сябры, я даведаўся, што праз гадзіну вызваляецца й Вольга.

На 10-я суткі знаходжаньня на Акрэсьціна людзі, якія назваліся супрацоўнікамі МУС, правялі так званую «ідэалягічную гадзіну» з адзінаццацю затрыманымі ў часе пасьлявыбарнага пратэсту. Сярод іншага, у маладых людзей запыталіся: «Як на Вас паўплывала пазбаўленьне свабоды на 10 дзён — Вы перагледзелі свае інтарэсы й погляды?»

КУЗЬМІЧ: Адзін хлопец-студэнт адказаў: «Ведаеце, я палітыкай не цікавіўся — жыў сабе, займаўся нейкімі сваімі справамі. Але пасьля таго, як я тут адседзеў 10 сутак ні за што, калі мяне схапілі, нейкіх левых людзей як сьведкаў на суд прыцягнулі, якія левыя сьведчаньні казалі... Цяпер мая пазыцыя вельмі акрэсьленая — і ўсё, што адбылося, толькі падштурхоўвае!»





панядзелак, 17 красавіка 2006, 8:53

## В.САЎЧАНКАВА: ЯНЫ НАСАМРЭЧ АХОЎВАЮЦЬ АДНАГО ЧАЛАВЕКА, А НЕ НАРОД — 10 МІЛЬЁНАЎ

***Ігар Карней, Менск***

Студэнтка філялягічнага факультэту Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту Валерыя Саўчанкава ў намётавым лягеры была ад першага дня: удзень хадзіла на заняткі, а ўначы ішла на плошчу. Затрымалі яе пад раніцу 24 сакавіка.

Валерыя вырасла ў Воршы — горадзе, дзе да 1990-х гадоў існавалі тры турмы, а вязьніца для асабліва небясьпечных злачынцаў месьцілася ў самым цэнтры. Нярэдка сталае жыцьцё маладых аршанцаў пачыналася ў згаданых турмах. Абачлівыя бацькі, якія мусілі ганарыцца вузлавой чыгуначнай станцыяй, заўсёды імкнуліся выпхнуць дзяцей «у сьвет» — у Менск, Смаленск, у горшым выпадку ў Віцебск ці Магілёў.

Валерыя, якую я памятаю яшчэ зь першых клясаў школы, расла звычайнай, без заўважных прэтэнзіяў, дзяўчынкай. Нечаканасьцю стала, калі яна сама паехала «ў сьвет» і бяз блату паступіла ў БДУ. І ўжо ніяк не чакаў я ад яе рэвалюцыйных подзьвігаў.

Уначы 31 сакавіка, калі разам зь ейнай маці прыехаў сустракаць Леру пад сьцены Менскага раённага аддзяленьня міліцыі, убачыў зусім дарослую дзяўчыну — здавалася, нават ня стомленую 7 суткамі адседкі, на эмацыйным уздыме. Лера пяшчотна прыціскала да грудзей кімсьці падараваныя бел-чырвона-белыя гвазьдзікі. З усяго пражытага 19-гадовай дзяўчынай і ў марозныя ночы на плошчы, а затым і ў турме, невытлумачальнай для яе застаецца агрэсія спэцназаўцаў.

ВАЛЕРЫЯ: У іх каронная фішка была: «Теперь знайте, что

спецназ — это не кучка пи...сов». Усе гэтыя не «пі...сы» выйшлі са зброяй на маладых хлопцаў, але цэлая іх рота ня вартая аднаго нашага хлопца. Усе яны пры гэтым расказваюць, як стаяць за дзяржаву, бо давалі прысягу. А тое, што яны насамрэч ахоўваюць толькі аднаго чалавека (хоць з другога боку на вагах яшчэ 10 мільёнаў) — гэта дробязь. Праўда, ужо потым, калі нас у суд звозілі, міліцыянты пачалі пра сваё жыцьцё жаласьлівыя гісторыі расказваць. Некаторыя зь іх, мабыць, пачалі разумець, што міліцыя — з народам.

Маці Валерыі, прафэсійная швачка Вольга Саўчанкава, прыехала з Воршы ў Менск у дзень суду над дачкой — дагэтуль некалькі дзён увогуле ня ведала, дзе Валерыя. Ад панядзелка, калі былі вынесеныя прысуды, амаль тыдзень жыла ў сталіцы жыцьцём маці палітвязьня: парай словаў пасьпела перакінуцца з дачкой у судовай залі, а потым стаяла ў чэргах ля турэмных сьценаў, хадзіла на вулічныя нарады Камітэту палітрэпрэсаваных, наведвала дэканат у чаканьні дрэнных навінаў — ці не адлічылі, спрачалася зь людзьмі, якія абураліся паводзінамі дзяўчыны...

ВОЛЬГА САЎЧАНКАВА: Я пра ўсё даведалася, калі Лера ўжо сядзела ў турме. І пра тое, што яна была на плошчы, нават ня ведала. Тут, у Менску, я кантактавала зусім зь іншымі людзьмі. У Воршы стаўленьне да ўсяго, што адбывалася, адно, а ў Менску — палярна іншае. У Воршы ня столькі неразуменьне, колькі асуджэньне. Гэта вялізная розьніца, бо ў Воршы інфармацыя трапляе да людзей у асноўным толькі з тэлевізара. Ну, і суб’ектыўная ацэнка яшчэ. Аб’ектыўнай інфармацыі няма. Каму як скажаш, дык рэакцыя адна: «Што твая дурніца там рабіла? Ёй што, больш за ўсіх трэба, ці што?».

Сама ж Лера Саўчанкава добра ведае адказ на пытаньне: чаму звычайная дзяўчына з Воршы, разумеючы, што яе





за гэта можа чакаць жорсткае пакараньне, пайшла на плошчу?

ВАЛЕРЫЯ: Напэўна, усьведамленьне адбылося ўжо тут, у Менску. Калі паступіла ва ўнівэрсытэт, пачала кантактаваць зь людзьмі, якія разумеюць тое жыцьцё й як мы жывем. Напэўна, менавіта гэтыя людзі мяне натхнілі, у мяне расплюшчыліся вочы на ўсё, што адбываецца. І плошча — гэта быў рэальны крок да таго, каб зразумець, што ты з чымсьці ня згодны. А чаму пайшла? А чаму ўсе туды пайшлі? Таму што ў нашай краіне хочацца быць людзьмі, са сваім гонарам, мець волю, мець свабоду. Не баяцца сказаць штосьці, каб потым з-за гэтага ня мець непрыемнасьцяў.

аўторак, 18 красавіка 2006, 5:23

## А.МАКАЕЎ: НАЙЛЕПШАЯ АБАРОНА — ТОЕ, ШТО ЗА НАМІ ЗАКОН

***Радыё Свабода***

Аляксандар Макаеў, прадпрымальнік, які працуе на рынку будаўнічых матэрыялаў у Ждановічах і ўзначальвае Каардынацыйную раду прадпрымальнікаў сталіцы, трапіў на Акрэсьціна на 15 сутак. Гэта было ўжо другое затрыманьне Макаева, першы раз далі 10 сутак за арганізацыю страйку прадпрымальнікаў.

Аляксандру 36 гадоў, гадуе дваіх дзяцей. Як удзел у палітыцы ўплывае на сям’ю?

МАКАЕЎ: Пакуль што ніяк. Але тут ужо выбар, ведаеце, зроблены сэрцам. Найлепшая для нас абарона — тое, што за намі закон, за намі праўда. Але жонцы цяжка. Яна тут нэрвавалася... Гэта вялікі мой боль. Трэба ўвесь час шукаць кампрамісу, таму што сям’я патрабуе сілаў.

Сакавіцкі страйк 2005 году ўцягнуў А.Макаева ў прадпрымальніцкі рух. А што ўвогуле прадпрымальнікаў выводзіць на пратэст?

МАКАЕЎ: Мы стварылі гэты рух, зыходзячы менавіта з эканамічных рэаліяў. Нам улада замінала працаваць. Год вялі перамовы і ўпэўніліся, што ніякія эканамічныя свабоды не існуюць без палітычных свабодаў. Мы бачым: для адных ёсьць закон, а для другіх ён не пісаны. Для ўлады ён ня дзейнічае. Мы хочам права для ўсіх.

Але 19 і 25 сакавіка прадпрымальнікаў у пратэставай грамадзе было зусім няшмат. Аляксандар гэта тлумачыць ня толькі страхам за бізнэс, але і ўплывам часткі лідэраў прадпрымальнікаў.

МАКАЕЎ: З маіх знаёмых прадпрымальнікаў я бачыў на Акрэсьціна двух хлопцаў. Зь сяброў, на жаль, толькі пару чалавек выйшла. Хлопцы былі з рэгіёнаў, а зь Менску такіх актыўных былі адзінкі. Страх ёсьць у грамадзтве, у тым ліку й сярод прадпрымальнікаў. Ну, былі прадпрымальнікі, і дапамагалі. Некаторыя езьдзілі ноччу, сустракалі палітвязьняў і на Акрэсьціна, і ў Жодзіна, і на Старабарысаўскі тракт, развозілі па дамах. Але масавага выступу прадпрымальнікаў на плошчы не было. Я лічу, што гэты рух будзе шырыцца...

Сябра Аляксандра Ігар Леднік — былы бізнэсовец. Цяпер ён прадстаўнік праваабарончага руху «Наша Беларусь». Леднік таксама адбыў 10 сутак арышту. Агульную палітычную пасіўнасьць прадпрымальнікаў ён тлумачыць іначай.

ЛЕДНІК: Прадпрымальнікі, вядома, бачаць тую несправядлівасьць, якая існуе ў дзяржаве. Тым больш, што гэта іх закранае ў першую чаргу. Таму што ўсялякімі дэкрэтамі і ўказамі, па сутнасьці, адбіраецца іхная маёмасьць. І яны гатовыя б былі выйсьці, але, я лічу, тут не дапрацавана палітыкамі, ня створаная адпаведная палітычная сытуацыя...





Прадпрымальнікі — тая частка грамадзтва, якой сапраўды ёсьць што траціць. А.Макаеў цяпер стараецца працаваць як мага чысьцей. Ён упэўнены, што гэта дапаможа.

МАКАЕЎ: Калі зачыняць мяне, тады зачыняць, мабыць, усіх прадпрымальнікаў Беларусі... Пакуль што боязі няма. Мы прынцыпова законапаслухмяныя, падаткі плацім.

серада, 19 красавіка 2006, 8:23

## У СЯМ'І ЖЫЛІНСКІХ З РАГАЧОВА — ТРЫ БЫЛЫЯ ПАЛІТВЯЗЬНІ

***Міхал Стэльмак, Рагачоў***

Турэмным зьняволеньнем былі пакараныя ўсе дарослыя зь сям'і Жылінскіх з Рагачова. Жылінскія жывуць на вуліцы Савецкай. Вось што сказаў пра іх мясцовы жыхар Уладзімер Тамковіч.

ТАМКОВІЧ: Звычайная такая сям'я. Ён працаваў на заводзе «Дыяпраектар». Спачатку рабочым, а потым юрыстам. За погляды вымушаны быў звольніцца з заводу.

Гэта пра галаву сям'і Віктара Жылінскага.

ВІКТАР ЖЫЛІНСКІ: Я тут у Рагачове з 1989 году. Зьяўляюся прыхільнікам дэмакратычных пераменаў. Я ніколі не хаваў сваіх поглядаў.

Гэтыя погляды спачатку падзяліла Віктарава жонка Сьвятлана, а затым і дзеці — Кацярына й Кастусь. Усе яны бралі актыўны ўдзел у нядаўняй прэзыдэнцкай кампаніі. 18 сакавіка Віктара Жылінскага арыштавалі. Ягоная дачка Кацярына дагэтуль уражаная прычынамі зьняволеньня.

КАЦЯРЫНА ЖЫЛІНСКАЯ: Недзе а 12-й гадзіне майму бацьку патэлефанавалі з гарвыканкаму. Ён выйшаў з пад'езду, і яго ўжо чакалі людзі. Спэцыяльна для гэтага ўзялі чалавека, далі ў рукі бутэльку піва: ён як бы сутыкнуўся з маім бацькам, кінуў яму бутэльку пад ногі й пачаў нецэнзурна лаяцца. Ішлі два міліцыянты й затрымалі іх. На судзе майго бацьку абвінавацілі ў хуліганстве.

Віктара Жылінскага рагачоўскі суд арыштаваў на 7 сутак. Актывіста зьмясьцілі ў мясцовую турму. Пасьля гэтага ў Менску на Кастрычніцкай плошчы, дзе праходзіла апазыцыйная акцыя, пабываў ягоны непаўналетні сын Кастусь. Калі хлопец вярнуўся, у Менск на акцыю пратэсту паехалі жонка й дачка Віктара Жылінскага. Уначы з 23 на 24 сакавіка іх пры ліквідацыі намётавага лягеру затрымаў сталічны спэцназ.

СЬВЯТЛАНА ЖЫЛІНСКАЯ: У мяне пытаюцца: навошта ты туды паехала? Бо я ж ведала, чым гэта ўсё можа скончыцца. Страшна было адпускаць Кацю адну. І калі выехалі на плошчу гэтыя «скрыні» здаравенныя, аўтазакі, нават ня страшна было, а шкада, што гэта ўсё скончыцца — сьвята Свабоды... Так было добра на душы — я б стаяла там заўсёды! Каб нас не разагналі, стаяла б там, пакуль бы ні перамаглі. Трэба сказаць, што Каця ўвесь час стаяла ў ачапленьні гарадка. І мы ўвесь час былі побач — да самага суду. Потым ужо разьвялі...

Дарэчы, калі затрымлівалі на Кастрычніцкай плошчы Сьвятлану й Кацярыну, Віктар Жылінскі ўсё яшчэ знаходзіўся ў Рагачоўскай турме. Ці ведаў ён пра лёс родных?

ВІКТАР ЖЫЛІНСКІ: Не, ня ведаў. Гэта было для мяне сюрпрызам. Вядома, хваляваўся. Я выйшаў на волю 25-га, адразу пачаў шукаць: дзе, што, як? Праз інтэрнэт шукаў, пачаў тэлефанаваць сябрам, хто быў на волі. Бо частка сядзела. Асабліва ў Гомелі — кіраўнікі абласнога штабу





сядзелі. Праз інтэрнэт даведаўся пра сьпісы, дзе хто знаходзіцца. У панядзелак я паехаў ужо ў Менск, каб трапіць на суд да дачкі й жонкі. Потым дачку забраў у тры гадзіны ночы, у аўторак Каці далі 4 сутак. Ну а жонку ўжо забіраў у пятніцу.

чацьвер, 20 красавіка 2006, 8:44

## С.ГУДЗІЛІН: ТУРМА НЕ ЗЬМЯНІЛА НАСТРОЯЎ

***Міхал Стэльмак, Менск***

Больш за тры тыдні правёў за кратамі моладзевы актывіст з Жодзіна Сяржук Гудзілін. 18-гадовы Сяржук — адзін з актывістаў жодзінскай каманды лідэра аб'яднанай апазыцыі А.Мілінкевіча. У сярэдзіне сакавіка пры распаўсюджваньні агітацыйных матэрыялаў юнака затрымалі мясцовыя міліцыянты, ён быў зьвінавачаны ў хуліганскіх дзеяньнях. Суд пакараў Сержука 7 суткамі арышту.

ГУДЗІЛІН: У Жодзінскім ізалятары ўмовы, вядома, складаныя: адсутнасьць вэнтыляцыі, выводзяць у прыбіральню два разы на дзень — раніцай і ўвечары. Вельмі складана зь перадачамі — залежыць ад суб'ектыўнага стаўленьня дзяжурных. Адзін можа перадачу ўзяць і перадаць, другі — ня ўзяць. Нас пратрымалі паўтара сутак у Жодзіне й перавялі ў ізалятар Барысава. Яны матывавалі гэта тым, што няма месца — у Жодзіне толькі чатыры камэры.

З трывогай і надзеяй маці Сержука Алена Гудзіліна чакала выхаду сына на волю. Яе непакоілі наступствы зьняволеньня. Яшчэ некалькі гадоў таму Сержуку сьвяціла спартовая кар'ера. Ён паказваў выдатныя вынікі ў лёгкай атлетыцы, за што трапіў у рэспубліканскую спартовую школу. Там ён стаў кандыдатам у майстры спорту ў скачках у даўжыню. Аднак затым напаткала траўма, другая,

трэцяя... Гудзілін паступіў у прафэсійна-тэхнічную вучэльню. Спадарыня Алена меркавала, што пасьля кратаў сын і ягоныя сябры Яўген Ваўкавец і Алесь Чырэйка кінуць ранейшае.

ГУДЗІЛІНА: Я ім тут чытала мараль, што нідзе той праўды няма — дарэмныя вашы намаганьні. А яны мне: усё роўна Мілінкевіч будзе!

Жанчыне не ўдалося пераканаць хлопцаў, што марнае іх змаганьне за перамены. Як толькі пачаліся мітынгі ў Менску, юнакі прыехалі на Кастрычніцкую плошчу. У ноч з 23 на 24 сакавіка Сержука Гудзіліна затрымалі разам зь іншымі абаронцамі намётавага лягеру. Другое пакараньне было больш працяглае — 15 сутак арышту. Іх Сяржук адбываў у турме на Акрэсьціна. Але й гэтая турма не зьмяніла настрояў хлопца.

ГУДЗІЛІН: Усё добра. У маёй навучальнай установе была дамова з дырэктаратам, што яканчаю яе датэрмінова. Калі атрымаю дыплём, буду рыхтавацца да паступленьня ў вышэйшую навучальную ўстанову. Буду здаваць цэнтралізаванае тэставаньне. Калі не атрымаецца, то ёсьць магчымасьць навучаньня за мяжою. Цяпер займаемся раскруткай інфармацыйнага сайту. Потым сядзем за больш сур'ёзную працу — будзем пісаць стратэгію разьвіцьця Жодзінскага рэгіёну ўва ўсіх сфэрах і рэалізоўваць яе як падмурак да мясцовых выбараў 2007 году.

Сябра й аднадумца Сержука Гудзіліна Яўген Ваўкавец кажа, што Сяржук словаў на вецер ня кідае.

ВАЎКАВЕЦ: Гэта мэтанакіраваны чалавек. І цяпер, калі ён працуе, то ў яго ёсьць канкрэтная мэта, і ён да яе дойдзе.





пятніца, 21 красавіка 2006, 5:41

## К.УСЯНОК: ЛЮДЗЕЙ, У ЯКІХ ВОЛЬНЫ ДУХ, НЕЛЬГА ПРЫВЕСЬЦІ ДА АДНАГО СТАНДАРТУ

***Алег Грузьдзіловіч, Менск***

Сярод абаронцаў намётавага лягеру на Кастрычніцкай плошчы пераважалі студэнты й навучэнцы. Але там былі й прадпрымальнікі, інжынэры... Цяпер дакладна вядома, што быў на плошчы й свой цырульнік.

Калі амапаўцы схапілі 21-гадовага Канстанціна Ўсянка, то знайшлі ў ягонай торбе прафэсійныя нажніцы. Імі міліцыянт і адрэзаў хлопцу некалькі пасмаў валасоў. Шмат хто быў сьведкам таго інцыдэнту. Але Рамана Вахрамеева, затрыманага каля плошчы разам з Канстанцінам, найбольш уразіла тое, што адбылося на хвіліну раней.

ВАХРАМЕЕЎ: На Косьцю была надзетая майка з надпісам «Stop terror in Belarus». У міліцэйскім аўтобусе амапавец адразу да яго прычапіўся, пачаў біць, сарваў гэтую майку, разарваў яе на шматкі й загадаў зьесьці. Косьця супраціўляўся, і тады амапавец пачаў запіхваць шматкі яму ў рот. Магчыма, нешта яму пашкодзіў, бо Косьця потым у камэры тры дні ня мог нармальна есьці й піць.

Раней Раман Канстанціна ня ведаў. Згадаў толькі, што да сустрэчы ў міліцэйскім аўтобусе бачыў яго на плошчы зь бел-чырвона-белым сьцягам. Яшчэ ўразіла, што на судзе Канстанцін не адмаўляўся ад удзелу ў падзеях на плошчы, а з амапаўцамі размаўляў заўсёды спакойна ды з годнасьцю. Новага свайго сябра Раман атэстоўвае так.

ВАХРАМЕЕЎ: Я б сказаў, што ён не адсюль, а аднекуль з Эўропы, зь Нямеччыны...

21-гадовы Канстанцін Усянок працуе цырульнікам у салёне прыгажосьці. Кажа, што яго за 10-дзённую там ад-

сутнасьць не каралі, наадварот, маральна падтрымалі. Актыўна ў апазыцыйным руху раней ня ўдзельнічаў, пра што цяпер шкадуе. Расказвае Павал Пазьняк, які разам з Канстанцінам калісьці займаўся плаваньнем у Доме афіцэраў.

ПАЗЬНЯК: Ён там працуе непадалёк. Відаць, ішоў побач, зацікавіўся й вырашыў зноў кінуцца ў гэты натоўп. А я б туды ніколі не пайшоў. Проста я ўжо лянівы, а зь яго яшчэ энэргія б'е.

Але актывіст «Маладога фронту» Зьміцер Дашкевіч, разам зь якім Канстанцін сядзеў у турме, кажа: гэты хлопец з тых, хто сьвядома абірае свой шлях.

ДАШКЕВІЧ: Трымаўся ён вельмі прыстойна, нават весела. Мяркую, гэтыя падзеі значна паўплывалі на ягонае далейшае жыцьцё. Я зь ім ужо сустракаўся пасьля таго, як нас вызвалілі, ён стаў больш актыўны. Мяркую, шмат на што яму расплюшчыліся вочы.

Пры размове з Косьцем Усянком я ня мог не спытаць, ці былі нечым адметныя, на яго думку, фрызуры абаронцаў лягеру? Малады спэцыяліст адразу згадаў пра фатаздымкі амэрыканскіх адналеткаў 1960-х гадоў.

УСЯНОК: Людзі, у якіх вольны дух, ніколі ня будуць паддавацца на штампы і ўраўноўваньні. Такіх людзей немагчыма прывесьці да аднаго стандарту.

з в а н к і  н а  «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Я — мама няпоўнагадовага хлопчыка Віктара, які аказаўся на Акрэсьціна. Я думаю, што нам, дарослым беларусам, мусіць быць сорамна, што ня мы выйшлі абараняць свае правы й чалавечую годнасьць, а нашы дзеці. Яны падставілі свае, яшчэ кволыя, плечы, каб абараніць нашу свабоду. Можа, мы, дарослыя грамадзяне, нарэшце ўжо задумаемся над тым, што з намі робіцца.*





панядзелак, 24 красавіка 2006, 6:42

## А.ГРАБЛЕЎСКІ: АДНЫХ ТЭРМАСАЎ ТАМ СТАЯЛІ СОТНІ

***Радыё Свабода***

На Кастрычніцкую плошчу ў намётавы лягер паехаў і трыццацігадовы юрыст з Воршы Алег Граблеўскі.

ГРАБЛЕЎСКІ: Мне хацелася ўбачыць людзей, якія не збаяліся, ведаючы, колькі тэхнікі туды было нагнана, колькі міліцыянтаў. І заява Сухарэнкі, што вы, маўляў, сядзеце ў турму за тэрарыстычную дзейнасьць, яна мяне так абурыла й падмацавала жаданьне ісьці туды!

Алег Граблеўскі кажа, што прыкладна з такімі ж думкамі ехаў у 2004 годзе на кіеўскі Майдан. Самае моцнае ўражаньне, паводле ягоных словаў, — гэта адчуваньне еднасьці пратэстоўцаў і іхных землякоў, гатовых прынесьці на Майдан апошняе, што ў іх ёсьць. У сакавіку 2006 году тое самае Алег адчуў і на Кастрычніцкай плошчы.

ГРАБЛЕЎСКІ: Людзі проста прыходзілі й пыталіся: што вам трэба? Адных тэрмасаў там стаялі сотні! І я асабіста нават такое назіраў: стаіць спэцназавец і кажа: «Вось сволачы, яны там ядуць, а нам за суткі толькі сто грамаў рысу далі!» Дзяўчаты нашы гатавалі каву, гарбату. Усе мужчыны стаялі ў ачапленьні, а бабулькі сталага веку зранку і ўвечары прыбіралі сьмецьце, нават за спэцназаўцам недапалкі прыбіралі. І я ня бачыў там ніякіх «наркаманаў ды радыкальных алькаголікаў», «статку маладых адмарозкаў», як выказаўся Зімоўскі.

Рэпартажы БТ Алегу паглядзець не давялося: на той час ён ужо быў на Акрэсьціна. Гэта ягоная жонка, Алеся, застаўшыся дома з двума дзецьмі — сямігадовым Хведарам і паўтарагадовым Сьцяпанам — углядалася ў тэлевізійны экран, спадзеючыся ўбачыць мужа. А ёй паказвалі зусім іншае.

ГРАБЛЕЎСКАЯ: Шпрыц там быў такі, як Маргунову ад яшчуру прышчэпку рабілі! Такі шпрыц там паказалі. А што зь людзьмі сталася, дык нічога не сказалі! Білі ці ня білі? Ці ён жывы, ці адбілі што? А пасьля высьветлілася, што на марозе столькі трымалі! Ён, як прыехаў, казаў, што ныркі яму нешта баляць — можа, падстудзіў трохі…

Алегу Граблеўскаму далі 10 сутак. Юрыст Свабоднага прафсаюзу зь вялікім судовым досьведам абароны чужых правоў, ён кажа, што даводзілася толькі дзівіцца ўбачанаму ды пачутаму на ўласным працэсе ў Партызанскім судзе.

ГРАБЛЕЎСКІ: Судзьдзя запытала, ці патрэбны мне адвакат. Адказваю: «Канечне!» Тут жа сядзіць адвакат з пачкам квіткоў на аплату… Я пачынаю яму гаварыць пра нормы права — пра тое, як мы будзем бараніцца. А ён паглядзеў на мяне ды кажа: «Ты што, ня ведаеш, супраць каго ты пайшоў? Якая табе абарона! Давай, пайшлі хутчэй!» І ўвесь працэс прайшоў за сем хвілінаў. Мне гэта было вельмі цікава з прафэсійнага гледзішча!

Сёньня Алесі ўжо здаецца, што тых 10 сутак на Акрэсьціна нібыта й не было. Алег, як звычайна, працуе за кампутарам, старэйшы сын — у школе, а меншы сядзіць у яе на руках. Ён яшчэ ня ўмее размаўляць, хаця й дужа імкнецца ўставіць у матчыны ўспаміны сваё слова.

ГРАБЛЕЎСКАЯ: Як заходзіла ў бухгальтэрыю плаціць грошы за свайго вязьня, дык выйшаў мужчына, каб абвестку нам нейкую зрабіць, і пытаецца: «Хто ў вас сядзіць?» Кажу: «Муж». А ён: «Дык як жа Вы яго адпусьцілі? А самі што?» «Сама, — кажу, — зь дзецьмі сяджу, двое дзяцей на руках». Пытаецца: «А каб ня дзеці, таксама б паехалі?» «Канечне!» — адказваю. Ён так паглядзеў на мяне, і ў вачах чыталася: «Ну, канец гэтаму рэжыму, неўзабаве нешта зьменіцца!»





аўторак, 25 красавіка 2006, 8:11

## В.ГРЫНЧЫК: ТАКОЙ КАМПАНІІ Ў АДНЫМ МЕСЦЫ НЕ СПАТКАЕШ ВА ЎСЁЙ БЕЛАРУСІ

***Міхал Стэльмак, Менск***

Менскі праграміст Віктар Грынчык стаў палітвязьнем у 19 гадоў. Віктар — прыроджаны тэхнар. Паводле сваякоў, большую частку дня ён праводзіць за кампутарам.

ВІКТАР ГРЫНЧЫК: Я займаюся праграмаваньнем. Гэта мая справа, мой бізнэс. Вучыўся ў каледжы сувязі, потым адтуль сышоў. Цяпер сярэднюю адукацыю атрымліваю ў вечаровай школе, потым буду паступаць у БДУІР.

Пра акцыю на Кастрычніцкай плошчы Віктар даведаўся з навінаў незалежных інтэрнэт-сайтаў. Юнак вырашыў пабачыць пратэст на свае вочы. Акцыя ўзрушыла, і ён штодня пачаў прыяжджаць на плошчу. Цётка Віктара Галіна Дайнэка прыгадвае.

ДАЙНЭКА: Атрымалася, што ён застаўся толькі ў апошнюю ноч. Мы не маглі яго адгаварыць, таму што ён стаяў у шэрагах. Побач такія ж хлопцы. Мы ежу прыносілі. У адну ноч яго забраў бацька — прыехаў на машыне. А ў гэтую ён стаў, і было відаць, што ён ня пойдзе. Як мы яго маглі адгаворваць, гледзячы ў твары гэтых маладых хлопцаў?!

Учынак Віктара наўрад ці быў выпадковым. У сям'і, дзе ён рос, у асяродзьдзі сваякоў і блізкіх да свабодалюбных ідэяў ставяцца як да вялікай каштоўнасьці. Гаворыць маці юнака Лілія Грынчык.

ЛІЛІЯ ГРЫНЧЫК: Дзеці гэтыя каму пагражалі?! Проста яны хацелі выказаць сваё меркаваньне. Яны там не сталі п'яныя, як гэта апісвалі. Стаялі са сьвечкамі, з шарыкамі, з плякатамі. І за гэта хіба трэба было хапаць? Ужо страшна. У нас такое пачуцьцё, што можа стаць, як пры Сталіну. Што будуць саджаць і саджаць…

За ўдзел у акцыі суд пакараў Віктара Грынчыка 12 суткамі арышту, якія ён адбываў у Жодзінскай турме. Зьняволеньне не зламіла хлопца. Там ён знайшоў шмат аднадумцаў.

ВІКТАР ГРЫНЧЫК: Было самае прыемнае тое, што з кім бы ты там ні дачыняўся, усё роўна адчувалася адзінства. Людзі там былі зьяднаныя адной ідэяй. Мы там разумелі адзін аднаго з паўслова. Такой кампаніі ў адным месцы, напэўна, нідзе не спаткаеш ва ўсёй Беларусі. Толькі, можа, хіба што яшчэ была такая на плошчы, дзе сабраліся людзі, вартыя павагі й вельмі каштоўныя.

серада, 26 красавіка 2006, 8:42

## Ю.СІДУН: ЦЯПЕР Я ВЕДАЮ, ШТО СТРАШНАГА Ў ГЭТЫМ НІЧОГА НЯМА

***Радыё Свабода***

Юрась Сідун — дызайнэр, адзін з супрацоўнікаў інтэрнэт-рэсурсу studenty.by. Юрася затрымалі ў першую ноч існаваньня намётавага лягеру, разам зь ягонай сяброўкай Вольгай Кузьміч. Дзесяць сутак, пакуль знаходзіўся на Акрэсьціна, Юрась пакутаваў ад невядомасьці. Ён ня ведаў, што сталася зь ягонай Вольгай — колькі ёй далі сутак, дзе яна знаходзіцца, ці даходзяць ёй перадачы. Да таго ж у іхнай хаце засталіся котка й два папугаі. Перадаць ключы было немагчыма. Тым часам сваякі ня мелі інфармацыі пра затрыманых. Распавядае сястра Юрася, Хрысьціна Сідун.

ХРЫСЬЦІНА: У судах катэгарычна сьцьвярджалі, што нікога з затрыманых прывозіць ня будуць… Мабыць, інтуіцыя падказала, і, знаходзячыся ў судзе Цэнтральнага раёну, я вырашыла пачакаць да апошняга… І дачакалася. Апошнім





аўтобусам прывезьлі й Юрку. Сказаўшы, што пра гэтых людзей наагул забыліся, нават пратаколаў на іх няма.

На судзе Юрасю ўдалося ўсё ж перадаць ключы ад кватэры. Хрысьціна кажа: нягледзячы на нэрвовае напружаньне, за 10 сутак зьняволеньня брата й ягонай сяброўкі былі й станоўчыя эмоцыі.

ХРЫСЬЦІНА: Уразіла, колькі сяброў, высьветлілася, і ў мяне, і ў Юркі, і ў Волі… Я нават не чакала! Людзі, зь якімі мы проста некалькі разоў кантактавалі-сутыкаліся, якіх я не лічыла блізкімі сябрамі, тэлефанавалі й рэальна дапамагалі… Мы дамаўляліся, займалі чаргу, каб перадаць перадачу, а пятай раніцы. Мяняліся, перадавалі, потым нехта падвозіў…

На думку Юрася, улада меркавала запужаць людзей арыштамі. Але дамаглася цалкам супрацьлеглага выніку.

ЮРАСЬ: Адзін хлопец, які быў са мной у камэры, таксаваў уначы. Ехаў міма плошчы — яго затрымалі. Разам з даішнікамі прыехаў на Акрэсьціна. Яму далі 12 сутак, сказаўшы, што ён выкрыкваў стандартныя лёзунгі «Ганьба» й гэтак далей. Праз гэтыя суткі хлопец выйшаў на волю зусім іншым чалавекам — пачаў прапаноўваць нейкія свае цікавыя акцыі.

Магчыма, мяркуе Юрась, гэткім мэтамарфозам спрыялі сэмінары на тэму палітадукацыі, якія ладзіў Алесь Янукевіч, намесьнік старшыні БНФ.

ЮРАСЬ: Грамадзтва вельмі моцна зьмянілася. Гэтыя масавыя арышты зрабілі нашмат горш уладам, чым тым, хто сядзеў на Акрэсьціна. Людзі выходзілі з Акрэсьціна зусім зь іншым поглядам на жыцьцё й сытуацыю ў Беларусі. Мяне асабіста заўсёды стрымліваў фактар: маўляў, затрымаюць. Цяпер я ведаю, што страшнага й жахлівага ў гэтым нічога няма. Будуць яшчэ суткі — значыць, будуць. Спакойна да гэтага стаўлюся.

чацьвер, 27 красавіка 2006, 9:08

## А.СЮДАК: Я ІШОЎ ПА ГОРАДЗЕ. ЯНЫ МЯНЕ ЗАТРЫМАЛІ

***Міхал Стэльмак, Менск***

Палітвязьнем менскай турмы на Акрэсьціна больш за два тыдні быў і 25-гадовы дэмакратычны актывіст зь Вялейкі Аляксей Сюдак. Пасьля фінішу агітацыйнай кампаніі за Мілінкевіча Аляксей падаўся ў сталіцу. Але сувязь зь ім тут раптоўна абарвалася. Больш як суткі пра яго нічога не было чуваць. Пра тое, што адбылося, Аляксей змог распавесьці значна пазьней.

СЮДАК: Там не зусім зразумелая сытуацыя. Я ішоў па горадзе, і аднекуль мяне пільнавалі. Яны мяне затрымалі…

Аляксей Сюдак — асоба ў Вялейцы вядомая. Тут ён узначальвае суполку Партыі БНФ. Паводле кіраўніка вялейскай суполкі АГП Уладзімера Малярчука, Аляксей — лідэр аўтарытэтны, найперш сярод мясцовай актыўнай моладзі.

МАЛЯРЧУК: Таму што ён пастаянна чымсьці цікавіцца, ён захоплены барацьбой за законнасьць, за праўду. Ён прыцягвае іншых…

Віталь Паўлоўскі — яшчэ адзін вялейскі сябра Аляксея. Ён лічыць, што дэмакратычныя погляды паплечніка сфармаваліся ў юнацтве.

ПАЎЛОЎСКІ: Ён наагул выйшаў са скаўтаў. У 1994 годзе пры маім удзеле была створаная скаўцкая арганізацыя. Ён быў тады яшчэ вучнем, прыйшоў у скаўцкую арганізацыю, і, як мяркую, яна зрабіла ўплыў на ягоную сьвядомасьць, жыцьцёвы выбар. Скаўцкая арганізацыя выдавала газэту. І цяпер ён, калі падрос, пачаў выдаваць газэту «Волат». Гэта гістарычная газэта.

Захапленьне гісторыяй адбілася на выбары прафэсіі.





Аляксей заканчвае завочнае навучаньне ў менскім пэдагагічным унівэрсытэце, ён будучы настаўнік гісторыі. Аднак ці дазволяць вялейскаму актывісту выкладаць у цяперашняй беларускай школе? Першая спроба працаваць выкладчыкам не ўдалася.

СЮДАК: Я працаваў у базавай вясковай школе. Маленькія школы, паводле пляну, закрываліся й звозіліся ў адну вялікую. У тым ліку закрылі й маю, дзе правёў чатыры гады.

Пасьля гэтага Аляксей быў нейкі час беспрацоўным, а затым уладкаваўся ў прадпрымальніцкую структуру. Але вернемся да яго сакавіцкага затрыманьня.

СЮДАК: Самае цікавае на 25 сакавіка было, калі Казулін вёў людзей да Акрэсьціна. Я тады знаходзіўся ў камэры, вокны якой выходзілі ў двор. Сюды загналі спэцназ — з аўтаматамі, пісталетамі. Загналі туды два аўтамабілі накшталт «хамэраў» — гэта аўтамабілі расейскай вытворчасьці, «тыгры». Міліцыянты стаялі зь непрабіўнымі шчытамі. Мы разумелі, што адбываецца нешта сур'ёзнае, што, відаць, людзі ідуць сюды, хаця мы й ня ведалі, што яны ідуць. Уражаньні: вельмі шмат там файных людзей сядзела. Мяне перакідвалі з камэры ў камэру, і я пазнаёміўся са шмат якімі людзьмі.

пятніца, 28 красавіка 2006, 6:51

## З.ЛАПЦЁНАК: ШКАДА, ШТО ЗАМЕСТ ДЫСКУСІІ АДБЫВАЕЦЦА ГВАЛТ

***Юлія Шарова, Менск***

Супрацоўнік прыватнай фірмы, праграміст і вядомы ў Беларусі эспэрантыст Зьміцер Лапцёнак быў затрыманы ў намётавым лягеры ноччу 24 сакавіка. За ўдзел у акцыі яму давялося адседзець у Жодзіне 15 сутак.

Зьміцер ніколі ня быў рэвалюцыянэрам. Жыў звычайным жыцьцём: працаваў, катаўся на ровары, хадзіў на канцэрты беларускіх рок-гуртоў, перакладаў на эспэранта клясыкаў беларускай літаратуры. Некалькі разоў хадзіў на «Чарнобыльскі шлях», але, як сам кажа, «для масавасьці». На Кастрычніцкай плошчы апынуўся, сам ня ведаючы як.

ЛАПЦЁНАК: Нейкага рацыянальнага тлумачэньня ня маю. Проста душа паклікала: трэба прыйсьці, трэба быць, каб на аднаго чалавека болей, дапамагчы людзям стаяць. Ну й паказаць, што я іх падтрымліваю, што гэта таксама мая думка, што гэты пратэст — і мой пратэст.

Зьміцер кажа, што адчуваньне страху ў шмат якіх удзельнікаў акцыі было толькі тады, калі ўласна зьліквідоўвалі намётавы лягер. Потым ужо ня страшна.

ЛАПЦЁНАК: Я больш упэўніўся, што справа свабоды вартая, трэба й далей гэтак рухацца. І даведаўся пра тое, што турма — гэта ня страшна, гэта не балюча, таму ня трэба баяцца выходзіць на плошчу ці паказваць свае перакананьні. Ня трэба баяцца, што пасьля гэтага будзе турма. Гэта ня самае горшае, што можа здарыцца ў жыцьці чалавека.

У камэры, дзе Зьміцер сядзеў зь іншымі вязьнямі, гулялі моцныя скразьнякі. Калі на дварэ было халодна, то й людзі ў камэры мерзьлі. Калі надвор'е выдавалася сонечным, дык у камэры не было чым дыхаць — усе бяз вынятку прастылі й захварэлі, хоць і ня надта сур'ёзна. Але на колькі дзён да іх пасадзілі хлопца-астматыка: судзьдзя ня ўзяў пад увагу тое, што чалавек з такой хваробай можа загінуць у любы момант, асабліва ў такіх умовах, і даў хлопцу максымальны тэрмін — 15 сутак.

Даша Каткоўская ў акцыі апазыцыі ня ўдзельнічала, але яна разам зь некалькімі энтузіястамі дапамагала зьняволеным, якія трапілі на Акрэсьціна і ў Жодзіна. Са Зьмітром Лапцёнкам яна была раней крыху знаёмая з інтэрнэт-блогаў. Калі зь ім здарылася бяда, прывезла ў Жодзіна перадачу. Кажа, што такія мужчыны, як Зьміцер, ёй проста падабаюцца.





ДАША: Я вельмі люблю такіх сур'ёзных, сталых хлопцаў, якія ня вельмі шмат гавораць, але сапраўды ведаюць, чаго хочуць. Па іх адразу відаць, што ў іх вельмі глыбокі ўнутраны сьвет, цікавы для ўсіх.

Прыяцелька Зьмітра Віка таксама спачувала акцыі на Кастрычніцкай плошчы — колькі разоў яе затрымлівалі за спробу пранесьці ў намётавы лягер цёплыя рэчы й ежу, але на Акрэсьціна не забіралі. Калі Зьмітра выпусьцілі з Жодзінскага ізалятару — гэта адбылося ўначы — Віка прыехала па яго зь Менску й прывезла дадому.

ВІКА: Уласна кажучы, я ад Зьмітра не чакала такой сьмеласьці, такой адвагі, такой мужнасьці й такога напору нейкага, зусім неверагоднага, такога мужчынскага. І было мне вельмі прыемна, што сярод маіх знаёмых ёсьць такі чалавек. Уразіў мяне сьмеласьцю, заразіў мяне ёю, навучыў не баяцца, навучыў мяне глядзець у вочы небясьпецы. Я ганаруся тым, што знаёмая зь ім.

Зьміцер даўно займаецца эспэранта, перакладае на гэтую мову творы беларускіх пісьменьнікаў — Караткевіча, Арлова, Глёбуса. Мае сяброў-эспэрантыстаў у самых розных краінах сьвету: праз пераклады Лапцёнка жыхары Нямеччыны й Кітаю, Бразыліі й Злучаных Штатаў даведваюцца пра Беларусь і ейную культуру. Калі ён напісаў на эспэранта свае нататкі пра Кастрычніцкую плошчу, ягоныя замежныя сябры былі ўзрушаныя.

ЛАПЦЁНАК: Некаторыя людзі, якія больш цікавяцца гісторыяй ці палітыкай, яны папросту параўноўваюць з Чылі, з Аргентынай, зь іншымі дыктатарскімі рэжымамі й кажуць: шкада, канечне, што ў нашае такое прагрэсіўнае стагодзьдзе яшчэ застаюцца краіны, у якіх замест дыскусіі адбываецца гвалт.

аўторак, 2 траўня 2006, 8:39

## УДЗЕЛЬНІКІ ПЛОШЧЫ — СЯМ'Я ШЫЛАЎ

***Міхал Стэльмак, Салігорск***

Актыўнымі ўдзельнікамі акцыі на Кастрычніцкай плошчы ў Менску была салігорская сям'я Шылаў. Шылаў — чацьвёра. Уладзімер — галава сям'і, ягоная жонка Сьвятлана й два іх сыны: 15-гадовы Іван і 13-гадовы Ільля. У сакавіку ўсе яны неаднаразова выяжджалі ў Менск, у намётавы лягер.

СЬВЯТЛАНА: Мы й 19-га туды езьдзілі, і 20-га там былі. Езьдзілі й вярталіся назад, бо на працу трэба было. І потым муж выканаў сваю працу й разам з хлопцамі вярнуўся на плошчу. А я, вядома, засталася дома, бо ў нас жывёлы ёсьць, якіх кінуць нельга.

У ноч з 23 на 24 сакавіка на Кастрычніцкай плошчы знаходзіліся трое Шылаў — бацька з сынамі.

ІВАН: Нас затрымалі, у розных машынах везьлі на Акрэсьціна. Мы як непаўналетнія былі ў спэцыяльным корпусе, а бацька патрапіў спачатку на Акрэсьціна, а потым у Жодзіна.

Уладзімеру Шылу прысудзілі 10 сутак арышту. Чым запомнілася Жодзінская турма?

УЛАДЗІМЕР: Запомніліся людзі, зь якімі я там апынуўся разам, клетка, у якой сядзеў. Я наагул першы раз апынуўся за кратамі, я думаў, што праз акно нешта хоць відаць, але там жа такія жалюзі, празь якія нічога наагул не відаць.

На турэмныя адметнасьці ва Ўладзімера прафэсійны погляд. Ён інжынэр-будаўнік. Як, дарэчы, і Сьвятлана. А вось дзеці пакуль школьнікі. Ці задаволеныя імі бацькі?

СЬВЯТЛАНА: Ільля больш паслухмяны, Ваня вельмі калючы. Начытаны: ён у асноўным чытае беларускія часопісы. Ён, канечне, вельмі цікавіцца гісторыяй. Запамінае добра. Ён удзельнічае ў алімпіядах, у яго гісторыя ідзе на высокую адзнаку. Але я думаю, што ён усё-ткі тэхнар — у яго аднолькавыя здольнасьці.

Між тым, школьнае начальства Івана ня любіць. Ён — актывіст незарэгістраванай арганізацыі «Малады фронт», і большасьць моладзевых акцыяў праходзіць у Салігорску пры ягоным удзеле. За гэта мясцовая міліцыя затрымлівала хлопца дзясяткі разоў.

А вось што думае пра сыноў бацька.

УЛАДЗІМЕР: Ільля — вельмі арганізаваны такі, яго ня трэба правяраць: зрабіў ён урокі ці не. Ільлю яшчэ трынаццаць гадоў, але, можа, Ванеў прыклад яго спакусіў на такія вось актыўныя дзеяньні. Таму што для мяне таксама было нечаканым, што Ільля возьме такі актыўны ўдзел. Ён жа таксама ўсё разумее, што адбываецца з намі, з краінаю. Калі нас выклікаюць на камісіі, калі размаўляю з дырэктарам школы, я ім кажу стандартную рэч, што хворы ня я, не мае дзеці, а хворая — краіна.

А яшчэ Ільля — здольны футбаліст. Ён — капітан моладзевага складу салігорскага «Шахтару», дарослая каманда якога летась стала чэмпіёнам Беларусі.

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАРЫНЯ: Хачу зьвярнуцца да Аляксандра Рыгоравіча праз вашае радыё. Я пэнсіянэрка, ня вашая прыхільніца, але й не праціўніца. На выбары не хаджу, няма сэнсу. Але хачу вам параіць. Праявіце міласэрнасьць, адпусьціце Казуліна без суду й сьледзтва, тым больш, што сказаў ён праўду. І скажыце яму «дзякуй», бо ніхто з вашых набліжаных праўды пра вас ня скажа. Адмоўцеся ад інаўгурацыі. Якая можа быць інаўгурацыя пасьля таго, што адбылося!*

серада, 3 траўня 2006, 8:25

## Д.АРАСТОВІЧ: МЯНЕ СУСТРАКАЛІ З КВЕТКАМІ

***Радыё Свабода***

На плошчу студэнтка другога курсу Беларускага тэхналягічнага ўнівэрсытэту Дарына Арастовіч хадзіла штодня, а забралі яе напярэдадні разгону намётавага лягеру.

ДАРЫНА: Думала, з раніцы прывезьці каву й гарбату, але праспала. Прачнулася, кажу маме: «Так няёмка, што праспала...» А яна мне: «А ну хутчэй на плошчу, цябе там людзі чакаюць, халодныя, галодныя!» Карацей, выправіла мяне хутчэй. Я хадзіла, налівала гарбату, калі да мяне падышлі двое ў цывільным. Сказалі: «Зьбірай рэчы — і за намі!» Тут нас пачаў здымаць нейкі рэпартэр, людзі закрычалі: «Ганьба!» — і я адбегла да лягеру. А потым трэба было ехаць на вучобу. Мне казалі: шукай рэпартэра, зь ім цябе не затрымаюць. Але я не знайшла, пайшлі да мэтро разам зь нейкім хлопцам. Падышлі ўжо да падземкі, хлопец ужо радаваўся, расказваў: «Я так баяўся да лягеру падыходзіць, у мяне пяты курс, праца, вось — першы дзень як рашыўся, пастаяў дзесяць хвілінаў. Ну ўсё, ужо мэтро, ужо не забяруць...» І тут якраз падкраліся ў цывільным, сказалі: «Ціха! У аўтобус!»

Дарына — будучая архітэктарка, апынулася на Акрэсьціна. У судзе нават быў нейкі сьведка, які паказаў, што дзяўчына хуліганіла. Пакуль гэты чалавек распавядаў пра «злачынствы» студэнткі, у яго з-пад швэдра вывалілася пляшка віна. Нават судзьдзі, кажа Дарына, стала няёмка. Але 10 сутак ёй выпісалі. Праўда, да прысуду дзяўчына паставілася спакойна.

ДАРЫНА: У мяне брат раней адседзеў суткі. Тата таксама праз гэта прайшоў. Тата мой — сябра партыі «Народная Грамада». Бацькі з раньняга дзяцінства пачалі мяне





вадзіць з сабой на мітынгі. Розную літаратуру давалі чытаць. Так што потым я пачала хадзіць на гэтыя мерапрыемствы самастойна. Усё гэта на мяне паўплывала.

Дарына расказвае, што ейная сям'я пацярпела за свае погляды. Калісьці ў маці была вельмі добрая праца, але пасьля таго, як яна ўзяла ўдзел у адным з «Чарнобыльскіх шляхоў» — звольнілі. Потым не адзін год шукала месца, цяпер працуе недзе лябаранткай. Бацьку, які меў прафэсійнае захворваньне — траціў голас, паставілі ва ўнівэрсытэце перад выбарам: ці працуеш напоўніцу, ці звольнім! Цяпер вучоба самой Дарыны пад пагрозай. Далі ўжо вымову й папярэдзілі, што ўдзел у намётавым лягеры будуць пастаянна мець на ўвазе. Але аптымізму сям'ю Арастовічаў гэтыя здарэньні не пазбавілі. Расказвае бацька дзяўчыны, спадар Алесь.

АЛЕСЬ: Відаць, ад маіх бацькоў пайшла гэтая цяга да свабоды. Сам я стаў сябрам апазыцыйнай партыі. Дачка мая таксама прагне свабоды. Характар у маёй дачкі цудоўны. Яна сапраўдная патрыётка. Вельмі яе люблю. І ганаруся ёй!

Спадар Арастовіч лічыць, што выхаваў дзяўчыну вельмі добра: яна зь пяці гадоў танцуе ў фальклёрна-харэаграфічным ансамблі «Зорачка», вучылася ў беларускай школе, ведае, што такое культура й да чаго трэба ісьці беларусам.

Любоў Арастовіч, маці Дарыны, расказвае пра свае пачуцьці, калі Дарына пазваніла й паведаміла прысуд.

ЛЮБОЎ: Што я адчувала? Крыўду, прыкрасьць, боль... А калі даведалася, што ёй афіцыйна прыпісвалася, — злосьць на ўлады за хлусьню. У мяне вельмі добрая дачка! І я ганаруся, што яна ўдзельнічала ў мерапрыемствах на плошчы. І спадзяюся, што яна так і далей годна будзе сябе паводзіць.

Такую згоду ў сям'і Дарына лічыць нормай.

ДАРЫНА: Для мяне гэта звычайна. І мае сябры, і сябры маёй сям'і — усе такія! Я ж таксама не хацела сядзець! Калі мяне засудзілі, датэлефанавалася дадому. Бацька сказаў: ну што ж, добра, адседзіш… А сустракалі мяне з кветкамі.

чацьвер, 4 траўня 2006, 9:16

## А.СТРАЛЬЦОЎ: МЫ БЫЛІ ГАТОВЫЯ ДА САМАГА ГОРШАГА

***Галіна Абакунчык, Менск***

Сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Алесь Стральцоў з прэстыжнай працы ў прыватнай кампаніі быў звольнены яшчэ падчас збору подпісаў за А.Казуліна. Таму на Кастрычніцкай плошчы заставаўся ўсю першую ноч, затым працаваў фотахранікёрам партыі, прыносіў пратэстоўцам лекі, ежу й гарбату. Быў затрыманы 23 сакавіка пасьля таго, як на аўтамабілі прывез туды рок-музыкаў. 10 сутак арышту за гэта шокам ня сталі, кажа Алесь.

СТРАЛЬЦОЎ: Маральна ўсе людзі, якія ішлі на плошчу 19 сакавіка, былі гатовыя да самага горшага. Таму 10 сутак — гэта нішто ў параўнаньні з тым, што рэжым нам пагражаў 15 гадамі, пагражаў закатаць нас пад асфальт.

Калі Алесь адбываў прысуджаны тэрмін на Акрэсьціна, суд завочна прызначыў яму яшчэ 7 сутак за ўдзел у падзеях 2 сакавіка, калі быў зьбіты А.Казулін, а затым адбыўся мітынг з удзелам А.Мілінкевіча. Тамара Стральцова, адрозна ад сына, вельмі абураная тым, што зь ім адбылося.





СТРАЛЬЦОВА: Ён плякат трымаў: «За радзіму, за Беларусь, за цябе!». Чамусьці можна напісаць «За Беларусь!» на кожным слупе. А як трымаць у руках, дык нельга.

Калі Алесь адбываў дадатковы тэрмін, абвясьціў галадоўку на знак пратэсту супраць крымінальных справаў на сяброў палітычных партыяў. Ён кажа, што падзеі тых дзён відавочна паўплывалі й на ахоўнікаў турмы.

СТРАЛЬЦОЎ: На трэція суткі я крыху страціў прытомнасьць, і яны вельмі напалохаліся. Усё спрабавалі падсунуць мне кубак гарбаты альбо даць дзьве порцыі. Чалавек, які адказвае за нас, ходзіць па калідоры, калідорная, яна звычайна вельмі груба лаецца, але гэтым разам вельмі спачувальна паставілася, сказала, маўляў, дзеткі, вы ж гэтым нічога не дакажаце… Яны вельмі спалохаліся 25 сакавіка. Былі такія цікавыя моманты, калі міліцыянты хадзілі па калідоры, і такія словы ад іх гучалі: нам гамон, жахлівыя справы — гэта я ўжо на літаратурную мову перакладаю. Упершыню пачуў, як міліцыя ўжывае такія словы, як «Жыве Беларусь». Я думаю, што яны ў прынцыпе паважаюць такую пазыцыю.

Сустракаць Алеся з турмы на Акрэсьціна прыйшлі ягоныя сваякі, сябры й аднапартыйцы. Адзін зь іх, Мікалай, вызваліўся раней, адбыўшы 10 сутак пасьля арышту ў намётавым лягеры ў ноч на 24 сакавіка. Кажа, што найбольш уразіла пазыцыя дзяржаўнага тэлебачаньня, але ні хлусьня, ні рэпрэсіі яго не напалохалі.

МІКАЛАЙ: Мае знаёмцы паведамілі, што мяне паказвалі па БТ. І мяне паказвалі ў тым сьвятле, што гэта, маўляў, дзеці, падманутыя апазыцыяй. Дык вось мне сёлета — 30 гадоў. Вярніце ўсіх назад, пастаўце намётавы лягер, дайце яшчэ 10 сутак, і я ізноў пайду, каб хоць пабачыць тых людзей. Бо там было самае свабоднае месца ў Беларусі.

пятніца, 5 траўня 2006, 8:45

## М.КВЯТКОЎСКАЯ: ЛЕПШ ЖЫЦЬ НЯСЫТА, АЛЕ ВОЛЬНА

***Радыё Свабода***

Марына Квяткоўская — інжынэр-фізык, даўняя аматарка турызму. Актывістка штабу Мілінкевіча, незалежная назіральніца за выбарамі, яна атрымала 10 сутак арышту — суд не ўлічыў нават сур'ёзнага захворваньня вачэй, якое яна якраз лекавала на момант затрыманьня. Марына кажа, што на плошчу 19 сакавіка ногі прывялі яе самі. Наступным днём яна зь сябрамі вырашыла прывезьці намёты ў лягер, дамовілася з прыватным кіроўцам. Але ўсе подступы да плошчы кантраляваліся, машыну спынілі.

КВЯТКОЎСКАЯ: Яны папрасілі выйсьці з машыны й адчыніць багажнік. Кіроўца пачаў спрачацца — маўляў, вы ж не даішнікі, вы ня маеце права ад нас гэтага патрабаваць. Тады адзін з собраўцаў проста пачаў яго біць. Я паспрабавала яго спыніць, казала: ён не вінаваты ні ў чым, чаму вы яго б'яце?

На Акрэсьціна пасьля допыту Марыну амаль што адпусьцілі, але ейны пашпарт перашкодзіў ёй уратавацца ад кратаў.

КВЯТКОЎСКАЯ: Заставалася літаральна дваццаць крокаў да свабоды... І тут на нашым шляху трапіўся нейкі палкоўнік. Ён кажа міліцыянту: «А куды гэта ты яе вядзеш?» Той адказвае — маўляў, яе адпускаюць, заўтра а трэцяй гадзіне ёй на Арлоўскую ў суд. Палкоўнік бярэ мой пашпарт, глядзіць... А там візы... Гэта так уразіла яго, ён у твары ажно зьмяніўся й кажа: «Не!!! Прытрымайце яе!!!»

Тое ж хваляваньне ад колькасьці візаў у пашпарце адчуў судзьдзя.





КВЯТКОЎСКАЯ: «А што гэта ў вас, Марына Ўладзімераўна, замежнымі візамі ўвесь пашпарт забіты?» Я казала — займаюся турызам, наведваю турыстычныя фэсты... Пра мяне можна дазнацца ў любым турыстычным клюбе, бо маё імя вядомае ў турыстычных клюбах... Ён так ухмыльнуўся — маўляў, няма чаго рабіць...

Каля Акрэсьціна, сярод ночы, калі Марына вызвалілася, яе чакалі супрацоўнікі лябараторыі, дзе яна працуе. А вось блізкая сяброўка Натальля Лобус ня пэўная, што Марыне варта было, як кажуць, умешвацца ў палітыку.

ЛОБУС: Вельмі мэтанакіраваная, упартая. Гэта мая самая лепшая сяброўка... Я ў яе сумленнасьці, шчырасьці, чысьціні чалавечай сто пяцьдзясят разоў упэўнівалася... Але ж вось тое, што яна ўмяшалася ў тую палітыку... Ня ведаю... Я ні за, ні супраць — ейная справа. Але ўсё ж, падаецца мне, ня варта было.

КВЯТКОЎСКАЯ: Не, ня марная была Плошча. Увесь сьвет дазнаўся пра нас: што ёсьць Беларусь, што ў ёй жывуць людзі, якія жадаюць жыць лепей, жадаюць патрапіць у Эўразьвяз, якія здольныя змагацца за гэта. Як кажуць сябры-ўкраінцы, «лепей жыць у вольнай, але нясытай Украіне, чым у гэбэшнай Беларусі».

з в а н к і н а «С в а б о д у»

*СПАДАР: Лукашэнка сказаў, што палітычныя баталіі скончыліся. Хай ня мае ілюзіяў — спакой яму толькі сьніцца! Нянавісьць, якую ён выклікае ў большай часткі насельніцтва, будзе пастаянна падточваць, і яе сілы абавязкова выльюцца ў такі пратэст, што задрыжаць асновы зла, а Лукашэнка, гэты праект цёмных сілаў, падзе.*

аўторак, 9 траўня 2006, 8:13

## С.ГАРЭЛІК: Я ПАДУМАЎ, ШТО ДНЁМ ТАМ І ТАК ДАСТАТКОВА ЛЮДЗЕЙ, А ВОСЬ УНАЧЫ — МАЛАВАТА

***Міхал Стэльмак, Смалявічы***

45-гадовы Сяргей — са Смалявічаў. Быў прадпрымальнікам, аднак, як ён лічыць, палітыка А.Лукашэнкі не спрыяе занятку бізнэсам. Гэта й прывяло яго на Кастрычніцкую плошчу.

ГАРЭЛІК: Я лічыў і лічу, што такі стыль кіраўніцтва непрымальны для пачатку XXI стагодзьдзя. Таму мне ўяўляўся неабходным мой удзел. Я падумаў, што днём там і так дастаткова людзей, а вось уначы — малавата. Гэта была мая там другая ноч. Яна прывяла мяне спачатку на Акрэсьціна, потым у Жодзіна.

Сьветапогляд Сяргея Гарэліка падзяляюць яго сямейнікі: жонка Ала й дочкі — Кацярына з Антанінай.

АЛА: Калі выходзілі зьняволеныя, мы стаялі з балёнчыкамі — чырвонымі й белымі. Тыя два шарыкі дагэтуль ляжаць у нас дома й ня зьдзьмуліся. Мы з шарыкамі сустракалі й пляскалі ў далоні ўсім. Я цалкам, на сто працэнтаў, на баку мужа й ганаруся ягоным учынкам.

Сяргей Гарэлік у турме займеў аднадумцаў, зь якімі працягвае кантактаваць і абмяркоўваць пасьлявыбарчыя падзеі й сучасныя палітычныя працэсы ў Беларусі.

ГАРЭЛІК: Вось проста сёньня я глядзеў сайт Мілінкевіча, сайт Радыё Свабода. Мой погляд на сёньняшні дзень наступны. Любая справа, гэта маё перакананьне, павінна мець правадыра. Павінен быць лідэр. Стыхійнасьць нічога ня дасьць — павінна быць нейкая арганізацыя. Чаго й жадаю я Мілінкевічу. Мне думаецца, што гэта пэрспэктыўна.





чацьвер, 11 траўня 2006, 22:10

## А.АБАЛЕВІЧ: СУД ПРАХОДЗІЎ БЯЗЬ СЬВЕДКАЎ

***Міхал Стэльмак, Менск***

Андрэй Абалевіч быў затрыманы на трэці дзень пасьля завяршэньня выбарчай кампаніі. Зь Мядзелу ён прыехаў у сталіцу падтрымаць удзельнікаў акцыі на плошчы.

АБАЛЕВІЧ: Я ішоў у бок Кастрычніцкай плошчы ад цырку. Міліцыянты ў цывільным папрасілі праверыць дакумэнты. Я паказаў ім пашпарт. Тады яны сказалі, што трэба паехаць у пастарунак нібыта для ўдакладненьня зьвестак. Пасадзілі ў машыну, прывезьлі на Акрэсьціна і ўжо там напісалі справу па 156-м артыкуле. Маўляў, я ішоў у бок плошчы й нецэнзурна лаяўся. Крычаў, каб мяне прапусьцілі, скакаў...

Суд над 25-гадовым Андрэем праходзіў бязь сьведкаў. Вынік — 7 сутак арышту. Яму не дазволілі паведаміць у Мядзел ні пра затрыманьне, ні пра турму. Прыгадвае Андрэеў сябар Андрэй Якушонак.

ЯКУШОНАК: Я ведаў, што ён паехаў на акцыю. Была сувязь зь ім. Казаў, што там шмат людзей. А потым на наступны дзень бліжэй да вечара сувязі ня стала. Я пачаў крыху хвалявацца. Потым праз дзень-другі зразумеў, што чалавека забралі, і яго няма. У яго ёсьць бабуля, яна тэлефанавала, дык я ня ведаў, што ёй сказаць...

Андрэевы бацькі жывуць цяпер за мяжою, у Італіі. Андрэй таксама ў 2003 годзе паехаў быў за мяжу з прычыны, як ён кажа, перасьледу спэцслужбаў. Жыў у Бэльгіі, Італіі, Галяндыі, Францыі. Аднак летась вярнуўся на Бацькаўшчыну — у Мядзел.

АБАЛЕВІЧ: Я прыехаў, бо ўжо шмат часу мінула. Я вырашыў, што ўжо досыць, што там ужо ўляглося й забыліся

пра мяне гэтыя гэбэшнікі. Прыехаў — у кастрычніку ўдзельнічаў у працы Кангрэсу дэмсілаў, пасьля гэтага працаваў у выбарчай камандзе Аляксандра Мілінкевіча.

Андрэй Абалевіч быў намесьнікам кіраўніка штабу ў Мядзельскім раёне. А кіраваў штабам Зьміцер Вінаградаў.

ВІНАГРАДАЎ: Баліць у яго душа за радзіму, за Беларусь. Актыўна працаваў на выбарах. Стаяў у пікетах — у Нарачы, у Мядзеле, па вёсках. Сьмела, адкрыта — ён умее весьці зь людзьмі дыялёг культурна, ветліва, пераканаўча.

Андрэй Абалевіч — сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Цяпер ён працуе над стварэньнем і рэгістрацыяй на Мядзельшчыне раённай суполкі гэтай партыі.

АБАЛЕВІЧ: Атмасфэра на Мядзельшчыне й навакол — цяжкая: людзі запалоханыя, баяцца. Але ёсьць і нармальныя людзі, зь якімі можна працаваць. Паколькі партыйная рэгістрацыя, як я зразумеў, будзе цяжкай і маруднай, мы можам працаваць у сфэры мясцовага самакіраваньня, дапамагаць людзям, а яны будуць дапамагаць нам.

з в а н к і   н а   « С в а б о д у »

*СПАДАРЫНЯ: Хачу сказаць пра дзень 25 сакавіка. Гэты дзень, мусіць, увойдзе ў гісторыю. Самы бязьлітасны дзень. Не разумею, шмат хто тэлефануе, абураецца… Калі жыве Бог у сэрцы, жыве нейкае дабро, то кожны разумее: як можна выйсьці супраць мірных людзей! Гэта проста жудасна! Шмат маіх знаёмых ня могуць прыйсьці ў сябе пасьля такога. Такое адбываецца, а мы нічога ня можам зрабіць, бо добра разумеем, што супраць нас стаяць гэтыя шчыты, дубінкі, кулі і ўсё астатняе.*





пятніца, 12 траўня 2006, 20:06

## І.ДЗЯЧАК: ПЕРАЖЫЦЬ ШОК ДАПАМАГЛА ВЕРА

***Радыё Свабода***

Іна Дзячак вывучае беларускую філялёгію ў пэдагагічным унівэрсытэце ў Менску. Ідучы на плошчу, яна вельмі хвалявалася за працяг вучобы.

ДЗЯЧАК: Я ніколі не хадзіла на палітычныя акцыі. 19 сакавіка быў першы раз. І, калі шчыра, баялася вельмі. У мяне быў такі страх… За вучобу найперш. Але я падумала: калі не пайду я, дык ня пойдзе яшчэ некалькі чалавек.

Іна прыходзіла ў намётавы лягер штовечар і пазьней сыходзіла. А засталася на тую самую ноч, якая стала апошняй. Напярэдадні Іна ўбачыла сон: яна едзе ў ліфце, там зусім няма месца, і амаль няма паветра, а людзей шмат. У сьне Іна адчула: калі ня вырвецца зь ліфта, то загіне. Сон аказаўся прарочы. 15 сутак арышту сталіся для яе выпрабаваньнем і маральным і фізычным.

ДЗЯЧАК: Я не палю, і ў мяне алергія на пах тытуню. Я баялася, што ў мяне зьявіцца астма. Я прасіла й патрабавала, каб яны зрабілі камэры для тых, хто ня паліць — я ж не адна такая! Спачатку мяне пераводзілі з камэры ў камэру, але там усе палілі. Урэшце перавялі ў камэру, дзе я сустрэла дзьвюх сяброўак. Яны таксама ня паляць. І надалей мы ўжо былі ўтраіх.

А яшчэ перажыць шок ад арышту Іне дапамагла вера. Іна — шчырая пратэстантка. Ейны сябра, аднакурсьнік і аднаверца Міхась Чыжык адбыў на плошчы дзьве ночы. Ён таксама лічыць, што перамены ў Беларусі — ад Бога.

ЧЫЖЫК: Я ня першы раз на апазыцыйных акцыях. І вера ў Бога надала мне сьмеласьці й мужнасьці. Бо сам Бог — гэта праўда. І найперш вернікі павінны быць там, дзе праўда й дзе людзі змагаюцца за праўду.

панядзелак, 15 траўня 2006, 17:07

## Л.НАСАНОВІЧ: СА СЬПІНЫ НА НАС КІНУЛІСЯ ДВОЕ МУЖЧЫНАЎ

***Міхал Стэльмак, Менск***

Салігорцаў Ларысу Насановіч і Алега Борына затрымалі 22 сакавіка. Пасьля наведаньня Кастрычніцкай плошчы яны зьбіраліся вярнуцца дадому — у Салігорск.

НАСАНОВІЧ: Я з Алегам Борыным вярталася да аўтамашыны. А дагэтуль мы былі ў вольным гарадку. Калі мы ўжо прайшлі Кастрычніцкую плошчу, са сьпіны на нас кінуліся два мужчыны ў чорным адзеньні. Яны заштурхалі нас у аўтамашыну, забралі нашыя мабільнікі.

Раптоўнае зьнікненьне Алега й Ларысы выклікала трывогу ў іхных салігорскіх паплечнікаў, якія таксама бралі ўдзел у акцыі на плошчы. Расказвае Ніна Ярмалінская.

ЯРМАЛІНСКАЯ: Я пайшла іх шукаць. Абышла разы тры ўвесь намётавы гарадок, але іх ня ўбачыла.

БОРЫН: Спэцназ ставіўся да затрыманых жорстка, зьдзекаваліся маральна й фізычна. Нас амаль двое сутак не кармілі. Спалі мы ў халодных памяшканьнях — 2—5 градусаў цяпла. Нас завезьлі ў Савецкі суд...

НАСАНОВІЧ: Суд быў фармальны. Я сказала судзьдзі Ляўковай: усё, што напісалі міліцыянты, — хлусьня. Ніякіх, маўляў, я лёзунгаў на плошчы не выкрыквала. Сьведак ніякіх не было. Мне быў зачытаны прысуд — 10 сутак арышту.

Гэткі ж тэрмін зьняволеньня атрымаў і Алег Борын.

Абодва палітвязьні — асобы вядомыя ў Салігорску. Алег Борын — кіраўнік суполкі Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ. Ларыса Насановіч падчас выбараў узначальвала ў Салігорску мясцовы выбарчы штаб А.Мілінкевіча.





аўторак, 16 траўня 2006, 14:23

## С.ПАЧОБУТ: САМЫМ ЖАХЛІВЫМ БЫЛО — НЯ СПАЦЬ

***Радыё Свабода***

Гарадзенец Стас Пачобут — лідэр анархісцкага рок-гурта «Deviation». Увесь тэрмін існаваньня намётавага лягеру Стас знаходзіўся на ягонай тэрыторыі. Кажа, найлепшым уражаньнем сталіся людзі, якія былі вакол.

СТАС: Самым жахлівым было ня спаць — асабліва цягам першых двух дзён. Можна было толькі прылегчы ў намёце, але заснуць — не. Ну, што холад? Танчылі, пілі цёплае пітво — і нічога такога цяжкага...

Стас здаўна выказвае свае грамадзянскія погляды, беручы актыўны ўдзел у акцыях пратэсту. Таму стасункі зь міліцыяй у часе ліквідацыі намётавага лягеру яго зусім ня ўразілі.

СТАС: Я ня думаю, што там было нешта новае. Мяне затрымліваюць час ад часу з 1994 году... У 2000-м міліцыянты мне зламалі твар, я меў апэрацыю. На тле тых праблемаў пара штурхалёў, пара ўдараў дубінай па сьпіне для мяне — нічога новага, нічога жахлівага.

У той час, калі зьнішчалі намётавы лягер, брата Стаса, журналіста Андрэя Пачобута толькі вызвалілі з-пад арышту ў Горадні. 13 сакавіка яго затрымалі ў Менску супрацоўнікі КДБ. Потым даставілі ў Горадню, нібыта дзеля допыту, і пасадзілі пад арышт. Акурат 23 сакавіка выпусьцілі, і ён вярнуўся дахаты. Але ж пад вокнамі хаты чакалі супрацоўнікі міліцыі, гатовыя затрымаць пры кожнай магчымасьці. Андрэй кажа, што, адрозна ад брата, ён быў вельмі ўражаны сваволяй сілавых структураў, таму хваляваўся за фізычны стан Стаса.

АНДРЭЙ: Я ведаў, што Стас будзе ў намётавым лягеры

яшчэ да таго, як гэты лягер зьявіўся. Я прытрымліваюся такіх самых поглядаў на рэчаіснасьць. Але я трохі нэрваваўся з-за той атмасфэры ўсёдазволу, у якой дзейнічала ўлада. Я баяўся, каб яго не пакалечылі. Ніхто з нас не прызвычаіўся да таго, што правы могуць парушацца настолькі брутальна, што міліцыя можа вось так проста біць.

Хлопцы лічаць, што ім моцна пашанцавала мець салідарных зь імі й моцных духам бацькоў. Бо перажыць арышт аднаго сына, а сьледам — арышт другога, — цяжкае выпрабаваньне.

СТАС: Маці ўжо прывыкла з 1996 году дазнавацца часам пра мяне з этэру Радыё Свабода. Бацька заўсёды быў салідарны. Пэўна, што ім было цяжка. Але калі пасадзілі ўжо — дык значыць, усё нармальна — значыцца, катаваньняў нейкіх ужо ня будзе. Больш страшна ім было, калі я на плошчы быў — бо незразумела, як улада будзе спыняць гэты наш пратэст.

Пратэставаць Стас Пачобут працягваў і ў камэры Жодзінскага ізалятару.

СТАС: Усе трымалі галадоўку. Гэта было першы раз, калі гэткая супэрская камэра мне дасталася. Калі ўсе былі салідарныя, усе былі разам. Звычайна я галадаю адзін, або ўдвох... Яны хацелі, каб мы спынілі галадоўку — не пасаваў ім наш пратэст. Яны так нам ежу прапаноўвалі, паасобку да кожнага зьвяртаючыся: «А можа, Вам суп... А можа, Вам хаця б другое... А вось у нас тут гэткія катлеткі, тое-сёе...»

На погляд Стаса, факт існаваньня Плошчы сьведчыць пра новую хвалю імкненьня беларускага грамадзтва да іншага жыцьця. Ён кажа: калі людзі здольныя самаарганізавацца, яны здольныя арганізаваць і новы, лепшы дзяржаўны лад.



# па-за этэрам

## КІЕЎСКІ МАЙДАН І МЕНСКАЯ ПЛОШЧА

***Валер Каліноўскі***

Падзеі ў Менску 19—25 сакавіка я ўвесь час міжволі параўноўваў з украінскай Аранжавай рэвалюцыяй, а менскую Плошчу — з кіеўскім Майданам, паколькі мне як журналісту давялося папрацаваць і тут, і там.

Нягледзячы на розьніцу ў маштабах акцыяў пратэсту й іхных выніках, было шмат паралеляў у арганізацыі, у настроях, дэталях... Нават частку людзей, якіх я бачыў зь бел-чырвона-белымі сьцягамі ў Кіеве на Майдане альбо ў намётавым гарадку на Хрышчаціку, я пазьней сустракаў на менскай Плошчы. Дый многія ўдзельнікі менскай акцыі сваю Кастрычніцкую плошчу называлі «нашым майданам», і ў цэлым было відаць, наколькі яны натхнёныя Аранжавай рэвалюцыяй.

Першае супадзеньне — раптоўны сьнег і холад у Кіеве ў другой палове лістапада 2004 году й маразы ды завіруха ў Менску ў канцы сакавіка 2006-га. У Менску ператрываць халады было складаней. У Кіеве нават мэрыя расчыніла дзьверы для дэманстрантаў, а ў Менску ўлады рабілі ўсё, каб прыхільнікі пераменаў замерзьлі й разышліся. У журналістаў на плошчы быў прывілей: марознымі начамі мы маглі заходзіць у бліжэйшыя кавярні, грэцца, піць гарбату ці каву. Калі ж нехта з дэманстрантаў ішоў у кавярню, яго хапалі людзі ў чорным, і ён зьнікаў. Гэтак забралі Аляксея Янукевіча, капялюш якога застаўся сіратліва ляжаць каля гукаўзмацняльнай апаратуры ў першую ноч на плошчы.

Менскія намёты былі маленькія, сымбалічныя, хаця й сярод іх стаяла свая кухня — некалькі мангалаў, і быў асобны намёт зь лекамі. Менскі намётавы лягер у параўнаньні з кіеўскім выглядаў аматарскім, гэта сапраўды была стыхійная акцыя, якую падтрымалі апазыцыйныя палітыкі.





У Кіеве на Майдане была вялізная сцэна з маніторамі й калёнкамі. У Менску — толькі электрагенэратар, пульт і калёнкі. У параўнаньні з Майданам гэта было вельмі сьціпла, але плённа. Патрыятычныя песьні сагравалі душэўна й фізычна. На менскай Плошчы гучала перш за ўсё беларуская музыка, але вельмі папулярныя былі й песьні кіеўскага Майдану — гуртоў «Акіян Эльзы», «Воплі Відаплясава», а неўміручы твор Алега Скрыпкі «Вясна» марознымі сакавіцкімі начамі шмат разоў пераконваў усіх, што «вясна прыйдзе».

Самае ж выразнае падабенства Майдану й Плошчы — у настроях людзей, у іх рашучасьці, патрыятызьме, веры ў сваю праўду, у тым, як паводзілі сябе ўдзельнікі акцыяў, якія ветлівыя яны былі адзін да аднаго й да мінакоў, наколькі стрымана рэагавалі на правакатараў і сілы бясьпекі. Акцыі пратэсту выклікалі нечуваныя хвалі салідарнасьці ў грамадзтве. Адзінае, што ў Менску гэтая салідарнасьць магла закончыцца зьбіцьцём і турмой. Але нягледзячы на перашкоды міліцыі, на плошчу «кантрабандай» праносілі дастаткова гарачай ежы й пітва. Адзін польскі калега неяк пахваліўся, што даўно так добра не харчаваўся, як тут на плошчы, — усё хатняе, смачнае.

Гэты польскі журналіст, які прарваўся на нашы выбары праз Расею, бо беларускія памежнікі яго не пускалі, у цэлым ацэньваў сытуацыю ў Беларусі як дэпрэсіўную й нават безнадзейную, і параўноўваў яе з тым, што было ў Польшчы ў пэрыяд ваеннага становішча. Ён і сам адседзеў у турме падчас тых падзеяў. Запомнілася ягоная крывая ўсьмешка, калі ён пачуў вядомы з Аранжавай рэвалюцыі лёзунг-зварот «Міліцыя з народам!» на менскай плошчы, тады ён сказаў: «Не, тут міліцыя з уродам».

Сапраўды паводзіны менскай міліцыі, АМАПу й розных іншых сілавых структураў былі зусім іншыя, чым паводзіны міліцыі ў Кіеве. Беларускія сілавікі на плошчы амаль нікога не хапалі, затое па-здрадніцку вылоўлівалі

тых, хто адыходзіў у мэтро ці на іншую вуліцу, зьбівалі іх, рвалі беларускія сьцягі ды іншую атрыбутыку, абражалі і ўрэшце арыштоўвалі. Цягам менскіх акцыяў пратэсту я пабачыў столькі сілаў аховы, што не стамляўся зьдзіўляцца, як шмат іх напладзіла цяперашняя ўлада. 25 сакавіка ў Менску паздымалі нават гарадзкія аўтобусы, каб прывезьці ўсю міліцыю ў цэнтар гораду. Не пускаючы людзей на плошчу, гэтыя ахоўнікі парадку мелі загад не ўжываць дубінак, затое без асаблівых ваганьняў білі людзей нагамі...

Адрозна ад Кіева, у Менску ўлады імкнуліся ўсяляк перашкаджаць удзельнікам у іхных пабытовых праблемах. Грамадзкую прыбіральню за дваццаць мэтраў ад намётавага лягеру на плошчы ў часе акцыяў наўмысна закрылі «на рамонт». Калі ж некалькі хлопцаў прывезьлі ў лягер біятуалет, людзі ў чорным так моцна зьбілі іх, што адзін страціў прытомнасьць. Калі дэманстранты ўсё ж знайшлі выйсьце, паставіўшы намёт на каналізацыйным люку, гэты люк заварылі камунальныя службы. Але, як казалі самі дэманстранты з пэўнай доляй гумару, яны вымушаныя былі «адгрызьці» гэты люк... Пасьля разгону намётавага лягеру ў калодзеж адной нагой патрапіў амэрыканскі журналіст. Добра, што ён утрымаўся на паверхні, абышлося дробнымі траўмамі...

Камунальныя атакі гэтым не абмежаваліся. Дробныя перашкоды ўладаў выклікалі сорам за іх: то яны выключылі на плошчы сьвятло, то адшліфавалі каток, каб дэманстранты лепей падалі (я й сам два разы пасьлізнуўся і ўпаў на гэтым лёдзе), то насылалі сьмецьцеўборачныя трактары, якія побач з намётавым лягерам чысьцілі плошчу.

Нарэшце, мова. У часе Аранжавай рэвалюцыі ў Кіеве дамінавала ўкраінская мова, і ў мяне няма сумневу, што гэта была выразна нацыянальная рэвалюцыя. Такі ж нацыянальны па мове й духу настрой мелі й менскія акцыі супраціву. Калі ў першы дзень на плошчу выйшлі дзясяткі тысяч чалавек, то, ходзячы паміж імі, я чуў пераважна беларускую мову, найперш з вуснаў моладзі, і зьдзіўляўся, наколькі шмат у нас беларускамоўных людзей. Напэўна гэта было й формай выказваньня пратэсту, напрыклад, да многіх на плошчы падыходзіў малады чалавек і заклікаў гаварыць па-беларуску «на злосьць рэжыму».





Неяк ноччу я вырашыў узяць інтэрвію ў трох хлопцаў з ачапленьня намётавага лягеру. Выявілася, што ўсім ім каля трыццаці гадоў, адзін зь іх працуе над касьмічным апаратам «БелКА», другі — у цэнтры ядзернай энэргетыкі ў Соснах, трэці — таксама інжынэр-энэргетык, але на той момант ужо беспрацоўны. І два зь іх раніцай пасьля дзяжурства на плошчы зьбіраліся пайсьці на працу. У цэлым жа трэба сказаць, што на плошчы былі інтэлігентныя, разумныя, ахвярныя людзі, і маладыя, і пажылыя, шмат было студэнтаў зь Менску, але былі й тыя, што паехалі вучыцца за мяжу, але адпрасіліся ў сваіх ВНУ. Пратэставалі вельмі сымпатычныя людзі, гэтак я адзначаў сабе і ў 2004 годзе ў Кіеве, і ў 2006-м — у Менску. Неяк у самым канцы працоўнага дня падчас майго апошняга ў той дзень простага ўключэньня з плошчы ў этэр Радыё Свабода, якое акурат у гэты час трансьлявалася на ўсю плошчу, я не стрымаўся й пераказаў сваё прывітаньне гэтым сымпатычным людзям.

Звычайна на акцыях апазыцыі я не нашу на куртцы акрэдытацыйнага пасьведчаньня замежнага журналіста. Але тады я гэта рабіў, і ня толькі зь меркаваньняў уласнай бясьпекі, але й дзеля бясьпекі ўдзельнікаў акцыі пратэсту, бо й я, і яны былі перакананыя, што пакуль на плошчы ёсьць шмат журналістаў, разганяць іх ня будуць. Акрамя таго, калі хтосьці з удзельнікаў акцыі хацеў пакінуць плошчу без эксцэсаў зь міліцыяй, ён прасіў, каб нехта з журналістаў праводзіў яго да бліжэйшага прыпынку аўтобуса. Гэтак я вывеў з плошчы не адзін дзясятак хлопцаў і

дзяўчат. Для большай пэўнасьці часам ішоў зь імі пад руку.

24-га раніцай я мусіў гэтак жа вывесьці з плошчы Валянціну Палевікову. Гадзіне а 12-й ночы яна папрасіла мяне вывесьці сястру Аляксандра Дабравольскага, а пад раніцу — і яе. Але дамова не была рэалізаваная. Хоць мы здагадваліся, што менавіта ў ноч пасьля абвяшчэньня ЦВК вынікаў выбараў намётавы лягер разгоняць, ды былі і ўскосныя прыкметы — бліжэйшыя кавярні былі зачыненыя менавіта да пятніцы, але ўсё адно хацелася верыць, што намёты дастаяць да Дня Волі.

Тая ноч была халодная, а палове трэцяй я пайшоў у сваю машыну, што была прыпаркаваная ля Палацу Рэспублікі, каб пагрэцца й папіць гарбаты з тэрмаса. Бліжэй да трох гадзінаў ночы непадалёк ад мяне сталі шэрагам міліцыянты, якім даваў апошнія ўказаньні намесьнік міністра ўнутраных справаў Філістовіч. Заўважыўшы гэткі рух, я вырашыў хутчэй пайсьці ў бок намётаў, але міліцыянты мяне й яшчэ некалькіх журналістаў спынілі. На загад Філістовіча кіраўнік спэцназу Падабед пераапрануўся ў звычайную форму, узяў мэгафон, і калёна разам з намі рушыла да намётаў. Журналістам загадалі стаць за міліцэйскі кардон каля Палацу культуры прафсаюзаў, а калі адзін фотакарэспандэнт не падпарадкаваўся, яго проста вывалаклі зь лягеру. На месцы намётаў дазволілі здымаць толькі камэрам дзяржаўных тэлеканалаў.

Прагучаў заклік Падабеда да дэманстрантаў аб тым, што акцыя несанкцыянаваная й трэба добраахвотна разысьціся. Гэта, дарэчы, была адзіная такая заява з боку міліцыі за ўвесь час існаваньня намётавага лягеру. Але як разысьціся, калі лягер шчыльна ачэплены міліцыяй, аўтобусамі, МАЗамі, і нікога адтуль не выпускаюць? Пакуль працавала гукаўзмацняльная апаратура, выступіла Валянціна Палевікова, якая заклікала міліцыю да людзкага абыходжаньня з удзельнікамі акцыі пратэсту, пачулася няўпэўненае скандаваньне «Міліцыя з народам», потым енкі... Міліцыянты першымі білі й цягнулі ў МАЗы хлопцаў з ачапленьня. Празь нейкі час астатнія жыхары намётавага лягеру пайшлі ў міліцэйскія МАЗы й аўтобусы самастойна. Разам іх было з паўтысячы чалавек.

Калі лягер апусьцеў, яшчэ зь дзесяць хвілінаў журналістаў не пускалі на месца падзеі, там хадзілі нейкія невядомыя, зрывалі бела-чырвона-белыя сьцягі, заглядалі ў намёты. Усе падумалі, што яны нешта падкідаюць туды. Пазьней БТ паказала наркотыкі, бутэлькі й порначасопісы... Разбураны лягер выглядаў сумна: горы рэчаў, ежы, сотні тэрмасаў, гарачае вугольле на мангалах, на якіх у каструльцы гатавалася вада на гарбату.

Неўзабаве на плошчу прыехаў Аляксандар Казулін з жонкай. Журналісты адразу кінуліся да яго па камэнтары. Міліцыя не казала, куды павезьлі затрыманых людзей, і Казулін вырашыў, што трэба ехаць да турмы на Акрэсьціна. Але ён ня ведаў дакладнай дарогі й таму запрасіў у сваю машыну мяне. Калі мы з Казуліным прыехалі туды, то пасьпелі яшчэ ўбачыць, як выгружалі ў браму турмы арыштаваных з аднаго такога закратаванага МАЗу. Было дзіўна, як шмат людзей у ім зьмясьцілася, было прыкра, як паводзілі сябе іх ахоўнікі, як яны брыдка крычалі й штурхалі дэманстрантаў. Казулін абураўся, але зрабіць нічога ня мог.

Ад нэрвовага напружаньня зрабілася яшчэ халадней. Гэтая ноч мне падалася самай халоднай з тых, што я правёў на плошчы. Выручылі польскія консулы, у машыну якіх я папрасіўся пагрэцца. Пасьля простага этэру, які скончыўся ў восем раніцы, на таксі я вярнуўся на плошчу. Ля Палацу Рэспублікі самотна стаяла мая машына, і калегі-журналісты, якія прыехалі сюды раніцай, як я пазьней даведаўся, падумалі, што арыштавалі й мяне. Некалькі дзясяткаў чалавек стаялі на месцы, дзе яшчэ ноччу быў намётавы лягер, абмяркоўвалі падзеі. Пазьней сюды паня-

суць кветкі, якія людзі ў чорным і міліцыянты будуць забіраць і кідаць у сьметніцы. Потым на гэтае месца ўвогуле паставяць камунальную тэхніку, а лёд з катка ўзрыюць вялікімі глыбамі, каб людзі не змаглі тут сабрацца зноў.

## ЯК СУТЫКАЮЦЦА ПОЗІРКІ

***Ігар Карней***

Для ўсіх, улучна з журналістамі, хто тымі днямі хацеў патрапіць на Кастрычніцкую плошчу, яна пачыналася ўжо за сотню мэтраў, а то й пад зямлёй. Перад плошчай трэба было прайсьці «праверку». Кожнага разу, калі я выходзіў з мэтро, у падземным пераходзе міліцыянты выяўлялі неабыякавасьць да маёй невялікай паходнай сумкі — зазіралі — ці не нясу пратэстоўцам харчы. Гэтая працэдура была абавязковая для ўсіх. Цікава было назіраць за бабулькамі, якія ўсё ж праточваліся на плошчу, і ўжо там з запазухі даставалі пакункі з салам, хлебам, каўбасой, а то й місы зь яшчэ цёплымі катлетамі ды бульбяной кашай. Было ўражаньне, што міліцыянты хацелі замарыць жыхароў намётавага лягеру голадам, а бабулькі — уратаваць іх. Бабулькі перамаглі, можа таксама й таму, што спэцназаўцы саромеліся кідаць у «варанкі» сямідзесяцігадовых жанчын, як гэта яны рабілі з маладзейшымі.

«Гаўрошам» плошчы быў пяцігадовы Адасік. Ля ўнівэрсаму «Цэнтральны» бацькі напакоўвалі яму кішэні печывам, цукеркамі, і малы бег праз увесь пляц да намётавага лягеру, там «выгружаўся» й зноў вяртаўся да бацькоў. На маіх вачах хлопчык за гадзіну зрабіў некалькі ходак. Прабягаючы каля міліцыянтаў, ён заўзята выкрыкваў: «Жыве Беларусь!» Неўзабаве досьвед малога выкарысталі й дарослыя жанчыны. Нібыта бяз справы шпацыруючы па





пляцы, яны падыходзілі да лягеру й, асьцярожна дастаўшы з кішэняў ці пачак цыгарэтаў, ці шакаляд, незаўважна перадавалі іх хлопцам з ачапленьня.

Каля намётаў усе тыя дні віравала жыцьцё. Людзі цягнуліся сюды, як да вогнішча ў сьцюдзёныя дні. Яны бачылі ў плошчы агеньчык надзеі на перамены. Пра гэта й вяліся размовы. А часам правакаваліся вострыя спрэчкі. 23 сакавіка лягер апынуўся нібыта ў падвойным коле абароны. Раптам на плошчу выйшаў вялікі натоўп вэтэранаў. Папярэдне праінструктаваныя ў Доме афіцэраў, што месьціцца тут непадалёку, сталага веку людзі ў паліто ўзору 1950-х ці ў нагавіцах колеру хакі пачыналі з правакацыйных размоваў пра сучасную моладзь, а завяршалі лаянкай. Да іх далучаліся й маладыя прыхільнікі Лукашэнкі з БРСМ.

На плошчы адбываліся й сапраўдныя драмы. Яшчэ раніцай 21 сакавіка сваёй актыўнасьцю зьвярнула на сябе ўвагу дзяўчынка гадоў 15-ці. У ейных руках быў, бадай, самы вялікі бел-чырвона-белы сьцяг, яна пастаянна нагадвала ўдзельнікам жывога ланцугу ачапленьня быць пільнымі й не пускаць на тэрыторыю лягеру «чужынцаў», распачынала скандаваць патрыятычныя лёзунгі. А ўжо наступнай раніцай заплаканую дзяўчынку цягнула праз увесь пляц маці. Адбіваць дачку ў роднай маці не выпадала, таму заставалася толькі спачуваць: дзеці зьбягаюць ад сямейнага дыктату, вельмі падобнага на дзяржаўны.

Ня ўсё проста было і ў самім лягеры. Некаторыя ягоныя жыхары не чакалі, калі па іх прыйдуць бацькі, самі аналізавалі, што адбываецца на плошчы, і нават перагледалі свае пазыцыі. Гэтак 23 сакавіка група моладзі самахоць пакінула лягер. Такім чынам яны выказалі сваё стаўленьне да пасіўнасьці апазыцыйных кандыдатаў на прэзыдэнта — А.Мілінкевіча і А.Казуліна. Моладзь тлумачыла: зь першых кантактаў з гэтымі палітыкамі стала зразумела, што тыя не гатовыя да радыкальных крокаў і

не ўяўляюць, куды й як скіраваць энэргію пратэсту. Адсутнасьць рэальных прапановаў з боку дэмакратычных лідэраў агаломшыла некаторых жыхароў намётавага лягеру, і яны абвінавацілі палітыкаў у «мяккацеласьці». Пераважна гэта былі менчукі. А вось тыя, хто прыехалі з рэгіёнаў краіны, заставаліся на плошчы да апошняга.

Увесь час даводзілася назіраць, як сутыкаюцца позіркі, вочы ў вочы, раўналеткаў — маладых людзей зь лягеру й апранутых у скураныя курткі супрацоўнікаў спэцслужбаў. Яны стаялі за некалькі крокаў адны ад адных. У пратэстоўцаў — з надзеяй, шырока расплюшчаныя вочы, у іхных апанэнтаў — прышчураныя, цынічна-пагардлівыя. Гэтыя позіркі холадна сутыкаліся й хутка разыходзіліся. Без надзеі на замірэньне ці хоць бы паразуменьне.

## ПРЫЧЫНАЙ ЖОРСТКАСЬЦІ БЫЎ СТРАХ

***Любоў Лунёва***

Калі 20 сакавіка на плошчы прагучала «Застаемся!!!», некалькі дзясяткаў чалавек сышлі, каб пераапрануцца, яшчэ некалькі пайшлі ў «Цэнтральны» ўнівэрсам. У каўбасны аддзел за паўгадзіны да закрыцьця крамы ўтварылася вялізная чарга. Каўбасы бралі палкамі й прасілі нарэзаць. Прадаўшчыцы ледзь пасьпявалі. Яны ўвесь час азіраліся, казалі, што іх пакарае начальства. Выйшла загадчыца й крыкнула, што аддзел не працуе. Людзі кінуліся ўніз. Там, на першым паверсе, у кафэтэрыі заставалася некалькі кавалкаў торта. Прадаўшчыцы сказалі, што бутэрбродаў рабіць ня будуць, бо хутка канец працы. Тады адзін мужчына гучна кажа: «Дзяўчаты, людзі на плошчы вырашылі стаяць усю ноч. Я не магу сам застацца, бо жонка ў шпіталі, а дома дзеці. Але я ж не змагу спакойна спаць. Гэта ж усё на плошчу!» Гандляркі нічога не адказалі. Яны, як па камандзе, пабеглі ў падсобку й адтуль хутка пачалі выносіць падносы з бутэрбродамі. Нехта набыў некалькі бутэлек зь мінэралкай. Ваду вылілі на вуліцы, а ў бутэлькі папрасілі наліць гарачую каву. Жанчына ў касе просіць выбіць дваццаць пяць бутэрбродаў. Высьвятляецца, што не хапае 600 рублёў. Адразу нехта з чаргі дадае неабходныя грошы. Людзі незнаёмыя, але абмяркоўваюць уголас, што яшчэ трэба набыць. Гандлярка запытвае: «Марожанае будзеце выбіваць?» Раптам — цішыня, і... усе зарагаталі.





Я паехала ў бюро, каб перадаць матэрыял і праз дзьве гадзіны вярнуцца. Ужо ведала, што пасьля 10-й вечара пачалі перакрываць вуліцы, прылеглыя да плошчы. Апоўначы даішнікі на плошчы Перамогі паставілі знак і не прапускалі машыны па праспэкце ў бок Кастрычніцкай. На вуліцы Я.Купалы было поўна спэцназаўцаў у дварах, уздоўж дарогі. Усіх, хто намагаўся трапіць на плошчу, затрымлівалі. Адну кампанію затрымалі нават на вуліцы Першамайскай, перад уваходам у парк Горкага.

Спэцназаўцам паставілі задачу: ня даць новым людзям прыйсьці на плошчу, не дапусьціць туды цёплых рэчаў і тэрмасаў з гарачай вадой. Разьлічвалі, што ўдзельнікі акцыі замерзнуць і разыдуцца. Праз пару гадзінаў узьнікла праблема: людзей, якія адыходзілі ў прыбіральню ў начныя інтэрнэт-кавярні, затрымлівалі й адвозілі ў пастарункі. Каля трох дзясяткаў студэнтаў пабудавалі калёну й разам пайшлі з плошчы ў прыбіральню, маўляў, усіх нас не затрымаюць. Затрымалі. Падагналі два аўтобусы і ўсіх адвезьлі на Акрэсьціна.

Хлопец каля намёта кажа: «Лёзунг бальшавікоў цяпер не актуальны. Трэба захопліваць вакзалы, тэлецэнтры й біятуалеты!»

Я падышла да дзяўчынкі ў кароткай куртачцы, джынсах, красоўках. Яна дрыжыць.

— Халодна?

— Трошкі… Але хутка ў мяне пачнецца другое дыханьне, і стане лягчэй.

— Не баісься, што пад раніцу будзе разгон?

— Ведаеце, я раней ніколі ня ўдзельнічала ў акцыях. Я тут нікога ня ведаю. Была са сваім хлопцам. Мы зь ім год сустракаемся. Ён у спартовай сэкцыі займаецца. Думала, надзейнае плячо… А ён спачатку ўгаворваў мяне пайсьці дадому, потым сказаў: «Ну, і стой тут, дурніца, калі хочаш, каб цябе спачатку зьбілі, а потым з вучобы выгналі». А я не шкадую, што засталася. Цікава, што ён цяпер адчувае? Казаў жа: «Сонейка, я заўсёды буду побач, нікому ня дам цябе пакрыўдзіць».

Халодна. Журналісты падскокваюць на месцы. У іх ёсьць магчымасьць адыходзіць у кавярню, але большасьць зь іх стаіць. Спэцназаўцы ў мэтро і ў будынку Палацу Рэспублікі грэюцца па чарзе. Кадэбэшнікі — у Палацы прафсаюзаў. Ад трэцяй гадзіны пачалі тэлефанаваць на мабільны. У асноўным жанчыны. Ва ўсіх амаль аднолькавая гісторыя: бацька нес на плошчу цёплыя рэчы й тэрмас. Яго затрымалі, а ў сына ці дачкі ад холаду разладаваўся тэлефон. Адно пытаньне: «Дзе іх шукаць?»

Праяжджаюць машыны, сыгналяць, паказваюць знак «вікторыі». Іх вітаюць з плошчы. Даішнікі па рацыі перадаюць нумары машынаў наступнаму посту. Кіроўцаў спыняюць каля «Макдоналдсу» й штрафуюць. Знак салідарнасьці зь мітынгоўцамі каштуе 31 тысячу рублёў. Кіроўцы едуць назад і паказваюць ужо не «вікторыю», а сярэдні палец — даішнікам.

А 6-й раніцы пытаюся ў спэцназаўца: «Будзеце разганяць?» А ён: «Сам нічога не разумею. Мы ў шоку. Ніякай каманды…»

Спэцназаўцы раніцай — стомленыя й злыя. Некалькіх





студэнтаў, якія з плошчы пайшлі на заняткі, зьбілі ў падземным пераходзе й завезьлі ў пастарунак. Тых, у каго на тварах засталіся сьляды пабояў, па дарозе выкінулі з аўтобуса.

А 10-й раніцы дзясяткі затрыманых развозяць у суды. Аўтобусы падганяюць да чорнага ўваходу. Затрыманых паасобку вядуць у кабінэты судзьдзяў. Спэцназаўцы, якія затрымлівалі, — гэта яшчэ й сьведкі. Усе пратаколы напісаныя аднолькава. Толькі прозьвішчы розныя. Маці затрыманай студэнткі ў судзе кажа капітану міліцыі: «Вы разумееце, што цягам тыдня ў горадзе затрымалі сотні дробных хуліганаў, якія «нецэнзурна лаяліся, на заўвагі супрацоўнікаў міліцыі не рэагавалі». Што гэта такое?!» Той у адказ: «Ну, эпідэмія, можа, такая».

А 6-й вечара на плошчы выключылі сьвятло. Некалькі чалавек бегаюць на каньках. Адзін — зь бел-чырвона-белым сьцягам. Яго відаць здалёк. У намётавым лягеры — сьвятло ад тэлекамэраў. Шмат замежных журналістаў. Побач са мной стаяць спэцназаўцы. Чую, як па рацыі запытваюць: «Што там за сьвятло? Што гэтыя даўны робяць?» Адказ: «Інтэрвію даюць». «Ну, і што яны кажуць?» Адказ: «Адкуль я ведаю. Яны ж размаўляюць па-ангельску й па-нямецку. Прыдуркі…»

Раніцай пачынаюцца суды. Тэлефануюць бацькі, дзеці, жонкі, браты… Шукаюць сваіх. Бацькі дзяжураць у судах. Самі складаюць сьпісы. На Акрэсьціна — разьюшаныя маці. Кажуць, што заблякуюць усе выхады й ня выпусьцяць дахаты начальніка, пакуль не атрымаюць сьпісаў арыштаваных. Камэры перанаселеныя. Людзі назіраюць сцэну: прыходзіць бомж, просіцца ў турму, бо яму сядзець яшчэ некалькі сутак. Выходзіць міліцыянт і крычыць: «А ну, пайшоў адсюль! Потым прыйдзеш, дасядзіш. Няма месцаў. Усё, ты — вольны».

Раптам адна жанчына, паказваючы рукой на здымачную

групу: «Скажыце, калі ласка, вы з ОНТ?» У адказ: «Так!» «Ах, вы, падонкі! Чаго сюды прыперліся, уроды брахлівыя?!!» Жанчыны пачынаюць кідаць у групу сьнежкі. Тыя — наўцёкі.

Позна ўвечары новых затрыманых на Акрэсьціна не прынялі. Іх павезьлі ў Жодзіна і ў ізалятар Менскага раёну. Людзі на плошчы казалі: «Што далей?» і згадвалі Чылі. Прыйшлі да высновы, што ў нас на стадыёне занадта халодна.

Адну дзяўчынку, якая несла на плошчу блінцы зь мясам, прымусілі іх зьесьці ў пакоі міліцыі, што на станцыі мэтро. У людзей, якія выходзілі з мэтро, міліцыянты правяраюць торбы. Дастаю дыктафон: «Скажыце, што вы хацелі знайсьці ў маім заплечніку? Што шукаеце ў іншых? На якой падставе робіце дагляд?» Тыя, убачыўшы дыктафон, адбеглі на некалькі мэтраў. Падышла жанчына сталага ўзросту: «Ведаеце, я згадваю, як была маленькай дзяўчынкай і насіла з мамай партызанам ежу. Як мы баяліся паліцаяў на дарогах! Добра, калі проста ўсё адбіралі й не затрымлівалі. А колькі затрымалі?! А колькі потым расстралялі?!»

Уначы з 23-га на 24-га пасьля разгону намётавага лягеру на плошчы засталіся журналісты, спэцназаўцы й сабака, які быў там ад пачатку акцыі. Яго частавалі каўбасамі... Некаторых апазыцыянэраў ён ужо ведаў, і калі тыя падыходзілі, матляў хвастом. Цяпер сабака хадзіў самотны, разгублены й зрэдку брахаў...

25 сакавіка людзі пайшлі калёнай на Акрэсьціна. Як звычайна, калёна павялічвалася коштам тых, хто далучаўся з тралейбусаў і з крамаў. Дзьве жанчыны выйшлі з гандлёвага цэнтру «На Нямізе», убачылі калёну. Адна: «Вы — апазыцыя? Куды шэсьце? На Акрэсьціна?» Кажа сяброўцы: «Іра, давай пойдзем зь імі. Я казала табе, што майго суседа забралі? Я цяпер ягонага ката кармлю. Сусед мой абсалютна прыстойны чалавек... Далі яму суткі. Участковы наш кажа: за тое, што Лукашэнку ня любіць. А хто яго любіць?! Дык што цяпер, усіх саджаць?! Пастаім там. Хай убачаць, колькі людзей іх падтрымліваюць». Сяброўка, Ірына, адмовілася, сказала, што запрошаная ў госьці, а жанчына далучылася да калёны. Яна ня ведала, што ісьці давядзецца нядоўга.





Машыны сыгналілі на знак салідарнасьці. Раптам спынілася машына, адтуль кіроўца крыкнуў мне: «Люба, наперадзе пад мастом Паўлічэнка й цэлая армія салдатаў! Там нікога не прапусьцяць!»

Я перайшла дарогу і ўбачыла сотні салдатаў са шчытамі, у масках. Наперадзе — Паўлічэнка й некалькі камандзіраў. Падышла з фотакарэспандэнтам Максімам Капранам бліжэй, каб ён мог зрабіць здымкі. Салдаты білі дубінкамі па шчытах. Раптам Паўлічэнка: «Падрыхтавацца да бою!» Адзін дэманстрант падышоў да ланцугу салдатаў і лёг на асфальт. Ён спадзяваўся, што гэта іх спыніць. Яны пачалі зьбіваць яго нагамі й дубінкамі. Яго біў кожны, каму ён трапіўся на шляху. Салдаты ішлі ўсё хутчэй і хутчэй. Кожнага, хто не ўтрымаўся на нагах, зьбівалі шэсьць чалавек. Білі дубінкамі й нагамі. Кроў, крыкі. На асфальце засталіся непрытомныя людзі. Раптам — выбух. Я ўбачыла салдата зь вінтоўкай. Жах на тварах журналістаў.

Салдатам далі каманду, і яны пабеглі. Хутка дагналі натоўп і пачалі зьбіваць усіх дубінкамі. Выбух, яшчэ выбух. Дым, жудасныя крыкі. Побач са мной жанчына крычала: «Не страляйце!!! Не страляйце!!! Не забівайце!!! Там маё дзіця!!! Ён яшчэ малы!!!» Хвілінаў пятнаццаць усе, у тым ліку журналісты, былі пэўныя, што гэта — сапраўдны расстрэл дэманстрацыі.

Я спытала ў аднаго з камандзіраў, што гэта за выбухі? Ён спакойна адказаў: «Шумавая бомба. Нічога страшнага.

Толькі моцны гук. Нешта кшталту пэтарды». Нягледзячы на выбухі й зьбіцьцё, людзі скандавалі: «Свабода! Свабода!». Дзяўчат і жанчын білі дубінкамі па галовах, па нырках. Больш за ўсё мяне ўразіла, што дробненькая дзяўчына, якую зьбіваў салдат, разьвярнулася й пачала біць яго маленькімі далонямі па шлеме. Ён моцна ўдарыў яе, кінуў на асфальт і пабег за кульгавым старым, які адыходзіў убок. Жорсткасьць выклікала адваротную рэакцыю: людзі не разьбегліся. Яны скандавалі: «Ганьба! Фашысты! Лукашысты!» Салдаты адышлі на зыходную пазыцыю.

Людзі кінуліся на дапамогу параненым. Алесь Цішук атрымаў некалькі ўдараў па галаве. Спачатку — дубінкай, потым — нагамі. З галавы цякла кроў. Было відаць, што ў яго страсеньне мозгу. Ён нікога не пазнаваў, махаў рукамі. Людзі яму казалі: «Мы свае. Яны адступілі». Але праз некалькі хвілінаў салдаты кінуліся затрымліваць людзей. Я бачыла, як чатырох чалавек, якія былі бліжэй да мосту, першымі атрымалі ўдары й цяпер ляжалі на асфальце, салдаты ўзялі за рукі, за ногі й кінулі ў аўтазак. Пасьля падбеглі да Алеся Цішука. Я схапіла салдата за руку: «Яго нельга кранаць. У яго чэрапна-мазгавая траўма. Скажы камандзіру, каб выклікаў сюды «хуткую». І толькі тады я ўбачыла, як салдат трасецца.

Страх. Вось, што было прычынай жорсткасьці. Можна толькі здагадвацца, што салдатам тэрміновай службы вайсковай часткі №3416 казалі пра апазыцыянэраў. Відаць, салдаты былі ўпэўненыя, што на іх ідзе полк дывэрсантаў. У кожнага ў кішэнях, як мінімум, дзьве гранаты.

Я адчула, як нехта цягне мяне за заплечнік. Не магу разьвярнуцца, бо нехта ўчапіўся з усёй моцы. Рэзка павярнулася і ўбачыла хлопца гадоў васямнаццаці. Такі ж, як у салдата, перапалоханы погляд. Ён мне кажа: «Схавайце мяне. Дапамажыце». У той жа момант некалькі салдатаў схапілі яго й дзяўчынку, што была разам зь ім, і пацягнулі іх у аўтобус. Дзяўчынка закрычала. Я падбегла да іх і тонам настаўніцы матэматыкі зьвярнулася да салдатаў: «Паслухайце, вы ж ужо дарослыя. Супакойцеся! Вазьміце сябе ў рукі. Ужо амаль усё скончылася». А яны мне ў адказ, як школьнікі: «А чаго яны? Яны першыя пачалі».

Пад’ехалі «хуткія». Людзей павезьлі ў шпіталі. Куды адвезьлі тых чатырох, якіх непрытомнымі кінулі ў аўтазак, дагэтуль невядома. Невядомыя й іхныя прозьвішчы.

На наступны дзень чую ў 100-м аўтобусе, мужчына кажа: «Гэта ж трэба! Апазыцыянэраў гэтых усіх пара да сьцяны ставіць. Пабралі з сабой бутэлькі, дымавыя шашкі — і давай кідаць у салдацікаў. Тыя ж ім ня могуць адказаць. Сілы ж няроўныя. Салдацікі цяпер у шпіталі параненыя. А апазыцыянэрам што зробіцца? У іх грошы амэрыканскія, зброя. Вось яны й нахабнічаюць».

## ПАКАЗЬНІК АСОБАЎ

### А





### Б



### В

## Г



## Д



## Ж

## Л



## М

## Н





## О



## П



## Р

## Ц



## Ч



## Ш





## Э



## Ю



## Я

## ЗЬМЕСТ